Я ем пакорна горкую цыбулю,
Аж вочы засціляюцца ад слёз.
А грады — рай. Крамяны агурочак,
З жаўтлявай паласой уздоўж спіны,
Глядзіць піскленкам. З сарака сарочак,
Засопшыся, вылазяць качаны.
Сланечнік — франт, здаецца, п'яны троху,—
Хістаецца ўбакі ад вецярка.
Гарбуз, самлеўшы, выпаўз на дарогу
З закручаным хвастом, што ў парсюка...
— Ох, што за хлопец... Прэцца проста ў грады,—
Бабуля шэпча, сеўшы на граду.
Не ведае старая, як я рады
Убачыць яе ўнучку-сірату.
А пакуль хлеб шуміць у полі жытам,
Варушыць бульба высахшы падзол, —
Ідзе Галіна ў фартуху расшытым
І агуркі збірае на засол.
У прывіднай смузе трымцяць абшары,
Гудзе над вухам нудны авадзень, —
Спякота морыць.

Мімалётнай хмары
Між намі лёгкі праплывае цень.
Затупаў дождж дзесяткам тонкіх ножак,
Пайшоў скакаць старанней і ямчэй.
З сабою прыхапіўшы поўны кошык,
Галіна ў двор кіруецца хутчэй.
На вуліцы прыстояла з суседкай,
Сказала нешта: я пачуць не мог.
І дождж сваёй празрыста-сіняй сеткай
Яе аблытаў з галавы да ног.
Абмыўшы пыл на ядранай муроўцы,
Зашастаў спорна ў бэзавым галлі,
Не горш якога штатнага прамоўцы,
Аж бурбалкі пускае па зямлі.
Шкада, я не прамоўца адмысловы:
Шумеў бы так і цешыўся з сябе.
Ды знаю я, што ёсць на свеце словы,
Якіх ніхто не скажа за цябе.
І нездарма да смерці добра помнім,
Калі мы прызнаваліся ў любві:
Перад вачмі зіхціць стоцветным промнем
Такое слова — паспрабуй злаві!
Яно ў табе — як зрок і як дыханне,
Яно ў табе — як сіла рук тваіх,
Яно ў табе — адвага і ваганне,
Яно ў табе — сэрцабіццё і слых,
Яно ў табе — юнацкіх, беззаганных
Пачуццяў згустак. Так пад малатком
Жалеза ачышчаецца...

На ганак
Галіна выйшла з шарсцяным клубком.
Цудоўна пад дажджом пабыць улетку:
Стаіш, а ён казыча па спіне.
Яна ж праз капяжа густую клетку
З усмешкай паглядае на мяне.
І сонца свеціць з далячыняў... Хочаш —
Падам руку і — подбегам туды.
Не бойся, што сандалікі прамочыш, —
Там столькі красак! Промень залаты,
Заблытаўшыся ў серабрыстых спіцах,
Вясёлкай яркай аздабляе ўзор.
Няўжо не можаш ты пераступіць іх
І — проста з ганку да мяне, на двор?!
Табе ж утульней пад зацішнай сховай:





Маўчыш, схіліўшы галаву набок.
З хусціны паслізнуўшыся пуховай
Падскокваючы, коціцца клубок.
Мячом дзіцячым гопае па сходках,
Па мураве набраклай, па вадзе.
Ідзі за ім па лужынах дрыготкіх —
І ён цябе з сабою павядзе.
І ёй чамусьці выпала патрэба
Набраць вады. І вось мы поплеч зноў.
У калодзежы блішчыць кавалак неба
Квадратным люстрам, цёмным ля краёў.
Нашто дзівіцца, што я гэткі шчодры:
Шчаслівы, што з каханаю стаю.
Дык падстаўляй хутчэй пустыя вёдры, —
Табе з сваіх ваду я пералью.
Намоклыя рабінавыя гронкі
Плячамі закрануў я — і ў вядры
Плывуць кругі, як тонкія пярсцёнкі,
Хоць іх сваёй каханай падары.
Не знаю, з кім ты будзеш абручона,
Хто прад табой стаіць ужо ў ваччу.
Я не сказаў табе яшчэ нічога,
А вельмі многае сказаць хачу.
І, калі сонца падала за стрэхі,
Ад шызых ценяў стала даль цямней,
Спытаў я ціха: — Сходзім па арэхі? —
Падумаўшы, сказала мне: — Пазней...
Пазней... Пазней... І гэтым сумным словам
Маўкліва захапляўся я пасля,
Я дыхаў ім!..

У марыве ліловым
Тулілася спякотная зямля.
І жніўнае паветра трапяткое
Над спелым жытам хвалямі плыло,
Калоссі расхінаючы — такое
Усё незвычайна сіняе было.
А мы ішлі з ёй палявою сцежкай,
Ускінуўшы на плечы рукзакі.
І за яе затоенай усмешкай
Сачыў я ўсю дарогу ўпатайкі.
Дзяўчыны ўсмешка — ласка і спагада,
Давер і просьба, яснасць і смуга,
І мімалётнай радасці прынада,
І безнадзейнай роспачы туга.
Часінай тою я аддаў бы многа,
Каб зразумелай мне яна была,
Нібы пачуцці ўласныя...

Дарога
Нас пад лясныя сховы прывяла.
Бярозы ў адзіноце задуменнай
Плялі свае дзявочыя вянкі.
І хвоі строгія з красой нязменнай
Маўчалі, як цярплівыя жанкі.
Арэшына! Ды радавацца рана,
Нам не шанцуе штосьці, як на грэх:
Яна ўжо некім чыста абабрана, —
Адзін вісіць на макаўцы арэх.
Ну, на каго я крыўдаваць тут стану?
І лес на тое, каб любому браць.
Галіна просіць: — Я арэх дастану... —
Палезла ўгору. Верхавінка — хрась...
Хіснулася разгойданае вецце,
Ляціць і долу дакранецца ўміг.
І вось я — самы шчаслівейшы ў свеце;
Я — пераняў! Ты — на руках маіх!





Любімая! Як сэрца гулка б'ецца
Пад кофтай паркалёвай... Як яно
З маім суладна!.. Праўда ці здаецца,
Што зараз яны б'юцца заадно?
Трымцяць нябёсы сіняю істужкай
І ў цёмных зрэнках бачу сябе я.
Арэшына, цішэй у вецці гушкай
Прысеўшае сцярожка птушаня.
Яму — ляцець, як толькі пройдзе стома,
Хоць вернецца не раз сюды пасля...
Арэшына застыла нерухома
І — з краю ў край гайдалася зямля.
Паставіў яе, лёгкую, на ногі,
Не ў сілах утрымаць і адпусціць,
Ішлі, не разбіраючы дарогі,
І чулі толькі, як суччо хрусціць.
І лес шумеў, і зноў сінела неба,
І вецер гоні абмяраў свае.
Зняла руку маю з пляча: — Не трэба... —
Сказала шэптам, ледзь пачуў яе.
Шырокае зямное сугалоссе,
Высокае, што неба ад зямлі,
Нас абняло, як спелае калоссе,
Куды ранейшай сцежкай увайшлі.
І гэта неабдымнае раздолле,
Дзе плавалі ў блакіце галубы,
Дзе песня жніўная танула ў полі,
Жыло чаканнем блізкай малацьбы —
Уборкі.

Самаходнай малатарняй
Яна прыйшла не вымецены ток.
І жытняю саломінкай янтарнай
Блішчыць на дрэвах не адзін лісток.
Падняўся з ценю трактарыст заспаны,
Пыл абмахнуў з пракураных вусоў,
Матор завёў — і ўзвылі барабаны,
Глынуўшы ўволю шорсткіх каласоў.
І, кашляючы хрыпла і натужна,
Саломы ломкай кінулі валы
Людзям пад ногі. Паглядзі, як дружна
Грабуць яе дарослы і малы.
Я не чакаў, што столькі маю сілы.
На рукі плюнуў. Пастаяў яшчэ.
Пласт велічэзны падхапіў на вілы,
Нясу на стог, а пот цурком цячэ.
У маладосці спрытам пахваліцца
Не грэх нікому, і таму лягчэй,
Што ты нідзе не можаш ухіліцца
Ад самых пільных ласкавых вачэй.
Спакойныя, разважлівыя рухі
І адчуванне: азірнецца мо'?
І сам упатайкі глядзіш на рукі,
Што цвёрдае раскручваюць вязьмо.
Яна снапы развязвае. І нейкі
Віхор дзяўчыну ахапіў. Раса
Блішчыць на шчоках. Пабялелі вейкі,
І выбілася русая каса.
А коні порстка фыркаюць ад пылу,
Што нерухомым воблакам густым
Заслаў зямлю ажно да небасхілу,
Павіс над стрэхамі, як шызы дым.
За цэлы дзень уходзішся, вядома.
Дакучна шыю колюць асцюкі.
І хоць павекі атуляе стома
І не сагнуць здрантвеўшае рукі, —





Якая радасць паглядзець пад вечар,
Што бронзавая высіцца гара,
Што каласкі змятае свежы вецер
Са збожжа залатога, як зара.
О, незабыўны хлеб пасляваенны!
Хвала табе сардэчная заўжды!
Спазнаў я добра, які хлеб бясцэнны
У чорныя галодныя гады
Фашысцкай акупацыі!..

Маленства!
Прайшло ты пад грымотамі вайны,
Пад п'яны рогат дзікага шаленства
Рабаўнікоў бацькоўскай стараны.
Я б не хацеў трывожыць успамінаў,
Але ў дзяцінстве — з дзесяці гадоў! —
Буханак менш мы бачылі, чым мінаў,
Варожых гільзаў больш, чым жалудоў.
Запомніў я чужынскае аблічча —
Такога мог праняць хіба абух
Ці вострая сякера!..

Кліча
І плёс рачны, і цішыня, і луг.
Ручнік на плечы — і гайда з абрыва.
Паспешна распранешся на пяску,
Зажмурышся на хвілю нецярпліва,
Дасі нырца — плёск пойдзе ў лазняку.
Каб *пабадзёрацъ* — можна не старацца:
Так пройме халадком! Ды ў глыбіні,
Куды плывеш — ніяк не разабрацца.
Давай наверх паднімемся... Зірні:
З *Галінай сутыкаюся* сваёю!
Яна — убок. Адзін узмах, другі.
І вадзяныя абручы за ёю,
Нібы выратавальныя кругі.
*Харошая, навошта расставацца?*
Ці замалая для мяне рака?
Ці сапраўды ты думаеш хавацца,
Як плотка перад пасцю шчупака?
*На хвалях месяц гойдаецца хліпка,*
Халодна слізнуў па тваім плячы,
Па смуглых локцях... Дарагая рыбка,
Нам ад сябе нікуды не ўцячы.
*Адзін узмах, узмах другі і* — *поплеч*
Плыву з табой, любуюся табой.
І нечаканага здзіўлення вокліч
Гучыць цудоўней музыкі любой.
*Глядзі* — *над намі і пад намі неба.*
Здаецца, што з нябёс даеш нырца.
Схаваўся месяц. Нам ён і не трэба —
Дваім нам светла і ад грабянца.
*Ляцяць угору прырскі вадзяныя,*
І хвалі дабягаюць да лазы.
Чакай, чакай: чаго ж ты ільняныя
Рукою папраўляеш валасы?
Ці грабянец маладзіком бялее,
Калышацца, упаўшы на ваду?
Дык не саромся — белыя лілеі
У шоўкавыя косы запляту.
Адно — плывi, плывi са мною...

Бераг.
Перад вачамі — зорак мітусня,
Ды бліснуў грабянец з чаротаў шэрых,
І ў цэлым свеце мы і — цішыня.
Струменіцца з бяздоння зорны высеў,
І Млечны Шлях — як зерне на таку.



І ад таго да недаступных высяў,
Здаецца, можна працягнуць руку.
Ступаць па лугу скошанаму колка.
Чаго ж дзівіцца, што ідзём маўчком,
Калі і ў жыце змоўкла перапёлка,
Паспеўшы падавіцца каласком.
Са слоў, даўно старанна падабраных,
Усё забудзеш, хоць ужо дубы
Над вуліцай святлеюць...

Сіні ранак.
Варкуюць на прыклеці галубы.
Стаіць на сходках ліпавая лубка,
Ручнік-скарач прадзет пад абадкі.
Сама, як белагрудая галубка,
Галіна корміць галубоў з рукі.
Яны клююць адборнейшае зерне,
Халоднае і звонкае, як шкло.
Адно к другому галаву паверне
І затуркоча, занясе крыло.
А ўчуюць шорхат крокаў нецярплівых
Якога хціўца, — азірнуцца ўсе,
І шумны шэлест крылляў лапатлівых
Іх пад нябёсы віхрам узнясе.
На сонцы бліснуць, аж зажмурыш вочы,
Сваёй святочна-чыстай белізной.
І перахопіш ты пагляд дзявочы,
Што сочыць за галубкаю адной.
Ляціць яна, ляціць ужо ў зеніце,
А тут — ад крылляў шолах у лістве.
Заззяла апярэннем і — зірніце! —
Растала, патанула ў сіняве.
І на дзявочай ласкавай далоні
Зярняты стынуць золкаю жарствой:
Ці вернецца назад галубка?..

Коні

Хрумсцяць пад дубам роснаю травой.
Паблізу на кійках гарцуюць дзеці,
Узняўшы пылу белыя клубы.
Народ сабраўся ля калгаснай клеці.
Гамонка. Жарты. Сёння — дзень сяўбы.
Узяўшы лубку, дзед сівабароды
Маладцавата падкруціў вусы,
Паважна першы адчыніў вароты, —
І ў поле цугам рушылі вазы.
І мы з Галінай едзем на падводзе,
Усеўшыся на ёмкія мяхі.
Глянь! Трактарыст прыўзняў на павароце
Нагрэтыя да бляску лемяхі.
Як вабіць далячынямі прастора!
Наперад вецер разагнаўся ўгрунь
Абмерыць цёплую раллю, дзе скора
Праклюнецца і загамоніць рунь.
— Расці спарней! — І дзед з шырокай жмені
Жытцо дажджом сыпнуў перад сабой,
Ажно са звонам дзынкнулі праменні
Ля самых ног. І мернаю ступой
Разважна крочыць — смуглы, расхрыстаны,
Аб лубку зернем сцёбае сабе.
За ім дзядзькоў пятнаццаць поплеч стала,
Плячо ў плячо ідуць, як на касьбе.
На плечы ўскінеш мех пяціпудовы,
Нясеш к сяўцам, каб браць было бліжэй.
Не аглянешся — і загон гатовы.
Цяжэй ноша, сцежка ўсё даўжэй.
Стаіць Галіна. У руках — завязка.



Трапеча кофтачка ад вецярка.
Падыдзе дзядзька з лубкай, — калі ласка:
Насыпле жыта звонкага з мяшка.
А здвоеныя рыпаюць бароны,
Ашчэрыўшы клыкастыя кляцы.
І аглядаюць здзіўлена вароны
Бярозак пазавараных дубцы, —
Так поле зарасло ў вайну! Бясконца,
Штодзень, штоміг яна ўяўляе мне
Свой страшны твар! —

Стамілася і сонца —

На ноч кладзецца спаць у баразне.
Туман ахутаў скошаныя пожні
І сырадоем пеніцца раса.
І ты ля прыгумення раз апошні
Каню падносіш прыгаршчы аўса.
Паедзеш заўтра ў горад невядомы.
А я?.. Смуга струменіцца ў вачах,
Хоць і бадзёры пасля дзённай стомы, —
Зямлю панесці мог бы на плячах.
Дарэмна праз узорную фіранку
Хацеў убачыць кофты тваёй бель, —
Сцямнелі вокны. Адзінокі ўранку
Калодзежны курлыкаў журавель.
Перад дубовым зрубам невясёлы
Стаю адзін з сваім пустым вядром.
Старэнькага веласіпеда колы
З узгорка мільганулі серабром.
Далей... Далей... І фініш небасхілу
З разгону расхінула ты грудзьмі.
І — воблачка бялюсенькае пылу
Калышацца ў мяне перад вачмі.
Ці гэта ён кладзецца на павекі
Так, што знаёмых не пазнаць людзей,
Знаёмых рэчаў?..

Пацямнелі рэкі.
Пахаладзелі далі. Сонца ўсё радзей.
І воблакі, што ліўнямі гудзелі,
Маланак распусціўшы паясы,
Сягоння, як кудлатыя кудзелі,
Туманамі ляглі на верасы.
Цярусіцца на шыбы дождж сцюдзёны,
Нябёс блакітных памутнела шкло.
Шумлівым лісцем лістапад штодзённы
Раскалыхаў прыціхшае сяло.
Мне з гэтым субяседнікам адменным
Пабыць прыемна некалькі хвілін.
А голыя сады, як пад рэнтгенам,
Цямнеюць цьмяна рэбрамі галін.
І вецер рукі вымыў нецярпліва
І, хоць пад нос пасвістваў сычом,
Прад ім зямля раздзелася маўкліва,
Як перад клапатлівым урачом.
Здаровая зямля! Як дышуць грудзі
Магутнай сілай, стоенай у іх,
Як кроў пульсуе роўна!.. Людзі,
Сябе праверце і сяброў сваіх.
Мы, творцы будучыні — аднаверцы.
Нам шлях пракладваць і нясці святло.
Глядзіце ж так, каб на ніводным сэрцы
Ніводнай цёмнай плямы не было!
Мы для зямлі другое ўбранне скроім,
Хоць малаверам гэта і няўцям,
Што варта жыць на ёй адным героям,
Што варта жыць на ёй адным тварцам.

Хай лістапад шуміць у кожным сэрцы,
Скідаючы пажоўклыя лісты,
Каб на штодзённай, на такой праверцы
Мець сведчанне жыццёвай праваты.
Што аджыло — хай чыстае насенне
Пакіне на зямлі пасля сябе
Для ўсходаў новых...
Лес гудзе асенні.
Табун атаву золкую скубе.
Над гаманлівым вогнішчам начлежным
Прагуцца смачна познія грыбы,
І нерухомым змрокам безбярэжным
Хваіны ахінуліся. Дубы
Раняюць словы вешчыя — і словы,
Цяжкія, быццам тыя жалуды,
Складаюцца ў запеў неадмысловы
Пра светлыя юнацкія гады.
Няхай у іх спачатку мала ладу:
Крануцца глебы роднай — прарастуць
І прашумяць шырокую баладу.
Паслухай добра, як яны гудуць!
*Звініце, словы, сілай жалудовай!*
Мне добра ў лесе слухаць цішыню
Іназіраць, як па лістве дубовай
Бяжыць агонь. Зайздрошчу я агню!
Як смела ён бярэ сабе ў абдымкі,
Гарэзна забаўляецца з суччом!
З густога дыму, як з блакітнай дымкі,
Прыйшла ты, ціха стаўшы за плячом.
Ці да цябе няскказанае слова
Дайшло скрозь шум бяссонны гарадскі —
І паспяшыла ты?.. Гараць барвова
Лісты дубоў — мае чарнавікі.
І колькі іх, лістоў неадасланых,
Якім шаптаў нясмелыя радкі,
З-пад смалякоў, сырой імжой засланых,
Аблізваюць са смагі языкі?
Няхай зіма закруціць верацёны,
Я веру, што для закаханых воч
Зноў вернецца былое.
Сад зялёны,
Зялёны сад і — месячная ноч.
Уся з святла няўлоўнага саткана,
Лягчэйшая, чым ціхі вецярок,
Ты блізка ад мяне, што нечакана
Магу ў пялёстках твой расслухаць крок.
Ты прывіднаю стала павалокай,
Расою чыстай акрапіла след.
І будзе маладосць румянашчокай,
Калі каханне — яблыневы цвет.
І ты — са мною і ва мне, каханне,
Пакуль я сэрца слухаю біццё,
Пакуль на свет гляджу я. Ты — дыханне,
Якое дорыць нам само жыццё.
На край зямлі, будзь цішыня ці бура,
Сягну — а быццам дух перавяду.
Не верыцца? —
На беразе Амура
Ламаюцца маланкі аб ваду.
Глядзіць з акопа ствол незачахлёны
На хмары стометровай таўшчыні.
І я, пад куст улёгшыся зялёны,
Шукаю сваю зорку ў вышыні.
*А цемра пагранічная, як порах:*
Ускалыхнуўшы гнеўна паўзямлі,





Магла б успыхнуць і ад ясных зорак,
Калі б яны не пільнымі былі.
Граніцы ціша — не спагадней міны,
Што стоена чакае ў баразне,
Пакуль наедзе плуг... І —
Успаміны
Вяртаюць у мінулае мяне.
Сапёры са стальнымі вудзільнамі
Прыйшлі ў сяло, каб смертаносны смерч,
Што кожны міг мог загрымець над намі,
Утаймаваць. І — адступіла смерць.
І ў нас са сталі і штыкі, і пёры,
Каб мы іржавых мін не абышлі.
Дык пойдзем, як бясстрашныя сапёры,
Пакуль ніводнай міны на зямлі
Не застанецца...
Пагранічча спала,
Чароты гнула горкая сухмень,
Калі з неасцярожных рук упала
Іскрынка, як надломлены прамень.
І знікла ўмомант, як іголка ў возе,
Мільгнуўшы слабай ніткаю дымка.
І доўга прышываць ёй давялося
Лісток мінулагодні да лістка.
І вось кашулі вогненна-чырвонай
Прыўзняліся пустыя рукавы,
І па тайзе, ад жудасці зялёнай,
Пранёсся шолах маладой ліствы.
Кашуля тая ў ярасным мігценні
Чаплялася за травы, за кусты,
За рэдкія лістоўніцы, — і цені
Баяліся наблізіцца сюды.
Відаць, ні да каго не прымярала
Адзежыну бязвокая швяя,
І зараз нецярпліва выбірала
Каго ў яе адзець зручней бы...
Я
Сачыў, як яна шумна падступае,
Каб да мяне прымерыцца цяпер.
Адчуўшы, што паветра не хапае,
У гімнасцёрцы расшпіліў каўнер.
Каля мяне ёй завіхацца рана —
Я ні імгнення смерці не ўступлю!
Барвовая кашуля разадрана
І — кінута пад ногі, на зямлю.
Ці за няўдзячнасць тым мяне карала,
Ці за знявагу, — ведаць не магу, —
Бязвокая швяя шмаццё сабрала,
Згарнула і — закінула ў тайгу.
— Ха-ха-ха-ха! — зарагатала рэха,
І гэты смех, як хруст сухіх сукоў,
У нетрах чуўся, — быццам недарэка
Біў у заслонкі з чатырох бакоў.
Пакінуўшы і логавы і гнёзды,
Асляплыя ад зыркага святла,
Нясліся здані. Вось лягчэй бярозы
Згарнуўся цень птушынага крыла.
Ізюбр на ўзлессе выбег асцярожны,
Агледзеўся і — да людзей бяжыць.
І сасунок за ім...
Пажар таёжны
Мы кінуліся стрымгалоў тушыць.
Баграмі раскідаючы завалы,
Капалі наспех непраходны роў.
І глуха паўтаралі перавалы



Цяжкія стогны спуджаных звяроў.
Дождж-імжачок шчыльней ахутаў скалы,
Заслаўшы парай дымныя карчы,
І галавешак чорныя аскалы
Карэжыліся ў зарыве начы.
Над галавою нешта закрактала,
Штурхнула ў плечы, прыскам абдало.
Ці то — на цыпачкі тайга прыўстала,
Ці то — мяне з разгону прыўзняло,
Аж полымя ў вачах запалыхала,
Ярчэйшае, чым пеўні з ручніка.
І неўпрыцям мяне закалыхала
Чыясьці клапатлівая рука.
Няўжо так сонца многа ў роднай хаце
І вочы слепіць белізна гардзін?
Чаму ты вокан не расчыніш, маці? —
Мне душна!..

Схамянуўся я адзін.

Патыліцамі абгарэлых сопак
Тайга чарнела, — хмурая тайга.
Цяжкія кедры датлявалі вобак,
Іскрыстая кружылася пурга.
Кашчавыя знявечаныя рукі
Мне дрэвы працягнулі і — наўпрост —
Мой хісткі цень сягнуў ад завірухі, —
Шырокі, як кашуля навырост, —
Пабрыў па сопках, па траве прымятай,
Па ломкаму рабрыстаму галлю,
І, толькі параўняўшыся з гарматай,
Зняможаны, усеўся на зямлю,
Глядзеў з акопа ствол незачахлёны
На небасхіл світальнай чысціні,
І я, пад куст улёгшыся зялёны,
Убачыў у бясхмарнай вышыні,
Што хтосьці ўсцяж нябеснай магістралі
Густых сузор'яў яблыкі трасе,
Каб людзі свае зоркі выбіралі,
Маглі каб шчасцем падзяліцца ўсе.
Я адхінуў плячамі куст зялёны,
Якім замаскіраван быў акоп, —
Няхай гарматны ствол незачахлёны
Шукае новых зор, як тэлескоп!
Павінны быць у кожнага кахання
І свае зоркі, і шляхі свае,
Хоць сёння для юнацкага дыхання
Здаровага паветра нестае.
Ад горкага таёжнага смуроду
Табе ўздыхнуць няможна свабадней,
Вальней...

А для людскога роду
Агонь намнога можа быць страшней.
Няхай, як клятву, сёння помніць кожны
Пра пыл парахавы па-над зямлёй,
Бо і вайна, як і пажар таёжны,
Пачацца можа з іскаркі малой.
І па зялёнаму зямному шару,
Самкнуўшы полымя пякельны вал,
Прайсціся можа ураган пажару,
Знішчаючы жывое напавал.
Пільней жа, зрок, сучаснікі — альбо вы
Жыць на планеце будзеце пустой,
Хоць некаму зялёны ліст дубовы —
Апошні — стане маршальскай звяздой.
Я попел Хірасімы уваскрашаю
Не з той прычыны, каб іржу штыкоў





Адчысціць зноў, — у думках я збліжаю
Народы ўсіх пяці мацерыкоў.
Я — чалавек. Я — міру абаронца.
Я — зычу радасці планеце ўсёй.
Ці чуеце вы —

Маладое сонца

Малочнай умываецца расой.
І медных сосен шчыльныя абоймы
Паспешна маскіруюцца ў лісцё,
А свежы вецярок з шырокай поймы
Не зварухне сцярожкае трысцё.
Як лёгка дыхаць на такім прыволлі,
Дзе нават жвір змаўкае гаваркі,
Дзе кожны лісцік шэпча мімаволі:
Каханне — берагі адной ракі.
Яна прывыкла к веснавым разлівам,
Калі ўжо сіл няма куды падзець,
Калі ў блакітным люстры зіхатлівым
Сябе захоча неба разглядзець.
Ёй шлях не загародзіш падунамі,
Яе не спыніш скальнаю сцяной,
Яна ўстае нязменна перад намі,
Яна цяпер зіхціць перада мной.
Карункі ўзорных ферм многапралётных
Трымцяць на сіняй гладзі, бы ў акне.
І ціха так, што качак пералётных
Не хочацца спужнуць знянацку мне.
А краявід — пагляду не адвесці:
Вось тут на грудзі поўныя ўздыхну!
І што з таго, што ты далёка дзесьці, —
Заплюшчу вочы і — цябе вярну.
І галубы твае, і паштальёны,
Прынёсшы вестку ці за блізкі свет,
Не ведалі, што ліст твой — ліст зялёны,
Зялёны ліст і — яблыневы цвет,
Той цвет — непадуладны завірухам,
Той цвет — прыязнасць і празрысты смех,
Той цвет — і за сляпым палярным кругам
Разгоніць сцюжу і растопіць снег.
У далі прасціраючы галіны,
Нябёс крануся свежаю ліствой,
І клапатліва-дружны звон пчаліны
Мяне акружыць музыкай жывой.
Няхай усім удосталь будзе мёду,
Бо шчасце не даецца аднаму,
Я кожнага схаваю ў прахалоду
І густалістым шумам абдыму.
Сцяжынак не ахутаю туманам,
Ад воч юнацкіх адвяду смугу,
Да радаснага дня ўсім закаханым
Па сочным яблыку прыберагу.
Суквецці над зямлёю навісаюць,
А я шчасліва гэты груз нясу:
Няхай пялёсткі ціха атрасаюць
З густой травы сцюдзёную расу.
Ты пройдзеш тут, з сабой прынёсшы свята,
Па квецені ружова-трапяткой...
Прыўзняў павекі — а трава прымята:
Сядзела ты ці я прымяў рукой?
Напэўна, ты, калі няўлоўны шолах
Дзявочых крокаў чую... Дзе ты, дзе?
Хай па тваіх слядах вясёлых
Мяне з сабою сонца павядзе.
Раскалыханы ракатлівым валам,
Край пагранічны сёння не засне,





Хаваючы за сінім пераваламм
Таго, хто на пасту змяніў мяне.
Шырока крыллі сцяга майго ўюцца
І вогненным дыханнем абдаюць.
Пад сцягам — у любві не прызнаюцца,
Пад сцягам — клятву вернасці даюць.
Хай толькі цень мільгне над краем горным,
Хай напрарочаць чаіцы бяду, —
Радзіма, кліч мяне салдацкім горнам, —
І я салдатам да цябе прыду!
Хвала рукам, што плавяць сталь спрадвеку,
Хвала рукам, што для твайго стала
Ўзрасцілі добры хлеб. Ды чалавеку
У руках са зброяй — першаму хвала.
Скуюць са сталі ланцугі і краты
І хлеб твой зробяць кормам саранчы
Рабаўнікі, — адкормленыя каты,
Якім дасі сябе перамагчы.
Я шкадаваў, што гэткаю зялёнай
Была мая дзесятая вясна,
Што я не мог з салдацкаю калонай
Пайсці туды са зброяй, дзе вайна.
Нявольнік, чым я мог сябе ўзнадзеіць,
На прысак хаты стаўшы басаном:
Прад лесам шыбеніц лясы радзеюць,
Цяжэй травінку ўбачыць, чымся нож.
Я нёс нябёсы чорныя ў арбітах,
Забыўшы на блакіт вачэй сваіх,
І вочы змардаваных і забітых
Глядзелі з іх, глядзелі страшна з іх.
Я быў цямней асенняй цёмнай ночы,
Я стаўца чорным порахам хацеў.
Калі б я кату паглядзеў у вочы, —
Я больш на свет ніколі б не глядзеў.
Я смех забыў. І цвет вясёлы макаў —
Шчаслівы цвет! — мне грудзі ранай пёк.
Я толькі жыў — не дыхаў і не плакаў —
Як на стаптаным полі каласок.
Мільёны ног мае тапталі рукі,
Мільёны рук сціскалі за каўнер.
І смерць была мілей за тыя мукі,
Ды я сказаў, што выжыву цяпер.
І стала маім пульсам кананада,
Дыханнем — узарваныя масты,
Святлом — агонь высокі Сталінграда
І вера ў сілу нашай праваты.
Мяне знямеўшыя кармілі пожні,
Паіў пясок сляпога ручая.
Я верай жыў, што прыдзе суд апошні —
І першым сведкай буду толькі я.
Я — той, хто змог з-пад гусеніц узняцца
Травінкай чахлай. І маёй крыві
Мне хопіць — у нянавісці прызнацца,
Не хопіць — аб сваёй сказаць любві.
І стане белым, белым, белым
Твар хлапчука, што выйшаў з небыцця,
Каму на шчокі пылам амяртвелым
Лёг прысак непазнанага жыцця.
І доўга пад акном шумець ажынам,
Пакуль не прыдзе ў вогненныя сны
З неўтаймаваным шчэбетам птушыным
Зялёны шум трынаццатай вясны.
І бэзавая росная галінка
Вачам запаўшым верне сіняву,
І нейкая сур'ёзная дзяўчынка







Нахіліць нада мною галаву.
За шыбай — бель садовай завірухі,
І бежанка — равесніца мая,
Працягне свае кволенькія рукі,
Каб разам з ёю выйшаў з хаты я.
Абноўленым устанеш перад светам
Пад сонцам, што пакажацца з-за хмар.
І яблыневым цветам, як адсветам,
Дзень гэты ляжа на ажыўшы твар.
І ты адчуеш чалавечы гонар,
Што можна жыць не толькі для сябе:
Радзіма — бескарыслівейшы донар —
Сагрэе ўсмешкай матчынай цябе.
І будзем жыць! І мы дадзімся ў знакі
Тым, што пра гібель блізкую гудуць.
Зірні, якія радасныя макі
На нашых градах і для нас цвітуць!
Я даглядаць іх буду разам з тою,
Што кожны міг стаіць перад вачмі,
І макавага зернятка не ўтою
Ні перад ёю, ні перад людзьмі.
Не пашкадую добраму суседу
Адборнага насення — хай і ён
*Спазнае шчасце маладое...*

## Еду

Тваім нястомным крокам наўздагон.
І сонца на імклівым паравозе —
Удалеч свеціць зыркім ліхтаром.
Лес прашуміць, як спелае калоссе,
Мост прагрыміць, як вераснёвы гром.
А паравоз махае шатунамі,
Як марафонец — проста не суняць,
Ледзь паспяваюць далі перад намі
Шырокія вароты расчыняць.
Дарога гэта нас даўно чакала —
Выструньваецца. І — з далечыні —
Бялеюць скалы сіняга Байкала.
Байкал, Байкал, вады не скалыхні!
Пагойдваецца камяністы бераг —
Насоўваюцца горы, бы яны
Цягнік гатовы падхапіць абеуч,
Падняць вышэй учэпістай сасны,
Дзе Млечны Шлях, пераваліўшы грэбень,
На стромкіх апіраецца быках,
І зоркі, як неўтрамбаваны шчэбень,
Рассыпаны грудамі па баках.
Лясы з палямі за акном вагона,
Як бліскавіцы прападаюць з воч.
Збягаюць з камяністага адхона,
Не аглядаючыся — дзень і ноч.
Збліжаючы нямыслімыя далі,
Шырокі водсвет ранішняй зары
Ярчэй геройскай залатой медалі
Гарыць на Волзе і на Ангары.
Даём гудок — пара глухому збочыць,
Наперад свецім — сасупай, сляпы:
Тут нават шпалы выпрастацца хочуць
І ўстаць, як тэлеграфныя слупы,
Каб паляцела ўдалеч тэлеграма
Маланкай сіняй над хрыбтамі гор —
Хутчэй святла цягнік нясецца прама.
Свяці, вечназялёны семафор!
За намі ўслед ужо грукочуць колы,
Грукочуць колы новых цягнікоў.
І вось ярчэй сярэбранай падковы —



Знаёмы небасхіл...
Зямля бацькоў!
Ці не пад столлю гэтага вакзала
Мне бацька ў рукі першы даў білет,
І маці сваю хустку развязала,
Каб памахаць на развітанне ўслед?
Адразу не апомнішся ў зацішку:
Ці рэйкі мкнуць, ці коціцца састаў,
Што тут спыніўся не на перадышку, —
Пад хобатам вадаправодным стаў.
Я сам з сабой пабыць жадаю трошку,
І вельмі не турбуйся, праваднік, —
Ускочу на апошнюю падножку,
А толькі не спазнюся на цягнік.
Града барвовых воблакаў над Шкловам
Спынілася, чакаючы чаўны.
А на ўзбярэжжы, ад смугі ліловым,
Пафыркваюць ляніва табуны.
Зары вячэрняй водбліск пурпуровы
Замгліў сляды вільготных капытоў,
І пальцамі азябшымі дубровы
Не могуць далічыцца ўсіх лістоў.
Лясы сінеюць за туманам шызым,
І пад бляянне соннае ягнят
Стаіўся куст ля хлеву рыжым лісам,
Цікуючы гарластых куранят.
Над чарадой бярозак беластволых
Плятуць сарокі плёткі спакваля,
І — нібы чутны з-пад травінак кволых
Сярдзіты гуд заспанага чмяля.
Тапор грукоча — дом сасновы рубяць,
І рэха стром ружовых дастае,
І скора, скора сіверы затрубяць
У горны хрыпаватыя свае.
Цямнеючы ад блізкай завірухі,
І горбіцца, і моршчыцца Дняпро,
І з высяў хлопчыку маленькаму ў рукі
Раняюць гусі шэрае пяро.
Ягоных рыс не засціць павалока.
Дык хто ж такі знаёмы? Ці не я?
І гэтак недалёка, недалёка
Твой светлы горад, любая мая?
Ляці, цягнік!..
Усмешкі не хаваю,
Чым і падобны стаў да ліхтароў,
Што кожнаму сустрэчнаму трамваю
Падміргваюць шчасліва: — Будзь здароў! —
Няхай твой скарб у лёгкім чамадане, —
Ты шчаслівейшы ў свеце чалавек,
Не пакідай жа кожнага, жаданне,
Дастойна жыць у наш адказны век.
Лісты над галавою мітусяцца
Напамінаючы вачам людскім, што пад
Скляпеннямі Зімовага палаца
Пачаўся наш Вялікі Лістапад.
Чаканнем не хачу людзей расчуліць,
Хаця з юнацкай вераю стаю
Пры самым людным скрыжаванні вуліц, —
Што тут сустрэну любую сваю.
І па квадратах ранішніх кварталаў
З людзьмі мы пройдзем у святочны час,
І статуі сваступяць з п'едэсталаў,
Загледзеўшыся на шчаслівых нас.
Са слоў усіх, якія выбіраем,
Каб ім у песнях вогненных палаць,





Каб ім зямлёю стаць і небакраем, —
Люблю я словы — п л о ш ч а і п а л а ц.
Сюды не панясеш будзённай скрухі,
Тут не паверыш згорбленым плячам,
І тое, што твае зрабілі рукі,
Тваім жа адкрываецца вачам.
Мы заслужылі за жыццё такое,
Каб у сяброўстве з ясным сонцам жыць,
Каб мець усім прасторныя пакоі
І чалавечым шчасцем даражыць.
І мімаволі сцішваеце крок вы,
Каб паглядзець на паднябесны дах, —
Там дахаўшчыкі накрываюць кроквы, —
І крок іх аддаецца ў правадах.
І правады гудуць прыхільна неяк,
Прарочачы сустрэчу нездарма:
Яны падобны да касых лінеек
Дзявочага ласкавага пісьма.
У яснай строгасці імклівых ліній
Для ўсіх нябачны прабягае ток,
І чысціня вячэрняй высі сіняй,
Нібы любімых вуснаў халадок.
Дыханне сутыкнулася з дыханнем,
Рассоўваючы шум будзённы: — Ты? —
І вуліцы шырэюць...
З калыханнем
Ляцяць з каштанаў жоўтыя лісты.
Рука ў руцэ. І побач мы ступаем,
Праносяцца нястомныя аўто.
Нікому мы дарогу не ўступаем,
Але на нас не крыўдзіцца ніхто.
Пад колішняю хусткаю пуховай,
Бы ў яблыневым цвеце, родны твар.
І ты ідзеш са мною, як з аховай,
Забыўшыся на цесны тратуар.
Павекамі чырвонымі аўтобус
Міргнуў, а ўсё ж аб'ехаў спакваля.
Ад нашых крокаў, як маленькі глобус,
Пайшла шпарчэй вялікая зямля.
Нам лепш за ўсё цяпер дваім застацца, —
І сонца ўдалеч коціцца клубком.
Яму яшчэ не скора разматацца,
І ў сэрцах промень — цвёрдым вузялком.
Нішто шчаслівай згоды не парушыць,
І нам з табою праблукаць да дня,
Пакуль наступіць свята...
Цішыня.
З халодных высяў колкі снег цярушыць.





Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ГОРАД ПРЫЙДЗЕ

### Апавяданне

Мал. К. Ціхановіча

**Шчасце ўперадзе ўсё**
**Азарае мне даль.**
**Толькі трэба яго**
**Не шукаць, не лавіць,**
**Трэба шчасце ў суровым**
**Змаганні здабыць.**
**А. Куляшоў.**

Міхась саскочыў з веласіпеда і паклаў яго на ўзмежку ля дарогі. Цяпер хлопец мог уздыхнуць на поўныя грудзі, расправіць плечы. Бадзёрасць ад ранішняга халадку разлівалася па ўсім целе. У галаве яшчэ трохі круцілася ад бяссоннай ночы.

Але не гэта турбавала. Узяўшыся ў бокі, Міхась стаяў і пазіраў перад сабою туды, дзе раскінулася яго родная вёска. Зусім другімі вачыма глядзеў ён цяпер на яе.



У вялікай лагчыне ля рэчкі, ад якой засталася толькі назва, тырчаць стрэхі будынкаў, схаваныя за густою засенню прысад — старасвецкіх клёнаў, купчастых ліп, малочна-белых явараў. З захаду да вёскі падыходзіць поплаў, які вясною залівае верхаводка, і Вераб'ёўка на які месяц зноў вырысоўвае на загуменні сваё рэчышча. Тады гаспадыні спяшаюцца бяліць свае палотны, якіх з кожным годам усё менш і менш ткуць іх непаслухмяныя дочкі...

З усходу ў самае прыгуменне ўпіраюцца ўрадлівыя сядзібы; там агароды. Крыху далей — пабудовы калгаса: кароўнікі, свінарнік, а над усім высіцца, як гіганцкая кветка рамонку, ветраны рухавік.

На вачах мяняецца твар зямлі. Дваццаць год назад на гэтым месцы цягнуліся вузкія палоскі сялянскіх надзелаў. І невядома, колькі часу вузелі б яны яшчэ, каб не верасень трыццаць дзевятага года...

Міхась устрапянуўся, і гукі навакольнага свету зноў ажылі. Справа, у старых шведскіх курганах, зарослых арэшнікам і дубняком, заліваўся салавей. Здавалася, ён прабаваў свой голас; з нізкіх тонаў пераходзіў на высокія, бы музыкант перабіраў струны скрыпкі, правяраючы настройку. Жаваранкі напаўнялі сваёю аднастайнаю песняй прыкрытае лёгкім туманам неба. На свежым ветры шумелі жыты — вось-вось пачнуць красаваць. Міхась падышоў да палетка — жыта было ў рост чалавека. Узяў свежы шэра-зялёны колас, правёў вільготнымі асцюкамі па вуснах, усміхнуўся.

З вёскі далятала крыклівыя галасы пеўняў. Працягла зарыпеў жураўель. Але сама вёска яшчэ спала — у нядзелю не шкодзіць адпачыць лішнюю часіну.

Нейкая сіла кіпела ў грудзях Міхася, шукала выйсця. Яму хацелася рабіць нешта незвычайнае, не такое, як усе і як дагэтуль рабіў ён сам. Яму здавалася, што цяпер ён змог бы перавярнуць горы, каб яны раптоўна выраслі перад ім, — гэтулькі сілы адчуваў ён у сваіх тугіх мускулах, натрэніраваных на сялянскай працы.

«Яны спяць, мае Дабрынічы, — падумаў Міхась. — Яны не ведаюць, што ўчора я даў слова застацца дома, у калгасе. І каб вы чулі, як я ў гарачцы сказаў: «Заклікаю моладзь вёскі браць з мяне прыклад...» Проста смешна: «Браць з мяне прыклад!»

Міхась рассмяяўся з сябе.

Нялёгка скіраваць сваё жыццё па-новаму. Многія 'шчэ смяяцца будуць, — разважаў Міхась. Высока ляцеў, а нізка сеў. Як жа, — вучыўся дзесяць год, а застаўся ў вёсцы. «Шукае лёгкага хлеба», — не раз гаварылі пра яго. Што ж, гэта вечны закон жыцця: гаварылі тады так, цяпер будуць гэтак. Трэба ж людзям пра нешта гаварыць. Гэта яшчэ паўбяды. Вось што скажуць дома?

Ад гэтае думкі прабягае халадок па спіне. Міхась падымае веласіпед, стукае коламі аб зямлю, нехаця перакідае нагу праз раму і ціха, тармозячы, спускаецца з горкі. Прашумелі збоку, дзе могілкі, клёны і явары. З крыкам прачыналіся вароны, збіраючыся некуды ў дарогу. Самы круты спуск — ля старога мосціка праз Вераб'ёўку, якая жыве толькі вясною.

Міхась зварочвае на свой двор. Скрыпнулі веснічкі. На ланцугу заскакаў Кудла, вітаючы гаспадара. Міхась пагледзеў, ці замкнёныя сені. Так, замкнёныя. Тады ён адчыніў хлеў, увёў туды веласіпед. Карова яшчэ ляжала. Яна нават не глянула на Міхася, павольна жуючы жвачку.

З сеняў Міхась перабраўся на гару, на хату, дзе была яго пасцель на свежым сене. Густы пах адразу ап'яніў Міхася.

Так хацелася спаць, а лёг — хоць сшывай вочы. Цела стомлена, не прайшло напружанне, што было цэлыя суткі. Усё так ярка паўстала перад вачыма, — усе падзеі дня і ночы, — ажно хочацца адвярнуцца ад гэтага і не бачыць, бо неяк непрыемна зноў перажываць нанова тое пачуццё, якое разанула табе па сэрцы і пакінула глыбокі след, — больш балючы, чым прыемны.

А непрыемным Міхась лічыў той момант, калі ён, падбадзёраны таварышамі, падняўся і кінуў у сцішаны зал клуба надта гучныя, як яму цяпер здалося, словы: «Заклікаю браць з мяне прыклад». Да гэтага часу ён лічыў сябе сціплым...

Праплывалі яшчэ нядаўнія малюнкі: прамова дырэктара, уручэнне атэстатаў, размовы, мітусня, танцы... Пасля ён сядзеў у скверыку са «сваёй» Зінаю, затым танцаваў з ёю, хоць дагэтуль рэдка калі пускаўся ў скокі — не ўмеў як трэба, а яшчэ больш саромеўся... Нарэшце ўсё гэта пачало блекнуць: надыходзіў сон, нячутна, непрыкметна, як крадзецца кот.

«Мусіць, доўга спаў», — падумаў Міхась, калі пачуў, як зарыпелі лескі з сяней на гару, а пасля пачуліся асцярожныя крокі па столі, прысыпанай кастрыцай. Краем вока Міхась убачыў свайго меншага брата, Толіка. Ён, відаць, спачатку хацеў будзіць Міхася, але перадумаў і пачаў лазіць па кішэнях Міхасёвага пінжака. Нарэшце, знайшоў, што трэба, — атэстат. Міхась толькі ўсміхнуўся, а пасля сярдзіта падумаў: «Колькі разоў адвучаў ад такога — усё роўна не памагае. Трэба будзе надраць вушы...»

Міхась перавярнуўся на другі бок, пачуў яшчэ, як стукнулі дзверы ў хаце, і зноў заснуў.

Другі раз будзіць яго прыйшла маці. Стоячы на лесках, яна гаварыла:

— Міхаська, уставай. Астатнія аладкі выпякаю. Ідзі, з'ясі гарачую.

— Зараз, мама... А дзе бацька? — падумаўшы, спытаў Міхась.

— Паехаў у Клецак з Янкам Савашовых. Парася хоча купіць, — сказала маці, спускаючыся ўніз.

Міхась нацягнуў порткі, скінуў майку і выскачыў на двор. Сонца забралася высока. Жмурачыся, Міхась пайшоў у агародчык, дзе была перакладзіна. Крыху размяўшыся, Міхась лоўка падскочыў да перакладзіны. Сёння нешта не хацелася займацца па ўсіх правілах. Ён падцягнуўся разоў дзесяць і, адчуўшы, як дрыжаць рукі, саскочыў на зямлю.

— Хопіць табе ламаць косці, — пачуўся голас маці праз акно. — Ідзі ў хату.

Яна заўсёды так. Усё шкадуе, каб не падарваўся, каб не спрацаваўся, каб у пару пад'еў, добра выспаўся.

Але Міхась заўсёды стараўся рабіць наадварот. Маці кажа: адзенься цяплей, вазьмі рукавіцы, — Міхась ходзіць з голымі рукамі, грудзіна заўсёды расшпіленая; у самы вялікі мароз не апускае навушнікі ў шапцы. А яшчэ — да глыбокай восені спіць на двары, мыецца ля студні да пояса. Вось і цяпер — дастаў вядро вады, плюхаецца, што качка. Нарэшце-такі ўхадзіўся.

Прычасаўшы кароткія русыя валасы, якія ніяк не хацелі ляжаць, сеў



за стол. Маці паставіла скавараду з яечняй, масла на талерцы і коптур аладак, яшчэ гарачых.

— І што, я адзін буду ўсё гэта? Самі садзіцеся. Дзе Толік падзеўся?

— От еш, калі падала. Я пад'ела, ля печы тупаючы, а Толік таксама ўжо еў. Па карову пабег... Не глядзі на нас, еш. На добры лад і пачаставаць цябе не пашкодзіла б, ты ж зарабіў. — І маці паказала рукою на столік, дзе ляжаў разгорнуты атэстат і акуляры наверсе.

— Зарабіў, а як жа, — нагнуўшыся над сталом, неяк прабубніў Міхась. — Прыедзе бацька, то будзе відаць, што я зарабіў.

— Нешта ты гародзіш, ніяк не разбяру...

— Што тут разбіраць, — панура прамовіў ён. — Я рашыў нікуды не паступаць, а застацца дома...

— Ах, сынок! — схапілася маці за галаву. — Як жа гэта? Гэтулькі вучыўся — і ўсё дарэмна?

— Дарэмна... Я так і ведаў. Маці кажа — вучыўся і ўсё дарэмна, а бацька яшчэ лепш скажа: я цябе дарма карміў, што ты зноў на маю шыю садзішся?

— Не, сынок, кепска ты надумаў. Як ні кажы, а мы на цябе патраціліся нямала. Хоць ты і ад работы дома не ўцякаў, але ўсё ж каб ты не вучыўся, нам было б зацішней.

Размова зацягнулася. Міхась еў нехаця, а пасля і зусім перастаў. Не лезла ў рот. Думка пра тое, ці правільна ён зрабіў, не давала спакою. Вось табе і атэстат... А калі паставіць сябе на месца бацькоў, то і ён сказаў бы нешта падобнае. Вучацца для таго, каб ад навукі была нейкая карысць у самым простым значэнні гэтага слова: добры заробак, калі не зусім лёгкая, то чыстая работа. Так разумеюць навуку людзі, якія выраслі пры панскім рэжыме і ад навукі былі далёкія, як неба ад зямлі. Іх марай была зямля, на большае яны не спадзяваліся, бо дасягнуць і гэтай першай ступені дабрабыту ўдавалася не кожнаму. Дарагою цаной — непасільнай працаю, недаяданнем, строгай эканоміяй набывалі некаторыя адзін—два гектары зямлі, не паспеўшы як след адчуць плён свае працы, ішлі на той свет. А іх дзеці дзялілі бацькоўскую спадчыну, станавіліся ў два —тры разы бяднейшыя, зноў біліся, як рыба аб лёд, каб мець кавалак хлеба.

Цяпер, калі праблема зямлі адпала, калі зямлі хапае, колькі хочаш, нашы бацькі хочуць аддаваць сваіх дзяцей у навуку. Яны разважаюць: «Мы не бачылі свету, капаліся ў зямлі, няхай нашы дзеці пакрасуюцца. Наша ўлада, дарога ўсім адкрыта, дык чаму ж мы павінны трымаць сваіх дзяцей пры сабе, дома, на зямлі? Хай ідуць у горад, вучацца. Цяпер гэтулькі трэба інжынераў, дактароў, вучоных. А выб'юцца ў людзі — і нам на старасці год падмога будзе надзейная.

— Чаго ты ўжо ўстаў з-за стала? Пад'еў? — з трывогаю спытала маці. — Усё цэлае, што ты сабе думаеш? Зусім з'ехаў за гэтыя экзамены, не пазнаць. Што мне рабіць з вамі, божачка мой!

Міхась яшчэ доўга чуў за сабою скаргі маці.

Толік прывёў карову: налівае у цэбар ля студні ваду. Карова піла павольна, махала галавою, абганяючы мух з крутых бакоў.

Міхась пайшоў у садок. Там, дзе раней было гумно, рос агарод. Усё аж буяла ад перагною. Тут, на ўзмежку, дзе раслі вішні і грушы, Міхась разаслаў дзяружку і лёг загараць. Узяў і кніжку, але не чыталася — шмат давялося перачытаць за экзамены. Стаміўся.

Праклятыя мухі... За імі няма спакою! Міхась выламаў вішнёвую

галінку і стаў махаць ёю. Мух, здаецца, ужо не было. Але варта толькі сцішыцца, як яны зноў налятаюць роем — і не так кусаюць, як казычуць.

Час-ад-часу ён паглядаў у канец сяла, адкуль павінен быў з'явіцца бацька. Праз нейкі час прыйшла паштальёнка — прынесла, відаць, бацькаву пенсію і газету.

Міхась толькі збіраўся задрамаць, як з сяней Толік паклікаў яго ў хату.

«Яшчэ гэты Толік... — нездаволена падумаў Міхась. — Заўсёды ўлезе...»

Толік быў добры хлопец — працавіты, паслухмяны, але Міхасю не падабалася ў ім адна рыса: займаць сярэднюю лінію. Ён умеў быць усім добры. У сварках паміж бацькам і маткай, якія здараліся даволі часта, ён браў заўсёды сярэднюю пазіцыю. А ў Міхася здаралася часцей за ўсё так, што ён абараняў маці — яна ніколі не падымала шуму без дай прычыны. Бацька ж меў сварлівы характар і слабыя нервы, чуць што — скакаў з кулакамі да кожнага.

Да таго ж у характары Міхася была яшчэ адна рыса: заступацца за слабага. За гэта, праўда, яму часта пападала — як у сям'і, так і сярод аднагодкаў.

А вось Толік... Здольны да навукі. Асабліва лёгка яму даецца матэматыка. Але няхай скажуць сёння бацькі: Толік, кідай школу, памагай бацьку па гаспадарцы, — Толік, доўга не думаючы, кіне. А скажуць: вучыся, Толік, — будзе вучыцца. Заўсёды ён чакае каманды, ніколі не падумае і не зробіць па-свойму. Ці ў яго наогул няма нічога свайго? А можа хлопец паправіцца? Усяго пятнаццаць год...

Міхась увайшоў у хату. Толік ля стала чытаў газету. Маці пры акне на лаве працэджвала малако.

Калі б у хату зайшоў чужы чалавек, яму адразу кінулася б у вочы, што тут не хапае руплівай маладой дзявочай рукі, бо ўсё выглядала неяк будзённа, шэра, як бывае ў сем'ях, дзе адна гаспадыня і ёй няма калі за ўсім дагледзець.

Міхась даўно гэта заўважыў і заўсёды стараўся памагчы маці навесці парадак.

— Збірайцеся палуднаваць, — сказала маці, выкручваючы цадзілку кату ў чаропку.

— А я не зарабіў на полудзень, — напомніў Міхась ранішнюю размову. — Толік хоць карову прыгнаў з пашы, напаіў, вам вады прынёс. А я? Бакі адлежваў... Ну, нічога, вось не буду вучыцца, адраблю за ўвесь прастой. Часу хопіць...

— Такі «не буду». Ну і ўпарты, як асёл. — Голас маці сярдзіты. — Вось яшчэ паглядзім, што табе бацька запяе.

— Яго песня вядомая. Памятаеце, калі я з дзевятага класа хацеў паступіць на шафёра? Нябось, тады ён быў процiў, — ходзячы па хаце, гаварыў Міхась. — А цяпер адразу скажа — вучыся. Няўжо ён не разумее, што яму будзе лягчэй, калі я буду дома? Наадварот, цяпер я не буду сядзець у яго на карку, а яшчэ памагаць. А вучыцца...

Міхась не скончыў, бо Толік раптоўна крыкнуў:

— Ой, пра цябе пішуць! Во, во! — Толік тыцкаў пальцам у артыкул на трэцяй старонцы газеты. — Глядзі, нават з твайго сачынення ўзялі кавалак...

— Што ты кажаш, Толік? — Маці падбегла да стала. — Чытай, каб усе чулі.



— А што тут чытаць, — беручы газету, знарок спакойным голасам прагаварыў Міхась. — Тут не пра мяне, а пра нашу школу. Гэта інспектар аблана, член экзаменацыйнай камісіі...

Міхась хутка, невыразна, нейкім не сваім голасам, за якім нельга было разабраць яго пачуцця, пачаў чытаць.

Маці села на лаве ля століка, абаперлася на руку і слухала. Калі Міхась дайшоў да месца, дзе пісалася, што «сачыненне Міхася Гадуна сведчыць аб шырокім кругаглядзе вучня, гаворыць аб уменні самастойна думаць і паслядоўна выкладаць свае думкі на паперы», — маці заплакала.

Толік штурхнуў Міхася пад бок і паказаў зубы.

— Бачыш, сынок, цябе хваляць, а ты нават вухам не вядзеш. Мусіць жа яны лепш за нас ведаюць, ці здатны ты да навукі.

— Ну і што, калі здатны? Думаеце, што толькі ў горадзе патрэбны людзі з галовамі, а тут не? Вось і кепска, што ўсе, хто лічыў сябе здатным, уцякалі ў горад, не думаючы аб тым, хто будзе рабіць хлеб. А цяпер не я адзін застаюся на зямлі. Мы зробім тут свой горад — ёсць у нас кіно, клуб. Вунь з гарадоў ужо зноў едуць маладыя механікі, інжынеры... Горад прыдзе сам да нас.

У разгар гутаркі ў хату бясшумна ўвайшоў бацька, босы, нядаўна паголены і падстрыжаны, — відаць, заходзіў у цырульню. Фрэнч і сумку ён кінуў на палок і з крэктам сеў.

— Што ж гэта, з чым пайшоў, з тым і прыйшоў? — першая спытала маці.

Бацька не адказаў. Ён быў нечым растрывожаны. Памыў рукі без мыла, выцер іх анучкаю, хоць ручнік вісеў тут жа ля печы, на ашостку, і падышоў да століка, за якім звычайна елі сваёй сям'ёю. Калі ж быў які госць ці чужы чалавек, пераходзілі ў чыстую палавіну.

— Можа туды пойдзем? Усё ж такі хлопец школу скончыў... — Ты нічога не купіў? — нясмела спытала маці, ідучы да сумкі.

— А смалы ты не хочаш? — твар бацькі адразу стаў барвовы. — Ну і што, хай скончыў. Лепш хай бы і не пачынаў, чым так канчаць... — усю стрыманасць бацькі як рукою зняло.

— Ці ж ён кепска скончыў? — здзівілася маці. — Паглядзі атэстат. Чым жа кепска? Вунь у газеце н'ат пахвалілі...

Тут Толік падсунуў бацьку газету, але той, нават не глянуўшы, адштурхнуў яго руку.

— Давай есці! Адвакат мне знайшоўся. Я без цябе ведаю, што атэстат добры. І што ў газеце хваляць — таксама някепска. А як наш сынок зрабіў, ведаеш? — крычаў ён ужо на маці. — Ён перад народам заявіў, што застаецца ў калгасе. Гэта добра, па-твойму? — бацькавы цёмныя вочы гарэлі, перабягаючы з аднаго прадмета на другі, нібы ён шукаў нечага, каб схапіць у рукі. — Я вунь у Клецку спаткаў Абрамовіча на рынку — яго адзін сын студэнт, а другі разам з гэтым дурнем, — тут бацька нехаця кіўнуў галавою ў бок Міхася, які, панурыўшыся, сядзеў на лаве супроць акна, — канчае, дык ён пытае: гэта ты свайго сына настроіў не ісці вучыцца? Што ты, кажу, ніколі і гутаркі такой не было. Ён вочы вырачыў: бач ты, кажа, разумны, мусіць, ён у цябе надта, выслужыцца хоча, ці што. І пайшоў... Дык што мне было казаць? — і бацька грукнуў кулаком па століку. — Што? Я ў цябе пытаюся' — ён зноў кінуў на Міхася позірк, поўны неўтаймаванай лютасці.

— Што сказаць, — заварушыўся Міхась на лаве, нібы пад яго падцякла гарачая вада. — Трэба было так і сказаць: «Шаноўны таварыш Абрамовіч! Вашы сыны вучацца — і на здароўе. А мой на зямлі будзе рабіць. Я сам на зямлі ўсё жыццё пражыў, і сын мой не памрэ з голаду. Не бядуйце па ім».

Міхась устаў з лавы і спакойна перасеў на палок каля печы. Бацька, маці і Толік глядзелі на яго: бацька — з нянавісцю, маці — з жалем, Толік — з захапленнем і страхам.

— З якой гэта пары яйкі сталі курэй вучыць? Не спытаў у цябе, смаркач, як сказаць? — вызверыўся бацька.

— Чаго раскрычаўся, Сцяпан? Ці ты п'яны? Дзеці і так цябе, як чорт ладану, баяцца. Чаго прыстаў да хлопца? Ён ледзьве ногі цягае, змарнеў за гэтыя экзамены, а ты... Каб ужо было чаго... Ці спытаў ты, як добры бацька, як ён здаваў, чаму задумаў нікуды не паступаць? Адразу напаў на дзіця... От палуднуйце, хопіць языкамі аб зубы біць.

І маці пачала вымаць з печы гаршкі з ядою. Бацька тым часам са злосці жаваў скарынку хлеба і маўчаў, відаць, абдумваў, з якога боку падысці да гэтай сцяны, што ўтварылася ад змовы жонкі і сына.

Маці думала, што, занятыя ядою, мужчыны забудуць пра ўсё. Але памылілася. Бацька не мог супакоіцца. Ён сёрбаў рэдкі забелены панцак і чмыхаў, косячыся то на Міхася, то на маці. Толік яго не турбаваў, хоць і моцна бразгаў лыжкаю па алюмініевай місцы. Каля яго ляжала газета, і ён сяды-тады заглядаў у яе адным вокам.

— Можа хоць гэты пойдзе ў навуку, — ні да кога не звяртаючыся, сказаў бацька больш мірна, мусіць, у яго крыху перагарэла ў сярэдзіне.

Толік падазрона глянуў на бацьку і адсунуў газету. Міхась усміхнуўся. Бацька адразу ж зноў насупіўся.



— Чаго зубы скаліш? Думаеш, цябе паслухае, а не бацьку? Хваробу! Цяпер я яго не выпушчу са сваіх рук. Хопіць, што ты выйшаў з-пад мае аблады.— Бацька паклаў лыжку на настольнік. — Жыцця не пашкадую, а ў людзі выведу, пабачыш. А ты самае большае мазутчыкам будзеш, трактарыстам — і ўсё. Успомніш бацьку не раз...

— Што вы да мяне маеце? — Голас Міхася зазвінеў ад крыўды. — Што я такое зрабіў? Што хачу сам кіраваць сабою, дык гэта вам не па нутру? Чаго вы заўсёды азіраецеся на другіх — як яны? Чаму самі не хочаце першыя зрабіць крок, а пасля хай на вас глядзяць? Вы думаеце, што толькі ў горадзе можна вучыцца? Цяпер на полюсе людзі вучацца, бо





жыццё такое, што без навукі не ступіш. Я хачу жыць на зямлі — і жыць лепш, чым вы жылі пры панах і чым цяпер жывяцё. Вось я тады і скажу: правільна, наша ўлада дала народу сапраўднае жыццё, бо сыны рабочага, які некалі працаваў у фабрыканта, жывуць намнога лепш, чым жыў іх бацька, а я, калгаснік, жыву так, як ніколі не жылі нашы прадзеды, дзяды і бацькі пры старых парадках!

Усе слухалі, і можа таму Міхась гаварыў гладка, не запінаючыся, нібы адказваў добра вывучаны ўрок.

— Што добра жыве доктар, вучоны, інжынер, словам, інтэлігент,— гэта не навіна, ён і некалі жыў нягорш. Але як жыла раней асноўная маса, што здабывала хлеб гарбом? Ёй заставаліся толькі крошкі з багатага стала. Дык вось — мы хочам, каб уся гэтая маса, што жыве з працы рук — вы, я, мы ўсе — жылі лепш, ездзілі на машынах. Каб не ішлі людзі з вёскі, не шукалі нейкага лёгкага хлеба.

— Малакасос, каго ты вучыш? — не вытрымаў бацька. — Не загаварвай зубоў, я без твае навукі лепш ведаю. Вёска цяпер нікому не трэба. Машыны будуць усё рабіць, а чалавек — дзявайся дзе хочаш... Ты мне скажы, цябе хто падвучваў, ці ты сам надумаўся выслужыцца? — гледзячы ва ўпор на Міхася, дапытваўся бацька.

— Я не выслужваўся і ніхто мяне не падвучваў, — адрэзаў сын. — А ўрэшце, якая вам розніца?

— А такая... Калі ты надта разумны і бярэш усё на сябе, то — вон з мае хаты! — Бацька ўскочыў на ногі, кінуўся да дзвярэй, адчыніў іх насцеж. — Вон, каб я цябе не бачыў! — затупаў ён босымі нагамі па падлозе.

Усе паўскаквалі. Такога ад бацькі ніхто не чакаў. Маці прабавала супакойваць яго, але ён і слухаць не хацеў.

Міхась вылез з-за століка і перайшоў на палок. Сеў. Рукі ў яго дрыжалі. Ён цёр іх адна аб адну, як на марозе.

— Нікуды я не пайду, — сказаў ён роўным голасам. — Хата такая ж ваша, як і мая... Яна дзедава...

— Я табе зараз пакажу, чыя. — І бацька, сашчапіўшы зубы, рушыў на Міхася. Той не зварухнуўся. Калі бацька быў ужо за два крокі ад яго, раптоўна паміж імі стала маці і закрычала немым голасам:

— Сынок, уцякай, заб'е!..

* * *

Прыемна ляжаць на пахучым халодным пракосе і пазіраць у неба. Яно бяздоннае, светла-блакітнае, аж слепіць вочы. Ні хмурынкі. Сонца схіляецца з поўдня. У такую спёку доўга не пацягаеш касы, таму абед доўгі, гадзіны на тры. Затое на заходзе, пры расе, каса сама ходзіць...

Касцы размясціліся, хто як можа. Полудзень ужо з'елі. Хто дрэмле,

хто курыць. Ідзе вялая, звыклая размова: пра пагоду, пра новага старшыню, пра брыгадзіра, які занадта строга ставіцца да людзей, часта нават лаецца без дай прычыны.

Міхась не ўмешваецца ў размову, толькі слухае. Ён тут ужо не госць, і яму ўсё абыходзіць. Касцы загаварылі пра сена, і размова адразу ажывілася: колькі дадуць на працадзень касцу, а колькі кожнаму наогул. З кормам пад вясну прыходзіцца крута. Трэба ўсё ў пару сабраць... Правільна разважаюць, правільна...

Ужо чацвёрты дзень, як Міхась разам з касцамі ідзе на луг. Тут купіны, касілка не бярэ, таму чалавек дзесяць штодзень з самага ранку ўжо звіняць косамі, спяшаюць выгнаць норму. Не адстае і Міхась. Спачатку было цяжка. Пасля першага дня балела ўсё цела, як пабітае, кожны мускул ныў ад болю... Цяпер Міхась адчувае сябе лепш. Чуць толькі пабольваюць рукі, пякуць далоні ад кассся, а па ўсім целе разлілася прыемная слабасць — яно адпачывае.

Крыху развеяліся цяжкія думкі. Неяк усё ўлеглося, стала на сваё месца. Толькі бацька яшчэ ходзіць надзьмуты. Маці супакоілася. А Толік толькі пасміхаецца сабе. Відаць, разумее, што яго заслуга ў гэтым прымірэнні немалая.

Твар казыча свежая, толькі што скошаная трава, якая пахне ўжо сенам. Што можна параўнаць з гэтым пахам зялёных сенажацяў?..

— О, вунь і брыгадзір да нас дыбае, — чуе Міхась голас касцоў.

Лежачы, Міхась бачыць, як напрасткі, пераступаючы праз свежыя пракосы, да іх набліжаецца брыгадзір Галіцкі, даволі малады мужчына, чорны, як цыган.

Ён прывітаўся з усімі за руку, а Міхася не зачапіў — той прыкінуўся, што спіць, — скінуў сіні картовы фрэнч, разаслаў яго проста на пакошы і лёг.

— Эх, зайздрошчу я вам, хлопцы, — загаварыў ён. — Не работа, любата адна!

— А хто табе не дае гэтае любаты? — спытаўся разважліва дзядзька Язэп, без шапкі, са струкаватымі, як авечая поўсць валасамі, якія пачалі ўжо сівець. — Бяры першую-лепшую касу — і свішчы, махай з-за пляча, каб аж пуп трашчаў.

— Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць, — адказаў брыгадзір. — Усё бегаць трэба. Там у Круглай у копы ставяць, тут ужо таксама, дзе разбітае, пара зграбаць, там касілка паламалася, — ногі адходзіш і не паспееш да ўсяго дацягнуцца. Гарача пара сенакос, што тут казаць... І тэхніка ў руху, а рабочых рук усё роўна малавата: нельга расцягваць касавіцу, бо ніхто не можа сказаць, што пагода надоўга ўсталявалася... Ці скончыце сёння гэты клін? — спытаў ён касцоў, што абселі брыгадзіра.

— Абяцай паўгарца, тады скончым, — пад дружны рогат грамады заўважыў стараваты, худы і доўгі, як цапільна, дзядзька Лявон.

— Нябось хітры ты, Лявон, — пачаў выкручвацца брыгадзір, — нездарма цябе жонка ніколі аднаго на кірмаш не пускае, баіцца, каб не скруціў якога рубля.

Мужчыны зноў зарагаталі. Усе добра ведалі, як кожную нядзелю, а калі і ў сераду, дзядзька Лявон са сваёю Тэкляю едуць на рынак прадаваць гусака, які ўжо, кажуць, сам з завязанымі вачыма ведае дарогу ў Клецк, бо скупаватая цётка ўсё выбірае момант, калі больш заплацяць.



Пасыпаліся жарты — хто слова, а хто і больш.

Пакуль шум улёгся, дзядзька Лявон не знаходзіў зручнае позы — ён ужо не рад быў, што ўлез у размову. Толькі махаў рукамі, мауляў, адчапіцеся, блазнюкі.

Брыгадзір тым часам пералез да Міхася, які таксама смяяўся, лежачы непадалёку ад мужчын.

— Здароў! Як работка? Падабаецца? Норму даеш, не адстаеш? Добра, старайся. Бацька, здаецца, ужо астыў. Сёння стагуе сена... Ну, не бядуй, усё ўтрасецца. Колькі табе год? А-а-а... Хутка ў армію... А я думаў, што мы цябе пашлём на курсы рахункаводаў. Неяк даўно ўжо гутарка была са старшынёй, шукалі, каго б паслаць. — І ён зноў перайшоў да мужчын. — Дык як, мужчынкі, спярша каснём, тады заснём, ці наадварот?

— От каб ты тут языком менш малоў, то мы ўжо якіх па два пракосы прайшлі б, — агрызнуўся дзядзька Лявон.

— Добра, добра, не буду... Зараз прыдуць абмяраць, пабачым яшчэ, якія вы касцы, ці зарабілі вы хоць на ваду, а не то што на паўгарца. Пайду...

— Ідзі, ідзі, хай ты бокам хадзі, — мармытаў сабе пад нос дзядзька Лявон.

Касцы, пацягваючыся, уставалі, вымалі прыхаваныя ад сонца косы, не спяшаючыся ішлі займаць новы пракос.

— Касі, каса, пакуль раса, раса далоў — каса дамоў, — дэкламаваў вясёлым голасам дзядзька Язэп.

— Гэта вельмі старая песня пра касу. А вось вы пачулі б, як Якуб Колас касьбу апісвае! Калі хочаце — паслухайце, я ненадоўга, — звярнуўся Міхась, пачырванеўшы, спачатку да дзядзькі Язэпа, а пасля да астатніх.

Мужчыны прыціхлі, наблізіліся да Міхася. Ён абапёрся на касcё, увагнаў верхні яго канец у падатлівы поплаў і абвёў усіх вачыма. Сэрца яго моцна стукала.

— Ну, раскажы, раскажы, паслухаем... — зашумелі мужчыны.

Міхась набраў у грудзі паветра, як перад скачком у ваду, і пачаў:

Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць буйныя іх росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы...

Міхась чытаў, і голас яго набіраў сілу, рабіўся гнуткі — то Міхась пераходзіў на пяшчотны лірычны шэпт, то бадзёрасць і свежасць прабівалася ў ім; святлелі загарэлыя цёмныя твары людзей — яны ківалі адзін аднаму, усміхаліся, і трэба было здзіўляцца, якія гэта былі ўсмешкі: так усміхаецца маці, гледзячы, як яе дзіця робіць першыя крокі.

Голас Міхася звінеў, як тыя косы, сталёвым звонам.

Калі Міхась змоўк, цішыня стаяла можа якую хвіліну — усе былі зачараваны такою знаёмай музыкай, такімі простымі і прыгожымі малюнкамі.

— А ці цяпер пра нас гэтак пішуць? — першы падаў голас дзядзька Лявон.

— Пішуць і цяпер, толькі чытаць трэба, — адказаў яму адзін з ма-



ладзейшых, нядаўні матрос, які яшчэ ніяк не хацеў разлучацца з паласатай, як зебра, цяльняшкай, хоць касіць у ёй было горача.

Пашумеўшы яшчэ колькі хвілін, усе разыходзіліся, гамонячы, на свае месцы. Першы ішоў дзядзька Язэп, за ім па парадку выстройваліся астатнія.

Міхась ішоў ззаду. Перад ім мільгалі патрэсканыя пяты дзядзькі Лявона, які часам адставаў ад усіх, і Міхась наганяў яго зусім упрытык.

«Ш-ш-ш-ы, ш-ш-ш-ы», — шыпела, як змяя, каса, кладучы злева роўны валок. Касіць было лёгка, Міхась крыху ўспацеў, але не адчуваў асаблівай стомы. Каса, як брытва, ішла ля самай зямлі, пакідаючы толькі кароценькія бледна-бурыя стырчакі, якія прыемна казыталі падэшвы босых ног, змочвалі іх сокам, што, як кроў, выступаў на траве на месцы свежых зрэзаў.

Міхась гнаў роўны шырокі пракос на ўвесь мах. З лёгкім посвістам сцінала вострае джала мяккія травінкі; яны, падрэзаныя, схіляліся перад касцом, кладучыся на жывую сценку перад касою. За наступным узмахам каса брала далей, і пакінутая мінулым разам падрэзаная травіца канцом касся, як граблямі, ссоўвалася ў пракос. І так бясконца. Гэты рытм парушалі толькі частыя купіны, і, не прыкмеціўшы іх, можна было ўвагнаць касу да палавіны ў мяккі, паточаны рыжымі мурашкамі курганок. Часцей за ўсё купіна была відна здалёк — на ёй трава расла намнога святлейшая і была прамая ды шырокая, як асака.

Як падчас бойкі, страціўшы адчуванне меры і часу, баец пракладае сабе дарогу, так і Міхась, увайшоўшы ў азарт, махаў і махаў касою, а пракос злева, як свежая баразна за плугам, даганяў яго, лізаў яму ногі канцамі мятліцы.

Толькі на хвіліну прыпынак — намянціць касу — і далей, далей, далей. Ап'янелы, узмахваў касою Міхась, не адчуваючы супраціўлення травы, не адчуваючы свае сілы. Але гэта была мяжа вытрымкі. Ён не



раз перажываў нешта падобнае, калі, бывала, вяртаўся са школы галодны і бясконца стомлены. Гэта здаралася рэдка, але затое запаміналася назаўсёды:

«Ш-ш-ш-ы, ш-ш-ш-ы», — спявала каса, і Міхась, нібы прывязаны да яе, толькі паспяваў падступаць за ёю паўкрокам у адзін ступак.

Было светла на душы. Можа ад таго, што брыгадзір пагаварыў з ім, можа, што адчуў нейкую цеплыню да сябе ўсіх гэтых дзядзькоў, што ўжо аблыселі, пасівелі і многа вынеслі на сваім вяку. Ён адчуваў у сабе новыя, яшчэ нязведаныя сілы, якія рваліся на прастор. І ніякія перашкоды не палохалі яго, бо іх ён не прывык абмінаць.



Мал. Б. Аракчэева.

Аляксандр ГУТКОВІЧ, Фаіна КАЗОЎСКАЯ

# ПРАЎДА І ШЧАСЦЕ

Драма ў трох дзеях, васьмі карцінах

**Дзеючыя асобы:**

Прозараў Аляксей Лукіч.
Кацярына Іванаўна — яго жонка.
Лука Цімафеевіч — яго бацька.
Ніна Кальцова.
Варвара Ільінічна (цётка Вара).
Яўген Барысавіч Бахрушаў.
Саша Нагін.
Таня.
Віктар Лінчэўскі.
Карбановіч Фёдар Васільеві
Рагіна Сідараўна — яго жонка.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Невялікі пакой — чысты, скромна абстаўлены. На кушэтцы сядзіць Ніна. Аб нечым думае і час ад часу паглядае на гадзіннік. Побач з ёю — Таня. Яна чытае.

Таня. «...Радзішчаў ведаў, што яго пісьмы заўсёды могуць быць прачытаны на пошце, на гэта ёсць сакрэтны загад... Але невялікі верш, напісаны Радзішчавым па дарозе да месца ссылкі, паказвае, што, вымушаны замоўкнуць, ён не скарыўся:

«Ты хочешь знать: кто я? что я? куда я еду?
Я тот же, что и был и буду весь мой век:
Не скот, не дерево, не раб, но человек!»

Таня закончыла чытаць, адклала кнігу.

Таня (*задуменна, шчыра*). ...Але, чалавек!.. А колькі, колькі такіх Радзішчавых было ў Расіі: дзекабрысты, Чарнышэўскі, Дабралюбаў!..

Не! Я ўсё-такі вельмі, вельмі задаволена, што буду выкладаць рускую літаратуру... А ты?

Н і н а. Я?.. *(Паглядзела на гадзіннік.)* Танька! Ужо сорак пяць на дзевятую. Давай заўтра пачнем раней, а зараз... Наогул, я спяшаюся, мяне...

Стук у дзверы. Уваходзіць Саша і Віктар.

В і к т а р. Хело, зубрэі!.. Кніга мая вам ужо не трэба?

Н і н а. Вось... вазьмі...

В і к т а р. Многа вызубрылі?

Т а н я. Да Радзішчава. А ты?

В і к т а р. Да сентыменталізму дайшоў. Але пакуль гэта для мяне рэч у сабе... Навіну чулі? Сашкаў дыплом раскрытыкаваны, аспірантура яго накрылася...

Т а н я *(вельмі ўсхваляванa)*. Як? Чаму?

В і к т а р. Таму што, не сунь носа ў чужое проса. Народная мудрасць...

Т а н я. У чым справа?

Саша, стаўшы ля акна, пільна сочыць за Нінай. Усхваляваная нечым сваім, яна не заўважае яго пагляду.

В і к т а р. А цябе, Ніначка, гэты казус не кранае? *(Сашу.)* Ну, што! Я гаварыў?! Не чакаў?

Н і н а. Я яшчэ зусім не ведаю, што мяне павінна кранаць.

Т а н я. Але чаму? Чаму раскрытыкавалі? Яго ж работа...

В і к т а р *(іранічна)*. Хоць некаторыя таварышы і ўтойваюць, але мы тое-сёе даведаліся...

Т а н я. Ну?..

В і к т а р. Справа звычайная. Быў пазаўчора партсход. Ваш сусед... Бахрушаў катэгарычна выступіў супроць уключэння новай работы Карбановіча ў вучоныя запіскі... Ну, і наогул крытыкаваў стыль дзейнасці свайго шэфа. *(Кіўнуўшы на Сашу.)* Ну... а гэты тып таксама там штосьці супроць Карбановіча... Я ж заўсёды гаварыў, што Сашка хлопец разумны, але вось... часам ляпне тое, што не трэба, і там, дзе не трэба...

Т а н я. Быць разумным, па-твойму, — значыць, умець прыстасоўвацца! *(З'едліва.)* Ці не так?!

В і к т а р. Быць разумным, па-мойму, — значыць, трымаць сябе разумна!

С а ш а *(у думках)*. Можа і правільна ўсё... Аспірантуры патрэбны людзі, здольныя сказаць нешта новае, каштоўнае для навукі. А я?.. *(Паўза.)* Ну што ж! Лепш быць добрым салдатам, чым дрэнным генералам.

Н і н а. Работнік вышэйшай школы не абавязкова павінен займацца навуковай творчасцю. Можна і падбіраць... ну... папулярызаваць...

В і к т а р. Правільна, Ніначка.

С а ш а *(усхваляванa)*. Значыць — здольны ты для навукі чалавек або не здольны — усё роўна?! Для чаго ж тады, чорт вазьмі, брацца за гэтую навуку?!

В і к т а р. Навуковыя работнікі, дарагі мой, катэгорыя, якую высока аплачваюць...



Т а н я *(з'едліва)*. Ах, вось дзе сядзіць сабака....

В і к т а р *(перабіваючы яе)*. Ну, вядома, не гэта галоўнае... Чытаць лекцыі студэнтам цікавей, чым падціраць насы саплякам ў школе...

Т а н я. Ну, гэта ў каго які густ...

В і к т а р. Наогул, вы як хочаце, а я задаволены, што мяне пакідаюць у аспірантуры. І табе, Сашка, таксама раю — пакайся... Папрасі прабачэння ў Карбановіча. Што табе зробяць?! А карысць вялікая...

С а ш а. Прасіць прабачэння?! У чым?

Т а н я. Сапраўды!

В і к т а р. Ах, ах! Сумленне не дазваляе! «Ісці супроць пераканання!» Падумаеш, высокая прынцыповасць!

С а ш а. Так! Прынцыповасць!

Т а н я. Ты толькі падумай, што ты прапануеш?

В і к т а р. Жах! Проста жах! Я ж зусім забыў вядомыя ісціны. Жыць толькі з параднага ходу! Ніякіх кампрамісаў з сумленнем! Як тэму для класнай работы — прымаю. Але для жыцця, на жаль, не падыходзіць. Ды вось вам, калі ласка... Стаў я ў суботу ў чаргу браць білет на аўтобус. Стаю ў чарзе: «Хто тут апошні? Я за вамі!» Прынцыпова чакаю... Другія — лезуць напралом, перадаюць грошы. Ну, і што ты думаеш? Хто пёрся нахабна — той з білетам, а хто меў сумленне, той так і застаўся...

Саша надзявае акуляры, вымае запісную кніжку, аловак, штосьці запісвае.

Т а н я. Значыць, па-твойму, трэба не змагацца з дрэнню, а прыстасоўвацца.

В і к т а р. А ты паспрабуй, пазмагайся! Калупні якога-небудзь жыва глота. Жыў з намі такі ў пад'ездзе. Меў кватэру ў тры пакоі. Шыкбляск! І захацелася гэтаму грамадзяніну мець пяць пакояў. Лез, крычаў, патрабаваў. І што ты думаеш! Адхапіў. Пяць пакояў адхапіў. Нас чацвёра жыве ў адным пакоі, а яны — іх таксама чацвёра — у пяці. Ну, як назваць такія прынцыпы?

С а ш а *(піша)*. Агіднасць!

В і к т а р *(заглядаючы да яго цераз плячо)*. Аб гэтым і запішы ў сваю «Чалавечую камедыю»... *(Чытае з-за пляча.)* Пачакай, пачакай! Аб чым гэта ты? «Калі іншы дрэнь, значыць, і я магу быць гадам...» *(Вырываючы ў яго кніжку.)* Цікава...

С а ш а. Дай сюды.

В і к т а р. Спакойна, таварыш Бальзак. Зараз... *(Чытае.)* «Калі ўсё добра і правільна, тады і я добры чалавек, і я не супроць праўды...» Ты... пра каго гэта?

С а ш а. Між іншым — пра цябе.

В і к т а р. Вось як... *(Чытае.)* «...Сапраўдны чалавек сам стварае праўду! Знаходзіць яе!» Сам?! *(Перадаючы Сашу кніжку.)* Ну, ну, пажывём — пабачым!

С а ш а *(да Ніны)*. А ты... як думаеш?

Н і н а. Я?.. *(Саша пільна глядзіць на яе.)* ...Думка цікавая... Але нашто тая філасофія?..

В і к т а р. Філасофія маўчыць, калі гавораць музы! Што-небудзь новенькае ў рэпертуары ёсць?

Н і н а. Ёсць. Але... Другім разам. Мне... Ну, добра. *(Садзіцца да піяніна.)* Вельмі мілы вальс...

В і к т а р. Цудоўна! *(Запрашае Таню танцаваць.)* Прашу!

Ніна іграе. Віктар падыходзіць да Тані. Яны вальсуюць.

Саша *(падыходзячы да Ніны)*. Я павінен з табой пагаварыць...
Ніна. Добра. Толькі не сёння. Заўтра.
Саша. Не, сёння.
Ніна. Я... не магу...
Саша. Чаму? Ты...
Ніна. Добра. Прыходзь... толькі... пазней.
Саша *(да Віктара)*. Пайшлі?
Віктар. Што, пара, мой друг Гарацыё? *(Забірае кнігу.)* Гуд бай!

Саша і Віктар выходзяць.

Таня. Саша вельмі ўсхваляваны. Мне здаецца...
Ніна. Што?
Таня. Тут не аспірантура. Па-мойму, ён здагадваецца, што ў цябе штосьці з Аляксеем Лукічом. Ты не гаварыла з ім?
Ніна. Не...
Таня. Дзіўна... Вы так сябравалі з Сашам... Столькі год... Мне здавалася... Ты... любіла яго?..
Ніна. Любіла?.. *(Задумаўшыся.)* Хто яго ведае, каханне гэта ці што іншае... Былі, вядома, нейкія пачуцці. Помніш, мы чыталі сагу: «Каханне кволае, як кветка веснавая... Таемны шлях яго незразумелы». *(Усміхнуўшыся.)* Незразумелы... Зразумець можна... З Сашам — дзяцінства, юнацкія мары. А з Аляксеем Лукічом... Гэта ўспыхнула... як агонь... узняло... закружыла...
Таня *(уражаная)*. Слухай, Ніна, але ж у яго...
Ніна *(не слухаючы яе)*. У ім столькі сілы... мужнасці! Ты помніш яго лекцыі па гісторыі?
Таня. Так... Чытаў ён добра... Чалавек здольны...
Ніна. А як ён шчыра кахае... *(Шчаслівая.)* Мы бачымся часта, амаль кожны дзень — а ён пасылае мне пісьмы. Смешна? Вось, прачытай...
Таня *(адхіляючы яе руку з пісьмом)*. Што ты? Як можна?
Ніна. Дзівачка ты! Слухай: «...Два дні мы не бачыліся, але ты ўвесь час неадступна са мной. Я ніколі яшчэ ў жыцці такога не адчуваў. Я смяяўся з тых, хто гаварыў аб каханні, аб сардэчных пачуццях... Няпраўда, — думаў я. А цяпер адчуваю, што кожная кропля маёй крыві сагрэта табою... Каханнем да цябе... І, каб не яно, я застыў бы назаўсёды...»
Таня. Пачакай, пачакай!.. Як можна?.. У яго жонка... сын...
Ніна. Не ведаю... Не ведаю.
Таня. Слухай... Не, не... Як жа так? *(Горача, ціха.)* Нядобра гэта, вельмі нядобра!
Ніна. Чаму? Чалавек мае права на шчасце...

Тэлефонны званок.

Ніна *(падняўшы трубку)*. Так. Зараз... *(Выйшаўшы ў пярэднюю.)* Яўген Барысавіч, вас да тэлефона.

Уваходзіць Бахрушаў. Відаць, ён працаваў. Твар некалькі стомлены, змарнелы. І ўсё ж рухі яго энергічныя, жвавыя.

Бахрушаў *(узяўшы трубку)*. Слухаю... Добры дзень. Што? Заўтра нарада? Дзе? У гаркоме? Добра. Буду.



Бахрушаў паклаў трубку і толькі цяпер заўважыў Таню. Твар яго засвяціўся цёплай, радаснай усмешкай.

Бахрушаў. Добры дзень.
Таня. Добры дзень.
Бахрушаў. Рыхтуемся? Дрыжым?
Ніна. Вы на экзамене будзеце?
Бахрушаў *(усміхаючыся)*. Буду.
Ніна. Вы ўжо не вельмі нас рэжце.
Бахрушаў *(таксама ўсміхаючыся)*. Абавязкова буду. Па-суседску.
Таня. Яўген Барысавіч, праўда, што Нагіна не хочуць у аспірантуру?
Бахрушаў. Так. Сёй-той не хоча.
Таня. Але вы ж член парткома... намеснік... Вы...

Уваходзіць цётка Вара.

Цётка Вара. Добры дзень, Яўген Барысавіч. Мы, здаецца, не бачыліся. *(Раскладаючы пакупкі.)* На вуліцы як добра стала. Любата. Студэнтам маім цяпер зусім не да французскай мовы...
Таня *(да Ніны)*. Я дадому.
Бахрушаў *(да Ніны)*. Тут мне павінны званіць. Калі ласка, скажаце, што я скора буду.
Ніна. Добра. *(Да Тані.)* Заўтра ў сем.
Таня. Да пабачэння.

Таня, а за ёю Бахрушаў выходзяць. Ніна хутка складае кнігі, сшыткі і накіроўваецца да выхаду.

Цётка Вара. Ніначка! *(Вельмі хвалюючыся.)* Што гэта за плёткі? Адкуль гэтыя размовы? Гэты бруд?!
Ніна *(насцярожана)*. Ты... аб чым?
Цётка Вара *(са здзіўленнем і гневам)*. Зайшла я раніцай на кафедру, — чую, Вера Мікалаеўна абураецца: «Моладзь якая пайшла бессаромная!..» Я так спакойна, мне і ў галаву нічога не прыходзіць, — пытаюся: вы пра каго гэта?.. А яна мне — ваша... з дырэктарам звязалася?... Што гэта такое?!
Ніна. Божа! Як усё апашляюць! Ну, што ім трэба? Чаго яны лезуць?
Цётка Вара. Дык гэта... праўда?
Ніна. Цётачка Вара, родная, я даўно збіралася табе сказаць... Я... люблю... Аляксея Лукіча.
Цётка Вара. А божа!.. Што ты?! Падумай! Што ты гаворыш?!
Ніна *(паглядзеўшы на гадзіннік)*. Я табе ўсё, усё раскажу, растлумачу. Потым. Выбачай. Я пазнюся...

Ніна, спяшаючыся, ідзе да выхаду. Стук у дзверы На парозе з'яўляецца Саша.

Саша. Ты... ідзеш?

Цётка Вара невідушчымі вачыма паглядзела на Сашу і выходзіць, страшэнна ўзрушаная.

Ніна *(разгубіўшыся)*. Я... Мне трэба... Зайдзі, калі ласка, пазней...
Саша. Пачакай! *(Абурана.)* Глядзі мне ў вочы... Скажы адразу — гэта праўда?
Ніна *(закрыўшы вочы)*. Праўда.

Саша, уражаны, маўчыць.

Ніна *(спяшаючыся, усхвалявана)*. Сашачка, родны. Я табе ўсё растлумачу... Ты... шчыры, добры. Я ведаю, ты не паверыш мяшчанскім абгаворам і плёткам... Ты... зразумей мяне: я заўсёды гаварыла табе, што ты мой самы лепшы сябар, але... гэта... Гэта зусім іншае... Цяпер я кахаю па-сапраўднаму, я адчуваю, што... гэта... нешта большае... Ну, ты разумееш?

Саша *(ціха, з жорсткасцю)*. Прозараў?!

Ніна *(парывіста)*. Даруй мне... Мы з табою — сябры, самыя вялікія... самыя...

Стук у дзверы. З'яўляецца Прозараў.

Ніна *(спалохана)*. Аляксей Лукіч?

Прозараў. Я... Добры вечар! У мяне да вас невялікая справа, Кальцова! У інстытуце...

Саша. Выбачайце...

Саша, кінуўшы на Прозарава позірк, поўны нянавісці, шпарка выходзіць.

Прозараў. Даруй мне... Чакаў, чакаў...

Ніна. Я ніяк не магла... То адно, то другое...

Прозараў. Вось і... адважыўся ўварвацца... Прабач... Не ў час прыйшоў... Нагін гэты якраз тут...

Ніна. Ён заходзіў за канспектам. Не звяртай увагі.

Прозараў. Пойдзем?

Ніна. Пасядзім. Паглядзі, як я жыву. Дай сюды паліто. Ад каго нам хавацца?! Усё роўна будуць ведаць! Так? Ты... сваім... сказаў?..

Прозараў. Сказаў.

Ніна. Ну, і... што?

Прозараў. Абышлося...

Ніна. Ты ўпэўнены, яна не будзе скардзіцца...

Прозараў. Не.

Ніна. Можа... Можа, мы ўсё-такі не павінны?.. Можа...

Прозараў *(узяўшы яе за руку)*. Дзяўчынка мая! Не трэба! Усё ўжо вырашана. Мы будзем разам. Мы павінны быць разам. І цяпер... каля цябе... я не хачу ўсім гэтым мучыцца... *(Прыцягваючы яе.)* Ты... радасць, вясна...

Ніна. Аб чым ты думаеш?

Прозараў. Мне здаецца, усё пачалося тады... з Грыга... Помніш, калі ты іграла на інстытуцкім вечары... *(Ніна садзіцца за піяніна, іграе Грыга.)* Я тады падумаў... Няўжо яе душа такая ж прыгожая, як і яна сама... Ці магчыма гэта?..

Ніна *(гуллів*а). А потым?..

Прозараў. А потым... Я здзівіўся, што ёсць такое хараство... такая гармонія... *(Глядзіць на яе.)* Ты нават сама не ўяўляеш, якая ты харошая!

Ніна *(смеючыся)*. Ты дзівак! Разумнае дзіця!

Прозараў. Я ішоў сюды і прыдумаў, як цябе называць...

Ніна. Як?

Прозараў. Асколак сонца... *(Паўза. Усміхаючыся.)* Што, лірыка мне не да твару?

Ніна *(перастаючы іграць)*.

Вся в снегу кудрявом, благовонном,
Вся-то ты гудишь блаженным звоном
Пчёл и ос, завистливых и злых....



Старишься, подруга дорогая?
Не беда. Вот будет ли такая
Молодая старость у других!

Прозараў. Гэта адкуль?

Ніна. З Буніна...

Уваходзіць цётка Вара. Прыкрае маўчанне.

Цётка Вара. Добры дзень...

Прозараў. Добры дзень, Варвара Ільінічна.

Цётка Вара патапталася на месцы і выходзіць у суседні пакой.

Ніна. Пойдзем паходзім.

Прозараў. Ага... *(Кіўнуўшы на дзверы, у бок цёткі Вары)*. Яна... ведае?

Ніна. Ведае... *(Ідучы да выхаду.)* Што там робіцца ў нашага суседа з Карбановічам?

Прозараў. У Бахрушава? Халодная вайна скончылася, пачалася гарачая... *(Выходзяць.)*

Як толькі яны выйшлі, у дзвярах з'явіўся Бахрушаў. З суседняга пакоя выходзіць цётка Вара.

Бахрушаў. Выбачайце. Мне... не званілі?

Цётка Вара. Як быццам не...

Бахрушаў *(набраўшы нумар)*. Алё... Папрасіце, калі ласка Анатолія Міхайлавіча. Няма яго?... Выбачайце. *(Кладзе трубку.)*

Цётка Вара *(паказаўшы на дзверы, праз якія выйшлі Прозараў і Ніна)*. Бачылі?

Бахрушаў. Але...

Цётка Вара. Дурная! *(Пацiснуўшы плячыма.)* Не разумее, што робіць.

Бахрушаў. Вы думаеце?

Цётка Вара *(у думках)*. Не, не, нельга... нельга... *(Усхвалявана.)* Умяшайцеся, Яўген Барысавіч, спыніце... Вы можаце... Можаце!

Заслона

## Карціна другая

Рабочы кабінет на кватэры Прозарава. Стэлажы з кнігамі, пісьмовы стол, канапа. Тэлефон на стале. Па баках стала два крэслы. Гарыць толькі настольная лямпа. На сцэне — жонка Прозарава, Кацярына Іванаўна. Яна бярэ ў рукі то адну, то другую рэч, усхвалявана адкладвае ўбок. Бярэ са стала папку.

Кацярына Іванаўна. Гэта мы яму з Юрыкам купілі... да дня нараджэння... За што ні вазьмуся — усё болем адгукаецца. Божа, за што такая кара? За што? *(Апусцілася на крэсла і, падпёршы рукой галаву, ціха плача. Звоніць тэлефон. Кацярына Іванаўна бярэ трубку.)* Добры дзень, Яўген Барысавіч. Няма яго. Усё яшчэ няма. Мабыць, хутка будзе. Зойдзеце? Для вас ніколі не позна.

Званок у пярэдняй. Кацярына Іванаўна скоранька выцірае слёзы, выходзіць і вяртаецца з Рагінай Сідараўнай. Гэта моцная, поўная жанчына з узбітымі локанамі. Апранута па-дамашняму, у фартуху. Курыць.

Рагіна Сідараўна. Вы яшчэ не спіцё?
Кацярына Іванаўна *(уключае святло)*. Прысаджвайцеся, Рагіна Сідараўна.
Рагіна Сідараўна. Дзякуй, няма калі. *(Села.)* Няўжо ваш яшчэ не прыходзіў?
Кацярына Іванаўна *(рассеяна)*. Не... Не прыходзіў...
Рагіна Сідараўна *(уважліва глядзіць на яе)*. Так позна?..

Кацярына Іванаўна маўчыць.

Рагіна Сідараўна. Ярохіным мяняюць кватэру! Чулі? Даюць чатыры пакоі!
Кацярына Іванаўна. Няўжо? Ну, і бог з імі. Няхай.
Рагіна Сідараўна. Як гэта бог з імі? А мы што? Горшыя? Колькі гэта можна жыць так, у інтэрнаце! Вечна ў людзей на воку. Ды і што мы ўрэшце — горшыя за гэтую лысую пстрычку ў акулярах?
Кацярына Іванаўна. Але ж ён прафесар, акадэмік!
Рагіна Сідараўна. А... Справа не ў гэтым. Тут як хто можа паставіць сябе. Я ўвесь час кажу свайму Карбановічу — дзейнічай! Дык не... А вы... *(Заглядаючы ёй у вочы.)* Вы ўжо не думаеце мяняць сваю кватэру?..
Кацярына Іванаўна *(адводзячы вочы)*. Не...
Рагіна Сідараўна. Вядома, цяпер вам і ў гэтай не цесна будзе?!
Кацярына Іванаўна *(жадаючы пазбегнуць непрыемнай размовы)*. Што Галачка піша?
Рагіна Сідараўна *(адразу спахмурнела, махнула рукой)*. І не кажыце.
Кацярына Іванаўна. Што, нездарова?
Рагіна Сідараўна. Не, здарова... Але... між намі. Падкопваюцца пад яе.
Кацярына Іванаўна. Чаму?
Рагіна Сідараўна. Не разумееце? Зайздрасць. Выдумалі, што яна па блату паступіла. Але гэта няпраўда. Проста прафесар Жылінскі ведае нашу дачку з малых дзён, і... вядома, памог ёй, абараняе. Што ж тут благога?
Кацярына Іванаўна. Жылінскі? А ў нас?.. У нас, здаецца...
Рагіна Сідараўна. Сын яго. Славік. Выліты бацька. Скромны, далікатны... *(Прыслухоўваецца.)* Гэта мой ходзіць... Нервуецца. Справа ў яго тэрміновая да вашага. Гаворыць, дачакаюся, хоць у гадзіну ночы няхай вернецца. *(Устаючы.)* Дык, значыць, кватэру мяняць не думаеце? Ох-хо-хо! Спакойнай ночы! *(Выходзіць.)*
Кацярына Іванаўна *(адна)*. Як птушку на ляту падстрэлілі, так і мяне раптам... адразу!..

Стукнулі дзверы.

Кацярына Іванаўна. Хто там?
Лука Цімафеевіч. Я.
Кацярына Іванаўна. Як сёння ўсе позна...
Лука Цімафеевіч. У Самохіных сёння... залатое вяселле. Прыйшлося ўважыць.
Кацярына Іванаўна *(думаючы пра сваё)*. Залатое вяселле...
Лука Цімафеевіч. Ты... ты, што, зноў плакала? Га?



Кацярына Іванаўна маўчыць.

Лука Цімафеевіч. Я... здаецца, не чужы тут у доме. Я ж бачу, нешта нядобрае ў вас. А што? Усё сакрэты, і ў цябе, і ў яго.
Кацярына Іванаўна. Учора Аляксей сказаў, што... пакідае... мяне... Зусім... Пакідае мяне і Юрыка...
Лука Цімафеевіч. Пачакай... Ты... пачакай... Я нешта не разумею... Пакідае? Чаму?
Кацярына Іванаўна *(у вялікім хваляванні)*. Гаворыць, пакахаў... Першы раз за ўсё жыццё. Кажа, не перашкаджай, хачу свой век дажыць у любові... Божа, я яму перашкаджала! Я ў яго лішняя! Ды я ж яму ўсё аддала, сваё жыццё аддала! Працавала, свету не бачыла... Завод... фабрыка. Каб толькі вучыўся, усё рабіла, каб яму было лепш. *(Ледзь стрымліваючы слёзы.)* І вось вывучыўся, чалавекам стаў, і мяне ўбок, як непатрэбную. Як чужую!
Лука Цімафеевіч. Не, не... Тут нешта не тое... Гэта нагавор! Гэта мана! Мой сын не такі! Не было ў нас такога ў нашым родзе! *(Узарваўшыся.)* Ды я яго, прайдзісвета!..

Званок. Уваходзіць Карбановіч — каржакаваты, шыракаплечы чалавек, год за пяцьдзесят. Ён нечым усхваляваны.

Карбановіч. Выбачайце за позні прыход. Лукіч дома?
Кацярына Іванаўна. Не. Праходзьце, калі ласка...
Карбановіч. Ды калі ж ён, нарэшце, вернецца?!
Кацярына Іванаўна. Пара...
Карбановіч *(да старога)*. Добрага здароўя! Ну, як вам на пенсіі?
Лука Цімафеевіч *(махнуўшы рукой)*. А-а-а... *(Выйшаў.)*
Кацярына Іванаўна. Сядайце.
Карбановіч. Дзякую, дзякую...

Званок. Кацярына Іванаўна ідзе ў пярэднюю. Карбановіч выняў з кішэні нейкую паперку, разгарнуў яе, зноў паклаў у кішэню... Усхваляваны, ходзіць па пакоі. З'яўляецца заклапочаны Прозараў. Ён не заўважае Карбановіча.

Карбановіч *(падае яму руку)*. Нарэшце! Добры вечар... Ці то ноч... Прабач, ты мне вельмі патрэбен.
Прозараў *(вызваліўшыся ад сваіх думак і паглядзеўшы на яго)*. Што здарылася? *(Паклаўшы кнігі.)* Ты... чым усхваляваны?
Карбановіч. Аляксей! Я так больш не магу... *(Вымае з кішэні паперку і перадае яе Прозараву.)*
Прозараў *(разгарнуўшы паперку)*. Зноў з Бахрушавым...
Карбановіч. Я шукаў у інстытуце, але ж цябе не зловіш.
Прозараў *(чытае моўчкі, потым уголас)*. «...І ў апошні час Бахрушаў кожнага дня не дае спакою ні мне, ні лепшым работнікам кафедры»... *(Чытае далей моўчкі.)*
Карбановіч. Камандуе, вучыць! І хто? Хлапчук... Аспіранцік...
Прозараў *(адрываючыся ад чытання)*. Які ж ён хлапчук? Прыйшоў з завода... са школы рабочай моладзі... служыў у арміі... Здольны аспірант... Замяшчае сакратара партарганізацыі...
Карбановіч. І гэта дае яму права чарніць мяне?! Падрываць мой навуковы аўтарытэт?!
Прозараў. Ён мае права крытыкаваць.
Карбановіч. Гэта інтрыга, а не крытыка!.. Закрэслівае працу, якую я кладу ў аснову маёй доктарскай... А потым — ты ж мяне ведаеш,

лічы... дваццаць год. Ведаеш, што я... усе сілы... усю душу аддаю... нашай агульнай справе...

Прозараў (*складаючы паперку*). Добра. Я пастараюся разабрацца...

Карбановіч. А сам ён што зрабіў у навуцы? Многа амбіцыі і ніякай амуніцыі... Да гэтага часу кандыдацкай не мае!..

Прозараў. Ну, гэта пытанне фармальнае. (*Устаючы.*) Даследаванне Бахрушава абяцае быць цікавым... вельмі цікавым... А абарона... Гэта цырымонія адбудзецца, як толькі вернецца яго кіраўнік...

Карбановіч. Калі яшчэ тое будзе. А пакуль што — інтрыгі, развал работы...

Прозараў. Развал?

Карбановіч. Балячка, нарыў... Так, так, Бахрушаў — гэта... гнойны нарыў на целе кафедры. Ён разлагае кафедру. Не, не! Тут адно з двух: ён альбо я!

Прозараў. Нешта не так... не тое... Ты проста пакрыўдзіўся і...

Карбановіч (*перабіваючы*). Ты падтрымліваеш Бахрушава?

Прозараў (*спакойна*). Я хачу разабрацца...

Карбановіч. Гэта тонкі і хітры кар'ерыст. (*Ходзіць па пакоі.*) Шукае саюзнікаў сярод студэнтаў, сярод моладзі. Хм! Рыбка клюнула. Нагіна ты, мабыць, ведаеш...

Прозараў (*успамінаючы*). Нагін... Гэта... які выступаў на партсходзе?..

Карбановіч. Той самы... (*Памаўчаўшы.*) Я табе раней не хацеў гаварыць...

Прозараў. Што?

Карбановіч. Э, брат... Шыла ў мяшку не схаваеш... Твой раман з Кальцовай вядомы ўжо ўсяму інстытуту... Многія асуджаюць цябе... Але я... разумею... і... як бы там ні было... жадаю табе дабра... шчасця...

Прозараў (*насцярожана, ціха*). Дзякуй...

Карбановіч. Наогул... можаш разлічваць на маю падтрымку... па старой дружбе... Толькі вось што... Калі гэта дзяўчына табе па душы, ты... Трэба адагнаць ад яе верных рыцараў...

Прозараў. Якіх... рыцараў?..

Карбановіч. Нагін... можаш не сумнявацца... яе верны паж...

Прозараў. Ты... адкуль гэта ведаеш?

Карбановіч. Усе гавораць.

Прозараў (*стрымліваючыся*). Як гэта ўсе? (*Узарваўшыся, прыглушана.*) Хлусіш ты, Карбановіч! Хлусіш!

Карбановіч (*устаўшы*). Хаця ты мне і друг, але крыўды я не пацярплю... (*Накіроўваецца да выхаду.*)

Прозараў (*схапіўшы яго за руку*). Пачакай, даруй. Вінаваты. (*Апусціўшыся ў крэсла.*) Неразумна, недарэчна... Не магу вырвацца ад самога сябе...

Карбановіч. А нашто вырывацца?.. Каханне гэта ж... не лямпачка... не выкруціш. Трэба толькі, каб менш размоў было, каб не параўноўвалі цябе з тым хлопцам!.. Ён канчае інстытут, ну, і...

Прозараў. Што?..

Карбановіч. Ведаеш... як гэта?.. Ці мёд піць, ці бітым быць...

Прозараў. Аб чым ты?

Карбановіч. Ну, гэта справа твая... Я табе сказаў... папярэдзіў...



Званок. Прозараў ідзе ў пярэднюю. Чуваць яго голас: «Калі ласка, калі ласка, заходзьце...». З'яўляецца Бахрушаў. Ён убачыў Карбановіча і нейкі момант яны глядзяць адзін на аднаго.

Бахрушаў (*пасля паўзы*). Добры вечар.

Карбановіч (*моўчкі кіўнуўшы і ўважліва глянуўшы на яго*). Гляджу я на вас і думаю... хачу зразумець...

Бахрушаў (*ледзь усміхнуўшыся*). Што?..

Карбановіч. Што?.. (*Паўза. Зноў уважліва глядзіць на яго.*) Дзіўная рэч... (*Як бы прыпамінаючы.*) Нядаўна ж, зусім нядаўна вы былі для мяне... Жэнем... Проста Жэнем Бахрушавым, любімым студэнтам... А цяпер... (*Паціснуўшы плячыма.*) Любімы студэнт і яго настаўнік — ворагі... (*Гаворыць па складах.*) Дзіў-лю-ся! І навошта нам гэта дуэль?! Зразумейце, дуэль у наш час не патрэбна.

Бахрушаў. Я сябе не лічу... вашым ворагам...

Карбановіч. Разумею... (*Уздыхнуўшы.*) Ох, як я вас разумею, дарагі мой Яўген Барысавіч... (*Як бы між іншым.*) Дарэчы, што ў вас з дысертацыяй?

Бахрушаў. Працую, пішу...

Карбановіч. Ну, ну, працуйце... А то знаеце — займаеце вы пасаду кандыдата... Мне аб гэтым напамінаюць. (*Шматзначна.*) Прыходзіцца... заступацца за вас...

Бахрушаў. Вы... добра ведаеце, што не ўсё ад мяне залежыць. Мой кіраўнік, прафесар Карпаў, у загранічнай камандзіроўцы.

Карбановіч. Але... у выпадку чаго на гэта... знаеце... спасылацца нельга...

Уваходзіць Прозараў.

Прозараў (*да Бахрушава*). Сядайце, што ж вы...

Бахрушаў. Не, не буду. Даруйце, што так позна. (*Перадаючы Прозараву папку.*) Хацеў днём аддаць, не мог вас знайсці.

Прозараў. Але... Увесь дзень у міністэрстве. (*Раскрываючы пададзеную Бахрушавым папку.*) Усё прачыталі?

Бахрушаў. Усё. Думаю, можна аддаць на рэдактуру... (*Зірнуўшы на Карбановіча.*) Акрамя...

Карбановіч (*перахапіўшы яго позірк*). Што ж, гаварыце. Хіба я перашкаджаю?

Бахрушаў. Не, нікольні. (*Да Прозарава.*) Сваю думку я ўжо выказваў на партсходзе: артыкул Фёдара Васільевіча не падыходзіць для вучоных запісак. Гэта... кампіляцыя... Аб гэтым пісалі і пісалі...

Карбановіч. А вам не здаецца, што вы надта многа берацё на сябе?!

Бахрушаў. Не, не здаецца...

Карбановіч. Вы, напэўна, думаеце, што вам цяпер усё можна. (*Узвышаючы голас.*) Можна закрэсліваць, знішчаць чалавека, які дваццаць пяць гадоў свайго жыцця аддаў навуцы!

Прозараў. Спакойней! Хто што зрабіў для навукі, відаць па канкрэтных справах.

Карбановіч. Вось іменна!

Прозараў. У канцы месяца будзе слухацца на калегіі наша справаздача аб навуковай працы. (*Да Карбановіча.*) Падрыхтуй, калі ласка, матэрыял па тваёй кафедры.

Карбановіч. Калі?

Прозараў. Ну... Не пазней наступнага аўторка. *(Да Бахрушава.)* А вы, Яўген Барысавіч, уключыце ў гэту справу партбюро... і... па вашай і па астатніх кафедрах. Міністр папярэдзіў: размова будзе вельмі сур'ёзная.

Бахрушаў. Добра. *(Устаючы.)* Выбачайце, што патурбаваў. *(Працягвае Прозараву руку.)*

Прозараў. Яўген Барысавіч... *(Усаджвае яго.)* Пасядзіце хвілінку?.. а?.. *(Глядзіць то на аднаго, то на другога.)* Вось... вы тут абодва... Скажыце шчыра: што ў вас такое? Чаму вы не можаце дружна працаваць. Два камуністы, два...

Бахрушаў. Не тое слова, Аляксей Лукіч. Справа не ў тым, што мы не можам...

Прозараў. А ў чым?

Бахрушаў. Я ў прынцыпе супраць стылю работы кафедры...

Прозараў. Канкрэтней.

Бахрушаў. Вось... Глядзіце... На кафедры восем чалавек. Ёсць, вядома... Ну... Сямёнаў, Пракудовіч! Яны працуюць. У іх цікавыя тэмы, даследаванні. А астатнія?! Жылінскі, Антонаў... ды і вы самі, Фёдар Васільевіч... Пераженоўваеце, разжоўваеце даўно вядомыя ісціны!

Карбановіч. Вы хочаце, каб кожны з нас Амерыку адкрываў?!

Бахрушаў. Я хачу, каб у нас не было ашуканства. І не я адзін. Надакучыла! Абы даць справаздачу...

Прозараў *(дапытліва)*. А можа, Яўген Барысавіч, вы гіпербалізуеце?

Бахрушаў. Не, Аляксей Лукіч. Гэта... набалела... у нас ёсць многа вучоных... таленавітых... геніяльных... Яны робяць вялікія адкрыцці. А побач — фальшываманетчыкі ад навукі! *(Горача.)* Пішуць дысертацыі — нікчэмныя, нікому непатрэбныя. Зарабляюць сабе ступені, і потым... Калоцяцца — каб іх не папрасілі з наседжанага месца.

Карбановіч *(уздыхнуўшы)*. Так... *(Сумна, да Прозарава.)* І гэта ў падзяку за тое, што я яго прыняў у аспірантуру.

Бахрушаў. Чаму вы? Што, гэта ваша прыватная крамка? Я сам сабе пракладваю дарогу.

Карбановіч *(перабіваючы)*. Вось іменна — «пракладваеце»...

Бахрушаў. Толькі не па вашых слядах! *(Да Прозарава.)* Як бачыце, мы гаворым з Фёдарам Васільевічам на розных мовах. *(Паглядзеўшы на гадзіннік.)* Позна. Мне пара. Да пабачэння.

Карбановіч *(ідучы ўслед за ім і вяртаючыся)*. Ну, бачыў?! Магу я з такім працаваць?.. Не, я гэтага так не пакіну! *(Паўза.)* Што ж ты маўчыш? Хаця, вядома, я разумею. Як кажуць, між двух агнёў: з аднаго боку — я... *(Запнуўся.)* твой друг, загадчык кафедры, з другога — партком...

Прозараў. Ты казаў... што ведаеш мяне дваццаць год... *(Гледзячы яму ў вочы, цвёрда.)* Значыць, ведаеш, што флюгерам я ніколі не быў.

Карбановіч. Ну, што ж, паглядзім, паглядзім. Але калі ты не прымеш мер — я сам за гэта вазьмуся. *(Ціха, злосна.)* Са мной паскачаш!.. *(Ідучы да выхаду.)* Я гэтаму пеўніку абарву грэбень...

Карбановіч выходзіць. Прозараў ідзе ўслед за ім. Шчыльна прыкрывае парцьеры. Падыходзіць да тэлефона, набірае нумар.

Прозараў. Алё!.. Ты не спіш? Думаеш?..

Каля дзвярэй з'яўляецца Лука Цімафеевіч. Прозараў яго не бачыць. Стары рассоўвае парцьеры і слухае.



Прозараў. Што хачу табе сказаць? Усё тое ж. Не магу без цябе. Не магу. Ні адной гадзіны. Ні адной хвіліны.

Лука Цімафеевіч падыходзіць шпарка да стала і, вырваўшы ў сына трубку, рэзка кладзе яе на апарат.

Лука Цімафеевіч *(з пагрозай)*. Без каго гэта ты не можаш? Га? *(Б'е яго па шчацэ.)* Сукін ты сын, вось ты хто!

Нейкі момант Прозараў стаіць ашаломлены і здзіўлена глядзіць на старога.

Прозараў. Ты... што! Што гэта значыць?

Лука Цімафеевіч. Гэта ты, нягоднік, павінен мне адказаць, што гэта значыць? Глянь на сябе, распуснік! Скора сам будзеш сівы, як я, а звязваешся з дзяўчынкай!.. З нейкай...

Прозараў. Бацька, я прашу...

Лука Цімафеевіч. Маўчы! Думаеш, калі ты дырэктар, дык табе дазволена?!

Прозараў. Бацька, не крычы, там Юрык.

Лука Цімафеевіч. Бачыш ты! Яшчэ не забыўся, што ў цябе Юрык ёсць... сынок Юрык?!.

Прозараў *(прыгнечаны)*. Твая праўда... Твая... Так... Але гэта ўжо нельга змяніць. Ты ведаеш добра, я не бабнік. Не быў ім і не буду. Але я не магу інакш... Можаш ты гэта зразумець?!

Лука Цімафеевіч. Хлусня! Сам ведаю. Магла быць і ў мяне дзяўчына. Але я не паддаўся. *(Горача.)* Вас — цябе, сястру — не хацеў сіротамі пакінуць. А ты... Глядзі — скруціш сабе шыю. *(Цвёрда.)* Пойдзеш ад іх, запомні, — ты мне не сын!

Заслона

## Карціна трэцяя

Сквер на тэрыторыі інстытута. Лаўкі, альтанка. Дзесьці зусім недалёка шум, смех, музыка. Паступова музыка заціхае. На сцэну ўваходзяць Бахрушаў і Прозараў.

Прозараў *(летуценна)*. Колькі ўжо год адсюль... у такі ж летні вечар ідуць у жыццё выпускнікі... Тыя ж святочныя сталы... Тыя ж тосты, прамовы... музыка... І ўсё-такі... гэта хвалюе... Быццам упершыню... *(Прыслухоўваючыся.)* Вы паслухайце, як спяваюць... Так могуць толькі маладыя, га?.. *(Прысаджваючыся да Бахрушава.)* Добрая ў нас сёння размова была на вучоным савеце.

Бахрушаў. Прынцыповая — вось што важна.

Прозараў. Я думаю, Карбановіч зробіць сур'ёзныя вывады...

Бахрушаў. Наўрад ці... *(Вымае з кішэні некалькі складзеных лісткоў паперы. Абурана.)* З пенай на губах абараняць справаздачу, калі для ўсіх ясна, што гэта — фікцыя!

Паяўляецца Карбановіч.

Карбановіч. Знайшлі час!.. На выпускным вечары!

Прозараў. Ды вось... зноў гаворым пра тваю справаздачу... Заўтра — калегія... Ты Жылінскага папярэдзіў?

Карбановіч *(прысаджваючыся)*. Аб чым?

Празараў. Аб звальненні.

Карбановіч. Не, не папярэдзіў. І не буду. Я рашуча супраць. Гэта малады... здольны вучоны.

Бахрушаў. Здольны! Даруйце, але... чэснае слова... Дзе ваша партыйнае сумленне?!

Карбановіч. Майго партыйнага сумлення я вас усё-такі прасіў бы не кранаць. Я ўступіў у партыю, калі вас яшчэ на свеце не было.

Бахрушаў. Тым больш... Тры гады стаіць у вашым плане яго дысертацыя. Але ж ён не напісаў ні адной старонкі! І не напіша!

Карбановіч *(да Празарава)*. Ты бачыш? Спачатку ўчыніў расправу над маёй работай для запісак, цяпер узяўся за Жылінскага.

Празараў *(перабіваючы)*. Пытанне аб Жылінскім вырашана. Праз два тыдні ён будзе звольнены.

Карбановіч *(вельмі ўсхвалявана)*. Для звальнення трэба мець падставы...

Празараў. Іх больш чым дастаткова... Яго лекцыі камісія акадэміі забракавала... Напісаць дысертацыю ён не можа.

Бахрушаў. А скаргі студэнтаў!

Карбановіч. Ты... Вы гэтага не зробіце!

Бахрушаў. Чаму? Навошта нам гэты баласт?.. У нас ёсць здольная моладзь!

Карбановіч. Хто, напрыклад?

Бахрушаў. Нагін. Выдатнік. Разумная галава. Чаму вы супроць яго кандыдатуры?

Карбановіч. Не ўсякі выдатнік у патэнцыяле вучоны...

Бахрушаў *(з іроніяй)*. Ну, а... Лінчэўскі — вучоны?

Карбановіч. Гэта... гэта іншая справа!..

Бахрушаў *(з'едліва)*. Так, Лінчэўскі — іншая справа. Бо ён з ручных — зручны для кіравання. Толькі вы памыляецеся. На гэты раз...

Карбановіч *(перабіваючы яго)*. Слухайце, Бахрушаў. Вы проста зазналіся. Узялі сабе залішне многа. Лічыце, што маеце права вучыць мяне, асуджаць Аляксея Лукіча!

Бахрушаў. Пры чым тут Аляксей Лукіч?

Карбановіч *(кіўнуўшы ў бок Празарава)*. Я думаю, Аляксею Лукічу цікава было б ведаць, як вы зрабілі чарговай мішэнню сваіх інтрыг яго... дырэктара інстытута...

Бахрушаў *(ледзь стрымліваючы сябе)*. Паслухайце, вы!..



## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Часопіс працягвае знаёміць з працамі маладых мастакоў — выпускнікоў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.**

**Ігар Іванавіч Краснеўскі нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Закальнае Любанскага раёна. У 1953 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і адразу ж паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Тэму дыпломнай карціны «У рыбачым порце» выбраў у часе паездкі на ўзбярэжжа Балтыйскага мора, дзе праходзіў вучэбную практыку.**



Карбановіч. Праўда вочы коле?! Можа, скажаце, не вы распускаеце брудныя чуткі аб амаральных паводзінах дырэктара?!

Бахрушаў. Гэта не чуткі!..

Карбановіч. А што ж?!

Бахрушаў *(падумаўшы. Ціха)*. Праўда.

Карбановіч *(спачувальна)*. Вось, Аляксей Лукіч... Вось... *(Пайшоў.)*

Празараў *(гнеўна, глуха)*. Дык вы лічыце, што мае паводзіны — амаральныя?! А ці не здаецца вам, што трэба было б разабрацца, даведацца, зразумець?!

Бахрушаў. З мяне даволі таго, што я ведаю. Мяркуйце самі. Адна сям'я... другая... Пакінуты сын... Гэта што — ідэал сямейнага жыцця камуніста... настаўніка... інжынера душ?!

Празараў. Або... гэта тупая артадаксальнасць сухара... або — проста гульня ў прынцыповасць!.. Значыць, па-вашаму, сям'я камуніста непарушна? Якой бы яна ні была?

Бахрушаў. Не... Я гэтага не лічу...

Празараў. Няма любві, няма радасці, няма шчасця, а ты рабі выгляд, што ўсё добра, міла, гладка?!

Бахрушаў. Вы пражылі столькі гадоў разам. Мне здавалася, у вас, ну... дружная... добрая сям'я!

Празараў. Ах, здавалася!.. *(Цяжка апусціўшыся на лаўку.)* Жонка мая — неблагі чалавек... Я б нават сказаў — добры... Але... Хіба ў гэтым справа? Мы — чужыя... Духоўна чужыя... Можаце вы гэта зразумець?!

Бахрушаў. Дапусцім, што так!

Празараў. Дадому прыйдзеш — заўсёды чыста, абед на стале, а для душы — нічога... Паеду куды-небудзь — быццам і цягне дадому, а вернешся, пабудзеш разам, і такая цябе нуда агорне... Гаварыць няма аб чым, пустата... Скажыце... Жыць у сям'і, не любіць, быць чужым, — хіба гэта не ханжаства?

Бахрушаў. Сапраўднае шчасце — заўсёды чыстае.

Празараў. Вядома... Але... я знайшоў тое, чаго не меў. Я раптам адчуў, што жыву, што ёсць у мяне высокая мэта. Калі трапляецца шчасце — дык трэба яго абмінаць? Чаму?!

Бахрушаў. Не ведаю... Гэта ваша справа... Толькі скажу вам... Аляксей Лукіч... пакахаць лёгка — любіць цяжка...

Зноў чутна музыка, песні. Паяўляюцца Ніна і Таня.

**Віктар Сазонтавіч Пратасеня нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Пагост Старобінскага раёна. Прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне. Пасля вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, працаваў у Гродзенскім гістарычным музеі мастаком. Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут закончыў у 1959 годзе. Яго дыпломная работа «Незабыўныя дні».**



Ніна *(Бахрушаву)*. Вы бессардэчны! Дайце хоць адпачыць чалавеку. Аляксей Лукіч! Пойдзем танцаваць! Ніякіх пярэчанняў! Сёння наш дзень, калі ласка, просім! Таня, займіся Яўгенам Барысавічам. І, калі ласка, не адпускай яго. А то ён зноў да яго прычэпіцца... *(Выводзіць Прозарава.)*

Таня. Вы чулі? Мне загадана не адпускаць вас.

Бахрушаў. А я і не супярэчу. Вы кагосьці шукаеце?

Таня. Не... Так проста... Мне здалося, там... Нагін паказаўся... Не бачылі яго?

Бахрушаў. Не, гэта, здаецца, не ён... Пойдзем?

Таня. Не, пасядзім... Усё-такі з Нагіным абышліся вельмі, вельмі несправядліва!.. Так бязлітасна раскрытыкаваць!..

Бахрушаў. Нагіна гэта, па-мойму, мала засмучае. Ён з радасцю складае план работы ў сельскай школе.

Таня *(чырванеючы)*. Так, яго прызначылі ў Заполле. Ёсць такі раённы цэнтр. Я... таксама еду туды.

Бахрушаў. Зайздрошчу я Сашу...

Таня. Хацелі б працаваць на сяле?

Бахрушаў. У Заполлі...

Таня. Дык у чым жа справа?

Бахрушаў. Па-першае, не хачу зрывацца з выбранага шляху, а па другое...

Таня. Па-другое?

Бахрушаў *(паўза)*. Аб гэтым я вам... напішу. Можна?..

Таня *(дзіўна паглядзеўшы на яго)*. Пішыце... Наогул, добра, што Саша едзе адгэтуль... Яму было б тут цяжка... Вельмі...

Бахрушаў. Вы маеце на ўвазе Кальцову?

Таня. Не разумею я Ніну. Як можна?..

Бахрушаў. Вядома, нялёгка Сашу, але... думаецца... ён мала страціў...

Таня *(узрадавана)*. Так?.. Вы не хочаце танцаваць?..

Бахрушаў. Не майстар. Але калі гэта звычайны вальс, спадзяюся, ног вам не адтапчу.

Бахрушаў узяў Таню пад руку. Яны пайшлі. З глыбіні сцэны выходзяць Карбановіч і Рагіна Сідараўна. Карбановіч вельмі ўсхваляваны.

Карбановіч. Яны патрабуюць. Разумееш? Патрабуюць яго звальнення...

Рагіна Сідараўна. Каго?

Карбановіч. Жылінскага.

Рагіна Сідараўна. Чаму? За што?

Карбановіч *(злосна)*. Гультай. Шалапут. Колькі разоў я яму казаў — пішы, хоць што-небудзь... А цяпер позна...

Рагіна Сідараўна *(спалохана)*. А што ж будзе з Галкай?

Карбановіч. Каб не Галка, я б сам даўно яго прагнаў.

Рагіна Сідараўна. Што ты, прафесар ніколі не даруе табе гэтага звальнення. Ты думаеш аб гэтым?

Карбановіч *(злосна)*. Адно, другое, трэцяе!.. А ўсё гэты падлюга, усё праз яго!.. Трэба нешта прыдумаць! Рагіна, памажы!

Падыходзіць Віктар. Ён кагосьці шукае.

Віктар *(да Карбановіча)*. Даруйце, вы Бахрушава тут не бачылі?



Карбановіч. Бахрушава? Н-не... А вам і сапраўды варта пагаварыць з ім.

Віктар. Аб чым?

Карбановіч. Як аб чым? Ён жа катэгарычна супроць вашай кандыдатуры. Вы ж яго шукаеце, каб пагаварыць?

Віктар. Ды не... Між іншым, можа гэта і добра... *(Вымае канверт.)* Ён тут адну рэч згубіў...

Карбановіч. Дазвольце, дазвольце, што гэта? Пакет?!. Дайце сюды! *(Разглядаючы.)* Сакрэтны партыйны пакет?! Рагіна, пагуляй. Я зараз. Дзе вы яго ўзялі?

Віктар. Зайшоў я пад вечар у партком. Толькі пачаў размову з Бахрушавым, як яго кудысьці тэрмінова выклікалі. Чаго выклікалі — не ведаю. Але ён раптам замкнуў сейф і выскачыў з кабінета. Бачу, на стале пакет: «Зусім сакрэтна»... Я даганяць, а яго і след прастыў.

Карбановіч. І вы ўзялі сакрэтны дакумент?!

Віктар. А як жа было пакінуць. Мала хто мог знайсці!..

Карбановіч. Не разумею, не разумею!.. Вы?! Беспартыйны!

Віктар. Дык я ж прынёс перадаць... З рук у рукі...

Карбановіч *(перабіваючы)*. Дрэнна вы ведаеце Бахрушава! Ён паверне справу так, што вы будзеце вінаваты. Беспартыйны Лінчэўскі ўзяў у парткоме сакрэтны партыйны дакумент! Паспрабуйце, дакажыце, што гэта не так...

Віктар. Што вы, што вы!.. Няўжо ён...

Карбановіч. Вядома!.. Вы не маеце права трымаць пры сабе такі дакумент. Пра вас, што хочаце могуць падумаць...

Віктар. Што ж рабіць?..

Карбановіч *(няўпэўнена)*. Не ведаю... Дайце яго мне...

Віктар *(насцярожана)*. А вы яго... куды? Яму?..

Карбановіч. Не бойцеся, дарагі. Усё будзе зроблена, як трэба. Ах, якая бесклапотнасць, якая нядбайнасць! *(Працягвае Віктару руку, глядзіць на яго і чакае)*.

Убягае Рагіна Сідараўна.

Рагіна Сідараўна. Карбановіч! Дзе ты?! *(Хапаючы мужа за руку.)* Прыехаў!.. Намеснік міністра з жонкай!

Карбановіч *(нездаволена)*. Пачакай, пачакай!

Рагіна Сідараўна *(шэптам)*. Ён пытаўся пра цябе. Чуеш?! Пра цябе! *(Цягне яго.)*

Карбановіч *(Віктару)*. Без мяне нічога не пачынайце, чуеце? Нічога!

Рагіна Сідараўна і Карбановіч знікаюць. Віктар стаіць нейкі час у задуменні. З'яўляюцца Прозараў і Ніна. Віктар заўважыў іх і шпарка выходзіць.

Ніна. Як мне ўсе надакучылі! Ласкавыя, ветлівыя, а не паспееш адвярнуцца — крывыя ўсмешачкі, шэпты. Ну, якая ім справа? Чаму ўсе так любяць лезці ў чужое жыццё? Аб чым ты думаеш?

Прозараў. Дзіўлюся, чаму мне так усё роўна, хто і што пра мяне падумае і скажа. Ты са мной, і ні аб чым іншым я не думаю.

Ніна. Мы з табой будзем так добра жыць! Лепш за ўсіх! Мы адно без другога не можам? Мы з табой — адно, праўда?

Прозараў *(усміхнуўшыся)*. Праўда.

Ніна. Мне здаецца, я жыву толькі, калі ты побач. А ўвесь астатні час — гэта не жыццё, а толькі чаканне!

П р о з а р а ў (*усміхаючыся*). Пацалаваць цябе, ці што? Хачу пацалаваць!.. Вельмі...

Уваходзіць Саша. Ён не зусім цвярозы. За ім — Таня.

С а ш а. Прабачце, я перашкодзіў? Дазвольце развітацца, прафесар. Заўтра мы ўжо не студэнты! Да гэтага часу вучылі вы нас, цяпер будзем вучыць мы. Толькі не так. Лекцыю нам чыталі: «Маральнае аблічча савецкага чалавека!» Навошта ілгаць?!

Н і н а. Маўчы!

Т а н я. Саша, пойдзем.

П р о з а р а ў (*пільна гледзячы на яго*). Вось што, Нагін... Вы...

Н і н а. Не трэба, пойдзем...

П р о з а р а ў. Так, твая праўда... Пойдзем.

Т а н я. Саша! Апамятайся! Ты на сябе не падобны!

С а ш а. Брыдка і пошла! Агідна!.. Закрэсліць усё лепшае, здрадзіць! Як яна магла!

Т а н я. Хіба ты раней не заўважаў... не бачыў?..

С а ш а. Не мог паверыць. Цяпер усё! (*Паўза.*) Што ж мне рабіць?!.

Т а н я. Дурань! Хіба любяць толькі адзін раз у жыцці?

С а ш а (*не слухаючы яе, жорстка*). Я заб'ю — яе і яго!

Т а н я. Глупства!

С а ш а. Заб'ю!..

Т а н я (*ледзь усміхнуўшыся*). Табе не падыходзіць роля Атэла, Саша... Ты залішне выпіў...

Уваходзіць Віктар. Ён азіраецца, глядзіць углыбіню.

С а ш а. І яшчэ буду піць!

В і к т а р. О! Я чую гутарку не хлопчыка, а мужчыны. (*Закурваючы*). Што, юны Вертэр, пакутуеш? (*Напявае.*): «О, не буди меня, дыхание весны...»

Т а н я. Што ты насміхаешся? Не бачыш?

В і к т а р (*абняўшы Сашу*). Дзівак! Падумаеш, Нінка!.. І я быў калісьці неабыякавы да яе. Потым бачу, ты па самыя вушы... Ну, думаю, саступлю з дарогі сябру. Не ўтрымаў, ну і чорт з ёю. Хопіць іх на наш век!..

Т а н я. Якая... нізасць!..

В і к т а р. Пардон, Танечка, але ты... галава... Мужчынскія гаворкі для цябе — цёмны лес.

Таня, паціснуўшы плячыма, выходзіць.

В і к т а р. А ты ведаеш, чаму галава так абараняе цябе? Не ведаеш? Дык я табе скажу...

С а ш а. Чаго ты прычапіўся да мяне?

В і к т а р. Хачу развесяліць цябе. Выпускны ж вечар у нас сёння, а ты нос павесіў... Вядома, ты даў маху, мог бы застацца ў аспірантуры... Вельмі трэба было табе абараняць Бахрушава. Задзіра і зазнайка! (*Уваходзіць Бахрушаў, Віктар яго не заўважае.*) Ці варта праз яго кар'еру псаваць.

Б а х р у ш а ў (*падышоўшы да альтанкі. Здзекліва*). Каму што, а Лінчэўскаму кар'ера. (*Да Сашы.*) Што з табой?

В і к т а р. Вы што, падслухоўвалі?

Б а х р у ш а ў. Навошта? Я і так ведаю, што вы кар'ерыст і падхалім!

В і к т а р. Я б вам раіў, таварыш Бахрушаў, больш асцярожна выказвацца. У мяне нядрэнныя біцэпсы...



Б а х р у ш а ў. Вось як? Кулачны бой? А гэта было б цікава!

В і к т а р. Згодзен. (*Паклаўшы руку на ўнутраную кішэню.*) Кулачны бой — гэта перажытак. (*Паглядзеў шматзначна на Бахрушава і пайшоў.*)

Б а х р у ш а ў. Што з табой?

С а ш а. Здурнеў. Са злосці выпіў... А піць не ўмею.

Б а х р у ш а ў. Ну, ну, праветры мазгі, ты мне патрэбен. Заўтра я павінен выступаць на калегіі. Трэба параіцца... Зойдзем у партком... Я яшчэ днём шукаў цябе... (*Знікаюць.*)

З'яўляецца зноў Віктар, аглядаецца, кагосьці шукаючы. Уваходзіць Рагіна Сідараўна.

В і к т а р (*заўважыўшы Рагіну Сідараўну*). А... Дзе Фёдар Васільевіч?

Р а г і н а С і д а р а ў н а. Зараз падыдзе. А што?..

В і к т а р. Так... Хацеў у яго... спытаць...

Р а г і н а С і д а р а ў н а. Вы сёння такі цікавы! Імпазантны!

В і к т а р (*адчуваючы няёмкасць*). Дзякую.

Р а г і н а С і д а р а ў н а. Мой муж і... я... Ён заўсёды прыслухоўваецца да маёй думкі... Сімпатызуем вам і... вельмі хочам памагчы...

Заіграла музыка.

Р а г і н а С і д а р а ў н а. Я бачыла, вы цудоўна танцуеце... Але хіба вам падабаюцца маладзенькія?.. У вашы гады... (*Засмяяўшыся.*) часцей аддаюць перавагу жанчынам больш спрактыкаваным...

В і к т а р (*у замяшанні*). Не... чаму ж... (*Асмялеўшы.*) Вядома... І я таксама... Пакружымся!

К а р б а н о в і ч (*уваходзячы. Да Віктара*). А... вы тут...

В і к т а р (*да Рагіны Сідараўны*). Выбачайце...

К а р б а н о в і ч. Спадзяюся, вы мяне паслухалі?

В і к т а р. Я шукаў вас...

К а р б а н о в і ч. Хадзем, хадзем. (*Да жонкі.*) Рагіна! Я зараз.

Карбановіч і Віктар выйшлі. Рагіна Сідараўна пайшла следам. З'яўляюцца Ніна і Таня.

Т а н я. Значыць, Сашы табе не шкада?!

Н і н а. Ах, што там Саша... Разлюбіць, зноў палюбіць...

Т а н я. Ах, Ніна, ты зусім яго не разумееш... Ён не з тых, для каго гэта так лёгка і проста.

Н і н а (*з прыкрасцю*). Ну, што ты ўсё?.. Сапраўды ж, гэта дзіўна... Ты ж... Мне часам здавалася, што ты сама да яго нераўнадушная. А цяпер як быццам шкадуеш, што я яго пакідаю...

Т а н я. Ты разумееш толькі эгаістычную любоў... А я разумею Чарнышэўскага, які гаварыў: любоў — гэта... гэта імкненне даць шчасце любімай істоце! Гэта... (*Спахапіўшыся.*) І потым... Ты... адкуль гэта ўзяла? Ён... Я зусім... я да яго, як да ўсіх... Мне проста шкада яго, як вельмі добрага чалавека...

Н і н а (*рассмяяўшыся*). Ой, Танечка, ты яшчэ вельмі наіўная і нейкая кніжная. Праўда! (*Смяецца.*) Сапраўды, галава.

Праз сцэну шпарка праходзяць Бахрушаў і Саша. Таня і Ніна здзіўлена глядзяць на іх усхваляваныя твары. У баку з'яўляецца Віктар, назірае здалёк за Бахрушавым і выходзіць.

Б а х р у ш а ў. Куды?! Куды я мог дзець?

С а ш а. Дарэмна вы так хвалюецеся, Яўген Барысавіч. Гэта ж... немагчыма, каб ён прапаў. Ды і як ён мог згубіцца?!

Бахрушаў (*злосна*). Эх, вось яшчэ разява! (*Пацёршы рукой лоб.*) А наогул — трэба тэрмінова паведаміць...

Саша. Не трэба спяшацца. Пашукайце. Яшчэ пашукайце!

Бахрушаў. Не, не, трэба паведаміць. У райкоме заўсёды ёсць дзяжурны...

Саша. Дакумент знойдзецца, мы будзем шукаць. Гэта нейкае непаразуменне...

Бахрушаў (*паціснуўшы Сашу руку*). Дзякуй. (*Шпарка выходзіць.*)

Таня (*да Сашы*). Чаго вы так беглі, куды?

Саша. У Яўгена Барысавіча вялікая непрыемнасць.

Таня. Якая?..

Апіраючыся на палку, уваходзіць стары Прозараў.

Лука Цімафеевіч. Маладыя людзі, вы дырэктара не бачылі? Прозарава?..

Таня. Ніна, ты ведаеш, дзе ён?

Лука Цімафеевіч (*уважліва гледзячы на Ніну*). Гэта... вы... Ніна?

Ніна. Так... я...

Лука Цімафеевіч. Ці не Кальцова, часам?

Ніна. Кальцова...

Лука Цімафеевіч. Вось гэта пашанцавала! Маю, значыць, прыемнасць яшчэ да вяселля пазнаёміцца з нявестай блізкага мне жаніха. Ну што ж, як гаворыцца, рад. Вельмі. Дазвольце... (*Падае Ніне руку.*) Прозараў. Лука Цімафеевіч...

Ніна (*разгублена*). Вы...

Таня. Пойдзем, Саша...

Таня і Саша выходзяць.

Лука Цімафеевіч. Зусім правільна. Бацька жаніха вашага. Ці не скажаце, дзе ён?

Ніна (*з гатоўнасцю*). Я знайду!

Лука Цімафеевіч. Паспееца. Пасядзім тым часам. Пагаворым. А то неяк нядобра атрымліваецца: сын жэніцца, а бацька сваю будучую нявестку і ў вочы не бачыў.

Ніна (*запінаючыся*). Я даўно хацела пазнаёміцца з вамі, ды ўсё...

Лука Цімафеевіч (*перабіваючы яе*). Што, сумленне не дазваляла?.. Разумею, разумею: трохі нязручна маладой знаёміцца з бацькам немаладога маладога, га? Ды калі яшчэ ў гэтага маладога і сям'я ёсць — жонка, сын...

Ніна. Вы не павінны... Не папракайце мяне. Мне і так не соладка.

Лука Цімафеевіч. А не ўсё тое мёд, што соладка...

Ніна. Не смейцеся з мяне... не здзекуйцеся...

Лука Цімафеевіч. Помню, калі мы толькі пачыналі будаваць сваё новае жыццё, вось такія, як ты, маладыя, спявалі: «Мы кузнецы и дух наш молод, куем мы счастия ключи...» Для вас кавалі шчасце, для вас працавалі! А што вы цяпер робіце? Мужоў разлучаеце з жонкамі, дзяцей сіротамі пакідаеце...

Ніна. Вы думаеце, мне лёгка?.. Я сама пакутую, начэй не сплю. Ды я ўжо і не магу без яго. Вы ж... хочаце шчасця свайму сыну?!

Лука Цімафеевіч. Зладзейскае гэта шчасце... Зладзейскае!

У глыбіні сцэны з'яўляецца Рагіна Сідараўна.



Ніна (*праз слёзы*). Я нічога не крала... Ваш сын так хоча!..

Лука Цімафеевіч. Так хоча!.. Шанцуе табе. Ох, шанцуе... Ведаеш, як было ў нас нядаўна... Да такой жа вось мілае кралі прыбегла пакрыўджаная жонка ды і размалявала яе на горкі яблык.

Ніна (*з выклікам*). Скажыце, чаго вы хочаце ад мяне, чаго?!

Лука Цімафеевіч. Каб ты адмовілася ад майго сына! І ідзі адгэтуль! Не то ведай — месца табе тут не будзе: нараблю сораму. Зняслаўлю! На ўвесь белы свет!

Ніна (*закрыўшы рукамі твар*). Божа мой, за што?! За што?!

Ніна, разгубленая, у слязах бяжыць да выхаду. Насустрач ёй Прозараў.

Прозараў. Што здарылася?

Ніна. Ідзі ад мяне, не падыходзь! Не падыходзь! Я так не магу! Не хачу! (*Уцякае.*)

Прозараў (*прабуючы яе дагнаць*). Ніна! (*Вяртаючыся. Да бацькі.*) Што тут было?

Лука Цімафеевіч. Што?.. А што з Кацяй дома робіцца, цябе не цікавіць? Пайшоў бы. Паглядзеў.

Прозараў (*патрабавальна*). Што ты сказаў ёй?

Лука Цімафеевіч. Каб адчапілася ад цябе, вось што сказаў! Зразумеў?!

Прозараў. Я прашу не ўмешвацца ў маё жыццё. І яшчэ прашу — ідзі адгэтуль!

Лука Цімафеевіч (*гнеўна*). Гоніш?! Роднага бацьку гоніш?! (*Грозна ўзмахнуў палкай, але, стрымаўшыся, апускае яе.*) Добра, ідзі да яе, ідзі! Але ведай — ты мне не сын! (*Узрушаны, выходзіць*) Не сын!

Прозараў шпарка ідзе да выхаду. З глыбіні сцэны выходзіць наперад Рагіна Сідараўна. Чуваць голас Карбановіча: «Рагіна, Рагіна!»

Рагіна Сідараўна (*да мужа*). Ідзі сюды. Ну і сцэна, ну і сцэна!..

Уваходзіць Карбановіч.

Карбановіч. Чаго ты?

Рагіна Сідараўна. Усё! Канец!.. Прозараў пакідае сям'ю.

Карбановіч. Ну і што? Даўно трэба было чакаць...

Рагіна Сідараўна. Як гэта што? Як што? Бытавое разлажэнне... За гэта па галоўцы не пагладзяць... Трэба толькі, каб нехта зацікавіўся.

Карбановіч. Так... Але гэта размазня... жонка яго... нікуды не пойдзе...

Рагіна Сідараўна. Ей можна падказаць... параіць... Урэшце, і без яе можна абысціся. Важна не ўпусціць момант. Загад аб звальненні ён не паспее падпісаць. А калі падпіша — ты адновіш Славіка.

Карбановіч. Я?

Рагіна Сідараўна. А хто будзе пасля Прозарава дырэктарам? Толькі ты. У цябе выдатная анкета... А намеснік?!. Божа мой, ён цябе заўсёды падтрымае... Трэба толькі паспець.

Карбановіч (*на яго твары з'явілася нешта валявое, рашучае. Гаворыць ціха, жорстка*). Ты думаеш... я аб гэтым не думаў!.. Прозараў дырэктар! Што, у мяне менш вопыту, ведаў?

Рагіна Сідараўна. Вось і дзейнічай. Не спі ў шапку.

Карбановіч (*уважліва глядзіць на жонку*). Але Бахрушаў... Бахрушаў... (*Стаіць, задумаўшыся, машынальна дастае з кішэні пакет.*)

Рагіна Сідараўна. Што гэта ў цябе за канверт?..

Карбановіч. Бахрушаў згубіў сакрэтны партыйны дакумент... (*Вагаецца.*) Аддаць трэба...

Рагіна Сідараўна. Каму?

Карбановіч. У райком. О! Яму не паздаровіцца...

Рагіна Сідараўна. У райком?! Не паздаровіцца?! Вымову дадуць! Падумаеш! Дай сюды гэты канверт... Вось так! (*Кладзе пакет у сумачку.*) Няхай цяпер пабрэша сваім доўгім языком. (*Ідзе да выхаду.*)

Карбановіч (*ідучы за ёй, злосна*). Ты што, ашалела? Аддай!

Рагіна Сідараўна. І не думаю!

Рагіна Сідараўна выходзіць, не звяртаючы на яго ўвагі.

Карбановіч. Дай сюды! Чуеш? (*Ціха.*) Гэта ж партыйны... Сакрэтны...

Карбановіч знікае. Хвіліну сцэна пустая. З'яўляецца Бахрушаў. Ён спыняецца, цяжка апускаецца на лаўку, закурвае. Праз сцэну хутка праходзіць Прозараў. Ён не заўважае Бахрушава.

Бахрушаў. Аляксей Лукіч...

Прозараў (*спахапіўшыся*). Ага, што?.. (*Уважліва глядзіць на Бахрушава*). Што здарылася?

Бахрушаў. Я вам днём паказваў канверт. З райкома... Дык вось... не ведаю як, але ён... прапаў.

Прозараў (*уражаны*). Вы што?!. Ды як жа вы...

Бахрушаў. Зайшоў у партком, адчыніў сейф, а... пакета... няма.

Прозараў. Вы шукалі? Добра шукалі?

Бахрушаў. Усюды... дзе толькі можна было.

Прозараў. Што ж вы думаеце рабіць?

Бахрушаў (*у вялікім хваляванні*). Я паведаміў... у райком...

Заслона

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна чацвёртая

Той жа сквер. Восень. Пажаўцела лісце. Халодны асенні вечар. На захадзе — чырвань. На сцэну шпарка ўваходзіць Ніна.

Ніна. Што ж гэта?.. Дзе ён можа быць? Цэлы дзень...

З'яўляецца Карбановіч з папкай у руках.

Ніна (*заўважыўшы яго*). Фёдар Васільевіч!..

Карбановіч. А, Ніна Рыгораўна. Добры дзень.

Ніна. Аляксея Лукіча не бачылі?

Карбановіч. Вы ўжо ведаеце?

Ніна (*трывожна*). Што?

Карбановіч. Ну... Тады не буду... не буду... (*Накіроўваецца ў бок інстытута.*)

Ніна (*ідучы следам*). Фёдар Васільевіч, ну, скажыце ж... Што-небудзь здарылася?

Карбановіч (*узяўшы яе пад руку і ідучы да выхаду*). Бачыце, Ніна Рыгораўна... Адбылося тое, што і трэба было чакаць... (*Выходзяць.*)

Паўза. З глыбіні скверу павольна выходзіць Прозараў. Ён спыняецца ў глыбокім роздуме, ад холаду хутаецца, прабуе закурыць, вецер тушыць запалкі. Праз сцэну, не бачачы Прозарава, праходзіць Кацярына Іванаўна.

Прозараў. Каця? Добры дзень.

Кацярына Іванаўна. Добры дзень. (*Хоча прайсці.*)

Прозараў. Пачакай... Я хачу...

Кацярына Іванаўна (*спыніўшыся, здзіўлена*). Так холадна, а ты распрануты... Прастудзішся...

Прозараў. Нічога... (*Ціха.*) Як Юрык?

Кацярына Іванаўна. Здаровы.

Прозараў. Я вось... Я хацеў падарыць яму гадзіннік. Яму так хацелася мець.

Кацярына Іванаўна (*нерашуча бярэ*). Наўрад ці ён... абрадуецца... цяпер... твайму падарунку...

Прозараў (*сумна*). Нядаўна ён прайшоў каля мяне і адвярнуўся...

Кацярына Іванаўна (*апусціўшы галаву*). Усё?... Да пабачэння.

Прозараў. Пачакай... Мяне сёння... Я больш не дырэктар...

Кацярына Іванаўна. Знялі? За што?..

Прозараў. Хтосьці напісаў у абком...

Кацярына Іванаўна. Я нічога не пісала.

Прозараў. Там... у пісьме... многа несправядлівага... Але... справа не ў гэтым... Я хацеў сказаць, што цяпер менш будзеш атрымліваць... на Юрыка...

Кацярына Іванаўна. Я не прашу...

Прозараў. Я потым, вядома, пастараюся гэта кампенсаваць...

Кацярына Іванаўна. Не турбуйся. Я паступіла на работу...

Прозараў. Ты цяпер...

Кацярына Іванаўна. Так, на работу іду... Другая змена. (*Накіроўваецца да выхаду. Спынілася.*) Дапамогі ад цябе не чакаю...

Прозараў (*узрушаны*). Усё роўна, клапаціцца пра вас — мой абавязак... усё жыццё...

Кацярына Іванаўна (*перабіваючы*). Табе цяпер ёсць аб кім клапаціцца. І не крой ты майго сэрца... Не трэба. (*Задумаўшыся.*) Толькі вось што, раз ужо да слова прыйшлося. Ты хацеў шчасця... вялікага, як ты гаварыў, шчасця... Жадаю табе... Няхай... Ды толькі я ведаю... Ты не з тых, каму шчасце з няпраўдай салодкае... (*Яшчэ раз крадком глянуўшы на яго.*) Бывай. (*Шпарка выходзіць.*)

Прозараў стаіць некалькі секунд, потым паволі накіроўваецца да выхаду. З'яўляецца Ніна.

Ніна. Аляксей! Што ж ты?! (*Кідаецца да яго.*) Чаму цябе так доўга не было? Я месца сабе не знаходзіла.

Прозараў. Мяне... знялі...

Ніна. Гэта ўсё стаpанні Бахрушава...

Прозараў. Чакай, чакай...

Ніна. Паскуднік! Цётка Вара столькі паслуг яму зрабіла...

Прозараў. Ды адкуль ты гэта ўзяла? Плёткі! Бахрушаў тут ні пры чым... Ды і не ў гэтым, уласна кажучы, справа... Я атрымаў па заслугах... Такія нормы нашага грамадства...

Н і н а. Нормы... Не для кожнага гэтыя нормы...
П р о з а р а ў. Адыграла ролю і другое...
Н і н а. Што?
П р о з а р а ў. Антонаў сказаў, што я не даю ходу навуковым кадрам.
Н і н а. Ну, гэта ўжо Карбановіча работа. І ніхто яму не пярэчыў?
П р о з а р а ў. Выказваліся, але... Разумееш, складана тут усё... заблытана... Бахрушаў крыў іх увесь час — Карбановіча, Жылінскага, Антонава. І правільна. Я яго падтрымліваў. Але матывы Бахрушава адразу ўзялі пад сумненне. Як, бачыце, можна верыць чалавеку, які згубіў сакрэтны партыйны дакумент?!. Пачалі і мяне абвінавачваць у абароне Бахрушава, у прытупленні пільнасці.
Н і н а. Ах, Аляксей, Аляксей... Вось бачыш... Я ж увесь час гаварыла... Навошта табе было заступацца за Бахрушава?! У яго становішчы!.. Гэта так неасцярожна...
П р о з а р а ў. Я веру ў яго сумленнасць... Я веру ў яго, як у самога сябе.
Н і н а. Ну, якое гэта мае значэнне. Ты ж бачыш, што з гэтага выйшла!.. Яго нельга... прабач мне... проста неразумна было абараняць... Шчыра кажу, мне часам здаецца, што я старэйшая, а не ты...
П р о з а р а ў. Старэйшая... Справа тут не ў гадах.
Н і н а (*задумаўшыся*). Што ж цяпер будзе?
П р о з а р а ў. Аб чым ты? (*Абдымаючы яе.*) Супакойся... асколачак... не дырэктар я... Ну, і што?! У мяне ёсць работа, якую я люблю. Не месца ўпрыгожвае чалавека... А галоўнае, ты ў мяне!.. Наша добрае...

Уваходзіць Карбановіч.

К а р б а н о в і ч. Ну, вось ён. Жывы, здаровы!.. (*Да Прозарава.*) Разумееш, трывожылася, хвалявалася... Мы з ёю ўвесь інстытут абышлі...
П р о з а р а ў. Навошта ж трывожыцца... Нічога такога не здарылася.
К а р б а н о в і ч. Я ж кажу. Падумаеш! У бядзе не пакінем... Паможам...
П р о з а р а ў (*перабіваючы*). Не спявай, калі ласка, мне паніхіды.
К а р б а н о в і ч. Ну, ну, разумею. Выбачай. Толькі... не трэба было табе абараняць Бахрушава...
П р о з а р а ў (*калюча глядзіць на яго*). Чаму?..
К а р б а н о в і ч. Таму што...
П р о з а р а ў (*перабіваючы*). Таму што ён табе не падабаецца?! Таму што ён хацеў выгнаць гультаёў, дармаедаў?!
К а р б а н о в і ч. Гучныя словы, Аляксей. Калі-небудзь ты сам зразумееш, што праўда была не на тваім баку. Ды хто, нарэшце, як не ён сам, дыскрыдытаваў сябе?! Хто дайшоў да таго, што, страціўшы ўсякую пільнасць, пачаў раскідацца сакрэтнымі дакументамі!
П р о з а р а ў. Упэўнены, што гэта непаразуменне!
К а р б а н о в і ч (*шматзначна*). Непаразуменне?.. Ох, яшчэ невядома, што за ўсім гэтым хаваецца... Наогул, па старой дружбе... Не раю табе і далей лезці за яго ў пятлю. Згубіў адно, можа згубіць і яшчэ тое-сёе... Нарэшце, ён займае месца кандыдата. Я ўжо гаварыў з міністрам. Праз тыдзень у нас будзе кандыдат навук!.. Мы не можам...
П р о з а р а ў (*стрымліваючы гнеў*). Які ж ты!..
Н і н а. Аляксей!



П р о з а р а ў (*з болем*). Які ты... (*З пагардай паглядзеў на яго.*) Бывай! (*Узяў Ніну пад руку, выходзіць.*)

З а с л о н а

## Карціна пятая

Невялікі, скромна абсталяваны пакой у драўляным доміку. За акном вечар. У пакоі Саша. Падкладваючы дровы ў печ, ён штосьці напявае. Уваходзіць Таня. У руках у яе партфель з кнігамі і сшыткамі.

Т а н я (*радасна*). Ты тут?
С а ш а. Ды вось без цябе гаспадаркай заняўся.
Т а н я (*абтрасаючы снег*). Снегу па калені намяло! Вось табе і сакавік. Ты даўно чакаеш мяне?
С а ш а. Не, нядаўна. (*Падышоў да стала, бярэ дзве кнігі.*) Вось, аддаю.
Т а н я (*адчыняючы фортачку*). Ну і вечар! Паглядзі. Неба цёмнае-цёмнае, а снег такі белы-белы, чысты і пахучы. Ух, як добра дыхаць свежым паветрам!
С а ш а (*падышоў да акна*). І сапраўды хараша!
Т а н я. Хараша! Вельмі! Я ішла ў захапленні. Здаецца, люблю ўсё і ўсіх.
С а ш а (*весела*). Няўжо ўсіх?
Т а н я. Люблю і гэты вечар, і снег, і мароз, увесь свет, а асабліва маіх вучняў!
С а ш а. Ну, гэта ў цябе заўсёды...
Т а н я. Уяві сабе, Русланчык сёння атрымаў пяцёрку!.. Не, ты разумееш... Калі б ты бачыў яго! І хлопцы... Яны нават апладзіравалі... Проста дзіва! (*Спахапіўшыся.*) Ой, ледзь не забыла. Сустрэла паштальёна. Перадайце, кажа, вашаму суседу. (*Вымае з партфеля некалькі пісем.*) Бачыш, якая ў цябе дэпутацкая пошта. Расце. (*Перадаючы Сашы пісьмы.*) А маю просьбу, таварыш дэпутат, калі выканаеш?
С а ш а. Выканаў. Дзве пуцёўкі тваім вучням у санаторый забяспечаны. Бясплатна.
Т а н я. Дзякуй.
С а ш а (*прыгледзеўшыся да яе, нечакана*). А ведаеш, табе вельмі да твару гэта новае плацце...
Т а н я (*здзіўлена*). Новае?! Ох, Саша, Саша. Які ты няўважлівы! Гэтаму плаццю роўна паўтара года. (*Задумена.*) Я яго ўпершыню надзела, калі мы прыехалі ў Заполле, у нашу школу.
С а ш а. Так? А я нешта не помню... Бахрушаў заходзіў?
Т а н я. Учора ўвесь вечар прасядзеў. І як заўсёды — адно і тое ж... Сядзіць каля печы і маўчыць. Сядзіць і маўчыць.
С а ш а. Дрэнна з ім... (*Разгарнуўшы пададзеную яму Таняй пошту.*) Пісьмо. Табе.
Т а н я. Ой, забылася. Паштальён даў мне, а я палажыла не туды. (*Глядзіць.*) Ад Ніны...

Таня чытае пісьмо. Саша сочыць за ёю з напружанай увагай.

Т а н я (*сустрэўшыся з ім позіркам*). Перадае табе вялікае прывітанне... (*Зноў чытае сама сабе. Да Сашы.*) Піша, калі цябе цікавіць яе лёс, — можаш прачытаць пісьмо...

Саша. Так? А ну, дай... *(З хваляваннем бярэ ў рукі пісьмо, хутка праглядае яго, потым уголас.)* «...І калі мне вельмі сумна, успамінаю мінулае, чыстае, светлае, як вясенні падснежнік, калі мы сябравалі ўтраіх. Помніш?! Як добра было тады... Словам, не атрымалася ў мяне, Танечка... Вельмі хочацца цябе бачыць...»

Стук у дзверы. Уваходзіць Бахрушаў. Таня і Саша не адразу заўважаюць яго ўзрушанасць.

Бахрушаў. Можна... пагрэцца?
Таня. Сядайце, Яўген Барысавіч.
Бахрушаў. Прывітанне, Саша...
Саша. Прывітанне.

Саша адкладвае пісьмо. Таня сочыць за ім, кладзе на стол вучнёўскія сшыткі.

Саша. Сачыненне?
Таня. А твае пісалі?
Саша. Будуць. На тым тыдні. (*Разгортваючы сшытак.*) Якая тэма? (*Чытае.*) «У чым сэнс і шчасце жыцця...»
Таня. Я яшчэ ў школе не стрымалася... Некаторыя прачытала... (*Гаворыць з захапленнем.*) Ведаеце, я так думаю: вучні павінны пісаць пра блізкае ім. ...Гэта закранае іх душы... І словы тады з'яўляюцца свае, і думкі...
Саша (*чытае*). «...Я яшчэ так мала пражыла на свеце, што, напэўна, не змагу дакладна адказаць на гэтае пытанне. Але я прывяду некалькі прыкладаў, як некаторыя мае добра знаёмыя або кепска знаёмыя ставяцца да гэтага пытання, а потым выкажу сваю аб іх думку...»
Таня *(усміхнуўшыся)*. Кепска знаёмыя...
Саша (*чытае*). «...Я ведаю аднаго сямейнага чалавека, які з сям'ёй жыве вельмі дрэнна. Часта ён прыходзіць дадому п'яны, б'е жонку і дзяцей. Я хацела б ведаць, у чым сэнс жыцця і шчасця для гэтага чалавека. Няўжо ў тым, каб прыйсці дадому п'яным, пасварыцца, пабіць жонку і дзяцей...»
Таня. Гэта Галя Арэхава. Па-мойму, гэта яна пра бацьку...
Саша (*чытае*). «...А ёсць у мяне знаёмы, які бачыць сваё шчасце ў багатай жонцы, у прыватным доме, з каровамі, свіннямі і іншымі пабочнымі жывёламі...»

Засмяяліся.

Саша (*чытае*). «... А ў чым сэнс жыцця і шчасця ў стыляжных хлопцаў?.. Ці не ў тым, што яны ўвесь свой век скачуць бугі-вугі?.. (*Перагортвае старонку.*) Я не буду гаварыць, што для шчасця не іграюць ролі грошы, таму што гэта, мне здаецца, няпраўда...»
Бахрушаў. Размова на шчырасць!
Саша. Так...
Таня. А вось гэта месца... *(Чытае.)* «...Шчасце — гэта вялікае слова, прыгожае, і яно адкрыта, па-мойму, толькі дастойнаму чалавеку, Чалавеку з вялікай літары!..» (*Радасна і ўсхвалявана.*) Дайшлі, дайшлі да іх мае словы...
Саша. А ты мне раскажаш, як ты іх рыхтавала да гэтага сачынення...
Таня. Раскажу...
Саша. Як у цябе з дырэктарам?
Таня. Уяві сабе, зноў паспрачаліся... Не, ну, разумееце, — выпускаем газету да 8-га сакавіка. Я і вырашыла замест перадавіцы, спісанай адкуль-небудзь, ну... як гэта звычайна робіцца... даць матэрыял аб лепшых дзяўчатах школы. А ён убачыў і гаворыць: трэба напісаць перадавіцу. Я гавару: ну, навошта, усё роўна ж яе ніхто чытаць не будзе. А ён: я гэта разумею, але вось, ведаеце, хто-небудзь з райкома загляне. Могуць заўвагу зрабіць. Нядобра... (*Абурана.*) Ну, вы падумайце, рабіць не таму, што гэта трэба, а для некага, хто загляне!..



Бахрушаў. Тупасць плюс фармалізм.
Таня. Не, ён добры чалавек і работнік адданы. Але, сапраўды, гэты фармалізм... *(Да абодвух.)* Чаю хочаце?
Бахрушаў. Чаю?.. Чайку м-можна...

Таня і Саша толькі цяпер заўважылі ўзрушанасць Бахрушава, пераглянуліся.

Таня (*ціха*). Што гэта з ім?
Саша. Не ведаю... *(Да Бахрушава.)* Вам нядобра, Яўген Барысавіч?
Бахрушаў. Мне? Нядобра?.. Хто гэта сказаў, што мне нядобра? (*Вымаючы з кішэні канверт.*) Вось... палюбуйцеся.
Саша. Што гэта?
Бахрушаў. П-прывітанне ад Карбановіча...
Таня. Зноў адмова?
Бахрушаў *(нешта невыразнае крэсліць у паветры)*. Крыж на маю дысертацыю. Крыж і кропка. З прычыны такой урачыстасці мы сёння пасябравалі з вядомым Бахусам. Што, не падабаецца?
Саша *(падумаўшы)*. Не падабаецца, Яўген Барысавіч. *(Пагля-дзеўшы на гадзіннік, да Тані.)* Мяне вучні ў школе чакаюць. Я скора вярнуся. Забяру яго. (*Выходзіць.*)
Бахрушаў *(падняўшы галаву.)* Што, Танечка, так гледзіцё на мяне?..
Таня. Яўген Барысавіч, мне за вас і балюча, і сорамна... Так, сорамна!.. Апусціліся...
Бахрушаў. Балюча і сорамна!.. Агідна!..
Таня. Гэта так не падобна на вас, і не трэба. Чэснае слова, не трэба... Ну, не выйшла з інстытутам, з дысертацыяй, я разумею, гэта горка. Але хіба няма іншых радасцей? Усё ж залежыць ад самога чалавека. Калі ён... багаты душой, калі... імкнецца служыць дабру, ён усюды знойдзе магчымасць... рабіць гэта дабро... Ну... Вы ж не працавалі для Карбановіча і яго кампаніі, значыць, іх адмова — нішто! А калі тое, што вы робіце, патрэбна, дарагое людзям — яно прыйдзе да іх і...
Бахрушаў. Калі я слухаю вас — я забываю... Усё забываю... І веру... Пачынаю верыць... *(Кідаецца на калені.)* Добрая вы, незвычайная, светлая — такіх няма!..
Таня *(спалохана адскочыўшы)*. Што вы, устаньце, як вам не сорамна, Яўген Барысавіч. Як вам не сорамна...
Бахрушаў. Любіць, Танечка, не сорамна... А вас любіць — тым больш. (*Устаючы.*) Каб вы ведалі, якая гэта пакута, калі без узаемнасці...

Стук у дзверы. Уваходзяць Віктар і Саша.

Таня *(здзіўлена)*. Віктар?!
Бахрушаў. Лінчэўскі?..
Віктар. Прывітанне, сябры! (*Ухмыляючыся.*) Дзякуй богу, пазналі...
Саша. Уявіце сабе — іду, і вось... на дарозе — ён... Шукае адрасу...

Віктар. Добры дзень, Танечка, добры дзень, галава... (*Пацісканочы ёй руку.*) Колькі лет, колькі зім? (*Разглядаючы яе.*) Папрыгажэла, расцвіла...

Таня. Ды праходзь жа, сядай. Адкуль? Якім чынам?

Віктар. О!.. Тайна мадрыдскага двара. (*Здымаючы паліто.*) Жартую, жартую. Ад таварыства палітычных і навуковых ведаў. Прачытаю ў вас некалькі лекцый.

Таня. Чаю хочаш? Цяпер ці пачакаўшы?

Віктар. Такая сустрэча і — чай... Дзякуй богу, бажанятам, сатане і чарцянятам, я захапіў каньяк!

Таня (*глянуўшы на Бахрушава і пераглянуўшыся з Сашам. Да Віктара.*) Гэту сваю бурду схавай далей.

Віктар. Ну, ну!.. Саша, ты...

Таня. Не. Тут я распараджаюся.

Віктар. Ну, а мне з дарогі дазваляецца. (*Да Бахрушава.*) І вы таксама тут працуеце?

Бахрушаў. Так. Тут.

Таня (*падаючы Віктару чарку і закуску*). Ты ўжо, мабыць, ажаніўся?

Віктар. Што ты, галава? Навошта гэта? Хм!.. Жаніцца — не чхаць, можна пачакаць.

Саша. Ну, а... як твае навуковыя справы?

Віктар. Страшэнна стаміўся... Не, не, у маі месяцы абараняю дысертацыю — гэта для мяне мёртвая хватка бульдога, і навукі ад мяне больш не чакай... Хопіць! Надакучыла!

Саша. Дарэчы, як ты трапіў на кафедру палітэканоміі? Ты ж меціў у літаратары...

Віктар. Туманныя мары юнацтва... Дысертацыю яшчэ трэба праціснуць, а палітэканомія... Тут адразу стаўка —2 800, і кропка! А так цягнуў бы на 1200... «Ни тебе аванса, ни пивной. Трезвость». (*Наліваючы сабе каньяку, да Сашы.*) А ты, я чуў, аповесць пішаш?

Саша. Пішу.

Віктар (*ляпаючы яго па плячы*). Малайчына, друг мой, брат мой, малайчына! Я заўсёды ў цябе верыў.

Саша (*асцярожна*). Ну, а як там... агульныя знаёмыя?

Віктар. Хто, Нінка?.. Часта ўспамінае цябе. Прывітанне прасіла перадаць. Сказала, не ад сэрца (*Шматзначна.*) ...а з сэрцам. А наогул... нічога... Распаўнела крыху. Божай кароўцы ўсё да твару. Рыхтуе дысертацыю. Тэма — адзін смех! «Падрыхтоўка студэнта-літаратара ў сценах ВНУ»...

Таня. Артыкул для часопіса ў лепшым выпадку... Якая ж гэта дысертацыя?!

Віктар. Якая пані, такі і капялюш. Нінка ж заўсёды на памяці выязджала. Гэта толькі Прозараў мог лічыць, што ў яе мазгоў многа...

Таня. Ну, а Аляксей Лукіч як?

Віктар. Больш хварэе, чым працуе... Не, Нінка, вядома, праллічылася. Кватэру яму не далі, жывуць у Нінчынай... Ну яшчэ (*Кіўнуўшы на Бахрушава.*) яго пакоі ім дабавілі. Думала, будзе дырэктаршай. А пакуль што проста жонка старога дацэнта. Магла б падчапіць і маладога... А нарэшце... Добра не ведаю... па-мойму, ёсць у яго намеснікі..

Саша (*узгарэўшыся, кідаецца да яго*). Слухай, ты!..

Таня. Саша!



Віктар. Ты што, ашалеў?! Ды няўжо ты ўсё яшчэ любіш Нінку?

Таня (*з болем, ціха*). Любіць, любіць!..

Віктар. Яшчэ дагэтуль не вылечыўся?! (*Працягвае руку.*) Я ж не сцвярджаю. Чорт яго ведае, як яно там...

Саша. Трапло!

Бахрушаў. Слухайце, Ліпчэўскі. Вы... не ведаеце, што з маёй дысертацыяй, чаму яе... адхілілі?

Віктар. Вы ж паслалі дысертацыю ў інстытут літаратуры, а там гэтым займаецца прафесар Жылінскі... Усё правільна.

Бахрушаў. Жылінскі?.. Ды ён жа працаваў...

Віктар. Пераехаў... Тады ж... Дык сынка яго, з якога навуковы работнік, як з мяне Далай-лама, Карбановіч прыладзіў у сябе на кафедры. Вы ж павінны ведаць. Ну, а Жылінскі за паслугу разграміў вас. Дзьмухнуў-махнуў — і вашых няма! Усё правільна.

Таня. Няўжо так?!

Віктар. А чаму не? Хм! Зверху лёгка пляваць, паспрабуй знізу.

Таня. Табе ўсё жарты!..

Віктар. Народная мудрасць... Ды і наогул. Карбановіч не цэрпіць здольных і разумных. Мне з ім таксама было нялёгка... Часткова праз яго я і перайшоў на другую кафедру... Ведаеце, яму патрэбны рабы! Агідна!

Бахрушаў. Так. Усё проста. Вельмі нават проста. (*Стукнуўшы кулаком па стале.*) Невукі! І адкуль толькі гэта подласць бярэцца?!

Саша. Тут не кулаком стукаць трэба, а меры прымаць! Дзейнічаць!

Віктар. А чаму б вам не паслаць сваю працу ва ўніверсітэт? Там цяпер новы рэктар.

Саша. Хто?

Віктар. Сакалоў.

Саша. Пачакай... Той, што з гаркома? Сакратаром быў?

Віктар. Ага.

Саша. Ведаю... Чалавек разумны, з размахам. На ўсё мае свой погляд. (*Штосьці рашаючы.*) Ну, Яўген Барысавіч!.. Заўтра ж давайце мне сваю дысертацыю.

Бахрушаў. Нічога не выйдзе. Ні-чо-га!.. Даволі! Скончана! Не было дысертацыі! Не было бяссонных начэй! Нічога не было!

Саша. Гляджу я на вас, Яўген Барысавіч, і дзіву даюся. Дзе ранейшы Бахрушаў — рашучы, смелы, гарачы? Энтузіяст?..

Бахрушаў (*з горкай усмешкай*). Няма ранейшага Бахрушава і не будзе.

Саша. Няпраўда!

Бахрушаў. Праўда!.. Няма!.. Знік у той самы дзень, калі яго выключылі з партыі... (*Устаўшы, пахіснуўся і, трымаючыся за стол.*) А я — камуніст (*Паказвае на сэрца.*)... вось тут... Больш, чым яны!.. (*Апускаючыся на крэсла.*) Правільна выключылі: не будзь разявай! Згубіў партыйны дакумент — адказвай!..

Віктар сядзіць нейкі час у зняменні. Раптам налівае сабе каньяку і выпівае.

Бахрушаў (*у думках*). Адказвай!

Саша. Вас адновяць. У гэта трэба верыць. І не падаць духам! Ваша праца... Яна патрэбна!.. Патрэбна!

Бахрушаў. Так, патрэбна! А што яны робяць? Год б'юся... Мне Карбановіч кроку не дае ступіць. Куды ні звяртаюся — следам за мной ляцяць яго заявы і даносы.

Віктар. Але ж вы працуеце?

Бахрушаў. Працую, вядома, тут у школе працую. Але дысертацыя!.. (*Махнуўшы рукой.*) Эх!..

Саша. І ўсё ж не трэба здавацца, не трэба адступаць, Яўген Барысавіч.

Бахрушаў. Не трэба, кажаш?!. Дык вось, скажы мне, ты, дэпутат раённага савета... Ты... прадстаўнік савецкай улады. (*Усё больш горача.*) Скажы! Хто вінаваты, што такі падлюга, такая брыда не дае людзям жыць, дыхаць, працаваць? (*Кінуўшы позірк на Віктара.*) Для яго, для іх — гэта мёртвая хватка бульдога. Толькі хватка. А для мяне! Э, ды што там гаварыць! Усё! Скончана! Усё!

Саша (*задуменна, рашуча*). Хоць я і дэпутат раённага савета, фігура, вядома, невялікая, але даю вам слова: буду ваяваць за вас! Буду!

Віктар (*да Бахрушава*). Вып'ем, калега, са мною. Не хочаце? (*Налівае.*) І да чаго ж цяжка жыць па справядлівасці, сябры мае. І ўсё-такі я п'ю. (*Падымае чарку.*) За справядлівасць!

Бахрушаў. Хм!.. Лінчэўскі — заступнік справядлівасці! Не знайшоў сабе больш лёгкай ролі.

Таня (*ціха, да Бахрушава*). Не задзірайцеся з ім, Яўген Барысавіч.

Віктар. Нічога, ґалава, не бойся... Я не пакрыўджуся... Я люблю і яго, і цябе, і гэтага... (*Абнімае Сашу.*) ...добрасумленнага асла... Я рад, што ёсць такія людзі на зямлі... Гэта вельмі добра... А справядлівасць... (*Памахаўшы пальцам.*) ...справядлівасць — я люблю...

Таня. Вось цяпер я бачу, што ты сапраўды п'яны.

Віктар. Чакай, галава, чакай... (*Паклаўшы Сашу на плячо руку.*) Вось Саша, напрыклад, піша аповесць. А я... (*Глядзіць на Бахрушава.*) Хочаце, я раскажу вам прытчу пра святога апостала... Іакава... брата Іуды...

Таня (*усміхаючыся, да Сашы*). Бач ты, апосталаў прыпомніў.

Віктар. Каб ты ведаў, галава, па стараславянскай мове я меў «пяць»... Не перабівай... Дык вось... Быў ён, Іакаў... чалавекам вучоным... Вучонасці ў яго было... мала, ну, а мудрасці яшчэ менш. Але трымаўся ён... моцна... і месца свайго нікому не ўступаў.

Саша. Апостал, гавары карацей!

Віктар (*не слухаючы яго*). І стаў на дарозе... Іакава... новы мудрэц... зело вучоны... І пачаліся між імі сваркі і звадкі... І даведаўся брат Іуды, што яго вораг згубіў божую грамату на пергаменце і пры пячатцы, далажыў аб гэтым сатане... І з'явіўся сатана... у вобразе ангельскім, схапіў тую грамату ў зубы і занёс у пекла... І ўзвесяліўся Іакаў, брат Іуды, што вораг яго... павалены ў прах, і зарагатаў сатана!.. Падабаецца вам мая прытча?..

Бахрушаў (*працверазіўшыся, вельмі ўсхвалявана*). Хто ўзяў пакет? Вы... ведаеце? Так?!. Ведаеце?..

Віктар. Я?.. Не. Аб вашым пакеце я нічога не ведаю.

Бахрушаў. Гаварыце, што вы ведаеце?

Віктар. Я ўсё сказаў. (*Паглядзеўшы на гадзіннік.*) О! У восем у мяне лекцыя на антырэлігійную тэму. (*Адыходзячы.*) Язык мой — вораг мой.

Віктар ідзе да выхаду, напяваючы «Людзі гінуць за метал»... Усе разгублена глядзяць яму ўслед.

Заслона



## Карціна шостая

Тая ж кватэра Ніны, што і ў першай дзеі. Змянілася толькі абстаноўка, з'явілася больш багатая мэбля, дываны. На сцэне Цётка Вара і Карбановіч.

Карбановіч. Дык... Гэтымі днямі?.. А мне казалі, што ён ужо дома...

Цётка Вара. Ды вы сядайце, Фёдар Васільевіч.

Карбановіч. Дзякуй. А дзе Ніна Рыгораўна?

Цётка Вара. Павінна скора прыйсці.

Карбановіч. Я неяк даваў Аляксею Лукічу адзін матэрыял чытаць. Такая зялёная папка... Вы, часам, не бачылі? Мне ён вельмі спатрэбіўся.

Цётка Вара. Не... Не бачыла. Ды вы сядайце... Прыдзе Ніна, яна, мабыць, ведае, дзе гэта зялёная папка... Вы мне, калі ласка, прабачце, я да маленькай пайду.

Карбановіч. Калі ласка, калі ласка.

Цётка Вара выходзіць. Карбановіч узяў са стала нейкі часопіс. Сеў.

Віктар (*з'яўляючыся ў дзвярах*). Можна?

Карбановіч. Заходзьце. (*Павярнуўшыся да яго.*) Ах, гэта вы, Лінчэўскі!..

Віктар. Добры дзень, Фёдар Васільевіч. (*Насцярожана*). Вы... да Аляксея Лукіча?

Карбановіч (*ухмыляючыся*). А вы што, таксама да яго?

Віктар (*насцярожана*). Хіба ён прыехаў?

Карбановіч. Не, Лінчэўскі, ён яшчэ не прыехаў.

Віктар. Так?.. Я, прызнацца, да Ніны Рыгораўны.

Карбановіч. Да Ніны Рыгораўны?.. (*Гледзячы на яго з хітрай усмешкай.*) Зразумела, зразумела... Яна мне таксама патрэбна. Дарэчы, Віктар Іванавіч, у мяне да вас справа.

Віктар. А што такое?..

Карбановіч. Вы з Калганавым знаёмы?

Віктар. Калганаў... Гэта — начальнік?..

Карбановіч. Ён самы. Вікенці Осіпавіч заняўся дысертацыяй. Але... ведаеце, як гэта бывае... Пасада высокая! Маштабы шырокія! — не паспявае... Як вы думаеце — ці не зможам мы яму памагчы?

Віктар. Я? А чым іменна?

Карбановіч. Ён сядзіць над адным раздзелам. Па тэме гэта блізка да вашай работы. У вас бойкая рука, вам гэта, па-мойму, раз, два — і гатова.

Віктар. Што? Пісаць за яго?

Карбановіч. Вы не так мяне зразумелі. Дапрацаваць адзін раздзел. Гэта ж...

Віктар. Ішачыць?! На чыноўнікаў?!. Не ўжо. Няхай сам... (*Пастукаўшы рукой па патыліцы.*) сваім гарбом кандыдацкі аклад здабывае!

Карбановіч. Не мерайце на свой аршын, Лінчэўскі!.. Не ўсе кіруюцца ў жыцці... кандыдацкімі акладамі... Так... І не варта тое-сёе забываць, паважаны Віктар Іванавіч. Як вы, напрыклад, паступілі ў аспірантуру!.. Хто вам памог?.. На чыёй спіне вы ехалі?.. (*Паглядзеўшы на гадзіннік.*) Ну што ж, прыдзецца зайсці пазней. (*Ідзе да выхаду і спы-*

*няецца ў дзвярах.)* Праз месяц у вас, здаецца, абарона!.. Ну, ну, працуйце. (*Выходзіць.*).

Віктар (*адзін*). Зарэжа, гад, зарэжа... Не, не, язык мой — вораг мой...

Цётка Вара (*уваходзячы*). Фёдар Васільевіч пайшоў? *(З непрыязнасцю.)* А вы, пэўна, да Ніны? Яна, відаць, затрымаецца.

Віктар. Разумею. (*Раскланьваючыся.*) З вашага дазволу, Варвара Ільінічна, я загляну праз некаторы час. (*Выходзіць.*)

Цётка Вара (*прыслухоўваючыся*). Ай!.. Зноў малая плача!.. (*Выходзіць у спальню.*)

Цямнее. Хвіліну сцэна пустая. У суседнім пакоі, відаць, уключылі прыёмнік, і адтуль даносіцца сімфанічная музыка. Званок. Праз пакой хуценька праходзіць цётка Вара. З пярэдняй чуваць яе голас: «Танечка, родная»....

Цётка Вара (*ведучы яе ў пакой*). Заходзь жа, заходзь. (*Абдымаюцца.*) А ну, пакажыся... Малайчына, малайчына!..

Таня. Яўген Барысавіч не заходзіў?

Цётка Вара. А хіба ён тут?

Таня. Але, тут. Мы дамовіліся сустрэцца ў вас...

Цётка Вара. Вось добра. Ну, як жывеш?..

Таня. Добра. Працую. Настаўнічаю.

Цётка Вара. Ну, а па душы праца гэта?

Таня. Вельмі. Вось уявіце сабе, еду і ўвесь час думаю аб сваіх вучнях. І ведаеце, Варвара Ільінічна, хто мне працаваць памагае? Карбановіч! Так! Вам смешна?

Цётка Вара. Як гэта? Карбановіч табе памагае...

Таня. А так... Я да кожнага свайго выхаванца з такой меркай падыходжу: сядзіць у ім Карбановіч ці не? Як выяўлю ў ім гэта самае... тады пачынаю вайну і наступаю, пакуль не адолею. Шчыра кажу! Такая ў мяне задача. Вам смешна, Варвара Ільінічна?

Цётка Вара. Зусім не. Я цябе, Танечка, разумею... А Ніна... Мабыць, я яе раней не разумела... Я і падазрэння не мела, што для модных убораў... яна гатова сама сябе прадаць... Вось ты скромна адзета і не бядуеш... Калі мы гадаваліся... дык маеш якую-небудзь паркалёвую сукенку — добра, чаравікі чорненькія на босую нагу — добра. А цяпер!.. Зямлі пад сабою не чуюць... Адна фанабэрыя!..

Таня. Ну... а як Аляксей Лукіч?

Цётка Вара. Няважна, Танечка. У санаторый паехаў... Увесь час хварэе... Гіпертанія, сэрца... (*Шэптам.*) Яго, відаць, да сына цягне, пакутуе... А Ніне гэта не падабаецца... Такая ў нас у доме атмасфера цяпер, як перад навальніцай... Не давядзі бог!

Таня. Але ж яны любілі адно другога...

Цётка Вара. Не ведаю, не ведаю... Любілі ці разлюбілі... (*Прыкладае да вачэй хустку.*) А дзяўчынка ў іх харошая... слаўная. (*Узяўшы яе за руку.*) Пабачыш. Разумная... Засынае толькі пад музыку, калі радыё іграе. Хадзем, хадзем.

Таня. Не, не, Варвара Ільінічна, не магу, там мяне Саша чакае ў калідоры.

Цётка Вара. Чаму ж ён не заходзіць?

Таня. Не хоча...

Цётка Вара. Што гэта ён выдумаў... Ідзі, ідзі, я яго зараз прывяду. (*Накіроўваецца да выхаду.*) Бач ты які, у калідоры.

Таня ідзе ў спальню, цётка Вара — у пярэднюю.



Голас цёткі Вары: Што гэта такое? Быць тут і не зайсці. Як табе не сорамна?

Голас Сашы. Часу няма, Варвара Ільінічна. Я...

Голас цёткі Вары. Заходзь, заходзь...

Саша (*уваходзячы, крыху збянтэжаны*). Мы тут... на веснавыя канікулы... Я, шчыра кажучы... Мы з Яўгенам Барысавічам павінны сустрэцца...

Уваходзіць Ніна. Нейкі час абое здзіўлена маўчаць. Потым Саша адступае і нечакана накіроўваецца да выхаду.

Ніна. Не хочаш і прывітацца...

Саша спыняецца. Цётка Вара адвярнулася, выйшла. Паўза.

Ніна. Мне здавалася... што мы ўсё ж рассталіся з табой сябрамі... Па меншай меры, таварышамі... Ніколі б не падумала, што ты нават не захочаш убачыць мяне, пагаварыць...

Саша (*пасля паўзы*). Ну... Як жывеш?

Ніна. Ды так... Аляксей Лукіч вельмі хворы. У санаторыі ён. А ты б... не хацеў яго бачыць?..

Саша. Не.

Ніна. Чаму?.. Хіба цяпер не ўсё роўна?

Саша. А табе што? Эксперыментальная цікавасць?

Ніна. Не, не тое... Ты... чытаў маё пісьмо?

Саша. Чытаў. І... не зразумеў яго. Ты пісала — не атрымалася ў вас... Чаму?..

Ніна. Чаму?.. Сама не ведаю... Мне часам так дрэнна, Сашачка...

Саша. Ніна...

Ніна. Маўчы. Я, можа, другі раз не змагу гэтага сказаць... Усё, што ў нас было з табой... гэта... сапраўднае... дарагое... яно... ніколі не сатрэцца... (*Пасля паўзы, зірнуўшы на Сашу, які недаверліва глядзіць на яе.*) Ты мне не верыш?

Саша (*пасля паўзы*). Калісьці верыў... Вельмі верыў...

Ніна. Значыць... не можаш дараваць?.. (*Падышоўшы да яго, ціха засмяялася, гладзіць яго валасы.*) Помніш, мне падабаўся твой чуб... Мяккі, густы і непакорны...

Саша (*задрыжаў і адхіснуўся*). Не трэба, не трэба...

Званок. Ніна ідзе ў пярэднюю і вяртаецца з Бахрушавым.

Бахрушаў (*падаючы Ніне руку*). Добры дзень, Ніна... Як Аляксей Лукіч? Дома?

Ніна. Не, у санаторыі.

Бахрушаў. Скора вернецца?

Ніна. Чакаем тэлеграмы... Сядайце, калі ласка. Зараз што-небудзь арганізуем... Такая сустрэча!.. Цётка Вара!.. *(Знікае.)*

Саша. Ну, што? Былі ва ўніверсітэце?

Бахрушаў. Быў.

Саша. І Сакалова бачылі?

Бахрушаў. Бачыў. Ён перадаў дысертацыю прафесару Коштысу. Валынка...

Саша. Ну, гэта вы ўжо дарэмна. Трэба ж ім прачытаць... разабрацца...

Бахрушаў. З Лінчэўскім... гаварыў?..

Саша. Пытаўся... Кажа, п'яны быў. Нічога не помніць...

Бахрушаў. Наогул, усё ідзе добра, як не трэба лепш...

Цётка Вара (*уваходзячы*). Яўген Барысавіч! Мілы!
Бахрушаў. Добры дзень, Варвара Ільінічна!
Цётка Вара. Схуднеў, схуднеў. Ну, зараз я вас падпраўлю. (*Выходзячы.*) Я не забаўлюся.

Цётка Вара знікае. Чуваць яе голас: «Ніна, Ніна! Ідзі сюды!»

Ніна (*выходзячы са спальні*). Я зараз! Саша! Родненькі! Я хачу даручыць табе маленькую работу... Будзь за гаспадара! Вы не пакрыўдзіцеся, Яўген Барысавіч, калі я пакіну вас, як кажуць, у гордай адзіноце?
Бахрушаў. Калі ласка!

Бахрушаў, застаўшыся адзін, задумаўся, потым разгарнуў прынесены ім пакунак з кнігамі, узяў верхнюю, дастаў аўтаручку і нешта напісаў. Уваходзіць Таня.

Бахрушаў (*убачыўшы яе*). Танечка, гэта вам... ад мяне. (*Перадае ёй пакунак.*) Вы, здаецца, даўно хацелі...
Таня (*разгортваючы пакунак*). Ой, Ралан, «Зачараваная душа»! Усе чатыры тамы!.. Вялікае дзякуй! Дзе вы дасталі?
Бахрушаў. Тут, на рагу, у цэнтральным...
Таня (*разглядаючы кнігі*). Яўген Барысавіч, вы ўчора не пакрыўдзіліся на мяне? Я так перажывала потым... Вы харошы, вельмі... І я пра вас думала... Але...
Бахрушаў. Не трэба... (*Паўза.*) Вы любіце Сашу? Так?
Таня (*не адразу, спалохана*). Так...
Бахрушаў. А ён?
Таня. Не ведаю. Раней мне здавалася... А цяпер... Ніна... Не ведаю!.. (*З раптоўным болем, са слязьмі на вачах*). А я больш не магу. Ведаю, што дарэмна, і не магу, не магу перасіліць.

Таня кусае губы, намагаючыся падавіць плач, праглынуць слёзы. Бахрушаў здзіўлена глядзіць на яе.

Таня (*з дзіцячай крыўдай*). Вось жа... калі б гэта да рэвалюцыі было... Саслалі б яго ў ссылку... Я б нічога не пашкадавала, за ім бы на любую катаргу...

Бахрушаў міжвольна ўсміхнуўся.

Таня. Або калі б ён захварэў... Я б начэй не спала... даглядала яго... (*Успомніўшы пра Бахрушава.*) Ой, што я кажу... Вы... прабачце...

Уваходзіць Ніна і Саша. Ставяць на стол талеркі, закуску.

Ніна (*смеючыся*). Таня, разумееш, ён не прызнае за намі нашага законнага права. Мы, жанчыны, як пчолы. Хоць часам і джалім, затое (*З хітраватай, чароўнай усмешкай.*)... мёд разносім.
Саша (*іранічна*). Не, я не супраць джала, але толькі, каб мёд быў натуральны. Так, Яўген Барысавіч?
Бахрушаў (*у сваіх думках*). Правільна, Саша, правільна. (*Ідзе на кухню.*)

Ніна таксама ідзе на кухню.

Саша (*бярэ са стала падораную Тані кнігу і, раскрыўшы яе, чытае ціха, потым уголас*). «Самай лепшай»...

Саша паглядзеў на Таню і чытае далей моўчкі.



Саша (*глядзіць на Таню*). А ведаеш, Таня, ты сапраўды прыгожая...
Таня (*з радасцю*). Прыгожая?!.
Саша. Ну, як табе сказаць... Не так... а наогул...
Таня (*сумным голасам*). Наогул?
Саша. Не, і так... Безумоўна. Але, галоўнае, наогул... Зразумела? І наогул, і так...
Ніна (*уваходзячы*). Аб чым вы тут шапталіся? (*Яшчэ нешта ставячы на стол.*) Таня, ну, як я, пастарэла, паблажэла, а? Як ты знаходзіш?
Таня. Па-мойму, не.
Ніна. А як мая мэбля? Міленькая кватэрка, праўда?
Таня (*аглядаючы пакой*). Так... Добра ў цябе... утульна...
Ніна (*узрадавана*). Табе падабаецца? Ведаеш, я ўсё гэта набыла з вялікімі цяжкасцямі... Раз ездзіла ў Вільню, два разы ў Рыгу... Намучылася... Яшчэ і цяпер з даўгамі не расплацілася.
Таня. А хіба гэта абавязкова было ездзіць купляць?
Ніна. Ну, ведаеш... Другія ж купляюць.

Уваходзіць цётка Вара. Ставіць на стол закуску.

Цётка Вара. Чым багаты, тым і рады. (*Кіўнуўшы на Сашу.*) Глядзі, Ніна, як ён памужнеў. Герой-хлопец!
Саша (*усміхаючыся*). Які я герой, Варвара Ільінічна. Звычайны настаўнік глухога гарадка.
Ніна. А дэпутат райсавета?..
Таня. Ён... аповесць напісаў...
Цётка Вара. Ды ну? Малайчына, малайчына! Віншую!
Саша. Рана віншаваць, Варвара Ільінічна. Аповесць яшчэ не закончана.

Уваходзіць Віктар.

Віктар. Каго бачу?! Добры вечар, добрага здароўя! Адкуль, сябры? На канікулы прыехалі?..
Ніна. Сядай за стол. Але ты, здаецца, цяпнуў.
Віктар. Не цяпнуў, а выпіў...
Ніна. Нешта ты часта.
Віктар. Не ад салодкага жыцця, мілейшая гаспадыня.

Усе садзяцца за стол.

Ніна (*падняўшы бакал*). Ну, за што? За мінулае, за наша юнае, светлае, чыстае мінулае.
Саша. І за будучыню!
Таня. Таксама юную, чыстую, светлую.

Усе п'юць, закусваюць.

Саша. Чыталі артыкул пра Карбановіча? Крытыкуюць яго за апошнюю кнігу, аж пер'е ляціць...
Ніна. Што тая крытыка? Адхапіў за кнігу куш і працвітае! Кватэра шыкоўная, мэбля новая... Нядаўна купіў «Волгу», сыну «Пабеду» аддаў.
Бахрушаў (*іранічна*). І гэта вы называеце працвітаннем?
Ніна (*да Тані і Сашы*). Ну, а як ваша жыццё, пустэльнікі?
Саша. У нашай пустыні жыццё крынічыць.

Бахрушаў (*абняўшы Сашу, вельмі цёпла*). Гэта сапраўдныя сейбіты разумнага, добрага, вечнага... А Танечка! Каб я меў права, я даў бы ёй званне народнай настаўніцы!

Віктар (*іранічна*). Значыць, падабаецца вам?

Саша (*гледзячы яму ў вочы*). Падабаецца.

Віктар. Хм! (*Глядзіць на яго з усмешкай*). Вы, як багамольцы, гатовы лоб разбіць... Няўжо вам цікава працаваць у сельскай школе? Сыпаць бісер перад саплякамі. Жыць у глушы... Цягаць ваду на сабе... Мыцца з бляшанага кубка... А на двары пад акном свінні рохкаюць... Музыка... Знайшлі шчасце!..

Саша. Дазволь запытацца. А ты — шчаслівы? Няўжо табе прыемна стаяць на задніх лапках перад Карбановічам?

Віктар. А я і не стаю. Я перайшоў на другую кафедру.

Саша. Тым горш. Ты ж заўсёды любіў літаратуру, а займаешся палітэканоміяй. Відаць, усё тваё шчасце — мець больш грошай і глушыць каньяк! Што? Не так?! А мо', скажаш, табе падабаюцца людзі, з якімі ты п'еш і якія, пэўна, гэтак жа зневажаюць цябе, як і ты іх...

Віктар. Пачакай, пачакай...

Саша (*перабіваючы*). Няўжо гэта радасць — браць... хапаць, нікому нічога не даючы?.. Жывёлай стаў, свет смуродзіш!.. Ты ж быў калісьці нармальны хлопец...

Ніна. Не будзем паглыбляцца... Лепш вып'ем. Вып'ем за нашых гасцей!

Цётка Вара. Дазвольце, я скажу. Вып'ем за іх працу, за тое... Вы прабачце старую, я нясkладна скажу, але скажу ўсё-такі... Зямля ў нас прыгожая, багатая... Розум чалавечы магутны... Тэхніка наша ідзе наперад... Паглядзіце, горад наш, як у казцы расце. Не пазнаць яго. І ўсё вакол прыгажэе...

Віктар. Гэта... правільна!

Цётка Вара. І людзі... павінны быць вартымі гэтага... Усё гэта непатрэбна без добрых людзей... са шчырай душою і гарачым сэрцам... І я... п'ю за нашых гасцей, за Танечку і Сашу, якія выхоўваюць... вучаць дзяцей дабру.

Бахрушаў. Вось гэта тост! Дазвольце мне, Варвара Ільінічна, пацалаваць вашу руку. (*Цалуе.*)

Ніна. Цётка Вара, ён у цябе закахаўся.

Бахрушаў (*усміхаючыся*). А як жа! Закахаўся. Варвара Ільінічна мне... як родная...

Віктар. Хм! Дабро? Усякае дабро бывае, а, Ніначка?.. Ну, напрыклад. (*З пафасам.*) Дарагі, шматпаважаны сервант! Ты для мяне дабро, і я цябе куплю... Не, не, Варвара Ільінічна, я падтрымліваю ваш тост! Я таксама за дабро... І за праўду.

Саша. Балбочаш ты многа, Віцька. Дабро! Праўда! А што ты зрабіў дзеля праўды?!

Віктар (*сеўшы за піяніна*). Што я зрабіў? Вось хацелі наняць мяне парабкам, а я не згадзіўся!

Саша (*не разумеючы*). Што?! (*Раптам.*) Скажы, хто ўзяў пакет? Чаму маўчыш?

Віктар іграе мелодыю «Цыплёнок жареный» і спявае: «Цыплёнок тоже хочет жить...»

Саша. Кінь крыўляцца! Бо ёсць жа ў цябе крышку прыстойнасці. Чуеш? Чалавек ты ці не?



Віктар. Крыху падлюга, крыху чалавек... І калі зыходзіць з долі прыстойнасці, якую ты ў мяне знаходзіш — і тое, што я сказаў — доблесць!

Званок. Ніна ідзе ў пярэднюю і вяртаецца з Карбановічам.

Карбановіч. Добры вечар. О, тут, бачу я, гулянка! Вельмі прыемна...

Ніна. Заходзьце, Фёдар Васільевіч. Просім да стала, калі ласка...

Карбановіч. Не, не, я на хвілінку... Вам Варвара Ільінічна не гаварыла? Хаця, добра. Я другім разам... Так, Ніна Рыгораўна, можаце зайсці ў інстытут. Атрымаеце зарплату свайго мужа. (*Аглядаючы ўсіх, патаптаўшыся на месцы.*) Вось як кажуць, і ўсё... Да пабачэння. (*Ідзе да выхаду.*)

Бахрушаў (*у вялікім хваляванні, рвануўшыся наперад*). Стойце!

Карбановіч. Што?

Бахрушаў. Я... ведаю, што гэта вы!.. Вы ўзялі, схавалі тады пакет.

Карбановіч. Які пакет?

Бахрушаў (*гледзячы на ўсіх*). Сакрэтны. Мне расказалі... І я ўсё ўспомніў. (*Спяшаецца гаварыць.*) Да мяне маці прыехала. У яе быў приступ... Самлела... Мне пазванілі. Я кінуўся з кабінета, забыў пакет. Вы яго ўзялі! Затаілі!..

Карбановіч. Дазвольце, дазвольце!..

Бахрушаў. Каб зрабіць з мяне ворага... выгнаць!

Карбановіч. Што вам ад мяне трэба?!

Бахрушаў. Пакет узялі вы!

Карбановіч. Што за хлусня, паклёп!

Бахрушаў. Паклёп?! (*Схапіўшы за руку Віктара і выводзячы яго наперад.*) Ён, Лінчэўскі (*гледзячы на Сашу і Таню.*)... У іх прысутнасці расказаў гэту агідную, брудную гісторыю!

Віктар. Эге!.. Не-е... Я?.. Я нічога не гаварыў...

Саша (*перабіваючы яго*). Маўчы... храбрэц! (*Да Карбановіча.*) Мы патрабуем адказу, ад вас абодвух! (*Да Бахрушава.*) Пойдзем, Яўген Барысавіч, зараз жа пойдзем у абком. Мы раскажам там. Усё раскажам! (*Гледзячы ў вочы Карбановічу.*) І аб тым, як вы выжывалі Бахрушава з інстытута, і пра пакет... І як вы пасылалі ўслед за Бахрушавым пісьмы, каб яго не прымалі на работу, як вы не давалі ходу яго дысертацыі.

Карбановіч. Вы ашалелі?! Адкуль усё гэта?! Хто гэта мог выдумаць?! Зноў... Бахрушаў?.. Яго метад. Ох, грамадзянін Бахрушаў, не навучыла вас жыццё! (*Да Ніны.*) Я здзіўляюся, як вы, Ніна Рыгораўна, дазваляеце, каб у вашым доме, у доме паважанага мною калегі... абражалі чалавека...

І, нібы захлынуўшыся ад свайго абурэння, Карбановіч змоўк, потым імкліва выбег. Паўза. Увабраўшы галаву ў плечы, хаваючы вочы, выходзіць і Віктар.

Саша. Прайдзісветы, падлюгі...

Ніна. Карбановіч не даруе мне гэтага...

Саша. А мы не пагарачыліся з вамі, Яўген Барысавіч?

Бахрушаў. А што?..

Саша. Голымі рукамі іх не возьмеш... Хадзем у абком.

Бахрушаў. Не, не пайду. Што я ім скажу? Голы факт без дока-

заў, тонкая павуцінка, якую Карбановіч умомант ірве і мяне ж абвінавачвае...

Саша. Ну што ж... Пайшлі.

Саша моўчкі кіўнуў Ніне і разам з Бахрушавым накіроўваецца да выхаду.

Таня. І я з вамі.

Саша, Бахрушаў і Таня выходзяць.

Ніна *(адна, узрушаная)*. Як гэта ўсё непрыемна!..

Выйшла ў спальню, вярнулася, падышла да піяніна, правяла пальцамі па клавішах, потым стала каля акна і задумалася. Уваходзіць Прозараў з чамаданам.

Прозараў. Добры вечар, Ніначка.

Ніна *(уздрыгнуўшы)*. Божа мой! Нарэшце! *(Цалуюцца.)* Чаму не паведаміў?..

Прозараў. Навошта было цябе трывожыць.

Ніна. Мне так хацелася сустрэць цябе. Ну, як здароўе? Лепш?

Прозараў *(абдымаючы яе)*. Так... Нішто...

Ніна. Сумна было без цябе... Цяжка... Ой, ты мне плацце памяў...

Прозараў. А ты... пахудзела...

Ніна. Ну, як жа. Сам ведаеш, праца ў інстытуце... дома...

Прозараў. Мілачка здарова?

Ніна. Здарова. Спіць. Садзіся, перакусім.

Прозараў *(паглядзеўшы з падазронасцю на стол)*. А... што тут у вас такое было?

Ніна. Прыходзілі мае старыя сябры... па інстытуту... І Бахрушаў тут...

Прозараў. Тут?.. А Лінчэўскі... таксама быў? Па-мойму, гэта ён ішоў адсюль... *(Ніна маўчыць.)* Я ж прасіў цябе гэтага хлюста не прымаць!

Ніна. Калі ён зайшоў, не магу ж я яго выгнаць.

Прозараў. Мяне здзіўляе, што можа быць агульнага... І потым...

Ніна. Што потым?.. Не злуйся, дурненькі... *(Цалуе яго.)* Мне было так сумна без цябе... *(Гладзіць яго валасы.)* Скажы, табе лепш, лепш?

Прозараў. Крыху лепш... Пойдзем, я хачу глянуць на Мілачку.

Ніна. Ідзі, будзем вячэраць.

Прозараў выходзіць. Тэлефонны званок.

Ніна *(падняўшы трубку)*. Так. Кватэра. Прыехаў. Хто пытае?.. Павесілі трубку... Здаецца, гэта ён... яго голас.

Уваходзіць Прозараў. Ніна паклала трубку.

Прозараў. Хто званіў?

Ніна. Па-мойму, твой бацька.

Прозараў. Бацька?..

Ніна. Не першы раз звоніць. Калі я ў яго пытаюся — хто, ён кладзе трубку.

Прозараў *(трывожна)*. Ці не здарылася ў іх што? Можа што з Юрыкам?

Ніна. Ён здаровы. Я яго бачыла... *(Паўза.)* Яны, напэўна, хочуць, каб ты больш плаціў на сына. Прабач мне, але... Колькі ж можна. Не можам жа мы ва ўсім абмяжоўваць сябе, жыць у беднасці...



Прозараў. Ніна, дзяўчынка мая, асколачак! Як бы мне хацелася, каб ты не гаварыла так... *(Узяўшы яе за руку.)* Дзе гэта крыніца думак, пачуццяў, розуму... Мне дрэнна, калі раптам знікае мой светлы чалавек, які... мне так патрэбен... такі дарагі.

Ніна. Мілы! Я ж для цябе... У цябе такое здароўе... Табе трэба абавязкова адмовіцца ад лішняй нагрузкі ў інстытуце...

Прозараў. А можа лепш адмовіцца ад лішніх расходаў?..

Ніна, уздыхнуўшы, як чалавек, якога не разумеюць, выйшла. Прозараў паглядзеў ёй услед, глыбока задумаўся, выняў з кішэні партсігар, раскрыў яго, зноў закрыў, паклаў у кішэню. Званок. Прозараў ідзе ў пярэднюю і вяртаецца з Лукой Цімафеевічам.

Лука Цімафеевіч. Добры вечар, Аляксей. Як здароўе? Што такі худы?

Прозараў. Нічога, бацька... Мне лепш... так...

Лука Цімафеевіч. Калі прыехаў?..

Прозараў. Сёння... Толькі ж...

Лука Цімафеевіч. Добры санаторый?

Прозараў. Нічога... Добра... Ну, як вы там... Сядай... Расказвай... Можа да мяне пяройдзеш?.. *(Лука Цімафеевіч садзіцца.)*

Лука Цімафеевіч. Не, Аляксей. Пра гэта не будзем. Не трэба.... Як-небудзь буду дажываць свой век у Каці. Яна мне за родную дачку. І Юрык хлопец добры. Вельмі добры... унучак мой. Жывём, як людзі. Вось толькі...

Прозараў. Што?

Лука Цімафеевіч. Не хацелася мне ісці да цябе... І не пайшоў бы я. Каб для сябе — ні за што не пайшоў бы. Але тут іншая справа. Каця нешта хварэць пачала, лячыць яе трэба... На курорт...

Прозараў. Добра... Я дам... вядома...

Лука Цімафеевіч. Мы ў цябе на курорт не просім, і не чакаем... Тут другое... Юрыку трэба памагчы... За яго прасіць не грэх.

Прозараў. *(пасля паўзы)*. Скажы ім... я зраблю... усё, што змагу... Цяпер, праўда, у нас вельмі туга...

Лука Цімафеевіч *(устаючы)*. Значыцца, адмаўляешся?

Прозараў. Ды не... *(Вымае з кішэні грошы і, агледзеўшыся, працягвае іх старому)*. Вось вазьмі. Тут, здаецца, рублёў сто пяцьдзесят. Потым пастараюся... яшчэ дам...

Прозараў перадае старому грошы і яшчэ раз аглядваецца.

Лука Цімафеевіч *(паківаўшы галавой)*. Баішся, значыць. Крадком. *(Кладзе грошы на стол.)* Не патрэбны мне такія грошы. Можаш іх пакінуць у сябе. Абыдземся. *(Выходзіць.)*

З'яўляецца Ніна.

Прозараў. Бацька! *(Ідзе ўслед за ім, вяртаецца.)*

Ніна. Што, зноў наслухаўся грубасці?

Прозараў глянуў на яе, адвярнуўся і моўчкі пайшоў да століка з тэлефонам. Падняў трубку, але раптам твар яго стаў мяняцца, бляднець. Прозараў схапіўся за сэрца і, учапіўшыся другой рукой за ручку крэсла, стаў паволі апускацца.

Ніна *(спалохана)*. Што з табой, Алёша?!.

Не паспеўшы апусціцца ў крэсла, Прозараў падае.

Ніна *(у страху)*. Цётачка, хутчэй! *(Кідаецца да Прозарава.)*

Убягае Варвара Ільінічна.

Ніна. Доктара!.. Клічце доктара!..

Заслона

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Карціна сёмая

Той самы пакой. За акном вясенні вечар. На сцэне нікога няма. Чуваць, як у суседнім пакоі іграюць элегію Рахманінава. Абапіраючыся на палачку, адтуль выходзіць у халаце, змардаваны, яшчэ больш пахуднелы Прозараў. За ім ідзе цётка Вара.

Прозараў (*падышоўшы да акна*). Вясна і музыка... Калі чалавек здаровы, ён часам не заўважае таго... будзеннага і... разам з тым незвычайнага, што ходзіць з ім побач... (*Павярнуўшыся да цёткі Вары.*) Дзіўна, я толькі цяпер, перад канцом, пачынаю па-сапраўднаму любіць гэтыя чары гукаў, гэтую гармонію зямлі...

Цётка Вара. Што вы, Аляксей Лукіч... Вам яшчэ рана гаварыць пра смерць. Вам яшчэ жыць і жыць...

Прозараў. Не, Варвара Ільінічна, засталося мала...

У суседнім пакоі перастаюць іграць. Прозараў падыходзіць да дзвярэй, прыадчыняе іх.

Прозараў. Ірай, Ніна... Яшчэ... гэту... элегію...

З пакоя зноў даносяцца гукі фартэпіяна. Званок. Цётка Вара ідзе ў пярэднюю. Уваходзіць Бахрушаў.

Бахрушаў (*падаючы Прозараву руку*). Як адчуваеце сябе, Аляксей Лукіч?

Прозараў. Скрыплю... (*Усміхаючыся, глядзіць на яго.*) А вы? У вас сёння вясёлы выгляд. Ёсць навіны?

Бахрушаў. Ёсць, Аляксей Лукіч. Помніце, я гаварыў вам, што універсітэт накіраваў маю дысертацыю ў Маскву.

Прозараў. А як жа. Ну і...

Бахрушаў (*вымаючы з кішэні паперку*). Вось адказ.

Прозараў. Тэлеграма... О! Урадавая... З Масквы... (*Чытае.*) «... вуліца... рэктару...» Ага, так... «...Праца таварыша Бахрушава мае вялікую цікавасць для Кангрэсу. Просім уключыць яго ў склад вашай дэлегацыі... Аргкамітэт Сусветнага Славянскага Кангрэсу...» (*Глядзіць на яго ў захапленні.*) Яўген Барысавіч, вы — герой! Віншую! Ад шчырага сэрца!

Бахрушаў. Дзякую.

Прозараў. Ведаеце, што я цяпер падумаў? За вас жа змагаліся не толькі людзі... (*Задуменна.*) На вашым баку была сіла часу і наша рэчаіснасць... (*Устае і налівае дзве чаркі.*) Вып'ем за вашы поспехі!

Бахрушаў. Ахвотна!.. Але ж вам... нельга.

Прозараў. Можна! (*Паўза.*) Мне гэта... нельга... не трэба... Зусім не трэба...

Бахрушаў. Як гэта?.. Як зразумець?..

Прозараў. Эрарэ гуманум эст, як гавораць па-латыні... Людзям уласціва памыляцца... (*Падаючы яму чарку.*) Якія прыбыткі, такія і выдаткі... (*Чокнуўся, выпівае.*) Я... заслужыў сваю долю... Ведаеце, я... часта ўспамінаю вашы словы...



Бахрушаў. Якія?

Прозараў. Тады... на выпускным вечары... (*Задуменна.*) Пакахаць лёгка, любіць... цяжка... (*Пераводзячы погляд на Бахрушава.*) А ў вас жа адкуль... такі вопыт?

Бахрушаў. Жыццё навучыла...

Уваходзіць Ніна.

Ніна. Добры дзень, Яўген Барысавіч... Скажыце хоць вы яму, калі ласка. Накрычыце на яго. Не слухае нас, амаль зусім не ляжыць.

Прозараў. Ну, ну, крычаць не трэба... Я зараз лягу... Тут...

Ніна. Я скора вярнуся. Схаджу ў аптэку. (*Выходзіць.*)

Прозараў (*падышоўшы да канапы*). Сядайце, Яўген Барысавіч.

Прозараў апускаецца на канапу. Прылёг. Тэлефонны званок. Прозараў падымае трубку.

Прозараў (*у трубку*). Так... Добры дзень... Бахрушаў?.. У мяне... у нас... Калі ласка. (*Прыкрыўшы рукой трубку, да Бахрушава.*) Вас... Гэта Валошын. Парторг універсітэта.

Бахрушаў (*узяўшы трубку*). Слухаю вас... Добры дзень. Што?.. Так... (*Па меры таго, як ён слухае, твар яго становіцца ўсё больш і больш змрочны.*) Але ж... Так, так, слухаю... Што? (*Вельмі хвалюючыся.*) Не, расследаванне пакуль што нічога не дало. Няма пэўных доказаў... Дык... у колькі? Прыду. (*Паклаўшы трубку. Сціснуўшы кулак.*) Гэта!.. Не...

Прозараў. Што здарылася?

Бахрушаў. Карбановіч!

Прозараў. Што?

Бахрушаў. Ён даведаўся пра тэлеграму... (*З жорсткасцю.*) Пазваніў у абком — на якой падставе хочуць паслаць на Кангрэс чалавека, які пазбаўлен звання члена партыі?! Палітычна падазронага.

Прозараў. Што гаворыць Валошын?

Бахрушаў. Будзе абараняць. (*Пасля паўзы. Усхвалявана.*) Я часта думаю: наўрад ці ў якой краіне вучоныя робяць так многа, як у нас... Спадарожнікі Зямлі! Касмічныя ракеты! Проста дух займае! І побач з гэтым — яны... Карбановічы... Гэтыя помслівыя невукі, зайздроснікі, кар'ерысты!..

Прозараў. Так... Многа яшчэ ўсялякага бруду ў нашым жыцці... Я, ведаеце... цяпер больш ляжу, думаю, успамінаю... Мы лёгка верым ашуканцам, не адрозніваем сапраўднай прынцыповасці ад дэмагогіі, за паказной формай не бачым часам зместу... (*Паўза*). Як бы гэта ў анкеце такія пункты паявіліся: прыстойнасць, прынцыповасць — сапраўдная, не фальшывая... Маральная чысціня і стойкасць... (*Ляжыць, задумаўшыся, потым прыўзнімаецца.*) Вам калі да Валошына?

Бахрушаў. Сёння, зараз. (*Паглядзеўшы на гадзіннік.*) Бывайце здаровы!

Прозараў. Прыходзьце, Яўген Барысавіч, буду рад. Трымайце мяне ў курсе вашых спраў.

Бахрушаў. Дзякуй. (*Падаючы руку.*) Заўтра прыду. Да пабачэння. (*Выходзіць*).

Прозараў прыпадымаецца з канапы. Хоча сесці, але не можа. Лажыцца зноў. Уваходзяць Карбановіч і Рагіна Сідараўна.

Карбановіч. Добры дзень, Аляксей, добры дзень. *(Да жонкі.)* Глядзі, ды ён жа зусім малайчына.

Рагіна Сідараўна *(паклаўшы на стол нейкі скрутак)*. Гэта вашай Мілачцы. Я ўжо колькі разоў кажу яму... Карбановіч, трэба наведаць нашага друга Аляксея Лукіча. Дык яму, бачыце, усё няма часу.

Карбановіч. Перастань. Адкуль той можа быць час. Сама ведаеш — спраў па горла.

Рагіна Сідараўна. Ну, знаеш, справы справамі, а друга можна наведаць. Ты што, хочаш быць дырэктарам і нічога не рабіць?! *(Карбановіч тузае яе за рукаў.)* А што, мо' няпраўда? Усе вы гультаі! Паспрабуй, пусці слабінку! Дык адразу паляціш з адной пасады, з другой, і — пшык!

Карбановіч *(ціха, злосна)*. Памаўчала б ты лепш... *(Да Прозарава.)* Ну, як, дарагі, адчуваеш сябе?

Прозараў *(нядобра гледзячы на яго)*. Як бачыш...

Карбановіч. Зарплату я табе аформіў за май. Няхай Ніна заўтра зойдзе.

Прозараў. Дзякуй... Я чуў, Калганава бярэш у інстытут?

Карбановіч. Бяру... Звольніўся... па ўласнаму жаданню... Чалавек з жыццёвай практыкай. Дысертацыю канчае.

Прозараў. Што, пакідае хто гэтую кафедру?

Карбановіч *(няпэўна)*. Пакуль не ведаю. Трэба было б яго на месца Лінчэўскага... Несур'ёзная асоба...

Рагіна Сідараўна. Вядома. Гэты тыпчык знойдзе сабе месца. А Калганава ўпускаць нельга. Выдатнейшы арганізатар!.. Калі хочаце, Аляксей Лукіч, ён і вам уладкуе легкавушку. «Волгу». Карцінкі, а не машыны!

Карбановіч. Ну, што ты!.. *(Выняў з кішэні паперку.)* Так... Каб не забыцца... Тут такая справа. Камусьці прыйшло ў галаву накіраваць Бахрушава ў Маскву. На Сусветны Славянскі Кангрэс. Увесь інстытут, увесь калектыў абураны. Чалавека выключылі з партыі, знялі з пасады. *(Паціскаючы плячыма.)* І хто мог дадумацца да такога абсурду — не разумею!

Прозараў. А хіба ты яго пасылаеш?

Карбановіч. Ну, ведаеш, наш партыйны абавязак...

Рагіна Сідараўна. Не, не, Аляксей Лукіч, не кажыце. Гэта проста абурае!

Карбановіч *(ціха)*. Маўчы! *(Да Прозарава.)* Тут нашы інстытуцкія таварышы напісалі пісьмо... у абком... Некалькі чалавек падпісаліся... Я думаю, ты не адмовішся...

Прозараў *(узяўшы ў рукі паперку)*. Што? Падпісаць? *(Гледзячы яму ў вочы.)* Званка ў абком табе яшчэ мала! Трэба яшчэ гэта! *(У гневе рве паперу і кідае яму ў твар.)* Вон з майго дома! Чуеш — вон! І каб нагі вашай тут не было!

Карбановіч *(разгубіўшыся)*. Пачакай. Ты... што ты?..

Рагіна Сідараўна *(з жахам, мармыча)*. Ён ашалеў... Ён ашалеў...

Уваходзіць Ніна. З суседняга пакоя — цётка Вара.

Ніна. Што тут такое?!



Прозараў. Шкурнік! Хапуга! Паганіш, шкодзіш — і думаеш, усё шыта-крыта! Не! Выведуць цябе на чыстую ваду!

Ніна *(падхопліваючы яго пад руку)*. Не трэба, не трэба! Супакойся...

Цётка Вара. Супакойцеся, Аляксей Лукіч.

Ніна. Ідзіце адсюль, калі ласка! *(Вядзе яго ў спальню.)* Алёша, не трэба.

Рагіна Сідараўна. Вы чулі, вы чулі?! Што ён тут гаварыў? Ён цябе выведзе на чыстую ваду! Ён! Гэты распуснік, аліментшчык, амараліст!..

Карбановіч. Які кашмар! *(Да цёткі Вары.)* І гэта ў падзяку за маю дабрату. За тое, што я цэлы год выплачваю яму па бюлетэню, калі дазваляецца толькі тры месяцы!

Рагіна Сідараўна. Так табе і трэба! Я даўно гаварыла: Карбановіч, не лезь, не падстаўляй галавы за гэтага хлюпіка! Заўтра ж спыні яму выплату!

Са спальні вырываецца Прозараў. Ніна стрымлівае яго.

Прозараў *(задыхаючыся)*. Вы... яшчэ... тут?!. Ніна, гані іх! Яны прыйшлі сюды, каб даканаць мяне... Дабіць...

Карбановіч. Ён не ў сваім розуме. Паслухай!..

Прозараў. Вон! Ты...

Цётка Вара. Ідзіце. Ідзіце!

Рагіна Сідараўна *(зларадна)*. Добра. Мы пойдзем.

Рвануўшы Карбановіча за руку, Рагіна Сідараўна цягне яго да выхаду. Яны выходзяць, раз'юшаныя. Прозараў цяжка і шумна дыхае.

Ніна *(падтрымліваючы Прозарава)*. Пойдзем. Табе трэба легчы.

Прозараў *(задыхаючыся)*. Шэльмы! Жулікі! Чэрві!.. Поўзаюць па зямлі!.. *(Усё больш задыхаючыся.)* Жыццё раз'ядаюць!..

Ніна і цётка Вара адводзяць Прозарава ў спальню. Хвіліну сцэна пустая. Уваходзіць Кацярына Іванаўна. Яна аглядае пакой, потым застыла ў напружаным чаканні. Са спальні выходзіць устрывожаная цётка Вара.

Цётка Вара. *(заўважыўшы Кацярыну Іванаўну.)*. Вы?.. Кацярына Іванаўна?..

Кацярына Іванаўна. Я сустрэла Карбановічаў. Божа мой, што яны гавораць! Што яна сказала! Аляксей... Што з ім?

Цётка Вара *(спяшаючыся)*. Дрэнна... Вельмі дрэнна... Бягу ў аптэку... Па кіслародную падушку... *(Выходзіць.)*

Кацярына Іванаўна *(з жахам, у слязах)*. Па кіслародную падушку! *(Закрыўшы твар рукамі.)* А-а-а!.. *(Ціха плача.)*

Становіцца зусім цёмна.

Ніна *(выходзячы са спальні. Спалохана)*. Цётачка! Цётачка! *(Уключае святло. Раптам бачыць Кацярыну Іванаўну.)* Вы?!

Кацярына Іванаўна *(упрошваючы)*. Дазвольце мне да яго! Даруйце!.. Я... не магу інакш!

Ніна моўчкі таропка нахіліла галаву. Кацярына Іванаўна бяжыць у суседні пакой.

Ніна. Не туды. *(Паказвае рукой на спальню.)* Ён там.

Кацярына Іванаўна бяжыць у спальню. Ніна некаторы час глядзіць ёй услед.

Ніна *(разгублена, з жахам)*. Цётачка! *(Чакае і, не дачакаўшыся адказу, бяжыць да выхаду.)* Цётачка! Сюды! Памірае...

Заслона

## Карціна восьмая

Прайшло тры месяцы. Зноў той самы пакой. На крэсле расчынены чамадан. З пярэдняй чуваць голас цёткі Вары: «У горадзе ён, у горадзе». Уваходзяць цётка Вара, Саша і Таня.

Саша. Вяртаюся ў гасцініцу, а на стале запіска Бахрушава: «Прыехаў; спыніўся ў Варвары Ільінічны». Дзе ён?
Цётка Вара. З раніцы паставіў чамадан і пабег.
Саша. Куды?
Цётка Вара. У гарком яго выклікалі. Здаецца, заняліся Карбановічам.
Саша. Выклікалі ў гарком?
Таня. Даўно пара.
Цётка Вара (*уздыхнуўшы*). Аляксей Лукіч... Як ён перажываў за Яўгена Барысавіча. Яму гэты Карбановіч нямала крыві сапсаваў. Тры месяцы прайшло, а ўсё яшчэ не верыцца, што яго няма... Так і стаіць перад вачыма...
Ніна (*уваходзячы, узрадавана*). Госці?.. Цётка Вара, ідзі да яе, яна прачнулася.
Цётка Вара. Іду, іду. (*Выходзіць.*)
Ніна. Ну што, якія навіны?
Таня. Павіншуй яго!
Ніна. З чым?
Таня. З рэцэнзіяй. (*Вымае з сумкі газету.*) Вось... (*Разгортвае.*) Глядзі...
Саша. Ды што ты... не трэба...
Таня. І чаго тут скромнічаць. (*Да Ніны.*) Слухай. (*Радасна глядзіць то на Сашу, то на Ніну.*). «Чалавек не адзінокі» —аповесць палымяная, гарачая... Яе аўтар (*Зірнула на Сашу.*) малады настаўнік Аляксандр Нагін узнімае праблему змагання за праўду, актыўных і пасіўных адносін да яе. Ён сцвярджае, што сапраўднае, вартае чалавека шчасце, не можа асноўвацца на фальшы, эгаізме, на парушэнні законаў сацыялістычнага грамадства. Сваім творам ён услаўляе нашу высокую савецкую мараль...» Здарова напісана, га?.. Пайду, цётцы Вары пакажу. (*Выходзіць.*)
Ніна. Ну, вось, Саша, хутка ў цябе пачнецца зусім новае жыццё... (*Летуценна*). Адкрыю я часопіс — і раптам прачытаю: Аляксандр Нагін. «Чалавек не адзінокі». Аповесць... Друкуюць у часопісе, а потым яшчэ асобнай кнігай выпусцяць. Грошай не абярэшся...
Саша (*засмяяўшыся*). Гэта ў мае жыццёвыя планы не ўваходзіць.
Ніна. Калі ты едзеш?
Саша. Думаў сёння. Ды мне тут прапануюць работу...
Ніна (*стараючыся схаваць сваю зацікаўленасць*). Ну... і што ты вырашыў?..
Саша. Не ведаю. Трэба падумаць.
Ніна. Аб чым жа тут думаць? (*Ставячы на стол вазу з пячэннем.*) Частуйся. Гэта наша любімае... Цётка Вара заўсёды ў час экзаменаў пякла... Помніш?..
Саша (*усміхнуўшыся*). Помню.
Ніна (*пасля паўзы, з хваляваннем*). Ты... неяк пісаў мне: ці можам мы вярнуць мінулае?..



Саша. Гэта было паўгода таму назад. Тады гэта было для мяне пытаннем, я не мог у гэтым разабрацца...
Ніна. А цяпер...
Саша. Бачыш, Ніна...
Таня (*уваходзячы, да Сашы*). Цётка Вара рыхтуе табе сюрпрыз.
Ніна (*да Сашы*). Мы яшчэ пагаворым пра гэта... Давайце пaабедаем, а? (*Хоча ісці на кухню.*)
Саша (*ёй услед*). Вельмі дзякую, але мне трэба ісці...
Ніна. Нічога, паспееш. (*Выходзіць.*)
Саша. Ты яшчэ тут застанешся?
Таня (*няўпэўнена*). Тут...
Саша. Я зайду па цябе. (*Глядзіць на гадзіннік.*) Мне трэба... параіцца з табой...
Таня. Аб чым?..
Ніна (*уваходзячы*). А вось мы зараз і наладзім... (*Накрывае стол.*)
Саша. Дзякую, дзякую, мне ў рэдакцыю.
Ніна. Але ты...
Саша. Я ненадоўга, хутка вярнуся. (*Выходзіць.*)
Ніна. Ох, ужо гэтыя мне пісьменнікі. (*Ідзе ў спальню, Таня за ёй.*) Няма ім спакою. (*Да Тані.*) Ну, як твой адпачынак? Так нікуды і не паедзеш?
Таня (*думаючы пра сваё*). Не ведаю яшчэ... Не вырашыла... (*Выходзіць.*)

Званок. Потым яшчэ і яшчэ раз. Ніна ідзе ў пярэднюю і вяртаецца з Віктарам.

Ніна. Ці нельга крыху далікатней. Звоніш, быццам...
Віктар. Прабач, Ніначка, прабач...

Спешил, летел, дрожал,
Вот счастье, думал, близко.
Пред кем я давеча так страстно и так низко...

Ніна (*перабіваючы яго*). Не блазнуй, мне не да гэтага.
Віктар (*ставіць у вазу прынесены букет кветак.*) Шчыра кажучы, і мне не вельмі весела.
Ніна. А што здарылася?
Віктар. А-а, к чорту! Надакучыла!
Ніна. У чым справа?
Віктар. Пра Бахрушава нічога не чуваць?..
Ніна. Прыехаў. Будзе ў нас. Нашто ён табе?
Віктар. Паслаць бы ўсіх к чорту!..
Ніна. Не разумею цябе.
Віктар. Не разумееш, і не трэба. Доўга яшчэ будзе гэты Сашка тут ацірацца?
Ніна. Не ведаю.
Віктар. Нешта ён часта да цябе хадзіць пачаў...
Ніна (*глуха, з болем*). Каму я цяпер патрэбна?
Віктар. О, божа! Ад каго я чую? Прыгожая, чароўная, шык з бляскам...
Ніна. Няўжо ёсць жанчыны, якія вераць тваім словам...
Віктар. Ты не верыш мне?
Ніна. Я веру пачуццям мужчын толькі тады, калі яны мне робяць прапанову.

Віктар. Божа, калі ласка.
Ніна (*уздыхнуўшы*). Як гэта ў цябе ўсё проста...
Віктар. Але ж ты мне падабаешся. Чэснае слова, ты мне заўсёды падабалася.
Ніна. І толькі ўсяго? (*Некалькі гулліва.*) Я адказваю тады, калі мне гавораць: кахаю...
Віктар. Кахаю. Не верыш?! Ні адна жанчына так не хвалявала мяне. Не выклікала такіх пачуццяў... Такой... буры!
Ніна. Жангліруеш... Не пераканаўча.
Віктар (*з запалам, хапаючы яе руку*). Нам будзе добра!.. Чорт вазьмі, ды мы ж з табой ідэальная пара! Ну, скажы хаця б — я падумаю. Дай мне надзею!
Ніна. Добра... (*Задумаўшыся.*) Я... падумаю...
Віктар (*стаўшы ў тэатральнай позе на калена і цалуючы ёй руку*). О, мой агонь, чароўны, яркі, свежы! (*Цягнецца, каб абняць яе за талію.*) О, любая мая!..

Уваходзіць Саша. Яго не бачаць.

Саша (*насмешліва*). У падобных сітуацыях, здаецца, зачыняюць дзверы!
Віктар. А-а, міністр маральных спраў. Прывітанне! (*Спалохаўшыся.*) О! Я ж пазнюся... так... Прывітанне! Да пабачэння. (*Пакланіўся і хутка выходзіць.*)
Саша (*глянуўшы з пагардай на Ніну*). Дзе Таня? (*Накіроўваецца ў суседні пакой.*)
Ніна (*кідаецца да яго, з запалам*). Пачакай!

Саша ў нерашучасці спыняецца.

Ніна. У мяне нічога з ім няма. Павер. Ён заходзіць, але рэдка, зусім рэдка. Нудна мне, Саша, сумна! (*Ідзе да акна і плача.*) Мне душна тут, цесна, страшна... (*Задумаўшыся.*) Тры месяцы... так, амаль тры... Быў такі ж ясны дзень... чаромха цвіла... А ён памiраў...
Саша (*пасля паўзы*). Я магу паверыць, што ён так... проста так заходзіць. Але справа зусім не ў гэтым.
Ніна. А ў чым жа!..
Саша (*паўза*). Помніш, даўно гэта было — яшчэ на трэцім курсе. Я запытаўся ў цябе: што ты думаеш аб праўдзе і шчасці?
Ніна. І што я адказала?
Саша. Ты засмяялася і адказала прымаўкай: «Праўда — добра, а шчасце — лепш». Я тады прыняў гэта за жарт. Але потым...
Ніна (*насцярожана*). А потым?..
Саша. Я зразумеў, што ў гэтым тваё — самае галоўнае... Шчасце без праўды! Для мяне — адно без другога немагчыма. Не патрэбна!
Ніна. А калі разам не выходзіць?
Саша. Не выходзіць! (*Горача.*) Значыць, можна здрадзіць сяброўству, як гэта ты зрабіла з нашым...
Ніна. Не таму... Мне здавалася...
Саша. Што?!
Ніна. Здавалася... што я... люблю яго...
Саша (*іранічна*). Здавалася!..
Ніна. Не ведаю... Я, відаць, памылілася... Не атрымалася... бывае ж так...



Саша. Са мной не атрымалася! З ім не атрымалася!.. Проста ты... здрадзіла! Так, здрадзіла аднаму каханню, потым — другому. (*Махнуўшы рукою.*) І... трэцяму здрадзіш!
Ніна (*у вялікім хваляванні, гнеўна*). Чаму ты так гаворыш? (*Праз слёзы.*) Чаму?!.
Саша (*ціха*). Вялікае каханне... У вялікім жыцці... А ты... Не ўмееш шанаваць каханне!.. Не ўмееш берагчы!..
Ніна. Але ў мяне... былі... былі пачуцці...
Саша (*цвёрда*). Розныя бываюць пачуцці і рознае... каханне! (*Летуценна, усхвалявана.*) Аб гэтым я напішу... абавязкова напішу!.. (*Узрушаны, забыўшы на прысутнасць Ніны, ён выняў сваю запісную кніжку, штосьці прачытаў моўчкі, а потым уголас.*) «... У хаосе гэтых гукаў ён пачаў адрозніваць мелодыю кахання — кахання шчодрага і багатага, радаснага і натхнёнага, вялікага і вернага...»

Саша паклаў у кішэню запісную кніжку і задумаўся. Нейкі момант абое маўчаць.

Саша (*задумаўшыся*). Я ведаю... ёсць іншае... (*Зірнуўшы на Ніну.*) ...ёсць песенькі джаза, танга! Любоўныя факстроты!.. Яны абуджаюць жаданні, выклікаюць пачуцці!.. Яны таксама... даюць радасць... Але гэта ўсё не маё.
Ніна (*холадна*). Ты хочаш сказаць, што гэта — маё?
Саша. Так. Тваё!

Уваходзіць Бахрушаў. Ён вельмі ўзбуджаны. Падыходзіць да чамадана, укладвае рэчы.

Саша. Што, Яўген Барысавіч?!
Бахрушаў. Ну і шэльма!.. Ну і шэльма!.. Павярнуць усё так, быццам не ён у гэтым вінаваты.
Саша. Пра каго вы?
Бахрушаў. З'явіўся ў газеце артыкул дацэнта Салаўёва... пра мыльныя бурбалкі ў інстытуце Карбановіча.
Саша. Калі гэта?
Бахрушаў. Аказваецца, на тым тыдні. Я толькі цяпер прачытаў. Гарком заняўся праверкай. Усё — ліпа. Ніякай навуковай работы няма.
Саша. А калі яна ў яго была?!
Бахрушаў. Нас выклікалі разам. Успомнілі і маю гісторыю. Такое там было цяпер у гаркоме! І, як заўсёды, — нічога не прызнае. Валіць усё на намесніка па навуковай частцы. Тут бы і расказаць мне пра ўсе яго інтрыгі...
Саша. Вы ж расказалі?
Бахрушаў. Расказаў. Але Лінчэўскі!.. (*Задумаўшыся.*) Як яго прымусіць раскрыцца?..
Саша. Не, ад яго вы, бадай, нічога не дачакаецеся.

Званок. Саша ідзе ў пярэднюю і вяртаецца.

Саша (*да Бахрушава*). Вось! Лёгкі на ўспамін. Ніна! Да цябе прыйшлі. (*Віктару.*) Калі да Ніны, то яна там.
Віктар. Не! (*Да Бахрушава.*) Я да вас! Вы мне патрэбны!
Бахрушаў. Я, вам?
Віктар. Так, мне. (*Прысеўшы.*) Сволач, паскуднік, падлюга! Не, таварышы, вы зусім не ўяўляеце, які гэта гад!
Саша. Можа, ты ўсё-такі толкам растлумачыш нам?

В і к т а р. Глытае людзей, вокам не міргнуўшы. Дацэнта Салаўёва ведаеце?

Б а х р у ш а ў. Ведаю. Гэта ж яго артыкул пра мыльныя бурбалкі.

В і к т а р. Дык вось, ад гэтага Салаўёва праз пару дзён рожкі ды ножкі застануцца. Толькі што сваімі вачамі дакладную Карбановіча чытаў! Хм! Іакаў — муж вучоны! Брат Іуды! Такое піша!.. Куды там ваша справа! Пасыпаліся такія ягадкі!.. Даволі! Гадаў душыць трэба! Спальваю караблі! Няхай мяне ў шыю! Няхай да цёткі! У Саратаўскую глуш! За 600 рублёў у месяц саплякам насы падціраць!.. Але больш не магу маўчаць! Хадзем!

Б а х р у ш а ў. Куды?

В і к т а р. Скажу ўсё.

С а ш а. Значыць, ты ўсё-такі ведаеш, хто ўзяў пакет?

В і к т а р. Чаму ж не ведаць!

С а ш а. А чаго ж ты маўчаў? Га? Столькі часу маўчаў...

В і к т а р. Чаго?! *(Шалёна глядзіць на іх, потым, раптам раз'юшана, усхвалявана.)* Ды таму, што я сам, разумееце, сам меў дачыненне да гэтай бруднай гісторыі!..

Усе здзіўлена глядзяць на яго.

В і к т а р. Чаго вочы павылуплівалі? Не пазналі?.. *(Да Бахрушава.)* Я зусім не хацеў тапіць вас. Разумееце — не хацеў, хоць вы і не вельмі ў маім гусце... У мяне і думкі такой не было. Я чэсна кажу, я знайшоў пакет, хацеў вам вярнуць... Але ён угаварыў мяне... пераканаў, што я павінен аддаць пакет яму. Я думаў... Я быў упэўнены... ён вам аддасць... А ён... Ну, пасля я зразумеў, што я сволач, але я думаў тады... усе сволачы, то і я магу быць сволаччу... Наогул, мне была непрыемнай уся гэта гісторыя. А цяпер... усё! Кончана! Хадзем!

Б а х р у ш а ў. Не, Лінчэўскі! Калі я вас зваў, вы не ішлі. Цяпер самі ідзіце.

В і к т а р. А што ж? І пайду!

С а ш а *(радасна)*. Таварышы! А ўсё ж такі будзе ён чалавекам!..

В і к т а р. А хто ў гэтым сумняваецца?! *(Выходзіць.)*

Б а х р у ш а ў *(усміхнуўшыся)*. Шалапут. *(Ідзе за ім.)*

Саша праводзіць Бахрушава ў пярэднюю і вяртаецца.

С а ш а *(радасна)*. Цяпер Карбановіч не выкруціцца! Не!.. *(Да Тані.)* Пойдзм?

Т а н я *(каля акна)*. Дождж пачынаецца... Глядзі, як абклала...

С а ш а. Нічога... Да вас дабяжым... *(Узяўшы яе за руку, не адразу.)* Пойдзем?

Ціха, потым усё з большым і большым шумам паліў дождж. Ніна паглядзела на Сашу, на Таню, апусціла галаву і выйшла.

Т а н я *(да Сашы)*. Вось... Прыдзецца пачакаць... *(Паўза.)* Дык аб чым ты хацеў параіцца?

С а ш а. Мне сёння прапанавалі работу ў маладзёжным часопісе... Работа вельмі цікавая...

Т а н я. І ты яшчэ не адказаў?

С а ш а. Не. *(Рашуча.)* Не хацеў гаварыць, пакуль не вырашыцца... наша галоўнае...

Т а н я. Пасля ўчарашняй размовы... я ўсю ноч не спала... думала... *(Хвалюючыся.)* Баюся, што ты... проста прывык, што табе здаецца...



С а ш а *(перабіваючы)*. Але ж...

Т а н я. Пачакай... Я хачу, каб усё было сапраўднае і адмерана поўнаю мерай.

С а ш а. Значыць?!

Т а н я *(заплюшчыўшы вочы)*. Я пакуль паеду... А ты... Ты павінен застацца... Ты застанешся. І калі ты пераканаешся, што я, толькі я... патрэбна табе... тады...

С а ш а *(глядзіць на яе з радасцю)*. Па-першае, я тут не застануся. Я паеду з табою ў Заполле... *(Бярэ яе за руку.)* А па-другое...

Уваходзіць цётка Вара.

Ц ё т к а В а р а. Як вы думаеце, прымуць яго зноў у партыю, ці не?

С а ш а *(пасля паўзы)*. Прымуць. *(Цвёрда.)* Абавязкова прымуць!

Ц ё т к а В а р а *(падышоўшы да акна)*. А дождж які... буйны, навальнічны... Проста на душы лягчэй стала!.. Такі дождж... ён хутка пройдзе. Усё асвяжыць, усё змые!..

Бліскае маланка. Чуваць далёкі раскацісты гром.

З а с л о н а



## ПЕСНЯ ВЕЧНА МАЛАДАЯ

**Да 60-годдзя з дня нараджэння М. Ісакоўскага**

У 1928 годзе Маскоўскае дзяржаўнае выдавецтва выпусціла ў свет першую кнігу вершаў Міхаіла Ісакоўскага «Правады ў саломе», а неўзабаве газета «Известия» надрукавала рэцэнзію на яе, прысланую Аляксеем Максімавічам Горкім з Італіі, з Сарэнта.

«Вершы ў яго простыя, харошыя, вельмі хвалююць сваёй шчырасцю», — пісаў пра маладога паэта Горкі.

З тае пары прайшло шмат год. Міхаіл Ісакоўскі стаў адным з самых папулярных, самых любімых паэтаў у нашай краіне. Усенародную любоў і прызнанне паэзія Ісакоўскага заваявала якраз тымі сваімі якасцямі, якія адкрыў у ёй Горкі, — глыбокай шчырасцю і па-народнаму мудрай прастатой. Яна песняю ўвайшла ў людскія сэрцы і навек пасялілася ў іх. На ўвесь свет славутая «Кацюша», гераічная «Развітальная камсамольская», пранікнёныя, лірычныя «Аганёк», «Адзінокі гармонік», «Ой, туманы мае, растуманы», «Пад зорамі балканскімі»... — хто не ведае і не любіць гэтыя песні! Колькі выпелася словамі паэта людской радасці і смутку, колькі выказана самага невыказнага і запаветнага. Ці не таму народная памяць падаравала яго песням даўгавечнасць песень народных, заўсёдную маладосць.

**Міхаіл ІСАКОЎСКІ**

# НАПІСАЎ БЫ ВЕРШ Я...

**Фельетон**

**Прысвячаецца тым пачынаючым паэтам, якія ўсе свае надзеі ўскладаюць на дапамогу літаратурных кансультацый і якія самі, на жаль, не працуюць над сабой колькі-небудзь сур'ёзна.**

Напісаў бы верш я пад натхненнем
І паслаў бы тут жа друкаваць.
Толькі вось задача: трэба ўменне,
Трэба ведаць, як яго пачаць, —



Як пачаць, і чым дапоўніць строфы,
І якой канцоўкай завяршыць...
Быць бы, здэцца, маладзейшым трохі,—
Я, напэўна б, проста мог рашыць.

Я пайшоў бы, скажам, у часопіс,
Як другія, з пухам на губе,
Што за кожны свой няўдалы опус
Дакараюць іншых—не сябе.

Я б сказаў: «Нічога не выходзіць,
Хоць ужо і ладны маю стаж,—
Ані з месца талент, бо падводзіць
Кансультант літаратурны ваш.

Ён не хоча падказаць адразу,
Не ўтлумачыць ясна аніяк,
Дзе якую трэба ставіць фразу,
Дзе які дарэчы будзе факт,

Дзе якія вобразы, ідэі
Адмаўляць патрэбна ці сцвярджаць,
Дзе падыдуць — як іх там? — харэі,
Дзе з харэем лепей пачакаць...

Так ільга зусім адбіць ахвоту:
Самі, бач, дайдзіце да ўсяго...
Ну, а ён, цікава, для чаго тут?
Мы, ці што, рабіцьмем за яго?!

Ён жа тут, нябось, па абавязку,
І калі пастаўлены якраз
Дзеля гэтага,
хай мае ласку —
Увядзе ў літаратуру нас!..»

І яшчэ б падсыпаў слоўцаў едкіх...
Зрэшты, не! Даруйце — нахлусіў.
І ў юнацтве нават скаргаў гэткіх
Я нікуды, братцы, не насіў.

Я пісаў яшчэ і горш, прызнацца,
Толькі свой уласны шлях шукаў
І на мудрасць розных кансультацый
Спадзяванні дужа не ўскладаў.

Сам пісаў я, і калі нічога
Не выходзіла з патуг маіх, —
Дакараў заўжды сябе самога
І ніколі не ўпікаў другіх.
Не чужым я працаваў уменнем,
А сваё па каплі запасаў...

---

Напісаць бы верш мне пад натхненнем,
Ды, здаецца, я ўжо напісаў.

Пераклаў з рускай мовы Ніл Гілевіч.

# РАЗВЕДЧЫКІ БУДУЧЫНІ

У канцы снежня лепшыя прадстаўнікі 600-тысячнага атрада ленінскага камсамола Беларусі сабраліся на XXI з'езд, каб абмеркаваць вынікі сваёй работы, намеціць далейшыя задачы па выхаванню падрастаючага пакалення.

Жыццерадасная, вясёлая моладзь задоўга да пачатку з'езда запоўніла прасторную залу Мінскага Дома афіцэраў. Першыя знаёмствы. Моцныя поціскі рук. Шчырыя, сяброўскія ўсмешкі. Гарачыя спрэчкі. І ўсюды размовы аб справах, аб поспехах у працы. Многія з дэлегатаў з'езда даўно ведаюць адзін аднаго. Тым цікавей ідзе размова. Трэба распытаць пра ўсё, каб потым можна было расказаць сваім сябрам аб сакрэтах дасягненняў маладых герояў працы.

А іх на з'ездзе прысутнічала не мала. 39 чалавек, якія заваявалі ганаровае званне ўдарнікаў камуністычнай працы, былі выбраны дэлегатамі з'езда. Сярод іх даярка Ніна Коўзік з калгаса «Перамога» Гомельскага раёна, машыніст Анатоль Шабуняеў з Жлобіна, станочніца Валянціна Дворык з Мінскага аўтазавода і іншыя. Гэта тыя разведчыкі, якія смела пракладваюць дарогу ў камуністычную будучыню.

10 гадзін раніцы. Пад гукі ўрачыстага марша на сцэну ўносіцца сцяг камсамольскай арганізацыі рэспублікі. XXI з'езд адкрыт.

З увагай слухаюць дэлегаты прывітанне ЦК Камуністычнай партыі Беларусі дваццаць першаму з'езду ЛКСМБ, якое зачытвае сакратар ЦК КПБ таварыш П. Машэраў.

Цэнтральны Камітэт КПБ даў высокую ацэнку дзейнасці Ленінскага камсамола рэспублікі, выказаў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што Ленінскі камсамол, юнакі і дзяўчаты рэспублікі, як і ўся савецкая моладзь, яшчэ цясней згуртаваўшыся вакол Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, унясуць свой дастойны ўклад у справу датэрміновага выканання сямігадовага плана, аддадуць усе свае сілы і энергію, усе свае здольнасці вялікай барацьбе за светлую будучыню, за камунізм.

Апладысменты, што доўга не змаўкалі ў зале, сведчылі аб гарачай удзячнасці моладзі нашай Камуністычнай партыі за няспынныя клопаты і ўвагу. Яны гаварылі і аб тым, што моладзь з чэсцю выканае пастаўленыя перад ёю задачы, што яна, смелая і няўрымслівая, гатова на новыя подзвігі. У гэтых дружных воплесках адчуваўся поступ тысяч энтузіястаў — пакарыцеляў цаліны і таёжных рэк, поступ адважных заваявальнікаў космасу.

На гэтым з'ездзе не адчувалася ўрачыстай парадпасці, якая часам бывае на такіх вялікіх сходах. Дэлегаты сур'ёзна, па-дзелавому расказвалі аб працы моладзі, аб яе поспехах, уносілі цікавыя, разумныя прапановы. Адчувалася, што яны моцна зацікаўлены не толькі нейкімі сваімі вузка маладзёжнымі справамі, але і агульнанароднымі. Пісьменныя, культурныя, тэхнічна адукаваныя юнакі і дзяўчаты—дэлегаты з'езда выступалі як сапраўдныя гаспадары. Калі ў адказ на заклік партыі яны бралі на сябе абавязацельствы, адчувалася, што гэта не проста прыгожы жэст, а важкае слова людзей, якія ўсё абдумалі, усё ўзважылі.

Першы год сямігодкі закончаны паспяхова. Радасцю напаўняюцца сэрцы савецкіх людзей. Наш малаткасты, сярпасты вымпел прылуніўся на Месяцы. Штучная касмічная планета прадаўжае свой шлях вакол Сонца. Спушчаны на ваду атамны ледакол імя вялікага У. І. Леніна. А над зямлёй пасля паездкі М. С. Хрушчова ў ЗША павявае цёплы вецярок аслаблення міжнароднай напружанасці. Другі год сямігодкі — гэта ведае кожны — прынясе новыя поспехі. І кожны ведае: каб яны былі, трэба добра працаваць, добра вучыцца, авалодваць тэхнікай. І можа ўжо к наступнаму з'езду чалавек у ракеце абляціць Месяц і вернецца на Зямлю, раскажа людзям аб тым, што бачыў у бездані космасу, што адчуваў і што трэба зрабіць, каб высадзіцца на іншай планеце. А для таго, каб гэта здзейснілася, моладзь добра разумее, — трэба ўздымаць жывёлагадоўлю, змагацца за эканомію і беражлівасць, хутчэй і лепш будаваць дамы, берагчы тэхніку — жыць і працаваць па-камуністычнаму.

Цяпер дэлегаты з'езда, усе камсамольцы і моладзь пачалі нястомную барацьбу за вырашэнне тых задач, што паставіў перад імі Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і з'езд камсамола. Яны поўны рашучасці ажыццявіць гэтыя задачы.



Група дэлегатаў XXI з'езда ЛКСМ Беларусі: сяржант Віктар Мароз, дэпутат Вярхоўнага Савета Саюза ССР, Герой Сацыялістычнай Працы паравозны машыніст дэпо Жлобін Віктар Шабуняеў, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР свінарка калгаса імя Калініна Валожынскага раёна Маладзечанскай вобласці Галіна Карабан, сакратар камітэта камсамола будаўніцтва Салігорскага калійнага камбіната Уладзімір Трайнёў, артыстка Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янука Коласа Людміла Старадумава і работніца цэха камуністычнай працы віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» Марыя Белякова.

Фота А. Дзітлава.

*Дарогамі сямігодкі*

Уладзімір ДАДЗІЁМАЎ

# КАЛІ ДУШОЙ БАГАЦЕЕШ

### З блакнота пісьменніка

Я атрымаў невялічкае пісьмо. Чытач з далёкага паўночнага горада пытаецца пра лёс герояў рамана «Над Нёманам», пра тое, як жывуць і працуюць сёння Ніна Дземех, Ядзя Рачынская, ці знайшла шчасце з Сяргеем Ясным дачка дырэктара тонкасуконнага камбіната Люба Пятрова. І хоць за наіўнымі пытаннямі паўстае воблік не надта спрактыкаванага ў «сакрэтах мастацтва» чалавека, але якраз вось гэтая наіўнасць, шчырасць, вера ў рэальнае існаванне герояў больш за ўсё хвалююць мяне. Можа таму, што сам я, доўгі час працуючы над творам, сэрцам зжыўся з героямі, якія для мяне асабіста даўно ўжо сталі жывымі, рэальнымі людзьмі. Здаецца часам, варта толькі паехаць у Гродна, павандраваць па вуліцах гэтага цудоўнага горада, выйсці да Нёмана, на высокім беразе якога раскінуліся карпусы тонкасуконнага камбіната, як напаткаеш дарагіх твайму сэрцу людзей: і таго ж Аркадзя Мацвеевіча Пятрова, і тую ж Ніну Дземех, і таго ж Міхася Яснага. Здаецца, убачыш іх, паціснеш сяброўскія рукі і адразу закідаеш бясконцымі пытаннямі пра сённяшняе жыццё.

Вось чаму кожны раз, прыязджаючы ў Гродна, ідучы на тонкасуконны камбінат, адчуваеш радаснае хваляванне: што ж сталася з дарагімі дружбакамі? Так было і ў тую паездку, пра якую хочацца тут расказаць.

...Калі я познім вечарам выехаў з Мінска, на дварэ быў ладны марозец, а сышоўшы раніцою з цягніка ў Гродна, трапіў пад дождж, па-вясенняму цёплы і па-асенняму нудны. Быў канец лістапада. У Мінску ўсталявалася зіма з раннімі завірухамі і вялізнымі — абапал дарог — сумётамі, а тут, у Гродна, туманы злізалі першы снег, дарогі расквасіла. Раніца была шэрай, волкай, але неўзабаве з-пад хмар глянула сонца, і адразу пасвятлеў, памаладзеў старажытны горад. Той, хто аднойчы пабываў у гэтым своеасаблівым горадзе, не можа без хвалявання ўспамінаць яго. Для мяне ж ён наогул бясконца дарагі, а калі моцна любіш — бачыш толькі харошае і вока цешыць тое новае, чаго не было ў тыя гады, калі я жыў тут: і новыя жылыя будынкі, і нядаўна адкрыты універмаг, і толькі што пабудаваны (заўтра адкрыццё!) Палац культуры тэкстыльшчыкаў.



Сёння амаль што немагчыма ўявіць Гродна без тонкасуконнага камбіната, і не дзіўна, што адзін з бадай што найпрыгажэйшых будынкаў горада — Палац, які велічна ўзняўся на цэнтральнай плошчы, належыць тэкстыльшчыкам.

Вось і Нёман, вось і знаёмыя карпусы тонкасуконнага камбіната. Я быў тут упершыню амаль дзесяць год назад, калі тыя, хто сёння з'яўляецца ветэранамі прадпрыемства, яго гісторыяй, гордасцю, славай, толькі-толькі пачыналі свой працоўны шлях. Павел Куляшоў, Іван Мінюк, Тацяна Сімчук, Ніна Скавародзіна, Зінаіда Жулёва, Лідзія Мялеша, Элеанора Новікава. Амаль усе з ткачых носяць цяпер новыя прозвішчы — па мужу, і ўсё ж прыемна ўспамінаць тыя, ранейшыя, знаёмыя імёны людзей, чыё жыццё, высакародныя справы ўсхвалявалі мяне, усадзілі за пісьмовы стол. І пазней, неаднаразова сустракаючы іх, я радаваўся поспехам, якія з году ў год здабывалі гэтыя людзі.

Яшчэ ў Мінску я пачуў пра выключныя справы гродзенскіх тэкстыльшчыкаў — многія з іх дасягнулі прадукцыйнасці, запланаванай на апошні год сямігодкі, увесь калектыў камбіната змагаецца за званне прадпрыемства камуністычнай працы. Многія тэкстыльшчыцы ўжо заваявалі ганаровыя званні ўдарніц камуністычнай працы, высокага гонару называцца калектывамі камуністычнай працы ўдастоена некалькі брыгад, у тым ліку і тая, якую ўзначальвае мой добры знаёмы, вельмі арыгінальны чалавек Іван Мінюк.

Апошняе мяне асабліва ўзрадавала, бо я быў сведкам «узлётаў і падзенняў» Івана Мінюка, і тая акалічнасць, што менавіта яго брыгада — першая і пакуль што адзіная ў ткацкім цэху — удастоена звання брыгады камуністычнай працы адкрывала новыя рысы характару гэтага няўрымслівага чалавека. Уласна кажучы, вестка аб прысуджэнні звання брыгады камуністычнай працы і нарадзіла жаданне ўбачыць «віноўніка ўрачыстасці» Івана Мінюка, бо я адчуў, што менавіта ён, Мінюк, дапаможа знайсці адказ на тое, што цікавіць і хвалюе мяне — новыя рысы рабочага.

Чым жа адрозніваецца ўдарнік камуністычнай працы ад ранейшага стаханаўца? «Тэарэтычна» можна даць безліч адказаў, але мне хацелася знайсці канкрэтнае пацверджанне на прыкладах з жыцця і дзейнасці знаёмых людзей. Вось чаму, ідучы на камбінат, я перабіраў у памяці ўсе свае сустрэчы з Іванам Мінюком, думаў пра незвычайны лёс гэтага чалавека. Карцела хутчэй убачыць яго. І можа таму, што карцела, першым чалавекам, якога я напаткаў на камбінаце, і быў Іван Мінюк. Толькі я адкрыў дзверы партбюро, як тварам у твар сутыкнуўся з ім і Паўлам Куляшовым. Абодва яны спяшаліся ў цэх.

Я затрымаўся ў партбюро, дамовіўшыся з Мінюком сустрэцца ля яго камплекта. І вось парторг ужо з адкрытым задавальненнем «уводзіць мяне ў курс» апошніх падзей на камбінаце. Падзеі сапраўды знамянальныя — высокія паказчыкі ў працы, духоўны рост людзей. Ад «лічбаў і фактаў» Рыгор Ануфрыевіч Філімонаў пераходзіць да канкрэтных людзей, і зноў першы, аб кім ідзе гаворка, — Іван Мінюк. Лёс брыгадзіра непарыўна звязаны з партыйнай арганізацыяй, і хто-хто, а парторг камбіната ніколі не быў абыякавым да гэтага лёсу.

Дык што ж здарылася з Іванам Мінюком?

### Старонкі з біяграфіі

Яго юнацтва прайшло ў няволі — у горы, пакутах, здзеках. А юнацтва без радасці і святла — не юнацтва. Сыну беластоцкага селяніна Вані Мінюку было пятнаццаць гадоў, калі пачалася вайна. Ваня быў не па гадах высокі, ду-

жы хлопец, асілак, і, як толькі гітлераўцы пачалі вывозіць моладзь у Нямеччыну, яго схапілі адным з першых.

І загрукаў па бясконцых дарогах цягнік з нявольнікамі. Больш за ўсё любіў Ваня прастор, сонца, волю і цяпер, пазбаўлены ўсяго гэтага, прагнуў волі, як ніколі, горача і моцна. «Усё роўна ўцяку», — даў ён сабе клятву, самотна пазіраючы з акенца цяплушкі на бясконцыя прасторы палёў. Ён ажыццявіў клятву, але не так хутка, як хацелася, і не так удала, як марылася.

Пра пакуты ў фашысцкай няволі многа напісана, многа расказана. Шмат перанёс тых пакут і Ваня Мінюк. Дзе толькі ні быў ён, якіх толькі здзекаў не пазнаў. І голад, і холад, і абразу, і бізун. Цярпеў і Ваня, бо цяплілася пад сэрцам надзея, прагная мара аб волі. Трэба было перахітрыць ахову, наглядчыка, гаспадара. Трэба было дачакацца зручнага выпадку. І Ваня дачакаўся. Ён працаваў у гаспадара, надта пільнай аховы тут не было. Мара ажыццявілася.

Дарога на радзіму была доўгай і небяспечнай. І ўсё ж хоць ішоў Ваня па чужой зямлі, крадучыся і азіраючыся, але тая ж мара аб волі надавала сілы. Калі да родных мясцін засталося не так ужо і далёка — Ваня дайшоў да Літвы — яго схапілі.

І зноў пачаліся пакуты. Канцэнтрацыйны лагер, голад, бізун гаспадара. І зноў планы аб уцёках. І зноў няўдача.

Так у няволі прайшло юнацтва. Вызваленне надышло, калі да канца вайны заставалася яшчэ некалькі месяцаў. Іван Мінюк папрасіў, каб яго ўзялі ў Савецкую Армію — і за тры месяцы можна адпомсціць за здзекі. Ён стаў разведчыкам. Медалі, шматлікія падзякі камандавання — красамоўныя адзнакі тых дзён.

А потым — дэмабілізацыя. У Мінюка не было ні адукацыі, ні прафесіі. Былі ў яго толькі дужыя рукі і кемлівы розум. Ён прыехаў у Гродна і пайшоў працаваць на тонкасуконны камбінат. Быў Ваня Мінюк на дзіва рахманым, сціплым хлопцам, кожную работу выконваў старанна, з душой і неўзабаве з рабочага-рамонтніка стаў памочнікам майстра, кіраўніком брыгады ткачых.

Так пачалася новая старонка ў яго біяграфіі.

### Узлёт

Я пазнаёміўся з Іванам Мінюком, калі да яго прыйшла багатая працоўная слава. Было гэта гадоў сем назад. Мне, карэспандэнту, даводзілася часта бываць на адным з найбольш цікавых прадпрыемстваў горада — тонкасуконным камбінаце. Там ужо склаліся свае працоўныя традыцыі, хоць камбінат і быў пабудаваны ў пасляваенныя гады, нарадзіліся свае героі. Памятаю, у ткацкім цэху асабліва вызначалася брыгада памочніка майстра Паўла Куляшова. Скончыўшы Клінцоўскі тэкстыльны тэхнікум, Куляшоў узначаліў брыгаду ткачых з учарашніх выпускніц школы ФЗН і за кароткі тэрмін дабіўся сапраўды зайздросных вынікаў. Камсамольска-маладзёжная брыгада Паўла Куляшова была не толькі лепшай на камбінаце, але і слыла ініцыятарам разнастайных, вельмі каштоўных пачынанняў па далейшаму павышэнню прадукцыйнасці працы. Вось чаму Павел Куляшоў стаў «знаходкай», «каштоўным скарбам» для журналістаў — яго імя не пакідала старонак газет. Малады брыгадзір быў не з ганарлівага дзесятка, слава не ўскружыла яму галавы; чым далей, тым усё большых і большых поспехаў дабіваўся ён. Пазней Павел Куляшоў быў прызначаны начальнікам ткацкага цэха, а Іван Мінюк у той час стаў брыгадзірам.

Кіраўніцтва камбіната мела пэўныя падставы, каб даручыць лепшую ткацкую брыгаду Мінюку — ведалі, што ён прадоўжыць слаўныя традыцыі брыгады. Хоць хлопец і параўнальна нядаўна прыйшоў на камбінат, але паспеў ужо заваяваць аўтарытэт сваёй стараннай працай, сціпласцю, шчырай адданасцю справе. Асабліва ж вызначыўся Мінюк, як смелы, дасціпны рацыяналізатар — нібы нарадзіўся ён таленавітым вынаходнікам. Яшчэ да таго, як узначаліць славутую брыгаду, праславіўся Мінюк каштоўным вынаходніцтвам — разашукальнікам. Тады якраз і адбылося наша першае знаёмства.

Памятаецца, я прыйшоў на камбінат, каб сабраць матэрыял аб лепшых рацыяналізатарах. Мне параілі пагаварыць з Іванам Мінюком — яго шматлікія прапановы прыносяць вялікую карысць прадпрыемству, і асабліва — разашукальнік.

Мы сустрэліся ў ткацкім цэху. Іван Мінюк рамантаваў станок. Працаваў ён хутка, прыгожа, з той лёгкасцю, якая бывае ў спрактыкаванага чалавека. Праўда, ён крыху бянтэжыўся ад таго, што за ім назіраюць.

Калі скончыў працу, мы разгаварыліся. Гэта быў высокі, стройны хлопец, шчыры, сціплы. Пра сваё жыццё ён расказваў неахвотна — мінулае было нялёгкім, раны яшчэ не зажылі, не хацелася вярэдзіць іх. Але вось наступіў я на «любімы мазоль» — пачаў распытваць пра «разашукальнік» — і хлопец, як кажуць, аж зазззяў увесь. Ахвотна і падрабязна ён расказваў пра тое, як узнікла думка аб разашукальніку. На многіх ткацкіх станках не было гэтага каштоўнага прыстасавання і ткачыхі ўручную шукалі «раз» — абарваную нітку. Можна ўявіць, колькі траціла ткачыха часу — аперацыя гэтая часта паўтараецца. Не дзіва, што на тых станках, дзе былі аўтаматычныя «разашукальнікі», працавалася лягчэй і прадукцыйнасць працы была вышэйшая. Вось і ўзнікла думка — зрабіць свой уласны «разашукальнік».

— Ну і... зрабіў, — закончыў расказ Мінюк.

Прыстасаванне паслалі ў Мінск,





**Спакойна, удумліва наглядае Іван Мінюк за работай ткацкай машыны.**

Фота А. Дзітлава.

яго ўхвалілі. Іван Мінюк атрымаў вялікую грашовую прэмію. Новыя разашукальнікі ўстанавілі на тых станках, дзе іх не было. «Разашукальнік Івана Мінюка» — так і назвалі на камбінаце гэтае каштоўнае прыстасаванне.

Пазней я часта сустракаў Івана Мінюка — на камбінаце, на злётах перадавікоў вытворчасці, у студыі абласнога радыё. Яго брыгада была найлепшай на камбінаце, усё новыя і новыя рацыяналізатарскія прапановы Івана Мінюка ўкараняліся ў вытворчасць. Але ён адчуваў, што не хапае ведаў, і паступіў у вячэрнюю школу. Пра яго пісалі газеты, з пашанай гаварылі на сходах. Да хлопца прыйшла заслужаная слава. Яго прынялі ў партыю. Уладкаваліся і сямейныя справы. Ён ажаніўся на добрай дзяўчыне. Бацькі Івана Мінюка жылі на Беласточчыне. Хлопец доўгія гады быў пазбаўлены сямейнага цяпла і цяпер, завёўшы сваю ўласную сям'ю, асабліва востра адчуў сапраўдную чалавечую радасць. То быў цудоўны ўзлёт. Шчырае каханне, павага, матэрыяльны дастатак. Жыццё наладзілася.

## Падзенне

Я доўгі час не быў на камбінаце. Аднойчы пачуў дзіўную навіну: «Мінюк кінуў камбінат, паехаў у Мінск на камвольны, закружыла хлопца».

...Слава акрыляе чалавека. Слава і псуе. Усё залежыць ад таго, як паставіцца да яе. Я ведаю людзей вялікай славы і разам з тым вялікай сціпласці. Шырокае прызнанне з'яўляецца для іх стымулам для яшчэ лепшай працы. Чым большае прызнанне — тым лепшыя вынікі ў працы. І — нязвычайная прастата, сціпласць.

Так было і з Іванам Мінюком. Але пахіснуўся і ён. Пачалося з чаркі. Грошы, воплескі, пашана. Часам і цвярозая галава закружыцца, а пра хмяльную ўжо і гаварыць не прыходзіцца. Закружылася галава ў добрага хлопца Вані Мінюка. Ды так закружылася, што нават на работу «пад градусам» прыходзіў.

Адзін раз даравалі, другі — таксама, падумаўшы, што ўмеюць у нас часам мядзведжыя паслугі аказваць «знатным» ды «славутым», а за трэцім разам не сцярпелі, праўду ў вочы сказалі: «Зазнаўся ты, дружа, бярыся за розум, пакуль не позна». Сказалі тыя, хто ў людзі яго вывеў — камуністы, сапраўдныя сябры. Толькі былі ў Івана Мінюка на той час і іншыя «сябры» — па чарцы. Тыя ведалі балючае месца хлопца — хваравітае самалюбства і гудзелі яму ў вушы: «Не звяртай увагі, Ваня, ты ж найпершы, найлепшы».

Так прадаўжацца доўга не магло. Яго выклікалі ў партыйнае бюро. І тыя, сапраўдныя сябры-камуністы, што прымалі яго ў партыю, што выгадавалі яго, вывелі на шырокую дарогу, сурова, з болем і клопатамі аб чалавеку, сказалі Мінюку горкую праўду, моцна папярэдзілі.

Тады «ўзгарэўся» хлопец — «п-а-адумаеш, абыйдуся і без камбіната. Залатым рукам усюды знойдзецца работа». Ён так часта чуў гэты «паэтычны эпітэт», што сам паверыў у вялікую каштоўнасць сваіх рук.

Мінюк напісаў заяву аб звальненні з работы. Магчыма, гэта было позай — не адпусцяць, думаў. Але яго адпусцілі.

— Калі не шануеш роднага прадпрыемства, тых, хто ўзгадаваў цябе, — едзь, — сказалі яму ў партбюро і знялі з уліку.

Балюча паласнулі па сэрцы тыя словы. Але недзе яшчэ цяплілася надзея — у гаркоме не знімуць з уліку.

Сакратар гаркома партыі сапраўды здзівіўся — лепшы наватар, «гонар камбіната», ды раптам пакідае прадпрыемства. Ён пазваніў Філімонаву. Той сказаў:

— Няхай едзе. Вернецца.

І дадаў:

— Ёсць сумленне — вернецца. А не. Што ж... Выходзіць, памыліліся...

Праз два месяцы Мінюк вярнуўся на камбінат. Ён не прасіў прабачэння, не каяўся. Сказаў толькі:

— Пастаўце на самы адстаючы камплект.

Ён быў нейкі час «падменным» памочнікам майстра, а потым атрымаў брыгаду — не сваю, ранейшую, а другую, адстаючую. Так патрабаваў сам Мінюк. Было гэта восенню 1957 года.

...А праз два гады, напярэдадні свята Вялікага Кастрычніка, брыгадзе Івана Мінюка першай у ткацкім цэху прысудзілі званне калектыву камуністычнай працы.

## Зноў узлёт

Вось і ўся гісторыя — інфармацыйны, як кажуць, пералік падзей. Да высокай годнасці чалавека камуністычнай працы Іван Мінюк ішоў вельмі складанай дарогай. Каб адчуць яе, трэба было зазірнуць у душу чалавека. Але ж... няёмка варушыць былое, балючае. І хоць вельмі хацелася пагаварыць, як кажуць, па душах са сваім старым знаёмым, ды бянтэжыў крышачку «інтымны» характар гэтай размовы. Як жа разварушыць хлопца?



«Варушыць» не прыйшлося. Развітаўшыся з парторгам, я пайшоў у цэх, сустрэў Мінюка ля яго камплекта, і той без «дадатковых пытанняў» адкрыў «таямніцы сваёй душы». Аб тым, што здарылася з ім, ён расказваў з лёгкай іроніяй, як аб нечым вельмі далёкім, недарэчным, нібы расказваў не пра сябе, а пра нейкага іншага чалавека, блізкага і далёкага, роднага і чужога. Я слухаў яго, імкнучыся спазнаць толькі адно — новага чалавека, параўноўваючы Мінюка «пачатку пяцідзесятых гадоў» з Мінюком канца гэтага дзесяцігоддзя.

Знешне ён вельмі мала змяніўся. Усё той жа малады, прыгожы твар, усё тая ж маладая дужасць атлета. Здаецца, нават той жа крышачку какетлівы чорны берэт на галаве. І тыя ж «залатыя рукі». (Калі я зайшоў у цэх, Мінюк праўраў новае прыстасаванне — адно са сваіх шматлікіх вынаходніцтваў.) Але гэтым «залатым рукам» не ставала ў ранейшыя гады такой жа «залатой душы», культуры. Іх «гаспадар» меў тады даволі нізкую адукацыю — не па сваёй віне, бясспрэчна. Цяпер я размаўляю са студэнтам другога курса Маскоўскага тэкстыльнага інстытута, і ў яго разважаннях адчувалася ўменне стала аналізаваць разнастайныя з'явы. З насмешкай пазіраючы на таго, ранейшага Мінюка, ён трапна і бязлітасна характарызаваў свае ўчынкі.

— Аднаго зразумець не магу — як я тады школу пакінуў, — расказваючы пра свае «выбрыкі», нечакана зазначыў Мінюк. Нечакана таму, што больш лагічна было б пачуць «камбінат пакінуў». Але Мінюк тут жа «ўнёс яснасць»: «Ну, заяву напісаў. Ясна. Амбіцыя, хмель, розум курыны. Але ж школа! Я ж у дзесяты хадзіў, і кінуў».

Ён выцягнуў сігарэту, закурыў — хвалявацца пачаў.

— Нам вось званне прысвоілі — брыгады камуністычнай працы. Можа крышачку і авансам — занадта ўжо адказнае званне. Але справа не ў гэтым. Па якіх паказчыках прысвоілі? Ну, узорная праца — гэта вядома. У нас — 114 працэнтаў плана, 99,7 працэнта гатунковасці. Высокія паказчыкі! Але і ў ранейшыя гады была неблагая праца. Што ж новага, камуністычнага? А вось — абавязковае патрабаванне, каб усе вучыліся. Мне гэта вельмі падабаецца. Вучыцца — душой багацець. Справа не толькі ў тым, што пісьменнаму чалавеку і тэхналогію лягчэй вывучыць і працаваць лягчэй. Грамата розум дае. Тут і ў сваёй, і ў чужой душы разабрацца лягчэй — хто, напрыклад, сапраўдны твой сябар, а хто так, на словах толькі. Ну, спатыкнуўся я. Не здымаю з сябе віны, не маленькі, мог бы разабрацца. Былі ў мяне сябры на той час? Хоць адбаўляй: адзін ніколі не піў. Але ж няшчыры сябар — не сябар. Ты пастаў на стол паўлітэрка ды скажы: «Не пі, Ваня. Не шкада мне гарэлкі, цябе шкада». А калі ты бачыш, што чалавек уніз коціцца, ды яшчэ падштурхоўваеш яго, — ці па глупству свайму, ці можа ад зайздрасці, — дык які ж ты мне сябар?! Я ў сваёй брыгадзе патра-



**Надышоў вечар — час, калі Іван Мінюк становіцца студэнтам-завочнікам. Побач з ім Зінаіда Іосіфаўна, яго жонка.**

бую, каб дружба была, добра працуеш — дапамагай сябру. І — каб аніякай зайздрасці, каб у цябе не толькі працэнты былі, а і душа чыстая! Бо сам нямала перажыў.

Іван Мінюк змоўк. Каб прадоўжыць размову, я асцярожна спытаўся, хто ўсё ж аказаўся сапраўдным сябрам у тую цяжкую хвіліну?

— Хто? Жонка. Не соладка ёй было — успамінаць не хочацца. Кінуў я камбінат, не дакарала яна мяне. Толькі радню сваю сабрала — нібы развітацца. Адна сястра — настаўніца, другая — доктар. Іх мужы таксама людзі культурныя. Узялі мяне ў работу — я ўжо і сам не рады, што такую кашу заварыў, але ж і памылку прызнаць — гонар не дазволіў. Паехаў у Мінск, на камвольны. Жонка з сынам у Гродна засталіся. Пакойчык зняў — жонка адразу прыехала. Не ўспамінае мінулага, хоць, кажу шчыра, — даўся я ёй. Ведала, што змарнеў я душой, па Гродна, па сыну сумую. Пра іх і ўспамінае. А потым, калі ўбачыла, што ад пыхі маёй нічога не засталося, кажа: «Пабавіліся крыху ў Мінску і хопіць, паедзем дамоў. Там у нас і кватэра добрая, і сын бацьку чакае, і людзі добрыя цябе чакаюць. Трэба ехаць, Ваня». Гэта чыста жаночая хітрасць — каб, значыцца, не я першы сваё жаданне выказаў, а нехта другі. Паехалі. Цяжка было, што і казаць, — падвёў людзей, якія верылі мне. Праўда, ніхто не дакараў. Але ж ад гэтага не лягчэй. І вырашыў я вярнуць людскую павагу. Справамі вярнуць. Папрасіў, каб далі самую слабую брыгаду. А жонка сваё — вучыся, Ваня. Усё, як кажуць, умовы стварае. Друг? Безумоўна.

І добразычліва рассмяяўся. А я адзначыў у думках, што той, ранейшы Мінюк, відаць, не знайшоў бы такіх цёплых слоў у адрас сваёй жонкі. Таму, ранейшаму, відаць, цяжка было адрозніць сапраўдных сяброў ад несапраўдных. Гэты, новы, сённяшні Мінюк умее разабрацца ў людзях. І таму знаходзіць дарожку да чалавечага сэрца. У брыгадзе — 10 чалавек. У кожнага свой характар, свае звычкі. І калі брыгада з'яўляецца ва ўсім — і па вытворчых паказчыках, і па вучобе, і па ўдзелу ў грамадскім жыцці — першай на камбінаце, то ў гэтым заслуга і брыгадзіра, яго ўменне выхоўваць людзей. Была некалі Валянціна Лядзяк недысцыплінаванай работніцай — грубай, эгаістычнай. Іван Мінюк зрабіў так, каб на яе ўздзейнічала ўся брыгада. А колькі душэўнага, цёплага ва ўзаемаадносінах паміж членамі брыгады! Радасць аднаго чалавека — радасць для ўсіх, гора аднаго чалавека — гора для ўсіх.

— А як жа інакш, — зазначае Мінюк. — Душой багацець — гэта галоўнае. Тады ўсё будзе — і прадукцыйнасць, і перавыкананне норм, і выдатная тканіна. Мы амаль усю прадукцыю выпускаем першым гатункам — 99,7 працэнта ў сярэднім па брыгадзе. Гэта — высокая культура працы. Ды не толькі працы. Рост агульнай культуры. Вось што галоўнае.

Я слухаў Івана Мінюка і адчуваў новы ўзлёт — узлёт душы яго. Пры такім узлёце падзення не бывае...



**Надзя Чарныш з брыгады І. Мінюка наткала звыш гадавога плана амаль 2 тысячы метраў высокагатункавых тканін.**



### Вабяць новыя рубяжы

Новы ўзлёт!

Вось што характэрна для сённяшняга дня калектыву тонкасуконнага камбіната. Узлёт, які выключае ўсялякія падзенні, бо рысы новага, камуністычнага неадольна ўваходзяць у жыццё, працу, побыт многіх і многіх людзей. Гэта асабліва выразна адчуваеш, калі параўноўваеш учарашні і сённяшні дзень камбіната. Так, правільна сказаў Іван Мінюк: калі вучышся — душой багацееш. Раней вучыліся адзінкі. Цяпер на камбінаце вучацца ўсе. 136 тэкстыльшчыкаў з'яўляюцца студэнтамі тэхнікума, 17 — студэнтамі інстытутаў. А пра вячэрнія школы, гурткі тэхнічных ведаў ужо і гаварыць не прыходзіцца.

Ткач з вышэйшай адукацыяй — гэта ўжо сапраўды рабочы новага часу, гэта чалавек вялікага духоўнага багацця. І калі кіраўнік брыгады камуністычнай працы Віктар Шорын прапанаваў, каб увесь калектыў камбіната змагаўся за званне калектыву камуністычнай працы, то ён меў для гэтага пэўныя падставы: узрасла свядомасць людзей. І хіба не яркай праявай гэтай свядомасці, гарачага жадання працай сваёй наблізіць цудоўнае заўтра, з'яўляецца новае абавязацельства тэкстыльшчыкаў — ужо ў 1963 годзе мець такую прадукцыйнасць працы, якая запланавана на канец сямігодкі.

Я ведаю — гродзенскія ткачы шануюць сваё слова, стрымліваюць яго.

— Чаму мы сцвярджаем, што нават і гэта, вельмі высокае абавязацельства, будзе выканана датэрмінова, — гаварыў мне галоўны інжынер Рыгор Львовіч Клячкоўскі. — Першае — небывалы ўздым. Крышачку агульна, але фактар — найважнейшы. Другое — вопыт, высокі тэхнічны ўзровень: нездарма ўсе вучацца. Трэцяе — комплексная механізацыя ўсіх працэсаў, мадэрнізацыя абсталявання. У нас, напрыклад, прадзільны цэх ідзе па прадукцыйнасці працы на 11,3 працэнта вышэй, чым у мінулым годзе. Там заменены машыны, удасканалены вытворчыя аперацыі. Усюды — малая механізацыя, пад'ёмнікі замест ручной транспартыроўкі. Мы будуем новы вытворчы корпус. А наконт рубяжу апошняга года сямігодкі вось што скажу. Многія ўжо ўзялі гэты рубеж. Тая ж Лідзія Мялеша. Прадукцыйнасць станкоў, якія яна абслугоўвае — 4 800 уточын за гадзіну. А запланавана на 1965 год — 4 660. Яе ўжо дасягнулі асобныя ткачыхі. Ад «асобных» да «ўсіх» — задача не фантастычная. Вось адкуль ідзе новае абавязацельства.

Узяць прываблівы рубеж — і радасна, і пачэсна! Гродзенскія ткачы возьмуць яго.



**У Палацы культуры тэкстыльшчыкаў. Ткачыхі з брыгады І. Мінюка удзельніцы самадзейнага ансамбля Люда Андросік, Рая Закірава, Ніна Гаўрылюк і Надзя Чарныш аглядаюць новыя касцюмы для выступленняў.**

# З ПАЕЗДКІ НА „НАФТАБУД“



Летась я разам са сваімі калегамі-мастакамі М. Гуціевым і Я. Харытоненкам пабываў на будоўлі Полацкага нафтаперагоннага завода. Нас уразіў размах гэтай вялікай будоўлі сямігодкі і старанная праца тых, хто яе здзяйсняе. Адразу, як толькі прыехалі, мы і ўзяліся за свае альбомы.

Я замаляваў вёску Сярдомава (малюнак уверсе). Пройдзе зусім нямнога часу і на яе месцы будуць стаяць прыгожыя дамы горада беларускіх нафтавікоў Нова-Полацка. Ужо збудаваны чатырохпавярховая школа, клуб, сталовая, лазня, магазін. А побач растуць новыя жылыя дамы, каб было дзе размясціцца спачатку будаўнікам, а потым нафтавікам. Насельніцтва гэтага новага горада пад канец сямігодкі складзе 70 тысяч чалавек. Каб цешылася вока, радавалася сэрца кожнага з іх, і завіхаецца ўдзень і ўночы брыгада бетоншчыкаў, якой кіруе І. Фіркін (малюнак М. Гуціева справа). Узносяцца ўвысь сцены, а магутныя каткі прасуюць брук будучых вуліц (малюнак М. Гуціева ўнізе).

Цэгла і бетон — асноўны будаўнічы матэрыял. Пакуль не гатовы яшчэ завод жалеза-бетонных вырабаў, патрэбы будоўлі забяспечвае раствора-бетонны вузел (малюнак уверсе справа). На лес і поле будаўнікі наступаюць па-гаспадарску. Там, дзе гэта магчыма, зберагаюцца шматгадовыя сосны і бярозы. Будынак новай кацельні прытуліўся ў прыгожым лясным закутку (малюнак унізе).





Ва ўсе канцы будоўлі бягуць слупы электраліній. Кожны дзень узнікае патрэба ў новых падводках току. І вось электраманцёр Святлана Якаўлева выйшла на лінію (мал. М. Гуціева справа).

Натхнёная праца соцень спрактыкаваных муляроў, бетоншчыкаў, цесляроў, тынкоўшчыкаў увасабляецца ў новыя збудаванні будучага волата хімічнай індустрыі. Гляньце на другую і трэцюю старонкі вокладкі нашага часопіса, на каляровую ўкладку.

Скрозь будоўля, скрозь людзі, занятыя ажыццяўленнем вялікага плана.

М. БЕЛЬСКІ.





# „Маладосць" вядзе рэпартаж...

## ...З ІНДУСТРЫЯЛЬНАГА ВІЦЕБСКА

Тэкст і фота **А. Дзітлава.**

Віцебск — буйны прамысловы і культурны цэнтр нашай рэспублікі. Тут на шматлікіх заводах, фабрыках, камбінатах і ў прамысловых арцелях самааддана працуе шматтысячная армія рабочых, якая памнажае векавую славу горада. Вучачыся ў старэйшага пакалення, рабочая моладзь з'яўляецца смелым ініцыятарам перадавых пачынанняў.

Станкі, адзенне, дамы, электрапрыборы, дываны, радыёдэталі, прадукты харчавання... Поўны пералік усяго, што выпускаецца прамысловасцю Віцебска, быў бы вельмі доўгі...

Тры з паловай тысячы маладых рабочых рапартавалі аб выкананні вытворчага задання першага года сямігодкі яшчэ ў дні святкавання 42-й гадавіны Вялікага Кастрычніка.

Сімвал нашага часу — спаборніцтва за права называцца калектывам камуністычнай працы ахапіла каля васьмісот маладзёжных брыгад, змен і цэхаў. Каля пяцідзесяці калектываў Віцебска ўжо ўдастоены гэтага высокага звання. Патрыятычная праца перадавых брыгад і шматлікіх маладых рабочых, якія прэтэндуюць на званне ўдарніка камуністычнай працы, абапіраецца на няспыннае ўдасканаленне ведаў. Вучачыся завочна або вечарамі, тэхнікамі і інжынерамі рыхтуюцца стаць амаль паўтары тысячы маладых рабочых. Сем тысяч чалавек наведваюць гурткі тэхнічных ведаў.

Жыццё маладых віцяблян шматграннае і цікавае. У іх можна шмат чаму павучыцца. Мы пабывалі ў шэрагу калектываў, якія паказваюць узоры камуністычнай працы, каб прапанаваць вашай увазе некалькі эпізодаў з іх цікавага шматбаковага жыцця.

### НЕ СЕМ, А ПЯЦЬ З ПАЛОВАЙ

Высока над Дзвіной, амаль у самым цэнтры горада, размешчан завод, які вырабляе заточныя станкі. Без гэтага абсталявання не можа абысціся ні адно прамысловае прадпрыемства. Значная колькасць станкоў з маркай віцебскага завода вывозіцца за граніцу.

Камсамольцы завода заточных станкоў вырашылі працаваць так, каб заслужыць званне ўдарнікаў камуністычнай працы. Перш за ўсё быў аб'яўлен паход за веды. Кожны камсамолец паспяхова прайшоў экзамен у кваліфікацыйнай камісіі. Ужо ў верасні многія маладыя рабочыя сталі працаваць у лік другога года сямігодкі. Так, праверыўшы свае сілы, камсамольцы абвясцілі лозунг: «Не сем, а пяць з паловай!».

Новым канкрэтным мерапрыемствам з'явілася арганізацыя конкурсу па адшуканню рэзерваў для датэрміновага выканання сямігодкі. У штаб конкурса пасыпаліся прапановы.

У кавальскім цэху брыгада слесараў на чале з Васілём Ісачанкам калектыўна распрацавала, зрабіла і ўкараніла ў вытворчасць прыстасаванне для згінання ліставога жалеза пад любым вуглом. Прыстасаванне выцесніла на гэтай аперацыі прымітыўную ручную працу і дало значны эканамічны эфект.





Тая ж брыгада ўнесла прапанову, якая павысіла прадукцыйнасць працы кавалёў і палегчыла ўмовы іх работы. Яны самі сканструявалі і зрабілі арыгінальную вентыляцыйную ўстаноўку для аховы каваля ад гарачыні печы і распаленых дэталей.

На працягу некалькіх месяцаў брыгадзе Васіля Ісачанкі прысуджаўся заводскі сцяг «Пераможцу ў спаборніцтве за званне калектыву камуністычнай працы».

На здымку вы бачыце славутых слесараў з гэтай брыгады: Франца Сіневіча, Віктара Рытава, Аляксандра Мацвеева і Віктара Васільева. Для поўнага складу брыгады не стае двух чалавек — самога брыгадзіра і зваршчыка Міхаіла Галалобава. Іх абодвух у той час не было на заводзе. Ісачанка, які выконваў абавязкі майстра цэха, быў на другім прадпрыемстве, каб пераняць там каштоўны вопыт, а Галалобаў сядзеў за партай у 8 класе вячэрняй школы на ўроку алгебры.

### НАША ЛЮБА

— О-о! У нашай Любы часу на ўсё хапае! Цудоўная дзяўчына!

Так на заводзе імя Кірава адгукаюцца аб шліфоўшчыцы першага механічнага цэха Любе Тарасенка. Энергічная, развітая, яна ўдзельнічае ва ўсіх справах заводскага камсамола. Удзел у грамадскім жыцці ўмацоўвае славу дзяўчыны. Тры гады таму назад Люба скончыла дзесяцігодку, а цяпер яна—студэнтка філіялу Палітэхнічнага інстытута.

— Праз некалькі год я буду інжынерам-механікам. А сёння прыходзьце да нас у клуб... Ставім «Прымакі» Янкі Купалы. Гэта вельмі прыемна — прабыць дзень шліфоўшчыцай, а вечарам стаць артысткай. А на наступны вечар — у інстытут, на лекцыю... Вельмі цікава жыць!





### НЕСПАКОЙНЫЯ ЛЮДЗІ

Калі на фабрыцы «КІМ» гавораць аб моладзі з брыгад камуністычнай працы, ніколі не забываюць паставіць у прыклад брыгаду Росцікава.

Але калі знаёмішся з брыгадзірам, здзіўляешся: ці не памылка ўсё сказанае. Ці аб маладзёжнай брыгадзе ішла гаворка?..

У Антона Аркадзьевіча Росцікава сівыя скроні, сетка маршчынак на ілбе і ля вачэй. Не заўсёды зручна пытаць чалавека пра ўзрост, і мы задаём брыгадзіру дыпламатычнае пытанне:

— Ці даўно вы на гэтай фабрыцы?

— Парадкам. Хутка ўжо чвэрць века. Я тут адзін са старэйшых... Хочаце пазнаёміцца з брыгадай?

Мы ідзём на адзін з участкаў панчошнага цэха, адзначаны чырвоным сцяжком перадавікоў спаборніцтва. І сумненне тут жа рассейваецца. На ўчастку — мноства стракатых касынак, адмысловых кофтачак і сціплых сукенак. Самая старэйшая з работніц брыгады нарадзілася пасля таго, як Антон Аркадзьевіч пачаў працаваць на фабрыцы «КІМ».

— А не цяжка вам з моладдзю? Неспакойны ж народ...

— Вось таму і лёгка, што неспакойны! — усміхаецца брыгадзір. — Усім цікавяцца, да ўсяго хутка даходзяць.

Мы глядзім на яго. Іскрыстую цеплыню, дабразычлівасць, ласку чытаем ў яго вачах. Ён падыходзіць да чырванашчокай дзяўчыны, пытаецца ў яе:

— А вам, камсамолкам, не цяжка са мною? Непакою я вас сваімі прыдзіркамі ды заўвагамі.

— Вось яшчэ сказалі! — усклікае дзяўчына. — І доб-



ра, што непакоіце. Затое мы і справу ведаем!

— Як вас завуць? — пытаемся мы ў дзяўчыны, зрабіўшы фотаздымак.

— Валя Дзянісава! — весела адгукнулася яна. І раптам, зрабіўшыся сур'ёзнай, дадала: — З камсамольска-маладзёжнай брыгады Росцікава, якая сістэматычна перавыконвае вытворчы план.



## ПЕРШЫЯ КРОКІ

Алу Падалінскую мы ўбачылі ля класнай дошкі, калі яна рашала задачу па геаметрыі. Таварышы і сяброўкі Алы ўважліва сачылі за ходам рашэння. Хлопец, што сядзеў побач з намі, з апасеннем паглядзеўшы на выкладчыка, шапнуў:



— Правільна рашае... А доўга ж не хацела вучыцца...

— Чаму?

Выкладчык з дакорам паглядзеў у наш бок. І адказ на пытанне быў атрыманы толькі праз паўгадзіны, у часе перапынку.

Вячэрняя школа фабрыкі «КІМ» знаходзіцца ў зусім новым будынку. Пабудаваны ён пры актыўным удзеле саміх вучняў — трыкатажніц, панчошніц, швачак, наладчыкаў станкоў, усёй моладзі фабрыкі. Ала Падалінская была сярод іх.

Ала працуе ў брыгадзе трыкатажніц, якую ўзначальвае Віктар Матусаў і якой прысвоена званне калектыву камуністычнай працы. Адзінаццаць чалавек, што ўваходзяць у гэтую брыгаду, вельмі дружныя паміж сабой. Разам яны клапоцяцца аб павышэнні свайго прафесіянальнага майстэрства, разам радуюцца поспехам кожнага, ніколі не пакідаюць адзін другога ў бядзе. Члены брыгады абагульняюць частку зарплаты і разам расходуюць гэтыя грошы.

Незадоўга да Новага года брыгада сабралася на маленькую нараду. Аднаго чалавека не было сярод іх — Тамары Еленскай, — у яе захварэў муж. Было вырашана адразу ж пасля змены наведаць сяброўку і памагчы ёй па гаспадарцы. Выконваючы гэта, члены брыгады, між іншым, напілавалі для Тамары дроў. Казначэй брыгады Галя Паскевіч напомніла, што пярэдадзень Новага года супадае з днём нараджэння Тамары. Было вырашана зрабіць ёй калектыўны падарунак ад брыгады.



Праз некалькі дзён Галя пайшла ў ювелірны магазін і купіла для сяброўкі прыгожы гадзіннік.

Можа прайсці вельмі многа год, але ніколі з памяці трыкатажніц брыгады Матусава не знікнуць гэтыя першыя крокі жыцця па-новаму.



## ВЫХАВАЦЕЛЬ СА СТАЖАМ

Гаворачы пра грамадскую работу, мы часта ўжываем слова «нагрузка». І часам здараецца, што не кожны гатовы падставіць пад яе свае плечы.

Ткачыха дывановага камбіната Яўгенія Міхальчанка такі тэрмін не ўжывае. Яна выконвае многія камсамольскія даручэнні, лічачы іх зместам свайго жыцця.

— А ці ж ад свайго жыцця адмаўляюцца? — шчыра здзіўляецца яна.

Галоўны грамадскі занятак Жэні — выхаваўчая работа ў школе № 19. Яна — важатая восьмага атрада.

Старэйшых школьнікаў яна гасцінна сустракае ў цэхах камбіната, памагаючы ім у набыцці прафесійных навыкаў. А са «сваімі», як яна называе піянераў з восьмага атрада, Жэня праводзіць шмат часу і ў школе, і на катку, і ў паходах.

— Школа па праву ганарыцца такой дзяўчынай, — гавораць пра Яўгенію Міхальчанка. — Яна ж і сама вучылася тут.

— І тады ўжо была важатай, — дадаюць другія. — Выхавацель са стажам!

А «выхавацелю са стажам» яшчэ зусім не многа год. На здымку, бадай, і не разбярэш, дзе важатая. Дапаможам вам: Жэня Міхальчанка — трэцяя злева.

*Навука-праца-чалавек*

# АДУКАЦЫЯ—АКНО Ў БУДУЧЫНЮ



Яшчэ мераючы тыя некалькі прыступкаў, што вядуць на першы паверх будынка Мінскага аблсавета, дзе размясцілася Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі Беларускай ССР, прыгадалася нам вельмі трапнае параўнанне — цяпер у адным Барысаве працуе столькі інжынераў і тэхнікаў, колькі іх было ва ўсёй дарэвалюцыйнай Беларусі.

Сапраўды, за сорак з лішнім гадоў савецкай улады наша рэспубліка стварыла свае нацыянальныя кадры вучоных, інжынераў, аграномаў, урачоў, педагогаў, музыкантаў. Да рэвалюцыі Беларусь не мела ніводнай вышэйшай навучальнай установы, а цяпер узнікла спецыяльнае міністэрства, каб кіраваць падрыхтоўкай спецыялістаў для розных галін народнай гаспадаркі.

І першым нашым пытаннем, з якім мы звярнуліся да міністра вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі Міхаіла Васільевіча Дарашэвіча, было такое:

**— Як выглядае цяпер сетка вышэйшых школ і спецыяльных навучальных устаноў у рэспубліцы?**

— А вось гляньце на гэтую карту, — адказаў міністр, паказваючы на сцяну злева ад сябе, дзе вісіць звычайная карта Беларусі. — Мы нанеслі сюды звыш паўтараста ўмоўных знакаў: гэта 24 вышэйшыя навучальныя ўстановы, 108 тэхнікумаў і вучылішчаў, звыш ста ўстаноў па падрыхтоўцы працоўных рэзерваў. Яны размешчаны галоўным чынам у Мінску і абласных гарадах рэспублікі, некаторая колькасць — у раённых цэнтрах. Прыкладна паўтараста тысяч чалавек складае армію студэнтаў і навучэнцаў. Вышэйшая і сярэдняя спецыяльная адукацыя ў нашай рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, будзе няспынна развівацца.

**Нашы інтэрв'ю**



**— І якога ўзроўню яна дасягне к канцу сямігодкі?**

— Колькасць студэнтаў і навучэнцаў будзе расці. Толькі ў ВНУ яна вырасце ў паўтара раза, галоўным чынам, на аддзяленнях вячэрняй і завочнай адукацыі. К канцу сямігодкі лік вячэрнікаў павялічыцца разы ў два, а завочнікаў нават патроіцца.

Колькасць вышэйшых і спецыяльных сярэдніх навучальных устаноў к канцу сямігодкі не павялічваецца, хоць лік спецыялістаў для народнай гаспадаркі будзе ўвесь час расці. Гэта адбудзецца за кошт удасканалення дзейнасці тых устаноў, якія ёсць у рэспубліцы цяпер. Разам з Дзяржпланам БССР мы распрацавалі перспектыўны план падрыхтоўкі спецыялістаў, у якім звернута асаблівая ўвага на адкрыццё новых факультэтаў і арганізацыю груп па тых спецыяльнасцях, вострая патрэба ў якіх ужо адчуваецца сёння ў сувязі з механізацыяй і аўтаматызацыяй асноўных галін машынабудавання, развіццём прагрэсіўнай будаўнічай тэхнікі, ператварэннем Беларусі ў рэспубліку вялікай хіміі.

Ужо сёлета, у 1960 годзе, пачнецца падрыхтоўка кадраў па дзвюх новых спецыяльнасцях у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна — электроніцы і радыёфізіцы ды па вылічальнай матэматыцы. Беларускі палітэхнічны інстытут імя І. В. Сталіна пачне рыхтаваць спецыялістаў па прамысловай цеплаэнергетыцы, прыборах дакладнай механікі, зварачнай вытворчасці, па аўтаматыцы, тэлемеханіцы і электравымяральных прыборах і ўстаноўках.

У сувязі з пераходам агульнаадукацыйнай школы на новыя праграмы, якімі прадугледжана сталае азнаямленне школьнікаў з асновамі прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, узнікла неабходнасць у кадрах педагогаў з інжынернай і агранамічнай падрыхтоўкай. Дзеля гэтага адкрываецца інжынерна-педагагічны факультэт у палітэхнічным інстытуце, агра-педагагічны факультэт адкрыт ужо ў Брэсцкім педінстытуце.

Падрыхтоўка будаўнікоў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі стабілізуецца прыкладна на тым узроўні, які мы маем сёння. У бліжэйшыя гады будзе скарочан прыём на гуманітарныя факультэты, асабліва па спецыяльнасцях філалагічных, гістарычных і юрыдычных навук.

Значна павялічыцца за гады сямігодкі падрыхтоўка навуковых кадраў, асабліва па тых галінах навукі, перспектывы развіцця якіх вызначаюцца надыходам новай эпохі — эпохі авалодання энергіяй атама і пакарэння космасу. Колькасць аспірантаў будзе расці галоўным чынам за кошт падрыхтоўкі спецыялістаў па матэматыцы, фізіцы, хіміі, розных галінах тэхнічных навук.

Імкненне моладзі да самастойных навуковых даследаванняў расце з кожным годам усё больш і больш. Гэта і зразумела, бо адукацыя з'яўляецца тым акном, якое адкрывае ў будучыню. А будучыня — гэта небывалы прагрэс навукі і тэхнікі ў імя шчасця чалавека.

Амаль ва ўсіх інстытутах нашай рэспублікі створаны добра абсталяваныя лабараторыі і кабінеты, каб весці плённую навуковую працу. Трэба сказаць, што ў навуковых даследаваннях усё больш ўдзел прымае і студэнцтва. Пад кіраўніцтвам вядомых вучоных яны распрацоўваюць праблемы народнагаспадарчага значэння. Аднак жа сувязь навукі з практыкай жыцця пакуль яшчэ недастатковая, і прычына тут у адсутнасці добрага каардзініравання навуковых сіл рэспублікі. Савет па каардынацыі, які існуе пры Акадэміі навук БССР, недастаткова актыўны ў сваёй дзейнасці. Наспела неабходнасць стварыць каардынацыйны навуковы цэнтр пры Дзяржплане рэспублікі, каб усе помыслы і намаганні вучоных, аспірантаў, практыкаў выкарыстоўваць з найбольшым эфектам для дзяржавы.

Шмат увагі. як і раней, вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа будзе аддаваць усебаковаму развіццю маладога пакалення. Найлепшыя ўмовы для гэтага ствараюцца марксісцка-ленінскай тэорыяй, авалоданне якой узбройвае чалавека веданнем навуковых законаў развіцця грамадства, развівае здольнасць шырока і глыбока мысліць, смела дзярзаць і, абапіраючыся на навуковыя заваёвы мінулага, рабіць новыя адкрыцці ў навуцы і тэхніцы. Зараз звяртаецца асаблівая ўвага на павышэнне ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню студэнтаў, на глыбокае авалоданне імі марксісцка-ленінскім вучэннем. Малады спецыяліст павінен быць узброен веданнем шляхоў і сродкаў камуністычнага будаўніцтва.

Гэтыя асноўныя кірункі развіцця вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы ў рэспубліцы і з'яўляюцца матэрыялізаваным адлюстраваннем той перабудовы народнай адукацыі, якая вядзецца ў нашай краіне паводле рашэння XXI з'езда КПСС на аснове спалучэння навучання з прадукцыйнай працай маладых будаўнікоў камунізма.

**— Здзяйсненне Закону аб перабудове вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, напэўна, і складае асноўны змест работы міністэрства?**

— Так. Наша міністэрства самае маладое ў рэспубліцы. Але першыя крокі яго дзейнасці былі асветлены высакароднай задачай здзяйснення закону, накіраванага на далейшы ўздым адукацыі ў нашай краіне. Першыя нашы захады былі поўны клопатаў аб тым, каб найлепшым чынам арганізаваць работу ВНУ, тэхнікумаў і вучылішчаў па-новаму. З самага пачатку была звернута ўвага на распрацоўку новых вучэбных планаў і перапрацоўку праграм па тых дысцыплінах, якія не могуць быць дасканала вывучаны без практычных навыкаў будучых спецыялістаў.

Аб'яднанне кіраўніцтва вышэйшымі і сярэднімі спецыяльнымі навучальнымі ўстановамі (хоць пакуль і няпоўнае, бо медыцынскія, сельскагаспадарчыя, чыгуначныя і фізкультурныя засталіся яшчэ ў адпаведных ведамствах) ужо прыносіць адчувальныя вынікі. Знік падзел на «сыноў» і «пасынкаў», што вельмі прыкметна было сярод тэхнікумаў і вучылішчаў, параскіданых па розных міністэрствах і главуках. Напрыклад, у аднатыповых машынабудаўнічых тэхнікумах, якія належалі розным ведамствам, існавалі самыя розныя вучэбныя планы, самыя розныя штаты, хоць рыхтавалі яны спецыялістаў аднаго і таго ж профілю. Цяпер мы скасавалі гэты разнабой. Наша міністэрства праз галінавыя інспектуры наладзіла адзінае метадычнае і навуковае кіраўніцтва, а таксама матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ўсіх падпарадкаваных нам устаноў.



Доследамі па неарганічнай хіміі ў лабараторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна заняты вячэрнікі І курса: мантажніца Л. Слонская, дыспетчар Л. Саўрыцкая і мантажніца Л. Шэметава.

Фота С. Чырэшкіна.

Скасаванне непатрэбнага і шкоднага паралелізму ў падрыхтоўцы кадраў — адна з надзённых задач міністэрства.

Мы абменьваемся зараз думкамі і наконт узбуйнення некаторых інстытутаў і сярэдніх спецыяльных устаноў, вядзем вялікую работу па падрыхтоўцы рэарганізацыі школ і вучылішчаў працоўных рэзерваў у адзіныя прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы, скончыўшы якія, моладзь будзе набываць не толькі пэўную спецыяльнасць, але і сярэднюю агульную адукацыю.

**Нашы інтэрв'ю**



Значнага паляпшэння патрабуе арганізацыя навучання тых, хто набывае адукацыю без адрыву ад вытворчасці. Наспела неабходнасць мець у Беларусі адзіны цэнтр завочнага навучання з шырокай сеткай вучэбна-кансультацыйных пунктаў у буйных гарадах рэспублікі. Пакуль жа пункты ўсесаюзных завочных інстытутаў, што адкрыты ў Мінску, не маюць належных умоў для наладжвання нармальнага навучальнага працэсу.

Шмат існуе яшчэ неўрэгуляваных пытанняў з кіраўнікамі прадпрыемстваў і ўстаноў, дзе працуюць завочнікі і вячэрнікі. Мы пайшлі на тое, каб завочныя сесіі праводзіць не за два тыдні, а на працягу 1,5—2 месяцаў. Гэта зроблена для таго, каб не парушаць рытмічнай дзейнасці прадпрыемстваў. Але ж трэба, каб і адміністрацыя заводаў і фабрык ішла насустрач навучальным установам, клапоцячыся пра нармальныя ўмовы для вучобы сваіх рабочых і служачых. Вельмі важна арганізаваць іх работу ў пастаянную змену, каб можна было наладзіць двухзменную работу вячэрніх аддзяленняў.

Пакуль што мы не можам прывесці прыкладаў штодзённых клопатаў кіраўнікоў прадпрыемстваў аб тых, хто сумяшчае працу з вучобай. Філіял палітэхнічнага інстытута пры Мінскім аўтазаводзе туліцца ў бараках, што засталіся ў спадчыну ад вайны. 700 студэнтаў філіялу — гэта рабочыя і ІТР аўтамабільнага, трактарнага, падшыпнікавага і іншых заводаў, якія добрасумленнай працай заслужылі права на збудаванне для іх спецыяльнага вучэбнага корпуса. Але ж кіраўнікі гэтых заводаў і Беларускага саўнаргаса ніяк не могуць аб'яднаць свае намаганні, каб пачаць такое будаўніцтва як адно з першачарговых.

**— Якія захады прымае міністэрства, каб палепшыць справу навучання тых, хто спалучае яго з працай?**

— Акрамя вячэрніх філіялаў палітэхнічнага інстытута ў Мінску і Віцебску, мы мяркуем сёлета адкрыць яшчэ такі філіял у Магілёве. Там будуць рыхтавацца спецыялісты машынабудавання і хімічнай прамысловасці. Шмат пісем паступіла ад тых, хто будуе сёння Полацкі нафтаперагонны завод з просьбай даць ім магчымасць вучыцца. Мы адкрылі там філіял мінскага палітэхнікума і збіраемся, можа нават і сёлета, арганізаваць на будоўлі філіял палітэхнічнага інстытута ў выглядзе агульна-інжынернага факультэта. Гэта значыць, што тры гады навучанне будзе ісці па сістэме агульнатэхнічнай вышэйшай адукацыі, а пачынаючы з чацвёртага курса, кожны будзе спецыялізавацца завочна па той галіне навукі і тэхнікі, якая адпавядае яго працоўнай кваліфікацыі.

**— Якімі новымі клопатамі парадуе міністэрства сваіх студэнтаў сёлета?**

— Скасаванне паралельных і ўзбуйненне некаторых навучальных устаноў дазволіць нам знач-



Г. Казакоў — студэнт Беларускага палітэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна на занятках у лабараторыі апрацоўкі металаў рэзаннем.

на палепшыць умовы для вучобы і жыцця студэнцтва. Асноўная ўвага наша будзе звернута сёлета на завяршэнне будаўніцтва першай чаргі галоўнага корпуса Белдзяржуніверсітэта. У Мінску пачнецца збудаванне двух студэнцкіх інтэрнатаў на 800 месц кожны. Пакуль што пытанне з забеспячэннем жыллём іншагародніх студэнтаў стаіць вельмі востра, але з кожным годам вастрыня гэтая будзе змяншацца. К канцу сямігодкі ўсе 60 працэнтаў новага прыёму ў кожнай навучальнай установе атрымаюць месцы ў інтэрнаце. Гэта значна аблегчыць працу прыёмных камісій, якія вымушаны пакуль адмаўляць у залічэнні многім з тых, хто прыязджае з сельскай мясцовасці, пасляхова здае уступныя экзамены, але не мае жылля ў горадзе.

Такім чынам, наша партыя і ўрад увесь час клапоцяцца, каб стварыць юнакам і дзяўчатам найлепшыя ўмовы для пасляховай вучобы. Ад вас жа, дарагія чытачы «Маладосці» — студэнты і навучэнцы, патрабуецца адно: аддзякаваць за гэтыя клопаты старанпай вучобай і добрымі паводзінамі, а таксама высокапрадукцыйнай працай. Спалучэнне вучобы з вытворчай працай дапаможа вам глыбей засвоіць тэарэтычныя дысцыпліны, будзе садзейнічаць выхаванню высокіх маральна-палітычных якасцей маладых будаўнікоў камунізма.

---

# ТУРБОТЫ СЕЛЬСКАГА ВЫНАХОДНІКА

Брыгадзір торфа-меліярацыйнай брыгады Бабруйскай рамонтна-тэхнічнай машынна-меліярацыйнай станцыі Павел Лойка — гэта чалавек, які ўвесь час нечым заняты: то думае, як удасканаліць якую-небудзь машыну, то нешта чытае, робіць разлікі, складае чарцяжы...

Павел Лойка добра ведае, што робіцца не толькі ў сваёй станцыі. У яго блакноце знойдзеш цікавыя лічбы аб эканоміцы розных калгасаў свайго раёна. Яго хвалююць і такія важныя пытанні, як вапнаванне кіслых глеб, комплексная механізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэтыя якасці руплівага гаспадара, ахопленага нястрымным імкненнем да пошукаў, да ведаў, ён выхоўвае і ў членаў сваёй брыгады, якая змагаецца за права называцца калектывам камуністычнай працы.

На гэты раз мы сустрэліся з Паўлам у яго доме. Завіхалася ля печы гаспадыня, забаўляліся з цацкамі дзеці.

Гаспадар у сарочцы з расшпіленым каўняром сядзеў, схіліўшыся над кніжкай.

— Эканоміку «цісну», — стомлена ўсміхнуўся ён і пажартаваў: — Паглядзім, хто каго. Яна мяне ці я яе. Сесія ж не за гарамі.

Сапраўды, завочніку-выпускніку Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі не лёгка. Увесь дзень за працай — то на балотах, то ў майстэрні, то, як член партбюро, за выкананнем грамадскіх абавязкаў. А тут і дыпломны праект трэба рыхтаваць, і здача апошніх экзаменаў непакоіць. Потым яшчэ з абласной газеты артыкул заказалі. А жонка сваё: пра дом забываешся, Павел, парадку няма на двары...

Перагартаўшы кнігу, Павел



знайшоў захаванае там пажоўклае фота і паклаў яго перад сабой:

— Вось, мой торфазбіральнік.

Памаўчаўшы нейкую хвіліну, пачаў расказваць аб лёсе гэтай машыны, аб сваёй вынаходніцкай рабоце, наогул аб рацыяналізацыі ў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Дык вось аб чым гаварыў брыгадзір торфа-меліярацыйнай брыгады Бабруйскай РТММС Павел Лойка.

— Нешта пакуль не тое атрымліваецца. На кожны гектар калгас плануе ўнесці дзесяткі тон торфагноевага кампосту, а ў тарфяных кар'ерах бачыш не машыны, а калгаснікаў з рыдлёўкамі. Як вядома, рыдлёўкай шмат торфу не здабудзеш. Ручная праца абыходзіцца вельмі дорага.

Некалькі гадоў назад у мяне нарадзілася думка стварыць такую машыну, якой можна было б хутка і лёгка здабываць торф на ўгнаенне. Нарэшце, удалося сканструяваць торфазбіральнік. Выпрабаванне дало добрыя вынікі. Канструкцыю гэтага агрэгата пераймалі не толькі ў Бабруйскім раёне, але зацікавіліся ёю і асобныя машынна-трактарныя станцыі іншых абласцей. Я нават спецыяльную брашуру аб торфазбіральніку напісаў.

З цягам часу на ўзбраенне РТС паступілі магутныя бульдозеры, якімі можна нарыхтоўваць торф на ўгнаенне. А як жа калгасы? Цяпер яны маюць сваю тэхніку, самі сабе гаспадары. Трактары, камбайны, складаныя малатарні — усё ёсць, а вось бульдозераў няма. Здавалася б, вось тут і выводзь на тарфянік торфазбіральнік. Зрабіць жа яго можна ў кожнай кузні. Але атрымалася так, што старшыні калгасаў нічога не ведаюць аб торфазбіральніку, забыліся аб ім і сельскія механізатары. А на балотах зноў можна бачыць людзей з рыдлёўкамі.

Торфазбіральнік — справа мінулых год. Аб ім маглі і забыць. Але ж яшчэ горшы лёс напаткаў мае наступныя прапановы. Хто хоць крыху знаёмы з сельскай гаспадаркай, той скажа, што найбольш вузкім месцам у комплексе работ па ўгнойванню глебы з'яўляецца раскідванне розных угнаенняў па полі. Над гэтым пытаннем варта было папрацаваць. І мы папрацавалі, затрацілі пэўныя сродкі, пакуль у сваёй РТС сканструявалі ўніверсальны раскідвальнік.

Калі пусцілі яго на раскідванне вапны ў калгасе імя Сталіна, дык старшыня Ф. Шаравараў з задавальненнем зазначыў:

— Добрая машына. Давайце нам такіх больш.

Хіба не прыемна пахвала калгаснага старшыні ў адрас РТС! Кіраўнікі ж калгасаў заўсёды прыдзірліва адносяцца да новых машын. Наш раскідвальнік аказаўся зручным. Па-першае, ён навясны, прыводзіцца ў дзеянне пры дапамозе гідраўлікі; па-другое, угнаенне раскідваецца чатырма лопасцямі адразу з куч, і выпадае, такім чынам, аперацыя пагрузкі. Ды яшчэ выпадае і такая аперацыя, як здрабненне вапны перад раскідваннем — гэта робяць лопасці, якія круцяцца з хуткасцю 1 200 абаротаў у мінуту.

Здавалася б, машына павінна атрымаць пуцёўку ў жыццё. Зрабілі чыставыя чарцяжы і разам з тлумачальнай запіскай і практычным абгрунтаваннем адправілі ўсё гэта ў Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. Адтуль неўзабаве паведамілі, што матэрыял атрыман і зарэгістраван.

І на гэтым, як кажуць, пастаўлена кропка. Ідуць месяцы, гады, а чарцяжы ляжаць недзе ў шафах міністэрства. На полі ж «гаспадараць» усё тыя ж рыдлёўка і вілы.

У Бабруйскай РТС універсальны раскідвальнік прымяняецца з поспехам. Пераймалі яго канструкцыю і механізатары Кіраўскай РТС ды яшчэ дзвюх — трох станцый, прадстаўнікі з якіх пабывалі ў нас і ўбачылі агрэгат у дзеянні. А я ж упэўнены, што раскідвальнік, які можна зрабіць сваімі сіламі, саслужыў бы добрую службу, каб ён быў і ў астатніх РТС. Магчыма, дзе-небудзь няўрымслівыя механізатары трацяць дарагія гадзіны, не дасыпаюць начэй, каб што-небудзь прыдумаць для абляг-

чэння працы калгаснікаў на ўгнойванні палёў. У той жа час, маючы копіі нашых чарцяжоў, яны маглі б зрабіць у майстэрнях раскідвальнікі даволі хутка і без асаблівых затрат.

Я часам думаю, што, можа, не шанцуе толькі маім прапановам? Не. У гэтым мы, сельскія рацыяналізатары, маем аднолькавы лёс. Токар Веніямін Кайдуноў прапанаваў зварваць дэталі на такарным станку сілай трэння. Зноў пошта панесла ў Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР пакет з чарцяжамі. Прыслалі неўзабаве адказ, нават прэмію прысудзілі за вынаходніцтва, але ж не паклапаціліся пра самае галоўнае — каштоўная рацыяналізатарская прапанова за тры гады не стала здабыткам механізатараў рэспублікі.

Тое ж атрымалася і з прапановамі слесара Мікалая Акаванцава. З міністэрства адказалі, што яго прапанова па ўдасканаленню асобных вузлоў трактара «Беларусь» перасланa на Мінскі трактарны завод. А што далей — рацыяналізатару невядома.

Рацыяналізатарам РТС усё ж лягчэй: ёсць для пошукаў свая і часам добрая вытворчая база, ёсць тэхнічнае кіраўніцтва і, часам, не благое, ёсць, нарэшце, некаторая падтрымка, хоць і вельмі марудная, з боку міністэрства. А як жа даводзіцца калгасным рацыяналізатарам?

Я часта бываю ў калгасах раёна, цікаўлюся рацыяналізатарскай работай. І трэба сказаць, што вынаходнікі на сяле амаль перавяліся. І не таму, што згасла імкненне да пошукаў, знікла дапытлівая думка. Не. Справа зноў жа ў сцяне абыякавасці да гэтых крупінак творчай думкі з боку тых, хто павінен быў бы ўважліва збіраць гэтыя крупінкі і рабіць іх здабыткам астатніх калгасаў — з боку таго ж Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, яго органаў у абласцях і раёнах.

Працуе ў калгасе імя Фрунзе механізатар Іван Борбут. Чалавек тэхнічна пісьменны, добра разумее, што рацыяналізатары павінны змагацца за павышэнне прадукцыйнасці працы, дамагацца скарачэння затрат і сродкаў на вытворчасць кожнай адзінкі прадукцыі. Надумаў неяк Іван Борбут разам з іншымі трактарыстамі стары трактарны культыватар прыстасаваць для збору тарфянога ачосу на падсціл жывёле. Патрэбная рэч. Папацелі некалькі дзён калгасныя механізатары і зрабілі не благое прыстасаванне. Але не хапіла ведаў, каб правесці дакладныя тэхнічныя разлікі. Машына крыху папрацавала і сапсавалася. Так і стаіць цяпер ля кузні. Неяк я сказаў Борбуту:

— Давай, Іван, разам паглядзім, можа я што памагу.

А той толькі адмахнуўся:

— Ат, нікому, мусіць, яна не патрэбна.

Крыўдна, вельмі крыўдна бачыць, як здольныя людзі, не адчуваючы падтрымкі, апускаюць рукі і адыходзяць ад вынаходніцкай работы. Я не збіраюся апраўдваць слабавольных людзей, якія абмінаюць добры, заўсёды малады дэвіз: «Хто хоча — той даб'ецца!». Але ж факты, пра якія я тут гавару, сведчаць аб тым, што, калі ўжо кіравацца гэтым дэвізам, дык сельскаму ўмельцу трэба так захацець, каб гара яму стала купінай, а мора — лужынай.

Рацыяналізатарская работа выглядае асабліва закінутай, калі параўнаеш яе з тым, як пастаўлена гэтае пытанне ў прамысловасці. Тут і аддзелы або бюро па рацыяналізацыі і вынаходніцтву, і розныя тэхнічныя канферэнцыі, і выдача аўтарскіх пасведчанняў, і, нават, прысваенне пачэсных званняў. Куды лягчэй працаваць рацыяналізатарам-рабочым. У яго пад рукой заўсёды і абсталяванне, і добры інструмент, і тэхнічная літаратура, адкуль можна атрымаць патрэбную даведку, і штодзённая ўвага інжынерна-тэхнічнага персаналу. А калі да вынаходніка адносяцца нячула, дык пачынаюць біць трывогу партыйная, прафсаюзная, камсамольская арганізацыі. А ў нас, у вёсцы, не часта бывае, каб калгасны рацыяналізатар сустрэў падтрымку. Быццам жыве ён на іншай планеце, быццам у яго задачы



не тыя, чым у наватара прамысловай вытворчасці.

Чаму? На маю думку, таму, што няма адзінай стройнай сістэмы — знізу да верху, якая клапацілася б аб кожнай праяве творчай тэхнічнай думкі на вёсцы. Сельскі рацыяналізатар, як кажуць, варыцца ва ўласным катле. Тыцнецца ў праўленне — там ад яго адмахнуцца: маўляў, ёсць справы больш важныя, ды і няма ў нас спецыялістаў па тэхніцы. Дойдзе да раённай інспекцыі па сельскай гаспадарцы ці да абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі — зноў жа там няма чалавека, які б спецыяльна займаўся рацыяналізацыяй і вынаходніцтвам. А да Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР надта ўжо далёка. Праўда, як мне вядома, там ужо робяцца якія-кольвек захады, але невядома, калі там развярушацца як мае быць.

А пакуль варта было б пачынаць з таго, каб у кожным калгасе ствараць групы рацыяналізатараў і вынаходнікаў. Лягчэй стане працаваць, калі аб'ядноўвацца намаганні некалькіх чалавек. Пажадана, каб на чале груп былі пастаўлены тэхнічна пісьменныя людзі, інжынеры або тэхнікі. А такія людзі ў некаторых калгасах ёсць, і іх з кожным днём становіцца больш. На прадпрыемствах краіны з лёгкай рукі харкаўчан шырока разгарнуўся новы рух — спецыялісты, якія знаёмы з сельскагаспадарчай вытворчасцю, ідуць працаваць у калгасы. Вось ім і карты ў рукі, няхай узначальваюць групы. Пры РТС жа, ММС і ў саўгасах, дзе ёсць добрыя кадры тэхнічных спецыялістаў і адпаведная вытворчая база, варта ствараць кансультацыйныя пункты па вынаходніцтву.

У кожным раёне карысна мець Дом тэхнікі або хаця на першым часе кабінет вынаходніка. Ён можа існаваць пры РТС, ММС ці саўгасе, дзе ёсць тэхнічная база. Рацыяналізатар, прыйшоўшы ў тэхнічны кабінет, захоча карыстацца такарным, свідравальным, стругальным, фрэзерным станкамі, ці пачытаць патрэбную кнігу, або зрабіць чарцяжы ў добра абсталяваным чарцёжным кабінеце. Усё гэта трэба прадаставіць у яго распараджэнне.

Кожнае вынаходніцтва, кожная рацыяналізатарская прапанова павінны хутка станавіцца шырока вядомымі. Прапаганда новай тэхнікі — гэта прамы абавязак спецыялістаў рамонтна-тэхнічных станцый. Няхай і ажыццяўляюць яго. Такім чынам, работу раённага Дома тэхнікі можна наладзіць на грамадскай аснове, без увядзення штатнай платнай адзінкі.

А ўжо ў вобласці, у абласным упраўленні сельскай гаспадаркі, трэба, каб былі пастаянныя работнікі, якія б толькі і займаліся рацыяналізацыяй і вынаходніцтвам. Яны змаглі б сачыць за ўсімі тэхнічнымі ўдасканаленнямі ў галіне сельскагаспадарчай тэхнікі і праз Дамы тэхнічнай прапаганды своечасова інфармаваць аб гэтым усіх механізатараў. А то бывае, што над адным і тым жа пытаннем ламаюць галаву аднačасова людзі суседніх калгасаў, раёнаў. Трэба, каб пры прадпрыемстве або спецыяльна была абсталявана эксперыментальная база. Калі паступіць цікавая прапанова, якую варта распаўсюдзіць на ўсю вобласць, а магчыма, рэспубліку, дык каб тут можна было вырабіць і ўзорны экземпляр механізма для выпрабаванняў яго на месцы.

Камсамолу таксама варта было б нешта больш актыўна ўключыцца ў гэтую работу. У моладзі хапае дапытлівасці і творчага гарэння. Чаму б не падтрымаць яе, аб'явіўшы конкурсы на лепшую рацыяналізатарскую прапанову, склікаўшы злёт сельскіх умельцаў. Многа іншага можна прыдумаць. Калі б у армію сельскіх рацыяналізатараў улілiся свежыя маладыя сілы, дык і мы памаладзелі б, акрыялі. А моладзь зараз і на вёсцы адукаваная: многія пасля дзесяцігодкі садзяцца на трактар. Добра наладжаная тэхнічная прапаганда на вёсцы з'явілася б тым штуршком, які рушыць у паход за веды ўсю сельскую моладзь.

Поле ж дзейнасці для сельскага рацыяналізатара шырокае, бясконцае. Перад сельскай гаспа-

даркай цудоўныя перспектывы. Сельскагаспадарчая вытворчасць усё больш і больш будзе насычацца механізмамі, і самымі дасканалымі. Нядаўна прагрымела вестка аб вынаходніцтве механізатара саўгаса «Іртышскі» Паўладарскай вобласці І. Логінава, які паспяхова правёў выпрабаванне трактара з аўтаматычным дыстанцыйным кіраваннем. Такую выдатную рэч сельскі механізатар прыдумаў! Хто думае, дзярзае — той і вынаходзіць!

Наша камуністычная партыя, савецкі ўрад надаюць рацыяналізацыі і вынаходніцтву выключнае значэнне. Летась нават пачэсныя званні ўстаноўлены: «Заслужаны вынаходнік Беларускай ССР» і «Заслужаны рацыяналізатар Беларускай ССР», якія будуць прысвойвацца з уручэннем нагрудных знакаў. Як ад душы хочацца, каб больш залатых і сярэбраных кружочкаў зіхацела на грудзях вясковых умельцаў.

* * *

Вельмі слушныя прапановы зрабіў Павел Лойка. Можа цяпер здае экзамены ён і абараняе дыпломны праект, а можа схіліўся ў майстэрні над станком і ўвасабляе чарцяжы ў метал. Але дзе б ён ні быў, пытанні рацыяналізацыі і вынаходніцтва ў вёсцы хвалююць яго па-ранейшаму.

Ці перадасца гэтае хваляванне работнікам Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, што адкажуць яны сельскаму ўмельцу Паўлу Лойку?

**Б. СТРАЛЬЦОЎ.**

## *Да стагоддзя з дня нараджэння*

**«Калі кожны чалавек на кавалку зямлі сваёй зрабіў бы ўсё, што ён можа, якой прыгожай была б зямля наша».**

А. Чэхаў.



**Ісідар БАС,**
**кандыдат філалагічных навук**

# ЧЭХАЎ — МАСТАК

## I

У пачатку студзеня 1900 г. А. М. Горкі пісаў Чэхаву, што, прачытаўшы нават самае нязначнае з яго апавяданняў, усё іншае яму потым здаецца грубым, напісаным не пяром, а нібыта паленам. Апавяданні пісьменніка Горкі параўноўваў з прыгожа агранёнымі флаконамі, якія змяшчаюць у сабе ўсе пахі жыцця.

Непараўнальным мастаком жыцця, Пушкіным у прозе называў Чэхава Л. М. Талстой, адзначаючы, што ён стварыў новыя «для ўсяго свету формы пісання» і што ў яго творах «усё праўдзівае да ілюзіі».

Праўдзівасць, блізкасць да жыцця — гэта было першым патрабаваннем, якое прад'яўляў Чэхаў да кожнага мастацкага твора. Талент пісьменніка — гэта перш за ўсё глыбокае веданне жыцця. «Дзе няма ведання, там няма і смеласці», — часта гаварыў ён.

Маладым літаратарам Чэхаў раіў вывучаць жыццё «не з Тучкова моста», не з вокан кабінетаў, а непасрэдна ў гушчы народа, накопліваючы факты і абагульняю-

чы іх. «Калі я літаратар, то мне трэба жыць сярод народа, а не на Малой Дзімітраўцы. Патрэбен хоць кавалачак грамадскага і палітычнага жыцця». Пісьменніку Целешаву, напрыклад, ён раіў паехаць на Байкал, на Урал, у Ніжні Ноўгарад, паездзіць па Волзе, па Каме, каб «убачыць народнае жыццё». Па словах А. І. Купрына, ездзіць ён раіў у вагонах трэцяга класа, бо там можна сустрэць цікавых людзей, пачуць ад іх многа карыснага і павучальнага для пісьменніка.

Намаляваць праўдзівую карціну жыцця мастак зможа, — на думку Чэхава, — толькі тады, калі ён сам будзе глыбока цікавіцца ўсім, што адбываецца ў жыцці. Гэтаму патрабаванню няўхільна следаваў сам Чэхаў. Вядома, якое вялікае значэнне надаваў ён сваёй паездцы на Сахалін. Яна значна пашырыла яго ідэйны кругазор, дала магчымасць вастрэй адчуць увесь цяжар прыгнёту ў самадзяржаўнай Расіі, абудзіла ў пісьменніка «чортаву процьму планаў». Вынікам гэтае паездкі з'явілася кніга «Востраў Сахалін», якая ўсхвалявала ўсю прагрэсіўную грамадскасць тагачаснай Расіі. Сахалінскія ўражанні знайшлі сваё адлюстраванне і ў такіх апавяданнях Чэхава, як «Гусеў», «У ссылцы», «Бабы» і іншых.

Паездка А. П. Чэхава ў 1892 г. ў Ніжагародскую губерню з мэтай арганізацыі дапамогі галадаючым сялянам у многім садзейнічала стварэнню аповесці «Мужыкі». У запісных кніжках пісьменніка мы знаходзім кароткія, але вельмі выразныя нататкі аб гэтай паездцы. Яны паказваюць, як смела і бясстрашна ўрываўся пісьменнік у навакольнае жыццё, адбіраючы са шматлікіх фактаў і нагляданняў самае істотнае і значнае.

Свае запісныя кніжкі Чэхаў вельмі цаніў. Сюды ён заносіў усё тое, што, на яго думку, заслугоўвала ўвагі. А. І. Купрын успамінае, як аднойчы ў час гутаркі Чэхаў дастаў з бакавой шуфлядкі стала адну са сваіх запісных кніжак і запісаў толькі што пачуты эпізод з жыцця маленькага правінцыяльнага тэатра. «Інакш, — сказаў ён, — забудзецца, рассеецца».

У запісных кніжках Чэхава мы знаходзім і першыя накіды сюжэтаў будучых апавяданняў, такіх, напрыклад, як «Іоныч», «Выпадак з практыкі», «Душачка», «Чалавек у футляры» і многіх іншых.

Вось запісы, якія маюць дачыненне да апавядання «Чалавек у футляры»: «Ён любіў літаратуру, якая яго не хвалявала, г. зн. Шылера, Гамера і г. д.», «Думка прафесара: не Шэкспір галоўнае, а заўвагі да яго», «Чалавек у футляры, у галёшах, зонт у чахле, гадзіннік у футляры, нож у чахле. Калі ляжаў у труне, то, здавалася, усміхаўся: знайшоў свой ідэал».

Па гэтых запісках можна меркаваць, як дэталь за дэталлю складваўся ва ўяўленні пісьменніка вобраз будучага героя апавядання — Белікава.

Заглянуць у творчую лабараторыю пісьменніка дазваляюць і запісы, якія адносяцца да апавядання «Анна на шыі».

«Бедная дзяўчына, гімназістка, — чытаем мы ў першым накідзе сюжэта апавядання, — у якой 5 братоў-хлопчыкаў, выходзіць за багатага чыноўніка; ён папракае яе кожным кавалкам хлеба, патрабуе паслушэнства, удзячнасці (ашчасlівіў!), здзекуецца з яе радні. «Кожны чалавек павінен мець свае абавязкі». Яна ўсё церпіць, баіцца пярэчыць, каб зноў не вярнуцца да ранейшай беднасці. Запрашэнне на баль да начальніка. На бале яна мае вялікі поспех. Важны чалавек закахаўся ў яе і робіць сваёй палюбоўніцай (яна забяспечана і цяпер). Калі яна адчула прыхільнасць начальства і ўбачыла, што патрэбна мужу, то ўжо гаворыць дома мужу з агідаю: «Ідзіце прэч, балван!»

Ужо тут акрэсліўся асноўны канфлікт будучага апавядання — сацыяльная няроўнасць людзей у буржуазна-памешчыцкай Расіі, права багатых і моцных прыгнятаць бедных і слабых. У далейшых запісах Чэхаў стварае эскізны воблік мужа Анны: у яго «ліслівы, саладжавы выраз твару» ў прысутнасці начальства. Жонцы ж ён гаворыць, што «абавязак — перш за ўсё», што «сямейнае жыццё ёсць абавязак», што грошы трэба берагчы і г. д.

Гэтыя нататкі паказваюць, як Чэхаў, перш чым пачаць непасрэдна працаваць над апавяданнем, доўга і сур'ёзна абдумваў яго змест, намячаў асноўныя сюжэтныя лініі.

Чэхаў вельмі ўважліва выбіраў сюжэты; ён рашуча адкідаў тыя з іх, у якіх была надуманасць, няпраўдападобнасць. «Не трэба выдумкі, фантазіі. Жыццё, якое яно ёсць», — любіў паўтараць пісьменнік. Няма патрэбы пісаць, што нехта сеў на падводную лодку і паехаў да паўночнага полюса шукаць нейкага прымірэння з людзьмі, а яго каханая ў гэты час з драматычным енкам кідаецца са званіцы. «Усё гэта няпраўда і ў сапраўднасці гэтага не бывае. Трэба пісаць проста: пра тое, як Пятро Сямёнавіч ажаніўся з Мар'яй Іванаўнай. Вось і ўсё».

У цэнтры ўвагі пісьменніка заўсёды было звычайнае, будзённае жыццё. Але найвялікшая навізна чэхаўскага таленту, сіла рэалізма пісьменніка ў тым і заключаецца, што ў малым, звычайным, будзённым ён убачыў вялікае і тыповае, вельмі важнае і значнае. Так, напрыклад, у сюжэтных адносінах апавяданне «Хамелеон» надзвычай простае. Гэта, па сутнасці, сцэнка-дыялаг, пабудаваная на адным эпізодзе (разбор «справы» аб «пакусанні» майстра Хрукіна невядомым сабакам). Аднак пад пяром пісьменніка звычайны паліцэйскі Ачумелаў стаў тыповым выражэннем самадзяржаўнага ладу.

Герой апавяданняў Чэхава — самы звычайны чалавек. Падзея, здарэнне заўсёды на другім плане ў пісьменніка. Галоўная ўвага ўдзяляецца паказу душэўнага стану дзеючых асоб, высвятленню іх псіхалогіі, настрою. Праз асобныя звычайныя выпадкі пісьменнік паказвае вялікае і складанае ў сваёй разнастайнасці жыццё, раскрывае ўсю сістэму грамадскіх адносін.

Для Чэхава мастацкае майстэрства пісьменніка было неаддзельным ад яго светапогляду. Толькі ў тым выпадку, сцвярджаў Чэхаў, мастак здолее «бачыць ясней, чым звычайныя людзі», калі ён па-новаму, па-свойму будзе глядзець на жыццё. Ужо адно тое, што пісьменнік «наглядае, выбірае, здагадваецца, кампануе — ужо адны гэтыя дзеянні маюць на ўвазе ў сваім пачатку пытанне; калі з самага пачатку не задаў сабе пытанне, то няма пра што здагадвацца і няма чаго выбіраць».

Талент вялікага пісьменніка таму і выявіўся з такой выключнай сілай, што ў сваёй творчасці ён здолеў паставіць жыццёва важныя праблемы, з выключнай бязлітаснасцю выкрыць самадзяржаўны лад, расійскае мяшчанства і абывацельства. Уся творчая практыка Чэхава пацвярджае яго ж думку аб грамадскай місіі мастака: сілаю свайго слова ўздзейнічаць на рэчаіснасць, клікаць і весці чытача да іншага, лепшага жыцця.

Чэхаў патрабаваў ад пісьменніка поўнага даверу да чытача, сцісласці, стрыманасці і мастацкай аб'ектыўнасці. У пісьме да Суворына 1 красавіка 1890 года ён так тлумачыць свой творчы прынцып: «Вы хочаце, каб я, паказваючы канакрадаў, гаварыў: кража коней ёсць зло. Але ж гэта і без мяне даўно вядома. Няхай судзяць іх прысяжныя засядацелі, а мая справа паказаць толькі, якія яны ёсць... Калі я пішу, я цалкам разлічваю на чытача, спадзеючыся, што суб'ектыўныя элементы, якіх нестае ў апавяданні, ён дадасць сам».

Тую ж думку выказвае ён і ў пісьме да Т. Л. Шчэпкінай-Куперпік: «...у вас сказана: «і яна гатова была дзякаваць лёсу, бедная дзяўчынка, за выпрабаванне, пасланае ёй». А трэба, каб чытач, прачытаўшы, што яна за выпрабаванне ўдзячна лёсу, сам сказаў: «бедная

дзяўчынка!..» або ў Вас: «гэтая карціна кранала за сэрца»... (калі краўчыха даглядае хворую дзяўчынку). А трэба, каб чытач сам сказаў: «гэтая карціна кранае за сэрца».

Няцяжка заўважыць, што пад «аб'ектыўнасцю» Чэхаў разумеў не раўнадушша пісьменніка, а праўду жыцця, адлюстраванне рэчаіснасці ва ўсёй яе канкрэтнасці, эмацыянальнае ўздзеянне на чытача.

Различваючы на тое, што чытач сам «дадасць суб'ектыўныя элементы», якіх у апавяданні нестае, Чэхаў у сваіх творах, як правіла, не выяўляе сваіх адносін да герояў, да іх учынкаў. Ён нідзе, напрыклад, проста не асуджае гераіню апавядання «Вяртуха» Ольгу Іванаўну — жанчыну лёгкадумную і пустую, нікчэмную і эгаістычную. Ён дае магчымасць чытачу самому разабрацца ў яе характары. «Няўжо не сумна быць простым, не надзвычайным, невядомым чалавекам ды яшчэ з такім пакамечаным тварам і з благімі манерамі», — думае яна, гледзячы на Карасцялёва. І нам становіцца зразумела, што да простых, маленькіх людзей Ольга Іванаўна адносіцца з пагардаю, лічачы сябе натурай выключнай.

Пісьменнік далей малюе вобраз сваёй гераіні. Ён проста не гаворыць, што ў яе — пошлы, мяшчанскі густ, а паказвае нам убранне яе кватэры: «Ольга Іванаўна ў гасцінай абвешала ўсе чыста сцены сваімі і чужымі эцюдамі ў рамах і без рам, а каля раяля і мэблі зрабіла прыгожую цеснату з кітайскіх парасонаў, мальбертаў, рознакаляровых шматкоў, кінжалаў, бюсцікаў, фатаграфій... У спальні яна, каб было падобна на пячору, задрапіравала столь і сцены цёмным сукном, павесіла над ложкамі венецыянскі ліхтар, а ля дзвярэй паставіла фігуру з алебардай».

Так праз само дзеянне, праз учынкі, праз думкі гераіні раскрывае перад намі пісьменнік яе характар.

Хоць Чэхаў і сімпатызуе Дымаву, але і ў адносінах да яго ён застаецца «аб'ектыўным», «халодным», даючы магчымасць чытачу самому ацаніць высакароднасць і вялікую маральную сілу гэтага сапраўды таленавітага чалавека. «Любіце сваіх герояў, але ніколі не гаварыце пра гэта ўголас», — любіў паўтараць Чэхаў.

Любоў і нянавісць Чэхава, як справядліва адзначае даследчык яго творчасці В. Ярмілаў, не будучы выказаны непасрэдна ў самім тэксце твораў пісьменніка, жывуць як бы пад тэкстам, у глыбокай падводнай плыні апавядання. Гэтую асаблівасць чэхаўскай творчасці К. С. Станіслаўскі і У. І. Немировіч-Данчанка назвалі падтэкстам або падводнай плынню.

## II

Жанр кароткага апавядання, гранічна сціслага, лаканічнага і ёмістага, Чэхаў падняў на небывалую вышыню. Нездарма Горкі гаварыў, што Чэхаву ў вышэйшай меры ўласціва майстэрства пісаць так, каб словам было цесна, а думкам прасторна. «Кароткасць — сястра таленту», не раз гаварыў сам пісьменнік. «Умею коратка гаварыць пра доўгія рэчы».

Чэхаў «умяшчаў» у свае невялікія апавяданні і аповесці такую колькасць жыццёвага матэрыялу, якога іншаму пісьменніку хапіла б на раман. Такія апавяданні, як «Палата № 6», «Дом з мезанінам», «Чалавек у футляры», «Сумная гісторыя» і інш., невялікія па памеру, але як глыбока адлюстраваны ў іх ідэйныя, філасофскія і эстэтычныя пошукі канца мінулага і пачатку нашага стагоддзя, жыццё цэлага пакалення людзей.

Многія створаныя Чэхавым вобразы-тыпы, такія, як Белікаў, унцер Прышыбееў, Ачумелаў, сталі агульнымі імёнамі, хоць пра іх напісана толькі некалькі старонак друкаванага тэксту.

Стараючы выключныя па сваёй выразнасці і сцісласці апавяданні.



Чэхаў павінен быў адысці ад многіх пратаптаных сцежак у літаратуры і шукаць новых мастацкіх прыёмаў. Так, ён максімальна скарачае апісальную частку апавядання і адразу ж пачынае разгортваць сюжэт. Апавяданне «Печанег», напрыклад, пачынаецца лаканічным паведамленнем аб тым, што ў вагоне цягніка пазнаёміліся двое: Жмухін Іван Абрамыч і «бялявы пан». Некалькімі штрыхамі пісьменнік стварае партрэт Жмухіна. Адстаўны казачы афіцэр, які служыў калісьці на Каўказе, а цяпер пражывае ў сябе на хутары (у мінулым — чалавек малады, здаровы, дужы, а цяпер стары, сухі і сутулы, з касматымі брывамі і з сівымі зеленаватымі вусамі), расказвае, чаго ён ездзіў у горад («гавеў і пісаў у натарыуса завяшчанне»). Субяседнік Жмухіна — «сярэдніх гадоў, пухлы, з паношаным партфелем. Разгаварыліся». Адразу за гэтым кароткім уступам Чэхаў прыступае да галоўнага — малюе дзікае, тупое жыццё печанегаў-абывацеляў.

«Звычайна пачынаючыя імкнуцца, як кажуць, «уводзіць у апавяданне» і палавіну напішуць лішняга. А трэба пісаць, каб чытач без тлумачэнняў аўтара, з самога ходу апавядання, з размоў дзеючых асоб, з іх учынкаў зразумеў, у чым справа... І наогул не трэба нічога лішняга...» — гаварыў Чэхаў.

Нічога лішняга няма і ў канцоўцы чэхаўскага апавядання. Яна гранічна сціслая і лаканічная, выразная і часта — нечаканая. Такая канцоўка актывізуе ўвагу чытача і з нейкага новага боку асвятляе падзеі ў творы. Вострую, нечаканую развязку мы знаходзім у такіх апавяданнях пісьменніка, як «Шведская запалка», «Без загалоўка», «На магнетычным сеансе», і многіх іншых.

У апавяданні «Выпадак з судовай практыкі» аўтар уводзіць чытача ў зал судовага пасяджэння, дзе судзяць за кражу і машэнніцтва мешчаніна Сідара Шмяльцова. Таварыш пракурора даказаў суду, што абвінавачаны не заслугоўвае спагады. Абараняў Шмяльцова вядомы і папулярны адвакат, «якога ведае ўвесь свет». Яго прамова ўсіх расчуліла. У публіцы «разгуляліся нервы», з залы пасяджэння вынеслі нейкую бледную даму. Старшыня суда ўздзеў акуляры, каб не заўважылі слязінкі на правым воку. Судовы прыстаў перастаў глядзець пагрозліва і палез у кішэню па насавую хусцінку. Пракурор падумаў, што лепш было б яму адмовіцца ад абвінавачвання: «Гэта ж такое фіяска пацярпець!» А абаронца ўсё гаварыў і гаварыў, сцвярджаючы, што ў асобе свайго кліента ён «мае гонар бачыць ідэальнага чалавека».

Здавалася б, усё складаецца ў карысць абвінавачанага. Але развязка апавядання — нечаканая. «Вінават», — загаварыў Шмяльцоў, перапыняючы абаронцу, — «Вінават. Прызнаю сваю віну. Краў і махлярствы строіў. Акаянны я чалавек!» І Шмяльцова засудзілі.

Чэхаў карыстаецца і такім мастацкім прыёмам, як нечаканы паварот падзей. Гэта дае магчымасць пазбягаць мнагаслоўнасці і надае сюжэту вастрыню, займальнасць. У якасці прыкладу спашлемся на апавяданне «Тоўсты і тонкі». Былыя сябры дзяцінства вельмі ўзрадаваліся сустрэчай. Яны тройчы пацалаваліся і пазіралі адзін на другога вачыма, поўнымі слёз. Тонкі расказвае свайму старому сябру пра сябе, знаёміць яго з сынам і жонкай, фамільярна называе «тоўстага» прыгажуном, душачкай, франтам. І раптам у размове высвятляецца, што перад «тонкім» — «яго высакароддзе», тайны саветнік, генерал... І тут у развіцці дзеяння настае паварот. Перад чытачом ужо не два старыя сябры, узрадаваныя сустрэчай, а два чыноўнікі, якія стаяць на розных ступеньках сацыяльнай лесвіцы. «Тонкі» пабялеў, скамянеў, гаворка яго стала лісліваи, дагодлівай. Ён паціснуў «тоўстаму» тры пальцы, пакланіўся ўсім тулавам, і на твары яго «было напісана столькі пашаны і страху,

столькі асалоды і пачцівай кіслаты, што тайнага саветніка знудзіла».

Дзеючых асоб у апавяданнях Чэхава — нямнога. Звычайна разгорнутую характарыстыку атрымоўвае адзін або некалькі галоўных персанажаў, астатнія пададзены другім планам і падкрэсліваюць тыя ці іншыя рысы персанажаў асноўнага плана.

«...З масы герояў і паўгерояў,— пісаў з гэтага поваду Чэхаў, — бярэш толькі адну асобу... кладзеш гэтую асобу на фон і малюеш толькі яе, яе і падкрэсліваеш, а астатніх раскідваеш па фону, як дробную манету, і атрымоўваецца нешта накшталт небасхілу: адзін вялікі месяц і вакол яго мноства вельмі маленькіх зорак».

Але і персанажы другога плана ў Чэхава намаляваны ярка і выразна, яны арганічна ўваходзяць у мастацкую тканіну твора. Галоўны герой апавядання «Настаўнік славеснасці» — выкладчык гімназіі Нікіцін. На ім галоўным чынам сканцэнтравана ўвага аўтара. Але апавядання аб тым, як малады настаўнік ледзь не трапіў у балота пошласці і мяшчанства і як ён потым праклінаў нікчэмных, пошлых людзей, — гэтага апавядання нельга нават сабе ўявіць без такога эпізадычнага персанажа, як выкладчык геаграфіі і гісторыі Іпаліт Іпалітавіч з яго «Волга ўпадае ў Каспійскае мора... Коні ядуць авёс і сена».

### III

Зыходзячы з патрабаванняў кароткага апавядання, Чэхаў дамагаўся выключнай выразнасці і сцісласці партрэтнай характарыстыкі герояў, адзначаючы ў іх знешнім вобліку самае істотнае, тое, што дапамагае зразумець, раскрыць іх унутраную сутнасць. Вось гранічна сціслы, але надзвычай яркі і выпуклы партрэт «апекуна» мастацтва Шабалдзіна з апавядання «Настаўнік славеснасці». «Звалі яго ў горадзе муміяй, бо ён быў высокі, вельмі худы, жылісты і меў заўсёды ўрачысты выраз твару і цьмяныя нерухомыя вочы. Сцэнічнае мастацтва ён любіў так шчыра, што нават галіў сабе вусы і бараду, а гэта яшчэ больш рабіла яго падобным на мумію».

Або ўспомнім класічны партрэт Белікава з яго парасонам і галёшамі, ватай у вушах, паднятым каўняром, з яго імкненнем усё схаваць і самому схавацца ў футляр. Даведзены пісьменнікам да гранічнай сэнсавай і пластычнай выразнасці, воблік гэтага чалавека стаў сімвалам часу, увасабленнем тупасці і дзікасці, што панавала ў тагачаснай Расіі.

Важнейшым сродкам стварэння вобраза з'яўляецца ў Чэхава мастацкая дэталь. Чыноўнік казённай палаты Мікалай Іванавіч Чымша-Гімалайскі ўсё жыццё марыў аб тым, каб купіць сабе маёнтак. І маляваліся яму ў галаве дарожкі ў садзе, шпакоўні, карасі ў сажалках і кусты агрэсту. Ніводнага паэтычнага месца ён не мог сабе ўявіць без таго, каб там не было агрэсту. Жыў ён скупа: не даядаў, не дапіваў, адзяваўся, як жабрак, і ўсё збіраў грошы і клаў у банк. Нарэшце ён купіў маёнтак і зажыў памешчыкам. І вось як малюе пісьменнік гэтага памешчыка:

«Іду да дому, а насустрач мне руды сабака, тоўсты, падобны на свінню. Хочацца яму брахаць, ды лянуецца. Выйшла з кухні кухарка, галаногая, тоўстая, таксама падобная на свінню, і сказала, што пан адпачывае пасля абеду. Уваходжу да брата, ён сядзіць у пасцелі, калені накрыты коўдрай; пастарэў, растаўсцеў, азыз; шчокі, нос і вусны цягнуцца наперад, — глядзі што рохкне ў коўдру».

Дэталь у чэхаўскіх апавяданнях замяняе доўгія апісанні, яна абуджае ўяўленне чытача. Чэхаў гаварыў, што для таго, каб падкрэсліць беднасць прасіцельніцы, не трэба траціць многа слоў, не трэба гаварыць пра яе няшчасны выгляд, а лепш толькі мімаходзь сказаць, што на ёй была парудзелая тальма.

Вядома таксама выказванне Чэхава аб тым, што месячная ноч атрымаецца, калі пісьменнік напіша: «на плаціне каля млына яркай зоркай мігцела шкельца ад разбітай бутэлькі і пакаціўся шарам чорны цень сабакі або ваўка». Такое апісанне месячнай ночы мы знаходзім у незакончаным апавяданні пісьменніка «Ваўкі».



У апавяданні «Тоўсты і тонкі» Чэхаў, каб даць чытачу магчымасць глыбей адчуць падхалімства і ліслівасць «тонкага», карыстаецца такой выразнай дэталлю: «Яго куфэркі, клункі і скрынкі сціснуліся, зморшчыліся»... І сам ён «згорбіўся, сагнуўся, звузіўся».

Канкрэтныя, сціслыя, выразныя замалёўкі прыроды ў Чэхава. Ён раіў маладым літаратарам бязлітасна выкрэсліваць агульныя мясціны накшталт: «Заходзячае сонца, купаючыся ў хвалях цямнеўшага мора, залівала барвовым золатам...», «Ластаўкі, лётаючы над паверхняю вады, весела шчабяталі» і г. д. У апісаннях прыроды трэба хапацца за дробныя дэталі, групуючы іх такім чынам, каб пасля таго, як прачытаеш напісанае, перад тваім позіркам узнікала карціна, — пісаў Антон Паўлавіч Чэхаў свайму брату.

У Чэхава апісанні прыроды арганічна звязаны з усім зместам твораў і сугучныя настроям герояў. У земскага ўрача Кірылава памёр адзіны сын, і «ва ўсёй прыродзе адчувалася штосьці безнадзейнае». «Куды ні глянеш, усюды прырода ўяўлялася цёмнай, бясконца глыбокай і халоднай ямай» («Ворагі»).

Або вось яшчэ: па дачнай платформе гуляюць шчаслівыя маладажоны. «З-за абрыўкаў хмар глядзеў на іх месяц і хмурыўся: мусіць яму было зайздросна і крыўдна за сваё сумнае, нікому не патрэбнае дзявоцтва» («Дачнікі»).

Класічны лірычны пейзаж створаны пісьменнікам у яго аповесці «Стэп». Малюнкі прыроды тут прасякнуты хвалюючым лірызмам, любоўю да Радзімы і чалавека.

Ствараючы пейзаж, Чэхаў заўсёды імкнуўся выклікаць у чытача пэўны эмацыянальны водгук, роздум, абудзіць у яго імкненне да іншага, лепшага жыцця.

Нельга не ўказаць і на выключную шматфарбнасць свету прыроды ў апавяданнях пісьменніка. Пейзажы яго здзіўляюць выключным багаццем колераў і тонаў.

Мова Чэхава даўно стала для пісьменнікаў узорам прастаты і маляўнічасці. «З упэўненасцю можна сказаць, — пісаў А. І. Купрын, — што Чэхаў, больш чым хтонебудзь паказаў гнуткасць, прыгажосць, зграбнасць і разнастайнасць рускай мовы». «Як стыліст, Чэхаў недасягальны», — адзначаў А. М. Горкі.

Немагчыма было б пералічыць усіх чэхаўскіх герояў, але кожны з іх гаворыць сваёю, толькі яму ўласцівою моваю, для кожнага ў пісьменніка хапае яркіх моўных фарбаў. Па мове можна пазнаць, якая натура ў таго ці іншага чэхаўскага героя, што ён за чалавек і да якога слою грамадства ён належыць.

«Цяпер бы дома сядзець ды богу маліцца, а я скачу, акі фараон на калясніцы». Такія словы павінны належаць толькі асобе духоўнага звання, — скажа кожны, хто іх прачытае. І сапраўды, гэта гаворыць айцец Хрыстафор з аповесці «Стэп».

А вось як — на тыповым прафесіянальным жаргоне — гаворыць мастак Рабоўскі з апавядання «Вяртуха»:

«Так-с... Гэта воблака ў вас крычыць: яно асветлена не па-вячэрняму. Пярэдні план неяк скамечан і штосьці, разумееце, не тое... А хацінка ў вас нечым удавілася і жаласліва пішчыць... трэба б вугал гэты цямнейшым зрабіць. А наогул няблага... Хвалю».

У апавяданні «Унтэр Прышыбееў» перад чытачом паўстае злавесная фігура ахоўніка самадзяржаўнага парадку, салдафона і даносчыка ўнтэр-афіцэра Прышыбеева. Характар яго як нельга больш яскрава праяўляецца ў мове: «... без гэтага нельга, каб не пабіць», «Дзе ж гэта ў законе запісана, каб народу волю даваць» і інш.

Сродкам самараскрыцця герояў выдатна служыў Чэхаву дыялаг. Амаль выключна на дыялагу пабудаваны такія апавяданні пісьменніка, як «Дачка Альбіёна», «Тоўсты і тонкі», «Хірургія», «Конскае прозвішча» і інш. У апавяданні «Хамелеон» праз дыялаг, рэплікі з натоўпу выяўляецца подласць і труслівасць «вартавога закона» Ачумелава, сацыяльная несправядлівасць тагачаснага грамадскага ладу.

Чэхаў многа працаваў над мовай сваіх твораў. «Пішу і закрэсліваю, пішу і закрэсліваю», — прызнаваўся ён адной са сваіх карэспандэнтак Е. Шаўровай. Ён імкнецца пазбягаць доўгіх, складаных канструкцый сказаў, многа працуе над тым, каб дамагчыся музыкальнасці, мілагучнасці мовы. Ён бязлітасна выкрэслівае ўсё лішняе, што абцяжарвае фразу, імкнецца да таго, каб кожнае слова стаяла на сваім месцы.

Чэхаў быў надзвычай патрабавальны да сябе. А. І. Купрын успамінае, што Чэхаў па некалькі год не друкаваў некаторыя свае апавяданні, крэслячы і перарабляючы іх. Нават карэктура, якая вярталася ад яго ў друкарню, была ўся чыста «размалявана» знакамі, устаўкамі. «Я не хачу прызнаваць апавяданняў без памарак, — гаварыў ён. — Трэба люта пэцкаць».

Аб тым, як многа працаваў Чэхаў над сваімі творамі, сведчаць яго рукапісы, варыянты друкаваных тэкстаў, першапачатковых і канчатковых рэдакцый. Істотным чынам перапрацаваны былі, напрыклад, такія апавяданні, як «Хамелеон», «Анна на шыі», «Тоўсты і тонкі» і многія іншыя.

У першай рэдакцыіліслівасць «тонкага» ў асноўным выклікалася начальніцкім вокрыкам «тоўстага», якога пісьменнік паказваў самазадаволеным чыноўнікам. Але потым Чэхаў змяніў матывіроўку паводзін дзеючых асоб, прыдумаў новы, нечаканы паварот падзей.

Чэхаў гаварыў, што кожнаму пісьменніку трэба вельмі многа працаваць. «Мастак павінен заўсёды працаваць, заўсёды абдумваць, таму што інакш ён не можа жыць». Пачуўшы ад Буніна, што той мала піша, ён сказаў: «Трэба, ведаеце, працаваць... Не пакладаючы рук. Усё жыццё».

Не пакладаючы рук, усё жыццё працаваў сам Чэхаў, ствараючы глыбокія па зместу і дасканалыя па сваёй мастацкасці творы. «...Ён, як Пушкін, рушыў наперад форму. І гэта вялікая заслуга» (Л. Талстой).



**Дом-музей А. П. Чэхава ў Ялце.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

# НА ЎСКРАІНЕ ЯЛТЫ

Чэхава можна чытаць і перачытваць, як Пушкіна, Лермантава, Блока, кожны раз адкрываючы нешта новае ў яго паэтычнай прозе. Адгорнеш старонку, і перад табою, як жывыя, паўстаюць яго героі. Ты бачыш іх такімі, якімі іх бачыў Антон Паўлавіч, даведваешся пра іх больш, чым яны самі ведалі пра сябе, увесь у палоне іх перажыванняў, сам пакутуеш і радуешся разам з імі.

Перад табою стаіць, нібы жывы, замецены снегам рамізнік Іона Патапаў, ты нібы чуеш яго асіплы голас:

— А ў мяне, пане, таго... сын на тым тыдні памёр.

І цябе агортвае туга, як той мокры снег, што падае на плечы Іоны. Ты бачыш самаахвярнага, зламанага жыццём доктара Восіпа Сцяпанавіча Дымава, які, не шкадуючы сябе для людзей, адзінока жыў у шумным доме і ў адзіноце памёр. І адразу ўяўляецца змрочны век Белікавых і Іонычаў, Гаевых і Ранеўскіх, хціўых Ярмалаяў Лапахіных. Супроць іх з палымянаю вераю ў светлы заўтрашні дзень выступаў у «Трох сёстрах» Тузенбах, у «Вішнёвым садзе» — Пеця Трафімаў, у «Нявесце» — працавіты, чысты душою летуценнік Саша. Гэта ён гаварыў: «Галоўнае — перайначыць жыццё; ён верыў, што «... будуць тады тут велізарныя, незвычайныя дамы, цудоўныя сады, фантаны нябачаныя, выдатныя людзі. Але галоўнае не гэта. Галоўнае тое, што натоўпу ў нашым сэнсе, у якім ён ёсць цяпер, гэтага зла не будзе, таму што кожны чалавек будзе верыць і кожны будзе ведаць, дзеля чаго ён жыве».

Пра тое ж гаварыў студэнт Пеця Трафімаў з камедыі «Вішнёвы сад»: «Чалавецтва ідзе да вышэйшай праўды, да вышэйшага шчасця, якое толькі магчыма на зямлі, і я ў першых радах!»

Гэтыя прароцкія словы, поўныя веры ў шчаслівую будучыню свай-

го народа, які «перайначыць жыццё», Антон Паўлавіч Чэхаў напісаў у сваім невялічкім кабінеце ялцінскага дома ў 1903 годзе. І ўжо вось 57 гадоў на стале вялікага пісьменніка ляжыць крэслены і перакрэслены рукапіс яго апавядання «Нявеста», а з левага боку — доктарскі малаточак і драўляны стэтаскоп урача Антона Паўлавіча Чэхава. Мабыць таму такою жыццёваю праўдаю прасякнуты кожны радок чэхаўскіх апавяданняў і п'ес, што іх аўтар не «вывучаў» жыццё збоку, а жыў жыццём сваіх герояў; лячыў іх, хадзіў да іх у госці, і яны ішлі да яго са сваімі радасцямі і клопатамі, з горам і надзеямі, як да самага блізкага чалавека.

Мінула пяцьдзесят пяць гадоў, як выехаў і больш не вярнуўся ва ўтульны ялцінскі домік Антон Паўлавіч, але і сёння на вуліцах Ялты зусім натуральна гучыць пытанне:

— Як прайсці ў дом Антона Паўлавіча?

І кожны стрэчны, — не толькі ялцінец, а нават курортнік, які пражыў тут усяго тыдзень, — падрабязна раскажа, дзе зручней сесці ў аўтобус № 8 і як адшукаць славуты беленькі домік у густой засені кіпарысаў і кедраў на самай ускраіне Ялты.

Невялічкая двухпавярховая дача на адхоне гары ў густым дбайна дагледжаным парку. Праз вузенькі дворык бяжыць сцяжынка да параднага ганка. На дзвярах медная дошчачка: «А. П. Чэхаў». Адсюль не відно ні горада, ні мора — высокія кіпарысы, падобныя на зялёныя верацёны, беражліва атуляюць чэхаўскі домік ад вятроў і навальніц, ад няспыннага шуму паўднёвага горада. А на захадзе тонуць у шызай смузе высокія горы, укрытыя барвовымі і залатымі дыванамі шчодрай крымскай восені.

Тут, на гэтым камяністым адхоне, у верасні 1898 года з'явіўся славуты пісьменнік А. П. Чэхаў, прымушаны цяжкаю хваробаю пасяліцца ў цёплым Крыме. Ён катэгарычна адмовіўся ехаць на модныя замежныя курорты, каб ні на хвіліну не адрывацца ад радзімы, ад Расіі, ад яе людзей і клопатаў, якімі ён жыў і якія лічыў важнейшымі за сваю пісьменніцкую працу. У лісце да В. М. Сабалеўскага Антон Паўлавіч пісаў: «Без Расіі нядобра, нядобра ва ўсіх сэнсах... З усіх рускіх цёплых мясцін самае лепшае пакуль — паўднёвы бераг Крыма... У Крыме ўтульней і бліжэй да Расіі».

На ўскраіне Ялты, у вёсцы Аутка, Чэхаў купіў па сходнай цане кавалачак зямлі і пачаў разам з архітэктарам Л. М. Шапаваловым праектаваць свой будучы дом. Будаўніцтва цалкам захапіла пісьменніка, але не было сродкаў, каб закончыць дом к наступнай вясне. І Чэхаў вымушаны быў абрабаваць сябе, прадаўшы права на выданне ўсіх сваіх ранейшых, цяперашніх і будучых твораў выдаўцу А. Ф. Марксу, каб толькі дабудаваць свой домік. Ранняю вясною 1899 года Антон Паўлавіч на сваім участку капаў зямлю і садзіў першыя дрэвы будучага саду.



**Таполя, пасаджаная А. П. Чэхавым.**



Ён пісаў лісты садоўнікам розных куткоў Расіі, просячы прыслаць насенне кветак і дрэў. Ён хацеў, каб у яго садзе раслі бярозы і асіны, каб, як і ў Меліхаве, увосень шумеў лістапад. Ён садзіў субтрапічныя лімоны і масліны, мушмалу і японскую хурму; многія гатункі ружаў упершыню ў Крыме з'явіліся на камяністым адхоне вёскі Аутка ў садзе А. П. Чэхава. Ён марыў, каб сады, дрэвы і кветкі акружалі кожнага чалавека, каб зямля красавала буйным цветам, на шчасце людзям.

Перш чым сказалі пра гэта героі чэхаўскіх твораў, вялікі пісьменнік сам саджаў сады ў Меліхаве і ў Ялце, будаваў школы і бальніцы, быў нястомным санітарным урачом у часе эпідэміі халеры, перапісчыкам насельніцтва на Сахаліне і ў губернях цэнтральнай Расіі, актыўным земскім дзеячом. І кожнай справе ён аддаваў усю сваю душу, энергію, сілы і час.

Каб зразумець чалавека і ўсё тое, чым ён жыве, трэба пабыць у яго доме. Кожная кватэра, кожны пакой мае сваё непаўторнае аблічча, свае асабістыя рысы, якія раскрываюць і характарызуюць іх гаспадара. Ялцінскі дом Чэхава ад пачатку да канца — чэхаўскі дом. Невялічкі, просты, збудаваны з дзікага мясцовага каменя, ён увесь заліты сонцам, сцены яго адсвечваюць нейкім сіняватым святлом, нібы складзеныя з цвёрдага цукру.

Тая ж прастата і асветленасць — у кожным пакоі. Нічога крыклівага і шыкоўнага, нічога лішняга. Па вузкім калідоры адразу заходзіш у невялікую сталовую. Абедзенны стол накрыты кужэльным абрусам, просценькі буфет, гнутыя венскія крэслы, а ў кутку, каля выхаду на веранду, стаіць піяніна даўняй работы. Антон Паўлавіч сам не іграў, але вельмі любіў музыку. У яго доме былі частымі гасцямі не толькі славутыя пісьменнікі, але і музыканты, кампазітары, артысты і мастакі. На гэтым піяніна не раз ігралі свае творы Рахманінаў і Спендзіяраў, пад іх акампанемент у гэтым пакоі спяваў «Дубінушку» і «Тройку», арыі Мефістофеля і Сусаніна Фёдар Іванавіч Шаляпін. За гэтым сталом не раз сядзелі Горкі і Мамін-Сібірак, Бунін і Куприн, Андрэеў і Гіляроўскі. Тут былі заснавальнікі МХАТа Станіслаўскі і Немировіч-Данчанка, славутыя акцёры Качалаў, Масквін і ўся трупа праслаўленага тэатра, які так глыбока зразумеў і так натхнёна прачытаў усяму свету чэхаўскія п'есы.



**Куток у сталовай.**

Аб прыездзе МХАТа ў Ялту, да свайго аўтара, з пастаноўкамі «Чайкі» і «Дзядзі Ванi» напамінаюць зялёныя пальмавыя галінкі, перавязаныя чырвонаю стужкай з надпісам: «Антону Паўлавічу Чэхаву, глыбокаму тлумачальніку рускай рэчаіснасці, 23 красавіка 1900 г.». Іх паднёс Чэхаву хтосьці з гледачоў у часе першага спектакля.

На сцяне вісіць вялікая незакончаная карціна «Беднасць», напісаная братам пісьменніка Міка-

лаем Паўлавічам. Глядзіш на яе і здаецца — адна з гераінь твораў вялікага гуманіста прыйшла сюды, са сваім горам, роспаччу і з надзеяй, што тут яе зразумеюць.

Клапоцячыся пра сваіх няшчасных суайчыннікаў, Чэхаў пісаў А. М. Горкаму ў лістападзе 1899 года: «Даймаюць сухотныя беднякі... бачыць іх твары, калі яны просяць, і бачыць іх вартыя жалю коўдры, калі яны паміраюць, — гэта цяжка. Мы вырашылі будаваць санаторыю, я склаў адозву; склаў, бо не знаходжу нічога іншага. Калі можна, прапагандуйце гэтую адозву праз ніжагародскую і самарскую газеты, дзе ў вас ёсць знаёмствы і сувязі...»

Гэта сюды, у чэхаўскі дом, прыходзіў пехатою за 40 вёрст ад Ялты настаўнік з пачатковай школы вёскі Мухалаткі за парадаю, як выратаваць школу, каб яе не зачынілі, бо не было сродкаў на ўтрыманне. Чэхаў аддаў свае апошнія 500 рублёў і выратаваў школу.

Днём і ноччу стукалі ў дзверы да доктара Чэхава беднякі з вёскі Аутка. Ён не толькі прыймаў іх, але і даваў лякарствы, купленыя за свой кошт. На свае сродкі ён адкрыў невялічкі санаторый для беднаты, хворай на сухоты. У наш час гэты санаторый ператварыўся ў цудоўную здраўніцу імя А. П. Чэхава.

Глядзіш праз вокны веранды, што прымыкае да сталовай, у невялічкі дворык, а там ужо стаіць доўгая чарга экскурсантаў. Бачыш парадныя мундзіры данецкіх шахцёраў і спартыўныя курткі юных турыстаў, кіцелі пасівелых палкоўнікаў і вышываныя блузкі калгасніц, чырвоныя гальштукі піянераў. Глядзіш і думаеш: вось яны, шчаслівыя нашчадкі тых пакутнікаў, што больш за паўвека назад пратапталі гэтую сцежку да дома шчырага чалавека, чулага доктара і вялікага пісьменніка. І гэтая сцежка да светлай памяці Чэхава ніколі не згубіцца і не зарасце. Але нашчадкі прыйшлі «да вышэйшага шчасця, якое толькі магчыма на зямлі», значна раней, чым чакаў гэтага Антон Паўлавіч Чэхаў. Усе радасці савецкай зямлі — крымскае сонца і чарнаморскія пляжы, аўдыторыі акадэмій і бязмежныя палі Радзімы, незлічоныя скарбы яе нетраў — належаць народу, які свята шануе памяць і працу сваіх выдатных папярэднікаў.

Ціха, без адзінага гуку, праходзяць экскурсанты ў невялікі кабінет пісьменніка. Кожны неяк падсвядома адчувае, нібы гаспадар толькі на хвіліну адышоў ад свайго рабочага стала, пакінуўшы рукапіс «Нявесты» і разгорнуты французскі часопіс «Le Rire» («Смех») за 1896 г. з карыкатурнымі партрэтамі каранаваных асоб. Тут жа вісіць брызентавы партфель з надпісам «Перапіс 1897». З ім славуты пісьменнік абышоў 16 вёсак меліхаўскага перапіснога ўчастка. На каміне, супроць пісьмовага стала, стаіць медны званочак. На ім высечана: «Востраў Сахалін, пост Аляксандраўск, 1889 год». Падараваў гэты званочак Антону Паўлавічу сахалінскі катаржанін летам 1890 года, калі Чэхаў на конях, па размытых паводкай дарогах праехаў усю Сібір і з'явіўся на страшэнным востраве смерці і здзекаў над чалавекам. «Сахалін, — пісаў ён, — гэта месца невыносных пакут, на якія толькі бывае здольны чалавек вольны і паднявольны...» — і далей: — «...мы згнаілі ў турмах мільёны людзей, згнаілі дарэмна, без разважанняў, па-варварску». Чэхаў аб'ехаў увесь востраў-турму, перапісаў усіх катаржан і пасяленцаў, якіх налічвалася тады каля 10 тысяч. «Буду ваяваць, галоўным чынам, супроць пажыццёвага пакарання», — пісаў ён Суворыну. І ваяваў за справядлівасць, за лёс кожнага чалавека.

Як помнік вялікаму пісьменніку-гуманісту на савецкім Сахаліне вырас цудоўны новы горад. Народ назваў яго — Чэхаў.

Кожная рэч у доме Чэхава можа расказаць цэлую гісторыю з





**Пісьмовы стол А. П. Чэхава.**

жыцця яе гаспадара: пра яго грамадзянскі подзвіг служэння народу, прыгнечанаму і зняважанаму, пра яго блізкасць да простых людзей, пра тое душэўнае святло, якое саргавала і акрыляла, рабіла лепшым і працейшым кожнага, з кім ён хоць раз сустракаўся.

«Мне здаецца, — успамінаў А. М. Горкі, — што кожны чалавек пры Антону Паўлавічу міжвольна адчуваў у сабе жаданне быць прасцейшым, праўдзівейшым, быць больш самім сабою, і я не раз назіраў, як людзі скідалі з сябе стракатыя ўбранні кніжных фраз, модных слоў і ўсе іншыя танныя штучкі, якімі рускі чалавек, строячы з сябе еўрапейца, упрыгожваецца, як дзікун ракавінамі і рыбінымі касцямі».

І сёння творы Чэхава свецяцца ачышчальным святлом праўды, гуманізму і вялікіх надзей. У кожным яго апавяданні мы адчуваем вялікую веру ў людзей, якія павінны «перайначыць жыццё». Яны перайначылі яго ў семнаццатым годзе. Гэты чэхаўскі заклік застаецца актуальным і сёння для мільёнаў прыгнечаных і зняважаных у краінах капітала.

16 красавіка 1944 года, у першы дзень вызвалення Ялты, байцы і афіцэры Савецкай Арміі прыйшлі ў домік Чэхава, каб схіліць свае галовы, зняўшы прабітыя і абпаленыя каскі. Тут яны пакінулі сваё пісьмо сястры пісьменніка:

«Дарагая Марыя Паўлаўна! Байцы і афіцэры нашай часці горача ўдзячны Вам за тое, што ў цяжкія дні фашысцкай акупацыі Вы здолелі зберагчы гэты родны і блізкі кожнаму рускаму чалавеку домік нашага цудоўнага пісьменніка Антона Паўлавіча Чэхава.

Зараз мы ідзём у бой. У імя любві да жыцця, у імя любві да чалавека, у імя ўсяго таго, чым жыў і што любіў наш Чэхаў, мы будзем знішчаць орды фашысцкіх вылюдкаў, якія залілі крывёю нашу родную зямлю».

Цяпер кожны год у доміку Чэхава бывае больш за 90 тысяч экскурсантаў.

«А. П. Чэхаў, мілы чалавек, вечна жыве ў душах удзячнага народа», — запісалі індыйскі пісьменнік Анвар Азім і настаўніца Саджыда Зандзі.

Як да жывога і самага блізкага, да гаспадара беленькага ялцінскага доміка звярнуліся настаўнікі Асіповіцкай школы № 1: «Бывайце, дарагі Антон Паўлавіч! Вы заўсёды з намі!»

Да гэтых пачуццяў нашых землякоў з Асіповіч з радасцю далучаецца кожны з нас.

Вечна жывы, заўсёды з намі вялікі пісьменнік, шчыры друг чалавецтва Антон Паўлавіч Чэхаў.

## З блакнота падарожніка

**М. АСТРЭКІН,**
**Герой Савецкага Саюза**

# СЯРОД ІЛЬДОЎ АНТАРКТЫДЫ

Ужо больш чатырох год вучоныя свету па праграме Міжнароднага геафізічнага года праводзяць даследаванні геафізічных з'яў на ўсім зямным шары. Сярод гэтых даследаванняў вялікую навуковую каштоўнасць уяўляе вывучэнне самай маладаступнай часткі свету — Антарктыды.

Ледзяным кантынентам Антарктыды зацікавіліся вучоныя многіх краін, але піянерамі ў вывучэнні яе былі нашы суайчыннікі. Яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя два невялікія парусныя шлюпы, рассоўваючы плывучыя ільды, лавіруючы сярод айсбергаў, прабіваліся на поўдзень, да Антарктыды. Гэта была руская экспедыцыя на чале з Ф. Белінсгаўзенам і М. Лазаравым. Праз два гады экспедыцыя завяршылася бліскуча— 28 студзеня 1820 года яна адкрыла шосты мацярык свету, даследаванне якога асабліва эфектыўна вядзецца ў нашы дні.

Працягваючы слаўныя традыцыі рускай навукі, зараз у Антарктыдзе самааддана працуюць над вырашэннем таямніц суровага ледзянога кантынента савецкія палярнікі. У 1955 годзе ў сувязі з правядзеннем Міжнароднага геафізічнага года Савецкі Саюз накіраваў у Антарктыду комплексную навуковую экспедыцыю. З таго часу там няспынна праводзяцца вялікія навуковыя работы.

У 1958 годзе Трэцяя савецкая антарктычная экспедыцыя, у якой давялося удзельнічаць і мне, рабіла рэгулярныя навуковыя назіранні на шасці станцыях. Экспедыцыю ўзначальваў Герой Савецкага Саюза Я. І. Тоўсцікаў. З сямі навуковых станцый, створаных на ледзяным купале Антарктыкі, чатыры належаць Савецкаму Саюзу. Гэта станцыі — Піянерская, Камсамольская, Савецкая і Усход, якая размешчана ў раёне геамагнітнага полюса. У снежні 1958 года была арганізавана і часова працавала станцыя на Полюсе недаступнасці.

Галоўная база савецкіх даследчыкаў у Антарктыдзе — абсерваторыя пасёлка Мірны. Тут пабудаваны добра абсталяваныя, забяспечаныя ўсімі неабходнымі прыборамі павільёны і лабараторыі. Атмасфера даследуецца аж да вышынных пластоў іёнасферы. Вывучаюцца таксама з'явы зямнога магнетызму, атмасфернай электрычнасці, умовы распаўсюджвання радыёхваль, інтэнсіўнасць сонечнай радыяцыі, касмічныя прамені, палярныя ззянні і інш.

Штогод у пасёлку Мірны жывуць і працуюць 100—150 навуковых супрацоўнікаў, радыстаў, шафёраў, трактарыстаў, лётчыкаў, механікаў і іншых спецыялістаў.

У палярнікаў ёсць усё неабходнае — жылыя домікі, сталоўка, электрастанцыя, майстэрня, амбулаторыя, склады. Электрастанцыя пасёлка асвятляе і ацяпляе жыллё.

Магутная радыёстанцыя Мірнага трымае сувязь з Масквой, з усімі нашымі і замежнымі ўнутрыкантынентальнымі станцыямі, прымае і перадае вынікі навуковых назіранняў. Кожную раніцу радыёцэнтр пасёлка перадае апошнія паведамленні з Масквы, запісаныя ноччу на магнітафонную плёнку. Па мясцовай радыёсетцы паведамляецца, на чыё прозвішча атрыманы тэлеграмы з далёкай Радзімы.



Пасёлак Мірны — зыходная база навуковых экспедыцый, якія накіроўваюцца ў глыбіню Антарктыкі. У канцы 1957 года з Мірнага ў нязведаныя раёны выйшаў поезд цягачоў. Была арганізавана станцыя Савецкая, а таксама забяспечаны неабходнымі грузамі станцыі Усход, Камсамольская і Піянерская. Цягачы прайшлі па ледзяным кантыненце каля чатырох тысяч кіламетраў на вялікіх вышынях, пры моцных марозах, якія дасягалі 60 градусаў.

У верасні — кастрычніку 1958 года з Мірнага выйшлі два новыя паязды. Адзін з іх прайшоў больш 700 кіламетраў па мясцінах, дзе не ступала нага чалавека. Вялікая вышыня (да 4 000 метраў над узроўнем мора), моцна разрэджанае паветра, глыбокі снег, у якім грузлі цягачы і нагружаныя сані, усё гэта рабіла паход вельмі цяжкім.

15 снежня 1959 года, паспяхова пераадолеўшы складаны і цяжкі шлях у 2 200 кіламетраў, поезд савецкай экспедыцыі прыбыў на Полюс адноснай недаступнасці і ўстанавіў там савецкі сцяг.

На ўсім маршруце гэтага паходу праводзіліся вялікія навуковыя работы. У выніку даследаванняў вучоныя-палярнікі зрабілі шэраг цікавых адкрыццяў. Так, напрыклад, яны ўстанавілі, што Антарктыда — гэта не архіпелаг, як лічылі раней, а кантынент з перасечаным рэльефам, пакрыты магутным пластам лёду, таўшчыня якога ў некаторых месцах перавышае тры тысячы метраў.

Кожнаму новаму чалавеку, які трапляе ў Мірны, многае тут здаецца вельмі дзіўным. У паўночным паўшар'і мы ўсе прывыклі да таго, што Сонца робіць сутачны рух па небе злева направа, што ў поўдзень яно знаходзіцца на поўдні. Там жа, у паўднёвым паўшар'і, наадварот — Сонца рухаецца справа налева, у поўдзень яно свеціць з поўначы. Поры года таксама процілеглыя: калі ў паўночным паўшар'і лета, там настае зіма, і наадварот. Прычыны гэтага добра вядомы кожнаму школьніку. Аднак без прывычкі ўсё гэта здаецца нейкім незвычайным.

Большую частку года моры, якія амываюць Антарктыду, скаваны лёдам. Толькі прыкладна ў канцы студзеня марскі падталы лёд крышыцца



**Пасёлак Мірны. Агульны выгляд.** Жнівень 1958 г.

і ветрам адносіцца ў больш цёплыя раёны, дзе ён зусім растае. У красавіку мора зноў пакрываецца маладым лёдам. У летні час дзённая тэмпература паветра ў Мірным толькі на некалькі градусаў вышэй нуля. Ноччу падмарожвае. У ясныя дні добра грэе сонца, ды такое ласкавае, шчодрае, што ў палярнікаў на тварах з'яўляецца загар. Аднак такія дні не частыя. Звычайна летам ля берага Праўды, дзе знаходзіцца пасёлак Мірны, бушуюць хвалі Індыйскага акіяна. На іх павольна дрэйфуюць велізарныя айсбергі, нібы казачныя ледзяныя палацы.

У красавіку — маі, калі ў нас усё зазелянее, там, на беразе далёкага ледзянога кантынента, ужо адчуваецца подых суровай зімы: скаваныя лёдам, нерухома стаяць у моры айсбергі, усё часцей лютуюць штармавыя вятры і бураны, мацнеюць марозы, карацейшымі робяцца дні — набліжаецца палярная ноч. Палярнікі Мірнага наводзяць вераўчаныя лееры, каб можна было, трымаючыся за іх, хадзіць у пургу, умацоўваюць стальнымі тросамі домікі, што стаяць на скалах, падвозяць да кожнага з іх запасы лёду, нарэзанага брускамі, якім карыстаюцца для прыгатавання вады. На выпадак ураганаў, калі рух у пасёлку зусім спыняецца, ва ўсіх дамах ствараюцца запасы харчавання. Палярнікі забяспечваюцца спецыяльнай кліматычнай вопраткай і маскамі, без якіх у пургу нельга абысціся, бо твар пакрываецца снегавою карой.

Нашай змене пашанцавала: у красавіку, маі, чэрвені часам бывалі добрыя, ясныя дні. У такія дні аматары рыбалкі вельмі карысна праводзілі гадзіны адпачынку, ловячы рыбу з-пад лёду ў моры Дэйвіса. Тут звычайна ловіцца рыба, якая вельмі на-

гадвае бычкоў або навагу; сустракаюцца часам экземпляры, падобныя да вастраносай сцярлядкі зеленаватага колеру.

У красавіку, з надыходам зімы, вяртаюцца на сваё звычайнае месца пінгвіны. Яны размяшчаюцца сярод айсбергаў па суседству з берагам Праўды. Пра іх жыццё і звычкі можна расказваць шмат цікавага. Зімоўшчыкі Мірнага бывалі сведкамі такіх цікавых эпізодаў. Пінгвіны стройнымі радамі, расцягнуўшыся ў калону даўжынёю больш чым на два кіламетры, урачыста ішлі да берага. Не даходзячы да ледзянога абрыву насупраць пасёлка, важакі, што ішлі ўперадзе, спыняліся. Уся калона, працягваючы рухацца, абыходзіла гэтую групу і перастройвалася, каб вярнуцца назад.

Зіма ў Антарктыцы суровая. Вятры тут даходзяць да 45—50 метраў у секунду. Асабліва люты ліпень месяц, на працягу якога амаль бесперапынна дзьмуць вятры і снегавы пыл засцілае ўсё навокал. Часта нават яркія агні пражэктараў відны толькі з адлегласці некалькіх метраў. У жніўні, хоць і рэдка, але ўсё ж бываюць пагодлівыя дні. У верасні іх больш. Аднак у год нашай зімоўкі штармавыя вятры і пурга бывалі нават у летнія месяцы. У снежні жорсткая пурга лютавала бесперапынна амаль дзесяць дзён. Палярнікі Мірнага за зіму прызвычаіліся да пургі і ўраганаў. Вятры з хуткасцю 25 метраў у секунду, якія, як вядома, вырываюць з карэннем дрэвы, здаваліся нам зусім звычайнымі. Пры любым надвор'і ў абсерваторыі Мірнага няспынна праводзіліся навуковыя назіранні. Нашы аэролагі нават пры хуткасці ветру 40 метраў у секунду выпускалі радыёзонды, а гэта рабіць было вельмі цяжка.



Даследаванне берагоў у раёне п. Мірнага.

На навуковым савеце экспедыцыі рабіліся даклады аб выніках назіранняў, абмяркоўваліся планы і праграмы новых работ. З вялікай увагай сачылі палярнікі Мірнага за работай сваіх таварышаў, якія знаходзіліся на далёкіх станцыях у глыбіні Антарктыды, дзе ў зімовыя месяцы маразы дасягаюць 85 градусаў. Там адкрыты новы полюс холаду, ва ўмовах якога людзі раней ніколі не жылі. Пры васьмідзесяціградусным марозе чалавек нават у самым цёплым адзенні не можа знаходзіцца на адкрытым паветры больш 10—15 мінут. Дастаткова патрымаць у руцэ з двайною футравай пальчаткай метал на працягу 2—3 мінут, як пальцы ўжо адмарожаны. Пры гэтай тэмпературы газа ператвараецца ў цвёрдую снегавую кашу; саляр (вадкае паліва) робіцца густым, як цеста; палаючы факел пры апусканні ў бляшанку з бензінам не толькі не выклікае выбуху, але і сам гасне.

З надыходам вясны, пачынаючы з верасня, становяцца часцейшымі пагодлівыя дні са слабымі вятрамі. Ледзяная паверхня і горы айсбергаў асляпляльназзяюць у яркіх промнях сонца. З дахаў дамоў звісаюць лядзянкі.

У такія дні бывае ажыўлена на вуліцах пасёлка Мірнага. Адкопваюцца бочкі з палівам, тарахцяць бульдозеры, выдзіраючы з-пад трохмятровага пласту снегу сані, ідзе падрыхтоўка грузаў для паяздоў, якія павінны рушыць у дарогу.

З надыходам добрага надвор'я ў паветры часта паяўляюцца самалёты. Яны лётаюць на ўнутрыкантынентальныя станцыі, дастаўляючы розныя грузы і паліва, неабходнае для паяздоў. Праводзяцца палёты і з мэтай навуковых назіранняў.

24 кастрычніка 1958 года быў зроблены выдатны палёт на самалёце ІЛ-12 (камандзір т. Пяроў, штурман т. Бродкін) па маршруту Мірны — Паўднёвы полюс — амерыканская база Мак-Мурдо. Ідучы на вышыні 4 000 метраў над бясконцай ледзяною пустыняй, савецкі самалёт за 13 гадзін 50 мінут без пасадкі пакрыў адлегласць каля чатырох тысяч кіламетраў. Па ўсім маршруце рабіліся навуковыя назіранні.



Палёты з Мірнага далі вельмі каштоўныя і цікавыя звесткі па вывучэнню рэльефу ледзянога мацерыка.

З надыходам вясны ў нас у Мірным з'явіліся аматары агародніцтва. Ініцыятарам гэтай справы стаў лётчык Пяроў. У скрыні з зямлёю, пастаўленай у пакоі перад акном, ён пасадзіў насенне гуркоў і памідораў і пачаў старанна даглядаць свой «гарод». «Сонцам» яму служыла вялікая электрычная лямпа. На свята 7 лістапада Пяроў частаваў сяброў першымі свежымі гуркамі, якія мелі, як нам здавалася, незвычайна моцны і прыемны пах. Расадаю памідораў ён падзяліўся са сваімі суседзямі, і ў іх пакоях выраслі пышныя кусты зяляніны, а потым паспелі сапраўдныя плады.

Летам таянне снегу ў Мірным ішло вельмі слаба, таму што тэмпература паветра рэдка калі падымалася на два — тры градусы вышэй нуля. У моры трымалася шырокая стужка лёду, якая амаль не таяла. У ціхія летнія дні яркасць святла пасярод белай ледзяной пустыні такая вялікая, што без цёмных акуляраў хадзіць па вуліцы немагчыма.

30 снежня 1958 года ад родных берагоў да нас прыбыў дызель-электраход «Об». Ён прывёз пісьмы і пасылкі ад родных і блізкіх, новую змену зімоўшчыкаў, а сярод іх — многа сяброў і знаёмых.

21 студзеня 1959 года на пасажырскім цеплаходзе «Міхаіл Калінін» увесь састаў Трэцяй антарктычнай экспедыцыі пакінуў берагі сурова шостага кантынента. За год работы былі сабраны багатыя матэрыялы, апрацоўка і аналіз якіх запатрабуе шмат працы і часу ў вялікага калектыву вучоных розных спецыяльнасцей.

Выканаўшы заданне любімай Радзімы, праз два месяцы мы ступілі на родны бераг.



З надыходам зімы вяртаюцца на сваё звычайнае месца пінгвіны.

Давайце пагаворым...

Юлія ЧУРКО

# А ЯК ЖА ТАНЦАВАЦЬ?

Цёмнавалосы юнак у ветлівым паклоне схіляецца перад нашай суседкай—дзяўчынай у прыгожым светлым плацці:

— Дазвольце?..

Дзяўчына толькі адмоўна круціць галавою. Збянтэжаны няўдачай, юнак спрабуе звярнуць на сябе ўвагу другой дзяўчыны, якая стаіць побач, але тая робіць выгляд, што не заўважае яго запытальнага позірку.

Юнак адыходзіць ад яе і робіць апошнюю спробу:

— Можа вас можна запрасіць патанцаваць?—падыходзіць ён да трэцяй. Дзяўчына разгублена паціскае плячыма.

— Гэты танец я не танцую,—ледзь чутна гаворыць яна.

Збянтэжаны дарэшты, юнак з няёмкай усмешкай хаваецца за бліжэйшай калонай. А вакол гучаць то бравурныя, то задумлівыя гукі вальса-мазуркі, у імклівым танцы праносяцца пары.

— Скажыце, чаму вы не пайшлі танцаваць? — звярнуліся мы да суседкі, той самай дзяўчыны ў светлым плацці.—Хіба вам не падабаецца гэты танец?

Дзяўчына здзіўлена паглядзела на нас:

— Чаму, падабаецца... Але ж яго трэба ўмець танцаваць.

— А хіба гэтаму так цяжка навучыцца?

Наша пытанне засталося без адказу. Пачуліся гукі факстрота, і светлае плацце дзяўчыны замільгала сярод танцораў.

Факстрот танцавалі многія. Відавочна, існуе агульная думка, што танга і факстрот танцаваць няцяжка. Але, гледзячы на танцораў, якія старанна выраблялі самыя нечаканыя, самыя мудрагелістыя па, можна было ўпэўнена сказаць, што варыянтаў гэтых танцаў можна было б налічыць не менш, чым пар у зале.

Кожная пара танцавала па-свойму. Адны віхляліся з боку на бок, у той час як іх ногі, нібы прыбітыя цвікамі, нерухома прыліплі да падлогі; другія, уставіўшыся ў прастору пустым, невідушчым позіркам, на прыгнутых каленях соваліся па зале; трэція, шчыльна прыціснуўшыся адно да другога, бязладна тупалі ўзад-уперад; чацвёртыя, сутаргава перасмыкаючыся ўсім целам, здаецца, былі толькі заклапочаны тым, каб не спыніліся гэтыя сутаргі; пятыя... зрэшты, апісанне танцавальных прыёмаў можна было б прадоўжыць на некалькі старонак.

Шкада, што наша размова з дзяўчынай у светлым плацці засталася незакончанай. Нам пра многае хацелася пагаварыць, задаць ёй,—ды і не толькі ёй, але і многім нашым юнакам і дзяўчатам,—некалькі пытанняў:

Хіба нашы бальныя танцы горшыя за факстроты і танга? Ці толькі ў няўменні танцаваць тут справа? Тады чаму танга і факстроты можна танцаваць і не ўмеючы, няправільна і непрыгожа?

Танец, як і ўсякае іншае мастацтва, па-свойму адлюстроўвае жыццё. Сваімі танцавальнымі сродкамі ён раскрывае перад намі чалавечыя характары, свет думак і пачуццяў людзей, выяўляе тое яркае, лепшае, што ёсць у жыцці кожнага народа. У танцы, як у люстэрку, знаходзіць свой адбітак народная душа і тэмперамент.

У танцы народ выказвае сваё разуменне прыгожага, расказвае аб сваёй працы, жыцці, гісторыі. Кожная нацыянальнасць мае ў танцы свой «поступ», сваю «паставу», своеасаблівую і непаўторную. Колькі, напрыклад, прыгажосці, сілы і маладзецкай адвагі ў рускім танцы; з якой віхурыстасцю і весялосцю выконваецца лявоніха; або якія грацыёзныя, спакойныя рухі ў эстонскіх танцах!

Каб стаць культурнымі, адукаванымі людзьмі, нашы юнакі і дзяўчаты павінны пастаянна папаўняць свае веды ў самых розных галінах, у тым ліку і ў галіне харэаграфічнага мастацтва.

Нашай моладзі карысна ведаць, што для таго, каб вобразы танца сталі жывымі, выразнымі, спатрэбіліся вялікія творчыя намаганні многіх пакаленняў, што танцавальнае мастацтва мае сваю шматвяковую гісторыю.

Узнік танец у вельмі даўнія часы, яшчэ пры першабытна-абшчынным ладзе. Чалавек працаваў, назіраў за прыродай, і яго жэсты і рухі, звязаныя з працай і эмацыянальным успрыняццем наваколанага свету, па-сутнасці, з'явіліся першакрыніцай танца.

Спачатку танцавальныя рухі адлюстроўвалі самыя простыя пачуцці і падзеі, але паступова танец удасканальваўся і мог ужо ў абагуленай мастацкай форме паказваць больш складаныя з'явы жыцця.

У далёкім мінулым танец быў шчыльна звязаны са словам і песняй і толькі ў выніку шматвяковага развіцця аддзяліўся ад іх і атрымаў самастойнае значэнне.

З усяго сказанага няцяжка зрабіць вывад, што асновай харэаграфічнага мастацтва з'яўляецца народная творчасць. З танцаў, створаных народам, потым выдзеліліся абрадава-рэлігійныя, бальныя і прафесіянальна-балетныя. Народныя танцы і да гэтага часу засталіся той невычэрпнай крыніцай, адкуль папаўняюцца вобразамі класічныя і бальныя танцы.

З народнай творчасці выраслі і так званыя «заходнія» бальныя танцы, такія, як танга, факстрот, блюз. На фоне агульнага ўпадку буржуазнай культуры развіццё танцавальнага мастацтва пайшло некалькі іншым шляхам. Уласцівыя сучаснаму буржуазнаму мастацтву безідэйнасць, амаральнасць, духоўная спустошанасць знайшлі ў танцы сваё яркае выяўленне. Бытавыя танцы, гэтак жа, як і прафесіянальныя, у капіталістычных краінах усё больш і больш занепадаюць, для іх характэрны або механічна-аднастайныя, развінчаныя рухі або акрабатычныя «трукі».

Няхай чытачы не падумаюць, што мы выступаем супраць усіх танцаў, якія прыйшлі да нас з-за мяжы. Гэта далёка не так. Мы толькі супраць захаплення некаторай часткай нашай моладзі «звышмоднымі» і «стыльнымі» танцамі, накшталт бугі-вугі, рок-н-рола. Яны настолькі неэстэтычныя, што, уласна кажучы, і не заслугоўваюць назвы танца.

Што ж датычыць танга, факстрота, блюза, то яны маюць шэраг сваіх пераваг і таму па праву карыстаюцца папулярнасцю сярод моладзі. Але і тут нашы юнакі і дзяўчаты павінны праявіць добры густ, не трапляючы пад уплыў чужога нам упадніцкага «заходняга стылю».

Жыццерадасная, прыгожая і шчырая манера рускіх танцораў славілася заўсёды. Нездарма ж раней некаторыя замежныя тэатральныя студыі і асобныя балерыны, каб стварыць сабе рэкламу, называліся рускімі імёнамі, бо самымі вядомымі і самымі папулярнымі былі тады рускія танцоўшчыцы.

Не выпадкова і ў наш час такі вялікі поспех выпадае на долю нашых танцавальных калектываў, якія гастралююць за мяжой: Вялікага тэатра Саюза ССР, ансамбля танца пад кіраўніцтвам Ігара Майсеева, жаночага танцавальнага калектыву «Бярозка». Нездарма ўсе краіны і народы захапляюцца танцавальным мастацтвам савецкай балярыны Галіны Уланавай і наша харэаграфічнае мастацтва лічыцца самым прагрэсіўным і чалавечным у свеце.

Дык ці ж варта нам, маючы такія яскравыя прыклады перавагі савецкай культуры і танцавальнага мастацтва перад заходняй культурай і харэаграфіяй, аглядвацца назад і пераймаць чужыя нам звычкі, апашляючы і вульгарызуючы самую сутнасць танца? Відавочна, што гэтага рабіць не варта.

Сучасны танец трэба выконваць проста, лёгка, жыццерадасна, без крыўляння і рэзкіх, сутаргавых рухаў. У выкананні яго павінен быць наш, савецкі стыль—строгі, вытрыманы.

У такой жа ступені гэта датычыць і музыкі. Сярод танцавальнай джазавай музыкі ёсць нямала прыгожых, мілагучных мелодый, але ж ёсць і многа прымітыўных, банальных матываў або проста гукавога хаосу.

*Нездаровае захапленне танцавальным* «стылем» і какафанічнай музыкай ніяк не стасуецца з усім воблікам маладога савецкага чалавека, і таму з гэтым трэба змагацца, як і з нахабнаю манераю паводзін або з вычварнасцю ў адзенні і прычосцы. Вакол нас так многа сапраўды прыгожага, што зусім не варта захапляцца рознаю безгустоўнасцю.

Безумоўна, каб умець правільна і прыгожа перадаць характар і своеасаблівасць кожнага танца, неабходна вучыцца гэтаму. «Без падрыхтоўкі, без страсці, без працы і настойлівасці ў развіцці пачуцця прыгожага ў самім сабе мастацтва нікому не даецца»,—гаварыў Бялінскі.

— Дзе ж навучыцца прыгожа танца-

ваць?—такое пытанне часта можна пачуць ад моладзі. І на гэта пытанне, на жаль, не заўсёды можна адказаць.

У нас часта недаацэньваюць вялікае выхаваўчае і культурнае значэнне танцавальнага мастацтва. Узбагачэнне эмацыянальнымі мастацкімі вобразамі раскрывае перад чалавекам прыгажосць жыцця, пашырае кола яго інтарэсаў, дапамагае яму глыбей адчуць прыгожае ў жыцці і ў мастацтве, робіць чалавека больш высакародным.

У нашай краіне танец карыстаецца шырокай папулярнасцю і масавым прызнаннем, таму яго выхаваўчае значэнне асабліва вялікае. Нашы бальныя танцы добра ўплываюць на манеру паводзін, на знешні воблік маладога чалавека, павышаюць агульны ўзровень яго культуры. «Чалавек, які ўмее танцаваць, і ў пакой увойдзе спрытна, і павернецца як след»,—пісаў М. І. Калінін.

Вельмі добрыя вынікі дае харэаграфічнае выхаванне дзяцей у школе. Але, на жаль, выкладанне бальных танцаў не ўваходзіць у абавязковую вучэбную праграму нашых школ, а танцавальныя гурткі ёсць далёка не ва ўсіх клубах. Вопыт тых школ, дзе праводзіліся сістэматычныя ўрокі танцаў, гаворыць аб тым, што яны дапамаглі выхаваць у дзяцей уважлівыя і таварыскія адносіны паміж сабой, прыгожую, зграбную паставу і натуральныя, прыгожыя манеры.

Хацелася б, каб гэтак жа, як патрэбныя і карысныя ўрокі дамаводства, у школьную праграму былі ўключаны і ўрокі танцаў. Для юнакоў і дзяўчат, якія закончылі школу, трэба было б арганізаваць пры дамах культуры і клубах агульнадаступныя гурткі, у якіх яны вучыліся б танцаваць нашы і заходнееўрапейскія танцы, праводзіць там лекцыі і гутаркі па гісторыі харэаграфічнага мастацтва, тэатра, музыкі.

У апошні час Мінская студыя тэлебачання пачала наладжваць для гледачоў урокі бальных танцаў. Хацелася б, каб гэтыя карысныя і цікавыя перадачы праводзіліся больш сістэматычна, а не час-ад-часу.

Пры Палацы культуры прафсаюзаў у Мінску нерэгулярна працуюць гурткі бальных танцаў, але затое для моладзі наладжваюцца заняткі ў студыі класічнага танца, мэтазгоднасць існавання якой трэба прызнаць вельмі спрэчнай. Класічнае мастацтва мае сваю спецыфіку і патрабуе шматгадовых трэніровак. Тыя ж некалькі гадзін у тыдзень, якія адводзяцца для заняткаў класічным танцам, не змогуць зрабіць навучэнцаў студыі прафесіянальнымі танцоўшчыкамі і танцоўшчыцамі, а ўсякае перайманне класічнага танца часцей за ўсё бывае павярхоўным, аматарскім і безгустоўным. Нам здаецца, што было б больш карысці, каб замест студыі класічнага танца арганізаваць некалькі масавых гурткоў бальнага і народнага танцаў. Заняткі ў іх дапамогуць моладзі лепш зразумець і ацаніць усю прыгажосць і чароўнасць нашых танцаў.

## *Наша пошта*

# ЯК ВЫРАТАВАЦЬ СЯБРА?

Паважаная рэдакцыя!

Мой сябар Іосіф Урбановіч знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы. Ён захварэў і замест таго, каб лячыцца, спрабуе паправіць сваё здароўе малітвамі ў секце баптыстаў, куды яго ўцягнулі бацькі. Мне хочацца звярнуцца з просьбай да чытачоў вашага часопіса, каб яны дапамаглі юнаку вызваліцца ад рэлігійнага дурману.

Бацькі Іосіфа — баптысты. Яны затуманьвалі рэлігійнымі забабонамі галаву свайго сына з першых год яго маленства. Юнак скончыў сямігадовую школу, але не зразумеў шкоднасці рэлігіі. Як і ўсе баптысты, ён не хадзіў на маладзёжныя вечары, у кіно і клуб, не чытаў мастацкай літаратуры. Хлопец рос. Трэба было працаваць. Але дзе? Іосіф вырашыў скончыць Воранаўскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Гады вучобы, здавалася, развеялі рэлігійны туман. Юнак пачаў чытаць кнігі, наведваць клуб, глядзець фільмы.

Бацькі, ды і ўсе іншыя сектанты, устрывожыліся і зноў пачалі палохаць Іосіфа:

— Бог пакарае цябе за адступніцтва, пабачыш!

І вось здарылася так, што Іосіф цяжка захварэў. Хлопец разгубіўся: можа і сапраўды яго пакараў бог? І замест таго, каб як мага хутчэй пайсці за дапамогай да ўрача, ён недарэчнымі песнямі і малітвамі, звернутымі да ўсявышняга, спадзяецца палепшыць сваё здароўе.

Ужо чатыры гады, як ён хворы. Я колькі разоў гаварыў з ім, раіў лячыцца, але дарэмна. Між тым, здароўе яго пагаршаецца. Што рабіць? Як выратаваць сябра? Як выратаваць такіх, як ён, юнакоў і дзяўчат, якія яшчэ знаходзяцца ў палоне забабонаў і хлусні?

Парайце мне, сябры.

Часлаў ДЗЯВУЛЬСКІ.

**Калгас імя Калініна Жалудоцкага раёна Гродзенскай вобласці.**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны Часлаў!

Мы з цікавасцю і хваляваннем прачыталі Ваша пісьмо. Добра, што Вас трывожыць лёс таварыша, які апынуўся ў цяжкім становішчы. Тое, што Вы звярнуліся за сяброўскай парадай да чытачоў «Маладосці», да сваіх незнаёмых сяброў, сведчыць аб тым, як моцна ў савецкай моладзі развіта пачуццё таварыскасці, калектывізму. Увага да чалавека — характэрная адзнака нашага сацыялістычнага грамадства. І таму не дзіўна, што нават зусім незнаёмыя савецкія людзі заўсёды гатовы дапамагчы адзін аднаму: нас жа ўсіх аб'ядноўвае агульная справа — пабудова светлай будучыні чалавецтва камунізма.

Мы ўпэўнены, Вы атрымаеце ад чытачоў нашага часопіса шмат карысных парад, як лепш дапамагчы свайму сябру. Але скажам шчыра: галоўнае будзе залежаць ад Вас саміх. І гэта зусім зразумела: ніякія артыкулы і лекцыі, завочныя парады не могуць замяніць жывога слова, непасрэднага ўплыву на чалавека, які збіўся з нармальнай жыццёвай сцежкі. Тое, што Іосіф зараз працуе ў тым жа калгасе, дзе і Вы, дае Вам

вялікія магчымасці для штодзённага ўздзеяння на яго. Вы члены аднаго калектыву, адной працоўнай сям'і. Хто, як не вы, лепш ведаеце яго хатнія абставіны, характар, яго асабістыя якасці, яго погляды на жыццё і ўсе тыя акалічнасці, якія прывялі юнака ў секту? Усё гэта Вам, як нікому іншаму, дазваляе знайсці самы правільны, самы тактоўны падыход да таварыша, каб пераканаць яго ў тым, што ён глыбока памыляецца, выконваючы недарэчныя патрабаванні секты.

У сваім пісьме Вы паведамляеце пра тое, што Іосіф апынуўся ў малітоўным доме баптыстаў. На жаль, Вы вельмі скупа гаворыце пра другое — што Вы рабілі, каб вырваць таварыша з путаў рэлігійнага цемрашальства. І гэта, відаць, таму, што рабілі Вы вельмі мала, у кожным разе, далёка недастаткова, каб уздзейнічаць на перакананні юнака. Вядома, як цяжка пахіснуць тое, у што чалавек паверыў несвядома з маленства, што прывівалася яму на працягу гадоў бацькамі і кіраўнікамі баптысцкай секты, каб стаць нарэшце страшэннай прывычкай.

У тым, што гэта так, Вы, відаць, пераканаліся самі. Тым больш намаганняў трэба было прыкласці, каб дапамагчы свайму сябру вызваліцца ад памылковых поглядаў, ад рэлігійнага дурману. Аднак галоўнае Ваша ўпушчэнне не ў гэтым. Калі Вы адчулі, што Вашы гутаркі з сябрам, Вашы спробы пераканаць яго не прыносяць ніякіх вынікаў, чаму б Вам было не звярнуцца да сваіх таварышаў-камсамольцаў? Мы ўпэўнены, што яны не засталіся б абыякавымі да лёсу Вашага сябра.

Аднак ёсць яшчэ і іншыя важныя акалічнасці, якія дапамагаюць высветліць, чаму да гэтага часу Іосіф Урбановіч і некалькі іншых яго равеснікаў з калгаса імя Калініна знаходзяцца ў палоне сектанцкага цемрашальства. Але перш чым гаварыць аб гэтым, хочацца прыгадаць асобныя моманты нашай размовы з Іосіфам Урбановічам, якая на многае адкрывае вочы.

Заўсёды, калі чакаеш сустрэчы з незнаёмым чалавекам, ва ўяўленні міжволі малюецца яго воблік. Іосіф Урбановіч нам уяўляўся хударлявым высокім юнаком, панурым і замкнёным, з самотнымі, як у хворага чалавека, вачыма, у якіх затоена нешта загадкавае і трывожнае... Але зусім нечакана мы ўбачылі рухавага і нават крыху зухаватага хлапца, у позірку якога свяцілася гарэзлівая хітрынка... Глядзеў ён на нас з пачуццём уласнай годнасці, а можа нават і фанабэрыстасці. Здавалася, увесь яго воблік гаварыў: «Я ведаю тое, што недасяжна нікому з вас...»

Урбановіч аказаўся гаваркім. Ён і не збіраўся ўтойваць, што належыць да секты баптыстаў і наведвае іх дом малітвы. Калі мы запыталіся, што яго прыцягнула ў секту і ўтрымлівае ў ёй цяпер, ён, не задумваючыся, механічна, як вучань на ўроку, адказаў: — Вера ў бога...

Відаць, чакаючы нашых пярэчанняў, юнак паспяшаўся выказаць усё, што, яму здавалася, можа давесці правільнасць і неабвержнасць яго перакананняў:

— Усё зямное — нікчэмнае. Сапраўднае і вечнае жыццё пачнецца там, на тым свеце, у царстве боскім. І мы павінны, забыўшыся на ўсё дробязнае ў жыцці, на ўсе нашы турботы і клопаты, маліцца, каб выратаваць душы свае, каб выклікаць літасць усявышняга...

Мы ўважліва даслухалі да канца гэтую тыраду маладога сектанта. Няма ніякай патрэбы прыводзіць яе ўсю і тым больш «дакопвацца» да яе «сэнсу». Мы адчувалі, што і сам Урбановіч вельмі цьмяна ўсведамляе тое, што гаворыць: ён проста выкладвае завучанае...

Змоўкшы, Урбановіч паглядзеў на нас так, нібы чакаў пахвалы за тое, як гладка ён вымаўляе мудрагелістыя фразы сектанцкай «мудрасці».

— А цяпер скажыце, што Вы думаеце самі? — папрасілі мы.

Такога пытання Урбановіч, відаць, не чакаў і таму адразу збянтэжыўся. Нейкую хвіліну ён маўчаў, а потым, ажывіўшыся, усё ж адказаў:

— Нічога я не думаю... І наогул, думаць — гэта грэх...

Гутарка наша працягвалася. Мы гаварылі аб рэактыўных самалётах, штучных спадарожніках Зямлі, касмічных ракетах... Нас прыемна здзівіла, што наш субяседнік выявіў добрую дасведчанасць у навінах навукі і тэхнікі.

Касмічныя палёты... Пакарэнне чалавекам неба... Здавалася б, як гэта ўсё сумясціць з недарэчнай выдумкай аб звышнатуральнай сіле? Але і тут Урбановіч знайшоў тлумачэнне: — Усё ад усявышняга. Бог даў людзям розум, каб яны тварылі і вынаходзілі...

Аказваецца, усё вельмі проста. Любую з'яву прыроды і жыцця можна вытлумачыць зусім лёгка: «Так



бог даў». Гэтыя словы Урбановіч паўтараў кожны раз, калі не знаходзіў, што адказаць у спрэчцы. І мы адчулі, што туман рэлігійных догматаў, якімі затлумлена галава юнака, не так ужо цяжка развеяць. Сектанцкія каноны яшчэ не сталі ўнутраным перакананнем Урбановіча, ён проста бяздумна, слепа паверыў у іх пад уплывам умоў, у якіх рос і выхоўваўся дома, пад уплывам фанатызму бацькоў-баптыстаў. А гэта значыць, што калі хлопец зразумее ўсю недарэчнасць выдумак сектантаў аб замагільным жыцці, ён абавязкова парве з імі. Дапамагчы Урбановічу зрабіць гэта як мага хутчэй можаце перш за ўсё Вы, таварыш Дзявульскі, Вашы сябры-камсамольцы. Смялей толькі бярыцеся за справу — больш настойлівасці, больш агеньку!

Калі мы запыталіся ў Іосіфа, чаму ён не наведвае вечары адпачынку моладзі ў калгасным клубе, атрымалі такі агульны адказ:

— Нецікавыя яны, таму лепш дома сядзець.

Як мы даведаліся потым, маладзёжныя вечары ў вашым калгасе сапраўды праходзяць неарганізавана: на іх можна ўбачыць юнакоў у нецвярозым стане, пачуць словы грубай лаянкі... Мы ўжо не гаворым аб тым, што праграма гэтых вечароў заўсёды адна і тая ж: даклад — танцы... Няўжо ў вас, камсамольцаў, не хапае выдумкі і энергіі, каб наладжваць сапраўды цікавыя вечары адпачынку моладзі, такія, на якіх не было б месца суму і аднастайнасці, грубасці і хуліганству падгуляўшых дзецюкоў? Думаецца, што гэта Вам пад сілу. Пацікаўцеся, як праходзяць такія вечары ў тых калгасах, дзе камсамол жыве надзённымі клопатамі кожнага юнака і дзяўчыны, дзе камсамольская арганізацыя ўмее падтрымаць і здзейсніць кожную слушную прапанову. Чым ахвотней юнакі і дзяўчаты будуць ісці ў клуб, тым пусцей будзе ў доме малітвы сектантаў... Высакародны і пачэсны абавязак камсамольцаў зрабіць усё для таго, каб ніводзін юнак, ніводная дзяўчына не асталіся ў палоне рэлігійных забабонаў, у палоне сектанцкага цемрашальства. Уся наша моладзь павінна быць у першых радах свядомых змагароў за шчасце людзей, за светлае заўтра — камунізм.

# ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ



Не здзіўляйцеся, сябры, убачыўшы не па сезону адзетых спартсменаў - футбалістаў Гайнаўкі (злева) і Гродна, на гэтым здымку, які нам даслаў наш чытач з Польскай Народнай Рэспублікі разам з наступным пісьмом:

«Добрай традыцыяй стаў абмен культурнымі і спартыўнымі дэлегацыямі паміж Гродзенскай вобласцю і Беластоцкім ваяводствам. Асабліва здружыліся за апошні час працоўныя Гродна і Гайнаўкі — прамысловага цэнтра Беластоцкага ваяводства. Вытокі гэтай дружбы трэба шукаць яшчэ ў даваеннай гісторыі. Санацыйны ўрад Польшчы называў наш горад «Чырвонай Гайнаўкай», бо тут вельмі частымі былі рэвалюцыйныя выступленні пралетарыяту. Салідарызуючыся з рабочымі Гродна, гайнаўскія пралетарыі не раз выступалі ў падтрымку працоўных Гродна, якія змагаліся супроць буржуазіі за свае правы.

Працягам гэтай дружбы ў нашы дні з'явіўся традыцыйны абмен калектывамі мастацкай самадзейнасці і спартыўнымі камандамі. Калі зараз успамінаеш найбольш яркія падзеі 1959 года, на памяць прыходзяць

дзве з іх: гасцяванне ў Гайнаўцы гродзенскай мастацкай самадзейнасці ў канцы верасня і прыезд гродзенскіх футбалістаў у пачатку кастрычніка.

«Газета Беластоцка» так пісала аб гэтай спартыўнай сустрэчы:

«Вароты, што вядуць на стадыён, былі прыбраны сцягамі СССР, Беларускай ССР і Польшчы. Перад сустрэчай былі выкананы Дзяржаўныя Гімны Савецкага Саюза і Польскай Народнай Рэспублікі, а перад свістком суддзі гродзенскія спартсмены ўручылі гаспадарам поля на памяць мініятурныя копіі савецкіх спадарожнікаў. Гульня праходзіла востра, у шпаркім тэмпе. Трэба прызнаць, што госці паказалі высокую тэхніку і лепш білі па варотах...»

Гэтая сустрэча закончылася з лікам 3 : 1 у карысць гродзенцаў. Гайнаўскім аматарам футболу было на што паглядзець. Лік 3 : 1 шмат аб чым гаворыць, калі ўзяць пад увагу, што футбалісты Гайнаўкі да гэтага не праігрывалі на сваім полі ніводнай з каманд ваяводства.

Хочацца са старонак «Маладосці» сказаць футбалістам Гродна шчырае дзякуй і выказаць пажаданне працоўных Гайнаўкі: «Да новых сустрэч, дарагія таварышы!»

**М. ТАРАСЕВІЧ,**
**інжынер хімзавода ў Гайнаўцы Беластоцкага ваяводства ПНР.**

# ЦІ ТАК МЫ ГАВОРЫМ?

Часам даводзіцца чуць заўвагу:

— Я таксама люблю беларускую мову, але толькі чыстую. А то — адно слова беларускае, другое — рускае...

Сапраўды, прыемна слухаць чалавека, калі той размаўляе на чыстай, правільнай мове. І, наадварот, хочацца заткнуць вушы, пачуўшы хоць бы такое:

— Кінь ты **лайдака валяць...**

І ўжо зусім бывае прыкра, калі падобны моўны «вінегрэт» чуеш з вуснаў саміх сейбітаў літаратурнага слова.

У 5 клас заходзіць настаўніца беларускай мовы і літаратуры: **«Здраступйце,** рабяты!.. Дастаньце свае **цятрадзі,** і мы зараз праверым дамашнія **ўпражненні...** Першае **прадлажэнне** прачытае М». Хлопчык выконвае просьбу. «Сядай, **пажалуста!»** Сеў. Настаўніца «пажалустуе» другому, трэцяму і, сяктак растлумачыўшы новы матэрыял, развітваецца з вучнямі: «Урок аконччан. Да пабачэння!»

Прычына гэтай блытаніны заключаецца ў тым, што некаторыя карыстаюцца беларускай моваю гады-ў-рады, па строга прафесійнай неабходнасці. Такія людзі звычайна не спачуваюць, а «сачуўствуюць», харч не ўжываюць, а «ўпатрабляюць», каго-небудзь **не крыўдзяць,** а «абіжаюць».

Калі не толькі гаворыш, але і думаеш па-беларуску, тады не прыходзіцца па ходу размовы ламаць галаву над перакладам і ў выніку ўжываць рускія словы ў беларускім вымаўленні або выкарыстоўваць недарэчныя калькі. У гэтай сувязі хочацца кінуць каменьчык у гарод беларускага радыё, у перадачах якога пачуеш вельмі многа слоў, не ўласцівых нашай мове. Напрыклад: «дзяўчыне **памярэшчылася»** або «дэманстранты праходзяць з **лікуючымі** тварамі»... Ужыванне неўласцівага беларускай арфаэпіі **г** узрыўнога, мяккіх **ч** і **р** нельга таксама лічыць нармальнай з'явай для радыё.

Слова не верабей: выпусціш — не зловіш. Пусціла ж у эфір аднойчы вядучая заключнага канцэрта мастацкай самадзейнасці «абробку Падкавырава», і яе вымушаны слухаць па некалькі разоў (канцэрт запісаны на плёнку). Сказаць «абробка», тое ж самае, што перакласці: «парень девушке объяснился в любви» — «хлопец дзяўчыне **вытлумачыўся** ў каханні»...

Узнікла «абробка» з «обработки», відаць, па аналогіі з перакладам слова «подделка» — «падробка». Але ж тут пераклад апраўданы. Існуюць дзеясловы «падрабіць», «падрабляцца», дзеепрыметнік «падроблены», а значыць, і вытворны ад іх назоўнік.



Што датычыць слова «заробак», то яго ўжыванне ў моўнай практыцы нельга лішне ўхваляць, хоць у «Руска-беларускім слоўніку» яно і значыцца поруч з «заработкам». Усё ж аснова назоўніка — дзеяслоў «зарабіць». Дый гаворым мы не «заробная плата», а «заработная плата».

Прыкладам калек з рускай мовы могуць служыць і звароты: «даруй мяне», «прабач мяне», «падзякаваў яго»... Усюды тут патрабуецца не родны, а давальны склон займенніка.

Вельмі часта ў нас зычныя **д** і **т** у словах іншамоўнага паходжання вымаўляюцца мякка: пар**ці**я, канс**ці**туцыя, **дзі**скусія, сту**дзі**я...

Іншы ж раз, наадварот, ім надаецца неўласцівая цвёрдасць, як, напрыклад, у слове «актор». З такім правам можна сказаць і «мантор»!

Найчасцей **д** і **т** «гвалтоўна» зацвярдзяваюць перад суфіксам **-ір.** Схадзіце ў Тэатр юнага гледача і паглядзіце спяктакль «Каханне Ані Бярозка». Ніводзін артыст не вымавіць мякка **«д»** у слове «камандзіроўка». А, як на тое зло, ім усім вельмі часта прыходзіцца ездзіць у «камандыроўку». Цікава, як яны звярталіся б да воінскага начальніка: «Таварыш камандыр..»?

Тое ж самае і са словам «апладзіраваць», якое вельмі часта вымаўляецца няправільна: «апладыраваць».

Ёсць і другі шлях парушэння норм вуснай беларускай мовы — гэта празмернае «абеларушванне» асобных слоў.

Нашай мове, як вядома, уласціва **г** фрыкатыўнае (галава, гаварыць, іграць). Аднак у групе слоў, запазычаных з польскай мовы, захоўваецца **г** узрыўное («рускае»). Таму непрыемна ўспрымаецца на слых гучанне слоў: ганак, гузік, гонты, гарнец... А гэтак яны чуюцца ад многіх.

Нічым не абгрунтавана перадача адмоўя **не** ў першым пераднаціскным складзе праз **я**: няма, нядобра, **ня** ведаю... Тут павінна вымаўляцца нешта сярэдняе паміж гукамі «я» і «і».

Хочацца асобна спыніцца яшчэ на некалькіх словах, якім гвалтоўна надаецца беларускі «выгляд». Гутарка ідзе пра дзеясловы «падараваць» і «абіраць».

Чым не беларускае слова «падарыць»? Існуе ж назоўнік «дар» («Нёманаў дар» у Я. Коласа). Дзеяслоў «даравать» мае зусім іншы сэнс — «простить», «извинить», «не наказывать» («я табе гэтага не дарую»).

Вельмі часта ў нас людзей «абіраюць»... дэлегатамі, членамі камісій і г. д. А чаго цурацца дзеяслова «выбіраць»? Руская прыстаўка **из** у большасці выпадкаў перадаецца ў беларускай мове праз **вы: из**мерять — **вы**мяраць, **из**гнание — **вы**гнанне, **из**бирать — **вы**біраць. Апошняе слова для некаторых, бачыце, гучыць не пабеларуску. Яны закрэсліваюць «вы», пішуць «а», і справе — канец. У такім выпадку як быць з «выбарамі»?

Надзвычай універсальным у вуснай мове з'яўляецца дзеяслоў «адчыняць». Ім і ўрачыстыя вечары пачынаюцца («Вечар, прысвечаны..., лічым **адчыненым»),** і кнігі школьнікамі адгортваюцца («Дзеці, **адчыніце** свае кніжкі!»), і помнікі ставяцца («Гэты манумент быў **адчынен...»),** і многамнога чаго яшчэ робіцца. Малая прыемнасць глядзець і ў дзявочыя вочы, калі яны не адкрытыя, а «адчыненыя». Затое куфар, дзверы, вокны хацелася б бачыць лепей адчыненымі, чым адкрытымі.

Іншы раз адна лішняя літара ў слове перайначвае сэнс усяго сказанага. Хлопец і дзяўчына сядзяць у кіно.

— Табе спадабаецца гэты фільм? — цішком пытаецца дзяўчына.

— Відаць, не спадабаецца, бо і цяпер ужо не падабаецца, — адказвае хлопец.

Дзяўчына злосна змаўкае. А хлопец правільна адказаў: няхай не блытае двух трыванняў дзеяслова.

Прыметнікі «старший» і «младший» у рускай мове азначаюць і параўнальны ўзрост, і пасаду, чын. У беларускай мове яны маюць толькі апошняе значэнне. Узроставасць выражаецца формамі «старэйшы» і «маладзейшы», «большы» і «меншы». Аднак нярэдка ў гаворцы можна пачуць: «старэйшы навуковы супрацоўнік». Розніцу ў блізкіх па гучанню словах трэба заўсёды ўлічваць.

Псуюць вусную мову і словы з няправільным націскам: таварышы́, артыкýл і г. д. Або: «Пісмѐннасць пачала развівацца задоўга...» Не «пісьмѐннасць», а пісьменнасць» або яшчэ лепш: «пісьмѐнства». У першым вымаўленні гэты назоўнік азначае «граматнасць», «адукаванасць».

Націскаць патрэбна асцярожней!

**І. КУРБЕКА,**
**навуковы супрацоўнік літаратурнага музея Я. Купалы.**

## Выйшлі ў свет

На паліцах кнігарняў з'явіліся новыя кнігі, выпушчаныя Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі.

**Кузьма Чорны. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і творчасці пісьменніка.** Склаў І. Жыдовіч. 236 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 6 руб. 35 кап.

Зборнік пачынаецца артыкуламі Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Максіма Лужаніна, Васіля Віткі і Віталія Вольскага пра буйнейшага майстра беларускай прозы.

У другім раздзеле кнігі сабраны ўспаміны пра Кузьму Чорнага. Пісьменнікі старэйшага і малодшага пакаленняў цёпла ўспамінаюць аб ім, як аб сябру, настаўніку, чалавеку вялікай душы.

Кніга з'яўляецца каштоўным дапаможнікам для школьнікаў, студэнтаў, выкладчыкаў, навуковых супрацоўнікаў, для ўсіх, хто цікавіцца творчасцю Кузьмы Чорнага.

**Пімен Панчанка. Збор твораў у 2-х тамах.** Том I. Вершы і паэмы 1934—1945 гг. 340 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 7 руб. 60 кап. Том II. Вершы і паэмы 1946—1958 гг. 360 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 8 руб. 10 кап.

У збор твораў уключаны лепшыя вершы і паэмы, напісаныя Піменам Панчанкам амаль за 25 год паэтычнай дзейнасці.

**Кастусь Кірэенка. Светлая хваля.** Лірыка. 152 стар. Тыраж 4 000 экз. Цана 2 руб. Гэта новы зборнік вершаў паэта. Лёс свайго пакалення, водгулле суровых дзён мінулай вайны, услаўленне гераізму савецкіх людзей і барацьбы за мір, любоў, каханне, дружба, хараство роднай беларускай прыроды, — вось тэмы твораў Кастуся Кірэенкі.

**Янка Скрыган. Іду па слядах тваіх.** Аповесці і апавяданні. На рускай мове. Пераклад з беларускай. 360 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 6 руб. 20 кап.

У аднатомнік уключаны — ранняя аповесць «Людзьмі звацца», лірычныя і псіхалагічныя замалёўкі, апавяданні, якія адлюстроўваюць амаль усе этапы шматгадовай творчай дзейнасці Янкі Скрыгана.

**Іван Пташнікаў. Зерне падае не на камень.** Апавяданні і аповесці. 260 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 5 руб. 45 кап.

Тэматыка апавяданняў «Смалістая хвоя», «Бяроза маўчала», «На шляху луг», «Асенняе апавяданне» і інш. — жыццё і праца, мары і спадзяванні, каханне і дружба нашых маладых сучаснікаў. Аповесці «Іллюк Чачык» і «Не па дарозе» прысвечаны жыццю працаўнікоў калгаснай вёскі.

Гэта першая кніга маладога празаіка.

**Ежы Путрамант. Верасень.** Раман. Пераклад з польскай мовы. 496 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 14 руб. 90 кап.

Упершыню ў Савецкім Саюзе выдадзены ў перакладзе на беларускую мову гэты цікавы раман вядомага польскага пісьменніка.

Аўтар малюе падзеі ў Польшчы напярэдадні другой сусветнай вайны, выкрывае тых, хто садзейнічаў гітлераўскай акупацыі Польшчы.

Пераклалі раман У. Дамашэвіч і Я. Міско.

**Вілі Брэдэль. Ад Эбра да Волгі.** Аповесці. Пераклад з нямецкай мовы. 360 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 10 руб. 40 кап.

Кніга Вілі Брэдэля выдаецца ў Савецкім Саюзе ўпершыню.

«Кніга «Ад Эбра да Волгі», — піша аўтар у спецыяльнай прадмове да беларускага выдання, — у якой апавядаецца пра вайну ў Еўропе, ставіць сваёй мэтай прыцягнуць увагу людзей да міру, зрабіць іх змагарамі за мір, падтрымаць і падбадзёрыць іх у гэтай высакароднай барацьбе».

## Спорт

### ПЕРШЫ ПОСПЕХ АКРЫЛЯЕ



Да гэтага ўрока Пётр Антонавіч рыхтаваўся асабліва старанна. Павінны былі прыйсці практыканты — студэнты інстытута фізкультуры, а яны, як правіла, прыдзіраюцца горш, чым якая камісія. Ведалі аб прыходзе гасцей і вучні.

«Вось сядзіць Сярожа Сонцаў — лепшы гімнаст класа. Яго, бадай, трэба выклікаць першым», — падумаў выкладчык і зрабіў знак невысокаму, хударляваму хлопцу з прыемнай светлай усмешкай.

Сяргей падышоў да брусоў і лёгка падняўся ўверх. Іменна гэтая лёгкасць і падабалася ў ім. І кожны звярнуў на яго ўвагу.

Калі ішоў разбор урока, адна са студэнтак, у той час рэкардсменка Беларусі, успомніўшы пра Сяргея Сонцава, прапанавала перавесці яго ў групу, якой у часе працяглай практыкі яна будзе кіраваць. Ніхто не пярэчыў. Сышліся на адным: пагутарыць з самім Сяргеем. І, відаць упершыню ў сваім невялікім жыцці, школьніку прыйшлося задумацца.

Кім ён быў у спорце? Займаўся, як і ўсе вучні. Гімнастыку палюбіў таму, што паважаў свайго настаўніка — таксама гімнаста. Акрамя таго, ён іграў у баскетбол за свой клас. Але гэта ўсё не тое... Калі займаешся спортам, адчуваеш вялікае жаданне давядацца, чаму навучыўся, што засвоіў, што забыў, памерацца сіламі з такімі ж, як ты. Яму выступаць на спаборніцтвах гімнастаў не даводзілася, а баскетбол у школе быў развіты слаба, і каманды класаў гулялі паміж сабою рэдка.

Так Сяргей апынуўся ў спартыўнай секцыі, у групе лёгкай атлетыкі.

Лёгкая атлетыка, як вядома, адзін з вядучых відаў спорту. Але сам гэты від мае мноства, калі можна так сказаць, «падвідаў» — бег на кароткія, сярэднія, доўгія і звышдоўгія дыстанцыі, бар'ерны бег і з перашкодамі, прыжкі ў даўжыню і вышыню, з шастом, кіданне... Практыкантка сама спецыялізавалася ў інстытуце па кіданню, але ў Сяргея яна ўбачыла здольнасці прыгуна ў вышыню. На першай жа трэніроўцы былі арганізаваны асабістыя спаборніцтвы. Хлопчыкі хваляваліся. Многія не здолелі пераскочыць цераз вяровачку, якая замяняла планку. Толькі Сяргей не ашукаў яе надзеі: ён лёгка пераадолеў вышыню 1 метр 45 сантыметраў, выканаўшы нарматыў юнацкага разраду.

Першы поспех заўсёды акрыляе. Сяргей ахвотна трэніраваўся. Займаўся ён з велізарным жаданнем, знаходзячы ў гэтым душэўнае задавальненне. Непрыкметна праляцелі тры месяцы. Студэнты інстытута фізкультуры закончылі практыку. Распусцілі на канікулы і школьнікаў.

Пётр Антонавіч неяк сустрэў Сяргея на вуліцы. Размова зайшла аб спорце. І Сонцаў расказаў, што ён сумуе па спартыўных занятках. Выкладчык задумаўся. Сам ён — спецыяліст па гімнастыцы і не мог заняцца з Сяргеем прыжкамі. Адзінае, на што можна было спадзявацца — гэта на дзіцячую спартыўную школу. Якраз у гэты дзень выхаванцы ДСШ № 1 займаліся на стадыёне. Сюды і прывёў Пётр Антонавіч свайго вучня.

З гэтага моманту пачынаецца спартыўная біяграфія Сяргея Сонцава. Юнага лёгкаатлета ўзяў да сябе трэнер Давід Сямёнавіч Глейберман, працаглаваты трэніравацть яго ў прыжках. Асвоіўшы тэхніку «перакату», Сяргей да наступнай вясны здолеў узяць вышыню 1 метр 60 сан-

тыметраў. А летам прыгнуў яшчэ на 5 сантыметраў вышэй. Але далей справа не пайшла. Здарылася тое, аб чым думаў трэнер.

Пакуль Сяргей трэніраваўся ў прыжках, трэнер абдумваў, як перавесці яго на іншы від — на спрынтарскі бег. Першая спроба насіла падрыхтоўчы характар: Сонцаў выступіў на гарадскіх спаборніцтвах за сваю школу. Стамятроўку прабег за 12,2 секунды. А неўзабаве на Усебеларускай спартакіядзе школьнікаў 1956 года ён паўтарыў на гэтай самай кароткай дыстанцыі рэспубліканскі юнацкі рэкорд свайго трэнера — 11,8 секунды. Колькі б у тым сезоне ні выступаў бягун — ці то на афіцыйных спаборніцтвах ці на кантрольных «прыкідах» — секундамеры заўсёды фіксіравалі адзін і той жа час—11,8.

Наперадзе яго чакала мноства розных спаборніцтваў. Выступаў ён заўсёды роўна, і яго прывыклі бачыць сярод першых. Сезон 1957 года Сяргей пачаў у дні зімовых канікулаў на рэспубліканскіх спаборніцтвах вучняў у брэсцкім манежы, дзе выйшаў пераможцам у бегу на 60 метраў. А праз паўгода сябры пасля фінішу сардэчна павіншавалі Сонцава з устанаўленнем першага ў жыцці рэкорда, рэкорда рэспублікі сярод юнакоў у бегу на 100 метраў — 11,6 секунды.

Спартсменамі не нараджаюцца — імі становяцца. А працэс гэтага станаўлення працяглы і складаны. Бывае так: дабіўся спартсмен аднаго поспеху, другога і раптам — спыніўся рост. Здаецца, ён усё робіць, як і раней, а выніні не паляпшаюцца. Значыць, ёсць нейкая перашкода. Для таго, каб хутка прабегчы стамятроўку, неабходна пераадолець мноства перашкод. Дыстанцыя настолькі малая, што трэба ўлічыць кожную дробязь. Возьмем для прыкладу старт. Калі бягун на 800 метраў патраціць на старце адну дзесятую секунды — гэта яшчэ не бяда, а спрынтару гэтая адна дзесятая часам каштуе некалькіх месяцаў трэніровак. Сяргей усё гэта добра засвоіў. Ён трэніраваўся з выключнай упартасцю, займаўся круглы год.

— Рукі ў цябе, як чужыя,— сказаў неяк Давід Сямёнавіч. — Свае рукі павінны памагаць, а яны табе перашкаджаюць бегчы. Разумееш, перашкаджаюць...

На кожнай з наступных трэніровак спартсмен улічваў гэтую заўвагу. Праходзілі дзень за днём, заняткі за заняткамі. Рукі рабіліся больш паслухмяныя. І з лепшага свайго выніку на Усесаюзнай спартакіядзе вучняў Сяргей скідае адразу паўсекунды. А на другой спрынтарскай дыстанцыі — 200 метраў — паўтарае рэспубліканскі юнацкі рэкорд.

Прайшоў яшчэ сезон. Сяргей не паспеў азірнуцца, як настаў апошні школьны год. Разам з вясной нadыходзілі экзамены на атэстат сталасці. Падручнікі, лабараторныя заняткі патрабавалі не менш часу і ўвагі, чым спорт. Але, аказваецца, пры правільным размеркаванні часу і вучоба і спорт могуць лёгка пасябраваць. Сяргей паспяваў рыхтавацца да экзаменаў і трэніравацца.

Календары спартыўных мерапрыемстваў складаюцца часам без уліку магчымасцей асобных спартсменаў. Натуральна, што традыцыйнае веснавое першынство рэспублікі па лёгкай атлетыцы нельга было перанесці толькі з-за таго, што Сонцаў здаваў экзамены. Тым больш, што спаборніцтвы праводзіліся для дарослых, а Сяргей па ўзросту яшчэ належаў да групы юнакоў. Гэта крыху супакоіла вядучых спрынтараў рэспублікі, якія бачылі ў Сонцаве роўнага. Але надзеі іх не збыліся. Разам з майстрам спорту Андрушчанкам і першаразраднікам Сцепаненкам прыняў старт і Сонцаў. Спачатку наперадзе апынуўся Андрушчанка, але па меры набліжэння да фінішу Сонцаў паваліваў хуткасць і на апошніх метрах літаральна вырваў перамогу. Гэты поспех прынёс маладому бегуну тры радасці. Пра першае месца мы ўжо гаварылі. Акрамя гэтага, Сяргей упершыню выканаў нарматыў першага разраду і зноў палепшыў рэкорд для юнакоў, паказаўшы час — 10,7 секунды. Яшчэ праз некалькі дзён ён атрымаў атэстат сталасці, у якім былі запісаны толькі выдатныя і добрыя адзнакі.

Затым на спартакіядзе школьнікаў быў пабіты рэкорд на 200 метраў — 22,2 секунды, у матчы Беларусь — Чэхаславакія Сяргей паўтарыў гэты рэкордны час. Так закончыўся яшчэ адзін спартыўны сезон.

...Зноў вясна, зноў традыцыйная сустрэча лёгкаатлетаў, якой прынята адкрываць сезон у Мінску. Звычайна да гэтага часу спартсмены не паспяваюць набыць лепшую сваю форму. Сяргей жа даказаў, што не дарма прайшлі зімовыя дні. На стамятроўцы ён прыйшоў першы з новым рэкордам Беларусі па групе юнакоў — 10,5 секунды, вынікам вялікага класа. Другі рэкорд ён пабіў на двухсотмятровай дыстанцыі—21,6 секунды. Прычым другі рэкорд з'яўляецца адначасова ўсесаюзным дасягненнем сярод юнакоў.



Ні адзін з нашых лёгкаатлетаў не меў такой нагрузкі, як Сяргей. Справа ў тым, што ён адначасова з'яўляўся лепшым і сярод юнакоў, і сярод дарослых і стартаваў і з аднымі, і з другімі. Такую нагрузку здольны вытрымаць толькі валявы, добра натрэніраваны спартсмен.

Буйнай падзеяй у жыцці рэспублікі была Усебеларуская спартакіяда. І тут поспех спадарожнічаў светлавалосаму хлопцу. Да былых «тытулаў» Сяргея дадаўся яшчэ адзін — чэмпіёна рэспублікі сярод дарослых. Наступны старт прынёс яму перамогу на рэспубліканскай спартакіядзе вучняў.

У Маскву Сяргей прыехаў надоўга. Напярэдадні другой Спартакіяды народаў СССР у сталіцы праходзіла ўсесаюзная спартакіяда вучняў. Васемнаццацігадовы мінскі спрынтар памераўся сіламі з мацнейшымі юнымі бегунамі краіны. Першае выпрабаванне на стамятроўцы. Сяргей Сонцаў — па-за канкурэнцыяй. У фінале суддзі фіксіруюць: 10,7 секунды — вышэй за ўсесаюзны рэкорд. Аднак усе ведаюць, што дома, у Мінску, Сяргей паказаў 10,5 секунды і пасля афармлення гэты час будзе лічыцца ўсесаюзным рэкордам для юнакоў.

...200 метраў. Сонцаву дасталася шостая дарожка, якую спартсмены лічаць горшай. Па чацвёртай павінен бегчы масквіч Валеры Фралоў, які перад гэтым пабіў рэкорд на 400 метраў.

Стрэл стартавага пісталета чутны ўсім. Але раней за іншых яго ўспрымаюць спартсмены. Усе позіркі накіраваны туды, дзе заканчваецца віраж і бегуны выходзяць на фінішную прамую. Тут ключавы пункт двухсотмятроўкі. Зараз усё стане ясна.

Усім відаць, як Сонцава, які бег першы, даганяе Фралоў. І ў гэты момант нібы зноў стрэліў стартавы пісталет, і зноў Сяргей — на гэты раз адзін — прыняў старт. Такі моцны быў яго рывок.

Фінішыраваў Сонцаў праз 21,9 секунды, а масквіч — праз 22,2 секунды. Бег яшчэ раз пацвердзіў, што Сяргей Сонцаў апярэдзіў астатніх юных спрынтараў.

У сталіцы юны рэкардсмен неўзабаве стартаваў у салатавай майцы зборнай Беларусі. У бегу на 100 метраў ён выйшаў у паўфінал, не трапіў у фінал і па двухсотмятроўцы. Выпадковасць? Не. Сіл не хапіла. Вельмі многа было стартаў. Вядома, добра, калі многа спаборніцтваў, але калі чалавек за лета больш дваццаці разоў удзельнічае ў спаборніцтвах і калі яму яшчэ няма і васемнаццаці гадоў, дык ці не занадта гэта вялікая нагрузка?

Сяргей Сонцаў — вельмі здольны бягун з яўнымі задаткамі «сярэдневіка» ў будучым, іменна «сярэдневіка», гэта значыць, бегуна на сярэднія дыстанцыі. Не будзе сакрэтам, калі тут прывесці адно выказванне яго трэнера.

— Калі б тры — чатыры гады назад мы сур'ёзна заняліся з Сяргеем бегам на доўгія дыстанцыі,— гаворыць Давід Сямёнавіч,— магчыма, ён быў бы ў ліку прызёраў. Аднак мы пайшлі іншым шляхам — заняліся развіццём у спартсмена сілавых якасцей і палепшаннем яго фізічнай загартоўкі. Пры гэтым мы маем перад сабой адну мэту — бег на сярэднія дыстанцыі.

Такая задума трэнера. І не толькі трэнера. Сяргей Сонцаў — цяпер студэнт Беларускага інстытута фізкультуры — думае тое ж самае. Гэта дае права спадзявацца, што хутка да юнацкіх рэкордаў краіны на 100 і 200 метраў, прыпісаных у Мінску, дабавяцца рэкорды і на сярэднія дыстанцыі. Сяргею ж толькі нядаўна мінула васемнаццаць, у яго яшчэ ўсё наперадзе. Можа ён зробіць гэта нават на XVII алімпійскіх гульнях у Рыме, а па выніках мінулага года ён уключаны кандыдатам у зборную алімпійскую каманду СССР.

У рэспубліканскую кнігу гонару занесены імёны юнага рэкардсмена краіны Сяргея Сонцава і яго трэнера.

**А. МАЙСКІ.**

# Гумар і сатыра




Мал. Б. Льдокава

Мы ідзём дарогаю шырокай,
Мы бліжэй да мэты з кожным днём,
А п'янюг,
стыляг
і абібокаў,
Быццам смецце,
са шляху змяцём.

## КАРОТКІЯ ЖАРТЫ

Мал. У. Лося

### ДВА ПОГЛЯДЫ





— Ну, як? — абступілі студэнты свайго таварыша, які толькі што выйшаў з аўдыторыі, дзе здаваў экзамен.

— Э-э... — махнуў рукой расчырванелы хлопец. — Тапіў-тапіў, тапіў-тапіў... Ледзь выплыў.

Неўзабаве на калідор выйшаў экзаменатар.

— Скажыце, як здаваў наш таварыш? — пацікавіліся студэнты.

— Ды што гаварыць... Цягнуў-цягнуў, цягнуў-цягнуў... Ледзь выцягнуў, — адказаў выкладчык.



### ПРЫКМЕТА АДВАЖНАСЦІ



— Які самы адважны чалавек? — спытаўся бацька ў свайго маленькага сына.

— Лысы.

— Чаму?..

— Бо ў яго ніколі валасы ад страху не падымаюцца.

### МЕТАМАРФОЗА



Перад экзаменам:

— Ой, дзяўчаткі, нічога не ведаю! Усё вылецела з галавы... Хоць бы на «тройку» здаць!

Пасля экзамена:

— І ўсё ж ведала... Усё адказала. А паставілі «тры».

### УСЁ РОЎНА



Няўдаку-рыбаку, з якога ўсе смяяліся, аднойчы пашанцавала: ён злавіў вялізнага шчупака. Але, падумаўшы, рыбак кінуў рыбіну назад у раку.

— Нашто гэта ты так зрабіў? — здзівіўся яго сябар.

— Усё роўна не павераць: скажуць, што купіў, — адказаў рыбак.

### НАВОШТА Ж КРЫЧАЦЬ...

— Раскажыце мне пра паэму Уладзіміра Маякоўскага «Добра».

— Я дрэнна яе ведаю, — ледзь чутна адказвае студэнт.

— А «На ўвесь голас»?

— Я ж кажу, што дрэнна ведаю, навошта ж яшчэ крычаць на ўвесь голас?

**ПРАГУЛКА АДБЫЛАСЯ, АЛЕ...**

Мал. У











НЕ БУДЗЬ ВАРОНАЙ,







— Яна ж ледзь не раздзетая?
— У джунглях, кажуць, зусім голыя ходзяць.

**АХВЯРА КАСМЕТЫКІ**

Мал. Л. Эрлер



Спачатку — рыжай фарбы крышку...



Пасля — зрабіць такую стрыжку...



І вось — «апошняй моды крык»,
Хоць ты бяжы купляй парык.

**ДВАІСТЫ ПРОФІЛЬ**

Мал. Б. Льдокава



ДЫК І САРОКА НЕ ПАДВЯДЗЕ



## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**З паездкі на «Нафтабуд».**
**М. Гуціеў. На будоўлі вытворча-тэхнічнай базы.**